Сяргей

# ДАВІДОВІЧ

ЗБОР ТВОРАЎ
У ПЯЦІ ТАМАХ

# Сяргей ДАВІДОВІЧ

*Аповесці*
*Апавяданні*
*Замалёўкі*

Том 4

Мінск
Беларускі рэспубліканскі
літаратурны фонд
2016

УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)-44
Д13

Рэдагаванне і малюнкі аўтара

**Давідовіч, С. Ф.**

Д13 Збор твораў. У 5 т. Т. 4. Аповесці . Апавяданні. Замалёўкі / Сяргей Давідовіч. — Мінск : Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд, 2016.— 535 с., іл .

ISBN 978-985-6975-47-2.

У чацвёрты том Сяргей Давідовіч уклаў, апроч аповесцяў, апавяданняў і замалёўкі.

У іх — гаротнае, пасляваеннае жыццё і дзяцей, і дарослых, а таксама многія хвалюючыя сучасныя падзеі, якія высветлілі промні памяці.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-6975-47-2 (Т. 4)**
**ISBN 978-985-6975-43-4**

# Планета прывідаў

*Фантастычная аповесць*



Сігнал з космасу быў запеленгаваны адразу некалькімі наземнымі навуковымі станцыямі. Але гэта азваўся не той, усім вядомы, калязямны космас, асвоены і пераасвоены зямлянамі, а далёкая таямнічая Галактыка, вестак пра якую ў навуковых картатэках амаль не было. Сігнал ляцеў з зорнай бездані праз мільярды кіламетраў і сівізну часу.

Але адна справа — атрымаць вестку ад далёкіх і невядомых разумных істотаў, другая — унікнуць у сутнасць сігналу, расшыфраваць яго. Вось гэта другая, хутчэй за ўсё невырашальная, справа і астудзіла першапачатковае гарачае трыумфаванне і навукоўцаў, і ўрадавых чыноўнікаў.

Каго, напрыклад, усцешыць пасылка, якую нельга адкрыць? Скрынка — яна і ёсць скрынка, а што ўсярэдзіне?..

Вось такою непадступнаю скрынкай быў непрацяглы сігнал, запісаны разумнымі электроннымі прыборамі, якім, як і людзям, не хапала розуму зазірнуць у таямнічую «скрынку».

Заставалася маленькая ўцеха — мы не адны! Ёсць сярод загадкава міргаючых зорак браты па розуму, якія шукаюць сустрэчу з намі.

* * *

Н-скі навукова-даследчы інстытут, акрамя ваеннай праблематыкі, займаўся вывучэннем перыферыі Ўсяленнай —самых далёкіх і малавядомых Галактык.

Перайшоўшы «экватар» трэцяга тысячагоддзя, чалавецтва не толькі ўдасканаліла свае ўзаемаадносіны, узняўшы іх да ўзроўню поўнай гармоніі, але паралельна дасягнула і вяршынь навукова-тэхнічнай думкі.

Вось чаму расшыфроўка таямнічага сігналу была не толькі вострым патрабаваннем сучаснасці, але і справай гонару кожнага навукоўца.

Ужо вядомы нам інстытут кінуў на вырашэнне гэтай праблемы лепшыя навуковыя сілы, якія выкарыстоўваліся бесперапынна і самаахвярна. Усе разумелі, што раскрыццё касмічнага кода з'явіцца тым запаветным ключом, які дазволіць адчыніць многія дзверы самых неверагодных адкрыццяў.

Дзяржава не шкадавала сродкаў, людзі — сіл і часу. Усё рабілася ў ліхаманкавай спешцы і абсалютнай тайне.

Іван Сухін у свае дваццаць дзевяць год працаваў у вышэйзгаданым інстытуце малодшым навуковым супрацоўнікам і да «лепшых сіл» пакуль што не адносіўся, таму і не займаўся расшыфроўкай касмічнага сігналу.

Калі сказаць больш дакладна, зацікаўленасць да сігналу ён меў не меншую, чым тыя карыфеі навукі, каго фінансавала і падтрымлівала дзяржава. Больш таго, ён цішком ад калегаў, у вольны час «браў на зуб» крэпкі арэшак, кінуты таямнічай Галактыкай на Зямлю. Гэтая яго зацікаўленасць перарасла ў абвостраную прынцыповасць і, нарэшце, ператварылася ў апантанасць. Ён не спаў начамі, закладваў запісаныя гукі сігналу ў камп'ютэр, дзяліў, драбіў, раскладваў іх на мільёны мікронаў, якімі бясконца вар'іраваў, спрабуючы скласці літары, словы, сказы. Пасля кожнага варыянта, пасля чарговай камбінацыі камп'ютэр упарта выкідваў на экран няўмольнае: «Варыянт памылковы».

Ад гэтых двух слоў Івана блажыла, яны сніліся яму ў кароткія перапынкі адпачынку, яны не адпускалі маладога навукоўца, як злы рок. Іван сам нібы ператварыўся ў перагружаны камп'ютэр, у якім штосьці хутка замкне і ён згарыць ад двух ненавісных слоў.

Калі ж аднойчы, пасля чарговай аперацыі з мікрагукамі, экран камп'ютэра высвеціў не ненавісныя два словы, а два радкі тэксту, Іван ледзь не сцёр з электроннай памяці бясцэннае адкрыццё, бо машынальна пацягнуўся пальцамі да клавішаў, каб скласці новы варыянт.

Ён ад нечаканасці так і застыў з шырока раскрытымі вачыма, якія ад напругі і хвалявання не маглі «зачапіцца» за тэкст — усё змяшалася і паплыло: і ліхтары, і апаратура, і ўвесь свет.

Калі ж Іван апрытомнеў і ўсё стала на свае месцы, вочы ліхаманкава прачыталі:

Я — ПЛАНЕТА АСКАЛ —
СУЗОР'Е ЦЯЛЬЦА ЛЕВА —
ТРЫСТА МІЛЬЁНАЎ — ПЛАНЕТА АСОТ —
ПРАВА ДЗЕВА

Прачытаўшы і перачытаўшы тэкст, Іван нічога не зразумеў. Калі гукі правільна пераўтвораны ў словы, то гэта, магчыма, каардынаты планеты Аскал. Але зразумець, дзе яна,— было гэтак жа цяжка, як і расшыфраваць сігнал.

Першае, што хацеў зрабіць шчаслівы і ўзрушаны навуковец,— зараз жа дакласці акадэміку Лістову, кіраўніку інстытута. Але Іван адразу ж асекся: як гэта з бухты-барахты лезці з куцым дакладам да акадэміка?! Не! Трэба падрабязна, пачынаючы з раскладкі сігналу на мікроны, з разнастайных камбінацый і шматлікіх варыянтаў пошуку касмічнага алфавіта падрыхтаваць грунтоўны пісьмовы даклад. Неабходна аднавіць і прадубліраваць апошні ўдалы варыянт камбінацыйнасці мікрагукаў, які дазволіў дакрануцца да нечай невядомай мовы, а ўжо пасля гэтага лезці ў вочы начальству.

* * *

Вучоны савет навукова-даследчага інстытута праходзіў надзіва ўраўнаважана і спакойна.

Звычайна вучоныя, многія з якіх мелі сусветна вядомыя імёны, горача і імпэтна адстойвалі сваю пазіцыю нават тады, калі гэта пазіцыя была даўно імі абароненая і ўсімі ўхваленая.

Сёння ж вучоных як падмянілі. Магчыма, таму, што пасяджэнне савета было аб'яўлена звышсакрэтным (хаця сам інстытут і яго дзейнасць даўно строга засакрэчаны), магчыма, таму, што разглядалася пытанне, ускалыхнуўшае ўвесь свет, а хутчэй за ўсё таму, што вучоныя з сусветнымі імёнамі быццам анучай па зубах схапілі, бо адкрыццё зроблена не імі, кітамі навукі, а «верхаводкай» — нейкім малодшым навукоўцам, з якім раней віталіся нядбайным ківаннем галавы.

Цяпер гэты, па іх ранейшаму меркаванню, жэўжык сядзеў у прэзідыуме, праваруч ад дырэктара інстытута — самога акадэміка Лістова, які сваімі шматлікімі і грунтоўнымі навуковымі працамі паставіў на вушы ўвесь вучоны свет.

Праўда, сам «жэўжык» сядзеў сціпла, апусціўшы галаву, саромеючыся такой нечаканай увагі з боку масцітых калег.

Акадэмік Лістоў пачаў ціха, нават неяк таямніча:

— Калегі! Тое, што адбылося ў нашым інстытуце, цяжка выказаць ці апісаць звычайнымі словамі. Я ды і вы ўсе, хто бачыў на сваім вяку шмат неверагоднага, зазірнуў неаднойчы ў глыбокія таямніцы ашаламляльных адкрыццяў, стаім сёння на мяжы, за якой слова «фантастыка» можа знікнуць назаўсёды з лексікону чалавецтва.

Я наўмысна пайшоў на парушэнне і не далажыў адразу кіраўніцтву дзяржавы, бо сам тэкст патрабуе далейшай расшыфроўкі і ўдакладнення. Без дакладных каардынатаў планеты Аскал наша праца будзе выглядаць палавінчатай, хаця асноўнае ўсё ж зроблена. Не хацелася б раздзяляць з некім лаўры адкрыцця.

— А якому сектару будзе даручана ўдакладненне каардынатаў? — пачулася з напружанай залы. Кожны прагнуў на гэтым адрэзку дыстанцыі абагнаць паплечніка.

Лістоў гэта зразумеў і ўсміхнуўся:

— Працы хопіць усім! Не думайце, што засталося толькі паставіць кропку. Хутчэй — шматкроп’е. Займацца гэтай справай будзеце ўсе пад кіраўніцтвам майго першага намесніка. Ён, у дадатак да нашых магчымасцяў, прыцягне лепшых астраномаў і будзе каардзініраваць вашы намаганні.

Раптоўна спытаўся ў Івана:

— Вы не супраць, Іван Захаравіч?

Іван ад нечаканасці ажно папярхнуўся і некалькі разоў паўтарыў:

— Згодзен! Згодзен! Не супраць!

Лістоў па-бацькоўску пахлопаў яго па плячы і зноў звярнуўся да залы:

— Закончу тым, з чаго павінен быў пачаць. Ад імя ўсяго нашага навуковага калектыву дзякую вам, Іван Захаравіч, за тытанічную працу! У вас вялікая будучыня!

* * *

Пасля таго як агульнымі намаганнямі былі вызначаны больш-менш дакладныя каардынаты планеты Аскал, было далажана кіраўніцтву дзяржавы.

Хто-хто, а Іван, адразу пасля дакладу ў дзяржаўныя інстанцыі, адчуў не столькі сваю вялікую будучыню, колькі сучасную, нязвыклую і малапрыемную рэальнасць.

Справа ў тым, што навукова-даследчы інстытут, як нам вядома, быў засакрэчаны і пільна ахоўваўся ад чужога вока і вуха спецорганамі. Цяпер жа, пасля сенсацыйнага адкрыцця, ахова інстытута зрабілася настолькі жорсткай, што нават выпадковая парушынка не змагла б заляцець на яго тэрыторыю.

Але гэта былі агульнапрафілактычныя меры бяспекі, да якіх тут даўно прывыклі і якія не заміналі займацца навуковай дзейнасцю.

А вось Іван, які ніколі раней не сутыкаўся з асабістай аховай, цяпер адчуў, што гэта за «радасць». Яго ахоўвалі, як рэдкую музейную каштоўнасць. Кола кантактаў са знаёмымі і сябрамі звузілася. На кожным кроку — на працы і ў вольны час — ён адчуваў непрыемнае апякунства.

Праўда, на працы адбыліся і прыемныя змены — яго павысілі з малодшага да старэйшага навуковага супрацоўніка, выдзеліўшы для далейшых даследаванняў шыкоўную лабараторыю з навукова-тэхнічным персаналам.

Дабавілася і ўвагі, і павагі ад калег, якія раней маглі па-панібрацку хлопнуць па плячы, цяпер да яго імя дадавалі і імя па бацьку.

Івану, які быў кантактным ва ўзаемаадносінах і просты, як усё геніяльнае, не вельмі падабаліся такія змены, але ён разумеў і тое, што не ўсё ад яго залежыць, і працягваў заставацца самім сабой.

Каб неяк павялічыць сваю знешнюю саліднасць, Іван паспрабаваў адпусціць бараду, але, зірнуўшы праз нейкі час у люстэрка, зарагатаў:

— Каму патрэбна гэта казлінасць?! — і начыста пагаліўся.

* * *

Змешаная навукова-ўрадавая камісія, з удзелам ваеннакасмічных прадстаўнікоў і псіхаўрачэбных аналітыкаў, праводзіла сваё першае пасяджэнне.

На павестцы дня адно пытанне: што рабіць далей?!

Прадстаўнік урада Глотаў, ён жа старшынствуючы, вёў сябе далікатна і толькі задаваў пытанні.

— Дык што будзем рабіць? Якія прапановы, Антон Паўлавіч? — спытаўся ён у Лістова.

Лістоў грузна ўстаў і коратка адказаў:

— Трэба ляцець, Генадзь Міхайлавіч!

— А колькі ж туды лёту? — удакладніў старшынствуючы.

— Прыкладна дзесяць гадоў,— спакойна адказаў акадэмік.

— Дзесяць туды і дзесяць назад? Так? — зноў удакладніў Глотаў.

— Так, але назад...

— Дзякуй! Сядайце, Антон Паўлавіч! — прапанаваў прадстаўнік урада.— Якія нашы тэхнічныя магчымасці? — звярнуўся ён да прадстаўніка ваенна-касмічнай службы.

— Нашы тэхнічныя магчымасці дазваляюць даляцець толькі туды, для зваротнага палёту не застаецца паліва,— адрапартаваў ваенны навуковец.

— А што з навейшым касмічным караблём, распрацоўка якога адобрана ўрадам? У якім ён стане? — больш строга запытаўся Глотаў.

— Яго дакументальна-тэхнічная распрацоўка закончана. Зборка і яго выпрабаванні зоймуць два-тры гады,— зноў лаканічна адказаў ваенны.

— Сядайце! — суха кінуў Глотаў і звярнуўся да медыкаў: — А што медыцына скажа?

Прафесар медыцыны спакойна канстатаваў:

— Уздзеянні палёту такой працягласці на арганізм чалавека намі вывучаны дасканала. Думаю, што да нас пытанняў не будзе. Вось і мой калега-псіхолаг пацвердзіць тое ж.

Але псіхолаг, устаўшы з месца, як кажуць, пусціў у пакой чорнага ката.

— Я лічу,— пачаў ён,— што мы ніколі раней не сутыкаліся з падобнымі цяжкасцямі медыка-псіхалагічнага кшталту. Па-першае, тым, хто паляціць, трэба, не ўтойваючы, сказаць, што вяртанне назад — пад вялікім пытаннем. Па-другое, нават калі пытанне вяртання на Зямлю будзе вырашана з дапамогай карабля-выратавальніка,

астранаўты павінны быць адносна маладымі, бо вернуцца яны, у лепшым выпадку, праз дваццаць год. І трэцяе, самае галоўнае псіхалагічнае патрабаванне — пілоты павінны ісці на гэты рызыкоўны крок добраахвотна!

— Я згодзен! — пачулася з залы.— Я даўно ўсё ўзважыў! Дазвольце мне!..

Усталявалася цішыня. Погляды ўсіх прысутных спыніліся на Івану Сухіну, які як расшыфроўшчык сігналу, быў запрошаны на гэта пасяджэнне і які зараз стаяў перад строгай камісіяй, рашучы і адкрыты.

— Дазвольце мне! — больш мякка паўтарыў ён.

Лістоў пачырванеў і збянтэжыўся ад такой несвоечасовай напорыстасці свайго падначаленага.

— Сядайце, Іван Захаравіч! Сядайце! Мы яшчэ кандыдатуры не абмяркоўваем...

— А што! — перахапіў гаворку Глотаў.— Хто, як не ён, мае поўнае права быць першым кандыдатам у палёт! Як вы там казалі,— звярнуўся ён да псіхолага,— патрэбен малады, свядомы і добраахвотнік? Так? Дык вось ён перад намі!.. А пра астатніх падумаем, сапраўды, пазней.

На наступных пасяджэннях камісіі было вырашана адправіць у рызыкоўны палёт толькі двух астранаўтаў. Гэта аблягчала вырашэнне пытання з харчаваннем, якое, па сутнасці, не займала многа месца, бо было спрасавана ў невялічкія гранулы. Адной такой гранулы чалавеку хапала на суткі, бо ў ёй было скандэнсавана ўсё неабходнае для падтрымкі арганізма ў належным стане. Вада таксама была крышталізавана і спрасавана да такой ступені, што цвёрдая кропля вады пры вытайванні расшыралася настолькі, што магла забяспечваць экіпаж сутачнай нормай.

Такім чынам, галоўныя кампаненты жыццезабеспячэння экіпажа месца займалі мала, а кісларод выпрацоўваўся штучна даволі лёгка, яшчэ з незапамятных часоў.

Складаней было з палівам, бо акрамя той адлеглас-

ці, якую меркавалася пераадолець, не выключалі магчымасць і пошукі планеты Аскал, міма якой маглі праскочыць. Працяглыя яе пошукі маглі азначаць катастрофу ўсіх планаў і гібель экіпажа. Усе разумелі, што нават пры паспяховай пасадцы на Аскал толькі паскораная і ўдалая пабудова навейшага карабля ў бліжэйшыя два-тры гады дае надзею на жыццё.

Камандзірам касмічнага карабля быў назначаны саракагадовы палкоўнік ваенна-касмічнага ведамства Ілля Іванавіч Ісаеў, ці, як яшчэ жартам называлі яго сябры,— тры «І».

Гэта быў яго далёка не першы міжпланетны палёт, але ўсе папярэднія — на Марс, Венеру і нават на Сатурн — былі ў параўнанні з гэтым лёгкай касмічнай прагулкай.

Для Івана гэты палёт быў самы першы, таму не дзіва, што хваляванні не пакідалі яго. Не, ён не баяўся за сваё жыццё — што жыццё ў параўнанні з унікальнай магчымасцю зазірнуць у таямніцу таямніц! Яго хвалявала магчымасць сустрэчы з тымі, каго нават не мог уявіць. Суцяшала адно — ім, на аснове расшыфраванага тэксту, распрацаваны алфавіт, з якога складзены шматлікія варыянты слоў і сказаў. Моўны кантакт — аснова поспеху зямной экспедыцыі.

Праўда, словы ды і ўся мова касмічных незнаёмцаў, калі гэта ўвогуле можна назваць мовай, вызначалася складанасцю, нелагічнасцю, нават нейкай недарэчнасцю. Але Іван спакойна і нетаропка «ламаў язык», памятаючы, што наперадзе дзесяць гадоў лёту — можна вывучыць мовы ўсяго свету.

І,нарэшце, галоўны суцяшальны козыр — экіпаж будзе мець магчымасць пастаянна падтрымліваць сувязь з Зямлёй.

Надыходзіў дзень і час старту, заканчваліся апошнія падрыхтоўчыя клопаты. Усё ішло згодна намечанага плана.

* * *

Палёт праходзіў нармальна. Так званых няштатных сітуацый пакуль не здаралася, і экіпаж спакойна займаўся сваімі строга прадпісанымі абавязкамі. Усе навігацыйна-тэхнічныя задачы выконваў камандзір карабля, а навукова-даследчая дзейнасць заставалася за Іванам, які пастаянна падтрымліваў сувязь з Зямлёй, праслухоўваў касмічную бездань, у якую час ад часу пасылаў розныя сігналы, у тым ліку і на мове планеты Аскал.

Галоўную небяспеку для экіпажа і карабля ўяўлялі агромністыя астэроіды, якія сустракаліся на шляху зямлян, але сучасная тэхніка дазваляла загадзя высвечваць іх на штурманскім экране, і карабель аўтаматычна, без дапамогі пілота выбіраў бяспечны маршрут.

Іван перад палётам баяўся, што за час лёту змарнее ад нуды, але тут, перад чорнай бясконцасцю, з прыемнасцю зазначыў, што за любімымі заняткамі час ляціць непрыкметна, а галоўнае, выкарыстоўваецца плённа. Назіранне за Ўсяленнай з Зямлі — адна справа, тут жа адкрываліся зусім іншыя магчымасці — быццам стаіш з космасам твар да твару.

Праз тры гады лёту Іван раптоўна запеленгаваў той жа, ужо вядомы ім сігнал. Гэта не толькі надало сілы экіпажу, але — што самае важнае — дапамагло падкарэкціраваць дакладнасць траекторыі палёту, якая, як высветлілася, крыху адхілілася ад рэальнага знаходжання Аскала. Гэта «крыху», хоць і не пад вялікім градусам першапачатковага адхілення, з кожным днём палёту павялічвалася, а да канца намечанага тэрміну перарасло б у мільёны кіламетраў, і ўсё закончылася б трагічна.

Але больш радасная вестка паступіла з Зямлі — услед першаму касмічнаму караблю паспяхова стартаваў другі, навейшы, якому пад сілу дасягнуць планету Аскал і, забраўшы бескарабельных астранаўтаў, вярнуцца на Зямлю.

Гэта было сапраўднае свята, бо нішто так моцна не падтрымлівае чалавека, як рэальная надзея.

Зямля паведамляла, што ўсё разлічана такім чынам, каб за кошт значна большай хуткасці новы касмічны карабель максімальна наблізіўся да першага экіпажа і скараціў адрэзак часу паміж дзвюма пасадкамі.

Гэта азначала, па сцвярджэнню Зямлі, што дапамога прыбудзе прыкладна праз месяц пасля пасадкі першапраходцаў, а магчыма,і раней.

— Ну як,— не без трывогі запытаўся ў камандзіра карабля Іван,— пратрымаемся месяц?

Камандзір задуменна адказаў:

— Невядома хто і што нас там чакае, як сустрэне... Для таго, каб загінуць, дастаткова некалькіх імгненняў...

— А наша электронна-лазерная зброя? А нашы непрабіваема-незгаральныя касцюмы? А нашы паралізатары, якія імгненна здольны нейтралізаваць усё жывое вакол нас? — сыпануў пытаннямі разгарачаны Іван.

— Пабачым,— адным словам на ўсе пытанні адказаў камандзір.

Палёт працягваўся нармальна, спакойна, нават манатонна. Уся бартавая тэхніка бездакорна выконвала свае шматлікія функцыі, трэнажоры падтрымлівалі астранаўтаў у добрым фізічным стане і бадзёрым псіхалагічным настроі.

І усё ж калі, па падліках даследчыкаў, палёт падыходзіў да заканчэння, не абышлося без непрыемнасцяў.

Раптоўны і моцны ўдар страсянуў велізарны корпус касмічнага карабля. Прыборы адразу паказалі, што лятальны апарат пачаў адхіляцца ад курсу. Гэта азначала, што адзін з чатырох рухавікоў быў выведзены з рэжыму работы. Стварылася дэцэнтрацыя цягі, таму былі вымушаны тэрмінова заглушыць другі, процілеглы ад пашкоджанага, рухавік. Такая аперацыя дазволіла выправіць траекторыю палёту, затое хуткасць яго зменшылася ўдвая.

Адначасова з гэтым знікла сувязь з Зямлёй.

— Што гэта было? — трывожна спытаўся Іван у камандзіра карабля.

— Думаю, што бакавы астэроід у сваім палёце перасёкся ў той крытычнай кропцы з палётам нашага карабля. Такія здарэнні лічыліся раней тэарэтычна-магчымымі. Сёння я ўпершыню пераканаўся, што такое магчыма і на практыцы.

— А як цяпер ляцець? — не супакойваўся Іван.

Ісаеў адказаў:

— Наша шчасце, што той астэроід не напаткаў нас на тысячную долю секунды раней. Ляцелі б зараз у касмічнай беспаветранасці не мы, а дробныя шматкі ад нас і нашага карабля. А так — чыркануў ён нам, калі можна так сказаць, па хвасце, пашкодзіў рухавік, сарваў антэну і спакойненька паляцеў далей.

— Ого-го! — толькі і сказаў Іван і пачухаў скроню.

— А даляцім мы,— працягваў камандзір,— і на двух рухавіках, тым больш што ляцець засталося лічаныя дні.

Напрыканцы палёту не пашанцавала яшчэ раз — была ноч, і трэба было выбіраць: ці рабіць аблёт планеты Аскал і чакаць світанку, ці садзіцца адразу.

Улічваючы тое, што паліва магло вось-вось скончыцца, а два рухавікі, з-за перагрузкі,«елі» паліва відавочна, вырашылі рабіць пасадку ў поўнай цемры па прыборах начнога бачання.

— Эх,— абураўся Іван,— днём мы б адным поглядам ацанілі, які наш новы дом!..

— Нічога! — супакоіў камандзір.— Прыборы паказваюць, што паветра тут існуе і кіслароду багата. А гэта ўжо не мала! Адзінае, што прыйдзецца — дык гэта сядзець у караблі давідна і не вытыркаць носа, каб не атрымаць па ім...

І вось магутны карабель завіс над паверхняй планеты

Аскал, высвечваючы пражэктарамі тое месца, дзе павінна была адбыцца пасадка.

Выпусціўшы доўгія, як у павука, ногі-апоры, карабель паволі пачаў спускацца, уздымаючы вогненнымі струменямі ад рухавікоў хмары ўсяго таго, што аказалася на месцы пасадкі.

Касмічны карабель напружана і стомлена ўздрыгваў сваімі гарачымі бакамі і, здавалася, як і людзі, не мог дачакацца адпачынку.

Нарэшце ногі апоры мякка самартызавалі і прынялі на сябе ўвесь мнагатонны цяжар. Палёт быў завершаны. Прайшло дзевяць гадоў і восем з паловай месяцаў з таго часу, калі Зямля асцярожна і пяшчотна выправіла двух сыноў сваіх у гэта касмічнае падарожжа.

— Віншую з прыбыццём! — Камандзір карабля моцна абняў маладога навукоўца, які за час палёту зрабіўся не такім ужо і маладым.

— Удачы нам! — ледзь выціснуў з сябе ўсхваляваны Іван, хаваючы ўзмакрэлыя вочы.

Камандзір карабля зрабіў запіс у «бартавым журнале» — такая традыцыйная назва перайшла здавён да спецыяльнага камп'ютэра, у якім фіксаваліся ўсе падзеі падчас падарожжа. Экран камп'ютэра высвеціў тэкст, які камандзір карабля ўвёў у яго памяць:

« 2503 год, 20 чэрвеня, 00 гадзін 17 хвілін, пасадка на планету Аскал. Камандзір карабля І. Ісаеў, член экіпажа І. Сухін».

— Вось на сёння і ўсё! — павярнуўся ён да Івана.— Па магчымасці трэба да раніцы адпачыць... Раніцай — невядомасць.

Але як ні прымушалі сябе члены экіпажа заснуць — сон не браў. І як было заснуць пасля амаль дзесяці гадоў напружанага чакання сустрэчы з... З кім? З чым?..

Гэтыя пытанні не проста хвалявалі зямлян, а спальвалі душы цікаўнасцю блізкай і хуткай разгадкі.

Гэта ж трэба — варта толькі адчыніць адзін герметычны люк, потым, зачыніўшы яго, разгерметызаваць другія дзверы — і...

Іван парушыў «сон» свайго сябра і звярнуўся да яго, бо чуў, што і ён варушыцца і ўздыхае.

— Няма моцы трываць! Хочацца выйсці, агледзець планету, перазнаёміцца з усімі і ўсім.

— Не толькі агледзім, але і прымем усе меры бяспекі... Карацей, будзем дзейнічаць, зыходзячы з убачанага...— як бы падсумаваў думку Івана камандзір карабля.

— Эх,—уздыхнуў Іван,— і ноч супраць нас... Ледзь паўзе...

Ісаеў усміхнуўся:

— Калі ўжо дзесяць год перацярпелі, дык некалькі гадзін адолеем!

Непрыкметна для сябе, стомленыя дарогай і ўсхваляваныя чаканнем, астранаўты пад раніцу заснулі. Колькі яны праспалі — не было калі ўдакладняць, бо, усхапіўшыся, як па камандзе кінуліся да ілюмінатараў, праз якія яркімі патокамі лілося сонечнае святло.

Зірнуўшы ў ілюмінатары, пасланцы Зямлі аслупянелі. Яны былі гатовыя ўбачыць усё — і самых агідных страшыдлаў, і самых неверагодных пачвараў, і нават разумных істотаў, перагнаўшых у сваім інтэлектуальным развіцці зямлян.

— Што гэта?!.

— Вось гэта дык прыём! — вырвалася ў астранаўтаў.

— Што будзем рабіць?! — разгублена спытаўся Іван.

Камандзір, пасля доўгай паўзы, пачаў разважаць, быццам думаў услых:

— Што рабіць... Што рабіць... Думаю, што ў караблі адседзецца не ўдасца... Ды і не для гэтага мы сюды ляцелі. А калі так, трэба вырашыць, як сябе паводзіць...

Зямляне зноў сціхлі і «прыліплі» да ілюмінатараў.

Карабель быў шчыльна акружаны людзьмі ў камуфляжнай форме з аўтаматамі напагатове. Іх было так многа, што ад стракатасці рэзала вочы горш, чым ад сонца. Ля выхаду з карабля стаяла некалькі чалавек у цывільным.

— Мы што, трапілі на нейкую дапатопную ваенную базу? — спытаўся сам у сябе Іван.— Такое відовішча, што...

— Значыць,так,— рашуча перапыніў яго камандзір карабля,— куленепрабіваемыя касцюмы і шлемы не здымаць! Увесь арсенал абароны мець пры сабе! Не праяўляць ніякай варожасці і не выказваць разгубленасці! Зброю прымяняць у самым крайнім выпадку! Перагаворы буду весці толькі я!..

Пакуль камандзір вядзе свой жорсткі інструктаж, прадыктаваны абставінамі, можна спыніцца і паспрабаваць разабрацца, што гэта за такі «ўвесь арсенал абароны». Несвядомаму чалавеку ён тэарэтычна мала што скажа, бо тыя вяршыні навуковатэхнічнай думкі, пра якія гаварылася раней, дазволілі зрабіць сродкі абароны і нападзення замаскіравана кампактнымі, павялічыўшы пры гэтым у шмат разоў магчымасці паражэння і знішчэння праціўніка.

Пра тыя аўтаматы, якія трымалі ў руках камуфляжнікі, на Зямлі даўно забыліся, яны калі і захаваліся, дык толькі ў музеі старажытнай зброі. Дастаткова толькі ўявіць кожнаму ў свой час, якая зброя была трыста ці пяцьсот гадоў назад, і адразу зразумееце, якое смешнае ўражанне зрабілі яны на зямлян.

Сёння, напрыклад, касцюм астранаўта, акрамя сваіх абаронных функцый, быў і грозным наступальнай зброяй. Так толькі ў двух нагрудных міні-блоках-рэактарах была схавана вялізная энергія, якая па камандзе чалавека магла імгненна знішчыць усё навакольнае праз ледзь бачныя каналы-клапаны, якія здольны ашчэрыцца псіхатропнымі, лазернымі, электрамагнітнымі выпраменьваннямі.

У гэтым жа касцюме былі скандэнсаваны не толькі знішчальныя сродкі, але і абясшкоджваючыя — такія, як паралізуючыя, усыпляльныя, дэмаралізуючыя. Акрамя ўсяго гэтага, за невялічкай лінзай, паміж міні-блокамі, знаходзіцца спецыяльная лямпачка, успышка якой у тысячы разоў ярчэй за сонца. Гэта ўспышка таксама не знішчала, а асляпляла ўсё жывое.

Была і іншая, не менш грозная, кішэнная зброя, эфектыўнасць якой была засакрэчана і нам невядома.

Можна толькі дадаць тое, што касцюмы астранаўтаў дазвалялі свабодна, не здымаючы шлемаў, размаўляць з любым чалавекам, а вось унутраная сувязь паміж астранаўтамі была чутна толькі ім.

Маючы такую пераканаўчую навукова-тэхнічную перавагу над камуфляжнікамі, Сухін і Ісаеў больш-менш спакойна выйшлі з карабля.

* * *

Палац або рэзідэнцыя нейкай галоўнай асобы на гэтай планеце, куды даставілі двух зямлян, вызначаўся шыкоўнасцю і адсутнасцю густу.

Іван увесь час у думках абураўся: «Эх, шкада, што я не гісторык! Гэта ўсё нагадвае нешта як быццам знаёмае... Але што?..»

Ісаеў думаў пра іншае: «Вялікай пагрозы для нас гэты ўзброены дапатопнай зброяй натоўп не ўяўляе... Усё, што мы бачым, можа быць знішчана намі імгненна. Але гэтага не павінна быць...»

Калі картэж машын, у цесным акружэнні аўтаматчыкаў, пад’ехаў да цэнтральнага ўвахода галоўнага будынка, на ўсходцы выйшаў, відаць, той, каму падпарадкоўвалася ўсё на гэтай планеце.

Галоўны ступіў насустрач незвычайным гасцям і шырока ўсміхнуўся.

— Вітаю вас на нашай суверэннай і свабоднай планеце!

— Мы таксама рады вітаць вас і спадзяёмся на ўзаемапаразуменне! — стрымана адказаў Ісаеў.

— Я — ........,— і чалавек на ўсходцах назваў сваё прозвішча. Яно гучала настолькі складана, што зямляне з першага разу не запомнілі яго.— Я — галоўны на планеце Аскал! — працягваў ён...

Астранаўты таксама прадставіліся, назваўшы свае імя і прозвішчы. Галоўны (лепш будзем называць яго так, як запомнілі) задаволена сказаў:

— Мне прыемна, што вы валодаеце нашай мовай, у распрацоўку якой унёс і я вялікі ўклад. Упэўнены, што хутка і бліжняе,і дальняе касмічнае замежжа прызнае маю мову і пяройдзе на яе! Але што мы тут стаім, заходзьце ў пакоі! — і Галоўны павёў гасцей у рэзідэнцыю.

Дапатопны ліфт падняў гаспадара і гасцей на пяты паверх будынка, дзе ў нейкай афіцыйнай зале працягнулася ўзаемнае знаёмства.

— Ведаю, што вы з дарогі і вам неабходна адпачыць, таму не буду стамляць працяглай размовай.

Камандзір карабля дыпламатычна адказаў:

— Мы рады, што знаходзімся сярод разумных, сабе падобных людзей,і хочам выказаць...

— Ну, чаго-чаго, а розуму ў нас хапае! — перабіў Ісаева Галоўны.

— Мы хочам выказаць,— працягваў Ісаеў,— захапленне вашымі тэхнічнымі дасягненнямі, якія дазволілі паслаць сігнал на нашу далёкую планету Зямля...

— Які сігнал?! — ускочыў Галоўны.— Мы ніякага сігналу нікуды не пасылалі! І што гэта за такое — Зямля? Ніколі не чуў!

Астранаўты разгубіліся. Няўжо яны заляцелі не туды? А сігнал? Ён жа быў пасланы менавіта з гэтай планеты... Як сябе паводзіць далей? Што казаць?..

— Мы маем на ўвазе электрамагнітны сігнал, які вылучае любое вялікае касмічнае цела і які мы зафіксавалі пры падлёце да вашай планеты,— ляпнуў першае, што прыйшло ў галаву, Ісаеў.

— А-а! — супакоіўся Галоўны.— А Зямля? Што гэта за планета?

Ісаеў коратка ахарактарызаваў Зямлю як планету, гэтак жа коратка расказаў пра дасягненні ва ўсіх галоўных галінах эканомікі, навукі, культуры, асобна падкрэсліў тыя свабоды, якімі карыстаецца кожны, што лічыцца галоўнай каштоўнасцю часу.

— У нас,— закончыў Ісаеў,— кожная сям'я, праз адзіную сістэму Інтэрнэта, падключана да агульнай сістэмы кіравання дзяржавай і мае магчымасць уплываць на ўдасканаленне законаў, на ход развіцця агульнаэканамічных інтарэсаў, сацыяльных патрабаванняў, на росквіт культуры і гарманічнае развіццё кожнай асобы. Урад у нас сімвалічны і з'яўляецца каардынатарам агульнаграмадскіх пажаданняў і прапаноў.

Чым больш гаварыў Ісаеў, тым больш халаднейшымі рабіліся вочы Галоўнага.

— А чаму вы не здымаеце сваіх касцюмаў? — падазрона спытаўся гаспадар.— У нас усе павінны быць аднолькавымі!

— На вашай планеце хіміка-біялагічны састаў атмасферы адрозніваецца ад нашага,— зноў быў вымушаны схлусіць Ісаеў.

— Ну што ж, вам трэба адпачыць, а нам падумаць,— устаў Галоўны.— Вас адвязуць у адведзеныя для гэтага апартаменты,— і выйшаў з залы.

Сухіна і Ісаева размясцілі чамусьці раздзельна: не ў розны пакоях, а ў розных будынках. Гэта не толькі здзівіла, але і насцярожыла зямлян. Насцярожвала не толькі гэта: і вялікая колькасць узброеных камуфляжнікаў, і тое, як іх сюды везлі ад карабля.

А везлі іх таксама ў розных машынах, дарогу да рэ-

зідэнцыі выбіралі так, каб абмінуць людзей і тую непрыгляднасць і неўладкаванасць, якая акружала іх.

Насцярожвала і тое, якое незадавальненне выклікаў у Галоўнага апісаны Ісаевым лад жыцця землян.

Кідалася ў вочы дрымучая адсталасць аскалаўцаў. Машыны, на якіх везлі ў рэзідэнцыю землян, як і аўтаматы камуфляжнікаў, і мясцовыя сродкі сувязі, на Зямлі даўно зрабіліся гістарычным хламам.

Насцярожвала і тое, што ў гасцей нават не запыталіся, як бы яны хацелі выкарыстаць вольны час ці што б ім хацелася ўбачыць, а, як падняволеных, рассялілі пад аховай.

Абмеркаваўшы па ўнутранай сувязі ўсё гэта, пасланцы Зямлі, у мэтах бяспекі, зноў вырашылі не здымаць сваіх касцюмаў да лепшых часоў.

* * *

Савет бяспекі быў скліканы Галоўным тэрмінова і праходзіў пад яго старшынствам.

Галоўны бліснуў вачыма, ад чаго прысутныя апусцілі галовы і сціснуліся ў камякі.

— У нас госці! — без уступу пачаў старшынствуючы.— Скажу прама: нежаданыя госці. Я яшчэ разбяруся з імі, а пакуль параімся, што з імі рабіць. Тое, што мне давялося пачуць ад іх, выклікае трывогу.

Прысутныя крыху паднялі галовы, але маўчалі.

Галоўны злосна працягваў:

— Там, на Зямлі, адкуль яны прыляцелі, згодна іх слоў, кіруюць нейкія свабоды, кожны робіць, што хоча, кожны сам сабе гаспадар. Урад, зноў жа з іх слоў, сімвалічны. Ці ж такое магчыма?! — узвысіў голас Галоўны.

Тут прысутныя заматалі галовамі:

— Не! Такога не павінна быць!

— Гэта жах!

— Анархія!

— Правакатары! — перакрыквалі адзін другога прысутныя.

Галоўны задаволена абвёў поглядам дарадцаў:

— Дзякуй за падтрымку! Бачу, што нашы думкі супадаюць!

Галоўны зрабіў паўзу, выцер насавой хустачкай успацелы лоб і спытаўся:

— Дык што будзем рабіць?!.

Усе зноў апусцілі галовы — не дай бог не тое ляпнуць ды не дагадзіць Галоўнаму.

— Ну, калі вы маўчыце, тады я вам растлумачу, якая небяспека для нас усіх схавана ў словах касмічных прыблудаў,— павучальна і дакорліва працягваў аратар.— Дык вось, тыя свабоды, пра якія плятуць нашы дарагія госцікі, пазбавяць вас усіх вашых прывілей і вашых...

— Не! Не дазволім!

— Не быць гэтаму ніколі!

— Да д’ябла свабоды! — рашуча паўскоквалі прысутныя.

Галоўны не хаваў усмешкі:

— Бачу, што мысліце вы па-дзяржаўнаму. Малайцы!.. Дык што будзем рабіць? — з іроніяй спытаўся Галоўны і хітра зірнуў на падначаленых.

— К чорту іх!

— Заткнуць ім рот!

— Вон іх адсюль!

— Садраць з іх шлемы — будуць маўчаць, як дохлыя рыбы!..

Галоўны ўзняў руку, і ўсе сціхлі.

— Цікавых прапаноў паступіла шмат, буду над імі думаць... Ёсць і ў мяне для іх «падарункі»...— Раптоўна грозна памахаў пальцам.— І ніякіх ім кантактаў з людзьмі! Ніякіх ім тут свабодаў! Я ім пакажу зямныя свабоды!

* * *

Сухін і Ісаеў адчулі нядобрае. Яны пераключылі ўнутраную сувязь на такі рэжым работы, каб адзін мог слухаць дыялог другога з гаспадарамі. Таму, калі ў пакой да Ісаева зайшлі двое ў чорных касцюмах, іх размову са сваім калегам Іван чуў даслоўна.

— Добрай раніцы! Як адпачывалі?! — пачалі незнаёмцы.

— Дзякуй! — адказаў Ісаеў.— Мы б хацелі выказаць некалькі сваіх пажаданняў...

Незнаёмцы быццам не пачулі гэтага. Яны запыталіся:

— А чаму вы не дакрануліся да яды? Не спадабалася?

— Вось гэта першая наша просьба: нам неабходна часова вярнуцца на наш карабель, дзе ў герметычным адсеку зможам зняць шлемы і прыняць яду. Там жа мы маглі б закласці па плітцы ежы і вады ў спецыяльныя прыстасаванні ў шлемах, што дазволіць нам доўга абыходзіцца без карабля.

— Баюся, што гэта немагчыма,— адказаў адзін з увайшоўшых.

— Тады,— рашуча заявіў Ісаеў,— нам пагражае галодная смерць!

— А вы здыміце шлемы і ешце! — хмыкнуў незнаёмец.

— Гэта будзе азначаць для нас тую ж смерць! І вы гэта добра ведаеце! — рэзка адказаў Ісаеў.

— Добра,— сказаў перагаворшчык,— мы зробім даклад начальству. Якія яшчэ пажаданні?

— Спадзяёмся, што мы не палонныя і будзем мець магчымасць азнаёміцца з вашай планетай...

«Чорныя касцюмы» рашуча выйшлі, грукнуўшы дзвярыма,— відаць, другое пажаданне не спадабалася ім больш, чым першае.

Іван чуў гэта слова ў слова, хоць і знаходзіўся ў другім будынку. Таму, калі да яго зайшлі візіцёры, ён прытрымліваўся думкі свайго камандзіра...

Галоўны, пасля даклада яму аб кантактах з зямлянамі, насупіўся:

— Ужо другія суткі, як яны на нашай планеце і яшчэ не прымалі ежу... А мне яны пакуль патрэбны жывымі... З іх шмат чаго карыснага для сябе можна выцягнуць...

Пахадзіўшы па кабінеце, Галоўны сказаў прысутным:

— Прыйдзецца везці іх на карабель... Лепей, як сцямнее. Трэба, каб менш цікаўных вачэй бачыла іх...

Наперадзе быў цэлы дзень, і астранаўты засумавалі. Хацелася есці, але цяпер, калі гаспадары амаль не хавалі сваёй варожасці, здымаць шлемы і касцюмы было б вялікай памылкай.

Днём распачаўся такі лівень, што за вокнамі зрабілася цёмна, як і на душы зямлян.

— Як пратрымацца гэты месяц? — спытаўся Іван у Ісаева.— І ці пратрымаемся ўвогуле?

— Будзем спадзявацца, што давядзецца чакаць менш месяца... Ды справа і не ў гэтым,— сумна разважаў Ісаеў,— складанасць у другім: як без сувязі з імі звязацца, як да іх дабрацца? Не падобна на тое, што нас павязуць на карабель, што нам дадуць свабоду...

Ісаеў памаўчаў і дадаў:

— Я маю на ўвазе, што не дадуць свабоду добраахвотна... Баюся, што прымяненне сілы з нашага боку непазбежна.

— А што застаецца рабіць? — пытаннем падтрымаў сябра Іван.

— Пажывём — пабачым... Не ў іхніх гэта інтарэсах, ды і не ў нашых таксама... Пабачым...

Вечарам лівень перастаў, пакінуўшы пасля сябе процьму вады ў кожнай лагчыне.

Калі сцямнела, Ісаева і Івана вывелі з іх пакояў, пасадзілі ў тыя ж машыны,і картэж накіраваўся да касмічнага карабля.

Як ні стараліся кіраўнікі гэтай маленькай планеты

захоўваць завесу сакрэтнасці, але слых аб касмічных падарожніках даляцеў да кожнага жыхара, і людзі, нягледзячы на жорсткія забароны сваіх уладароў, збіраліся паглядзець на цуд.

Чым бліжэй было да касмічнага карабля, тым большыя натоўпы людзей можна было бачыць у святле фар уздоўж дарогі. Але картэж хутка імчаў, рассякаючы коламі вялізныя лужыны і абліваючы з галавы да ног і ахову, і цікаўнікаў.

І усё ж да самага карабля даехаць не ўдалося — лівень размыў узгоркі і палі, сярод якіх стаяў карабель, ператварыўшы іх у гразь.

Прыйшлося вылазіць з машын, што не было запланавана, і ў цемры, пры цьмяных ліхтарах, кратацца пешшу, ледзь выцягваючы ногі з гразі.

Ліхтары ў руках аховы выхоплівалі з цемры шматлікіх камуфляжнікаў і простых людзей, якія з неверагоднай цікаўнасцю ціснуліся да працэсіі. Было відаць, як тыя ж камуфляжнікі спрытна арудуюць гумовымі дубінкамі, адганяючы людзей, але пабітыя корчыліся ад болю і працягвалі жывымі хвалямі каціцца ўздоўж усяго шляху працэсіі.

Калі карабель быў ужо зусім блізка, нехта, карыстаючыся цемрай і штурханінай, рашуча праціснуўся, нават прадраўся праз ахову і нешта сунуў у руку Івану. Ахова палічыла гэту дзёрзкасць за жаданне дакрануцца да чужынца і груба адштурхнула нахабніка ў гразь, паласнуўшы некалькі разоў па плячах і галаве гумовым мясцовым «законам».

Падышоўшы да карабля, Ісаеў набраў умоўны код на міні-камп’ютэры свайго касцюма, і першыя дзверы паслухмяна адчыніліся.

— Куды?! — груба адштурхнула ахова астранаўтаў.— Толькі з намі! І толькі пасля нас! — і некалькі чалавек увайшлі ў першы адсек.

— Падрыхтуй сістэму абароны! — скамандаваў шэптам Ісаеў.— Відаць, надышоў час зброі!

— Ну што застылі! Заходзьце! — і некалькі аўтаматаў ішурхнулі ў плечы зямлян.

Ісаеў рэзка крутнуўся і накіравана, прыцэльна, каб не пашкодзіць людзей, прывёў у дзеянне паралізатар.

Якое ж было яго здзіўленне, калі пад моцнымі патокамі выпраменьванняў камуфляжнікі працягвалі іх штурхаць аўтаматамі ў плечы і грудзі.

Іван, бачачы такі нечаканы эфект іх зброі, з перапуду ціскануў на ўсе магчымасці абодвух міні-блокаў-рэактараў і накіраваў знішчальныя промні на тых, хто заняў першы адсек, каб расчысціць праход у сярэдзіну карабля. Уся моц абодвух блокаў нябачным шквалам абрынулася на захопнікаў касмічнага карабля. Але можна было падумаць, што магутная зброя, здольная імгненна знішчыць тысячы людзей, сапсавалася і не дзейнічае. І толькі лазерныя промні пранізвалі цемру і пацвярджалі, што сістэма абароны дзейнічае бездакорна. Лазерныя промні пранізвалі не толькі цемру, але і няпрошаных гасцей у адсеку карабля.

Сухін «паліваў» промнямі ўзброеных аскалаўцаў і вачам не верыў. Лазер пранізваў іх наскрозь, біўся аб спецыяльную абшыўку адсека і асляпляльнымі іскрамі адскокваў ва ўсе бакі.

— Ха-ха-ха-ха! — пачулася працяглае рагатанне з адсека.— Заходзьце ў свой карабель і бярыце яду, а то здохнеце з голаду, як прыблудныя сабакі! Жыва!

Астранаўтаў запіхнулі ў адсек, дзе, падпёртыя з усіх бакоў аўтаматамі, яны набралі новы код і праз герметычны люк увайшлі разам з пільнымі ахоўнікамі ў карабель.

Ісаеў ціха загадаў Івану:

— Ідзём у бок катапульты! Па маёй камандзе хуценька заскокваем і імгненна заблакіруем люк!

Каб не выклікаць падазронасці, астранаўты павалі па-

дыходзілі да катапульціруючай капсулы, супакойваючы сваіх вартавых:

— Мы прайгралі! Ваша ўзяла... Мы ўсё зробім, што вы загадаеце...

— Даўно б так! — расслабілася ахова, смакуючы сваю перамогу.

Параўняўшыся з задраеным люкам катапульты, Ісаеў скамандаваў:

— Увага! — і націснуў на сваім міні-камп'ютэры на адпаведны клавіш. Люк бясшумна і нечакана расчыніўся, астранаўты натрэніравана і спрытна ўскочылі ў капсулу, і люк зноў стаў на сваё месца.

— Без яды, затое свабодныя! — усклікнуў усхваляваны Іван.

— І з ядой, і свабодныя! — удакладніў Ісаеў.— У капсуле ёсць аварыйны запас і таго, і другога!

— Уперад? — спытаўся шчаслівы Іван.

— Уперад! — пацвердзіў спакойны Ісаеў і націснуў на «старт».

Катапультная капсула была задумана як аварыйны выхад з карабля. Капсула мела адпаведны рэсурс аўтаномнага лёту, які забяспечвалі магутныя батарэі, яна мела герметычную абалонку і ўяўляла сабой міні-карабель.

Цемра і бязгучнасць лёту капсулы дазволілі астранаўтам непрыкметна аддзяліцца ад карабля і растаць у вышыні.

Раз'юшаныя ахоўнікі, баючыся за свае галовы, усімі сродкамі спрабавалі выламаць люк, упэўненыя, што іх ахвяры знаходзяцца за ім, схаваўшыся ад праследавання.

У ход ішлі прыклады аўтаматаў, з'явіліся аднекуль ламы і кувалды, але лягчэй было б біцца галавой у сцяну, чым выламаць гэты люк, за якім ужо нікога не было.

А астранаўты тым часам, каб не «засвяціцца», не запальвалі ўнутранага асвятлення і абміналі святло населеных пунктаў.

Зберагаючы рэсурс батарэй, яны выбралі цёмную пустэчу і пасадзілі свой выратавальны апарат.

— Віншую! — сказаў Ісаеў.— Мы нечакана лёгка пазбавіліся ад нашых «благадзецеляў».

— Ху-у-х! — толькі і выдыхнуў Іван.

— Ну што, здымем шлемы і як след падсілкуемся! — прапанаваў камандзір пакінутага назаўсёды карабля.

Толькі цяпер Іван заўважыў, што жывот падцягнула да спіны.

— Ого! Я магу праз жывот пачухаць свой пазванок! — пажартаваў Іван і бадзёра дадаў: — Ёсць падсілкавацца!

Праглынуўшы некалькі вітамінных гранулаў і выслабаніўшы ад «палону» крышталік вады, астранаўты паспрабавалі прааналізаваць вынікі гэтых двух сутак.

— Што гэта за лад такі? Што тут за парадкі? — абураўся Іван.

— Хутчэй гэта — беспарадкі! — адказаў Ісаеў.— Я, як і ты, не гісторык, але прыпамінаю са школьнай праграмы, што напрыканцы дваццатага і да сярэдзіны дваццаць першага стагоддзяў і на Зямлі існавалі рэжымы, дзе дыктат падмяняў і законы, і ўсе правы людзей. Нешта падобнае назіраецца і тут...

— А мы чым не дагадзілі гэтым... уладарам?! — здзівіўся Іван.

— Мая памылка! — прызнаўся Ісаеў.— Не трэба было пры першай сустрэчы вытыркаць нашы дасягненні і свабоды! Думаю, што гэта галоўная прычына нашай апалы... Дыктатары такога не даруюць...

Іван схамянуўся:

— А што такое з нашай зброяй?! Чаму яна не закранула гэтых... нячысцікаў?

Ісаеў ажывіўся:

— І сапраўды, чаму? Гэта падобна на дурны сон! Лазер праходзіў праз іхняе цела, як праз паветра... Што гэта за загадка?..

— А яны не такія ўжо і дапатопныя, калі на такую зброю нават не звярнулі ўвагі,— разважаў услых Іван.

Тут ён успомніў, як адважны незнаёмец нешта сунуў яму ў руку і Іван, не маючы магчымасці разгледзець падарунак, паклаў тое «нешта» у бакавую кішэню касцюма.

Цяпер ён асцярожна дастаў з кішэні нечаканую рэч і ў цемры абмацаў і зразумеў, што гэта кавалак паперы.

— Ілля Іванавіч! — насцярожана пачаў Іван.— Тут вось нешта падобнае на запіску, якую мне ткнуў у руку незнаёмец з натоўпу!

— Запіска! — ажно падскочыў Ісаеў.— Нам зараз кожная дробязь неабходная і важная! Мы засталіся адны на чужой, невядомай планеце! Уключы ліхтарык і чытай!

Іван з нецярпеннем, дрыготкімі пальцамі расклаў паперу і запаліў ліхтарык. Было напісана наступнае: «Пяцьдзесят кіламетраў на поўнач ад касмічнага карабля. Тры дубы на беразе рэчкі. Сем кіламетраў улева да адзінокай скалы на ўскраі лесу. Буду чакаць кожны дзень — захад сонца».

— Усё! — спыніўся Іван.

— І усё? — машынальна перапытаў Ісаеў.

— Так. Ні подпісу, нічога,— пацвердзіў Іван.

Ісаеў ажывіўся:

— Што ж... і гэта нямала! Нехта хоча сустрэцца з намі.

— А не пастка гэта? — недаверліва спытаўся Іван.— Ім тут даверу няма...

— Не думаю,— няўпэўнена адказаў Ісаеў.— А цяпер мы навучаныя і будзем праяўляць асцярожнасць... А па-другое, у нас няма выбару, ды і дакладнага адказу ні на адно пытанне мы не маем. Рызыкнём, а там будзе бачна...

* * *

Рызыкнуць і сапраўды прыйшлося, бо, каб праляцець гэты нескладаны маршрут і адшукаць патрэбныя арыенціры, трэба было ўзлятаць, а гарантыі, што іх не заўважаць, не было.

Каб паменшыць рызыку, узляцелі перад самым захадам сонца, калі ўжо не зусім светла і яшчэ не надта цёмна. Адлічылі прыборамі пяцьдзесят кіламетраў на поўнач, адразу ўбачылі тры дубы на беразе рэчкі, крутнулі ўлева і праз хвіліну былі над скалой, якая прыляпілася на ўскраі ляснога масіву. Месца было даволі глухое, пагоркавае. Завіснуўшы над абазначаным арыенцірам, астранаўты пільна даследавалі наваколле, але нічога падазронага не знайшлі і пасадзілі капсулу. Сонца садзілася за лес, пачынала цямнець, але ніхто пра сябе не напамінаў.

— Пачакаем яшчэ крыху і адляцім, тут начаваць не будзем! — сказаў Ісаеў напружана.

Іван нервова маўчаў. Прайшло яшчэ некалькі часу, а сустрэча з пасланцом запіскі зацягвалася.

Нарэшце, нечакана для зямлян, побач з капсулай неяк загадкава апынуўся незнаёмец.

Гэта быў гадоў трыццаці пяці чалавек з прыветлівым тварам і крэпкай постаццю. Ён даверліва ўсміхаўся і не ўяўляў сабой ніякай небяспекі для двух зямлян.

— Ага! — вырвалася ў Ісаева.— Вось і наш... будзем спадзявацца, сябар.

— Ну што, выходзім? — спытаўся Іван.

— Спачатку выйдзеш толькі ты і даведаешся, што ў яго за справа да нас, а я цябе падстрахую,— загадаў Ісаеў.

— Я дык я! — і Іван адчыніў свой герметычны выхад. Лёгка выскачыўшы з капсулы, навуковец гэтак жа лёгка падышоў да незнаёмца.

Той першы працягнуў руку для вітання і, не перастаючы ўсміхацца, сказаў:

— Я — ваш сябар! Маё імя Алесь, без мяне вам будзе цяжка разабрацца, куды вы трапілі.

Іван пацiснуў руку новаму знаёмаму і, назваўшы сваё імя, спытаўся:

— А чаму мы павінны верыць, што вы нам сябар, а не гэткі ж, як тыя камуфляжнікі?

Алесь адказаў нечакана і пераканаўча:

— Гэта я паслаў сігнал ва Ўсяленную, які, як я разумею, вы атрымалі і прыляцелі сюды.

Іван шырока раскрыў вочы. Падзеі апошніх сутак адсунулі на другі план эмоцыі, выкліканыя таямнічым сігналам. Пра яго проста не думалі.

— Вы-ы?! — не сваім голасам спытаўся пасланец Зямлі. Затым, памятаючы нядаўнія сутычкі з аскалаўцамі, падазрона пераправерыў: — Прабачце за такое пытанне, але якія словы ўтрымліваў той сігнал?..

Алесь слова ў слова, літара ў літару пераказаў тэкст і дадаў:

— Ніхто, акрамя мяне, на гэтай планеце не ведае пра сігнал...

Іван моцна пацiснуў руку новаму сябру.

— Даруйце яшчэ раз за нашу падазронасць! І дзякуй вам за сустрэчу! Што мы павінны рабіць цяпер?..

— Па-першае, трэба паставіць ваш лятальны апарат вунь у тую нішу пад абрывам і замаскіраваць, а пасля гэтага я запрашу вас да сябе.

Іван хуценька падбег да капсулы:

— Якая ўдача! Гэта той, хто паслаў нам свой сігнал. І увогуле, бачна, што ён чалавек надзейны і сапраўдны сябар, без якога нам не абысціся!..

Выканаўшы работу па маскіроўцы капсулы, трое сяброў падышлі да скалы, дзе Алесь адкаціў даволі вялікі камень, пацягнуў на сябе тое, што аказалася закамуфліраванымі пад колер скалы дзвярыма, і ўсе апынуліся ў незвычайным пакоі.

— Вось дык да! — з захапленнем ускліknуў Іван. Потым убачыў тут і нейкую апаратуру, якая сваім выглядам напаміналa хроніку шматгадовай даўніны.

— І адсюль?! Адсюль вы паслалі свой сігнал?! Пры дапамозе гэтага (ледзь не вырвалася «хламу»)... гэтай тэхнікі?!

Алесь спакойна і з годнасцю пацвердзіў:

— Адсюль. Пры дапамозе гэтага хламу, як вы і падумалі...

— Прабачце,— прымірэнча сказаў Іван,— з вашага боку гэта навуковы подзвіг... А нашы адказы вы не атрымлівалі?

— На жаль, усё, што мне ўдалося выціснуць з гэтай састарэласці, дык толькі аднабаковую сувязь. Перадаць штосьці можна, прыняць — немагчыма.

— Мы вам дапаможам! Вось-вось прыляціць новы карабель...

Ісаеў перапыніў сябра:

— Свае навукова-тэхнічныя дыспуты працягнеце пазней! Спачатку — агульнае азнаямленне. Мы нічога не ведаем пра вашу планету, пра вашых людзей!

— Людзей?! — раптоўна панік Алесь.— А вас не скалыхнула тое, што ваша зброя аказалася бяссільнай перад гэтымі «людзьмі»?

— Для нас гэта адна з асноўных загадак вашай планеты...

— Нашай?! — даволі холадна перапытаў Алесь.— Не, гэта не наша планета! Гэта — месца нашай высылкі! Выгнання!

— Прабачце,— як можна мякчэй пачаў Іван,— мы шчыра жадаем разабрацца, што тут да чаго, а нашы пытанні абураюць вас... абражаюць вашу душу...

— Душу?! — яшчэ больш узвінчана перабіў Алесь. Потым памаўчаў і сарамліва павінаваціўся: — Гэта вы мяне прабачце... Я размаўляю з вамі як з людзьмі, дасведчанымі ў нашых сумных справах, як з людзьмі, якія вінаватыя ў нашай безнадзейнасці... Прабачце...

Ісаеў пяшчотна паклаў руку на плячо Алеся і ціха прапанаваў:

— Мы сапраўды нічога тут не разумеем... Вы самі вырашыце, што можна нам расказаць, каб меней кранаць болем ваша сэрца...

Алесь пагадзіўся:

— Добра. Я раскажу вам усё,і, калі стома дазваляе вам слухаць, набярыцеся цярпення...

Усе селі ў пацёртыя, але глыбокія і ўтульныя крэслы і — адны падрыхтаваліся слухаць, другі — распавядаць.

— Пачну з самага нечаканага для вас. Вы спыталіся, што гэта за людзі... што мы за людзі... Так?

Зямляне, баючыся перарваць распавядальны маналог свайго сябра, у знак згоды моўчкі кіўнулі галовамі.

— Дык вось,— працягваў Алесь,— мы — не людзі. Мы зусім не людзі!

— Як не людзі?! — у адзін голас усклікнулі зямляне, забыўшыся на неперарыванне маналога.— А хто ж вы?!.

— Мы? — горка ўсміхнуўся Алесь.— Мы — душы людзей, якіх даўно няма ў жывых. Так даўно, што ніхто з нас не памятае, калі мы пакінулі смяротнае сваё цела і ператварыліся ў міраж, прывід, паветра...

Гаспадар падскальнага пакоя памаўчаў, назіраючы, як у яго новых сяброў шырока раскрыліся раты і палезлі на лоб вочы. Убачыўшы, што зямляне нібы ператварыліся ў камень, спытаўся:

— Цяпер вам зразумела, чаму ваша зброя нікога не забіла, нават не параніла? Душа — бессмяротная! Яе забіць немагчыма!

— Што?! Тут, на планеце Аскал, адны душы?! Душы, якія размаўляюць, нешта робяць, нават страляюць?!

— О-о! Гэта доўгая гісторыя,— сумна працягваў Алесь.— Але раз ужо я пачаў распавядаць, неабходна давесці да канца маю споведзь, інакш у вас будзе больш пытанняў, чым адказаў на іх.

Сухін і Ісаеў не варухнуліся, быццам самі зрабіліся аднымі з тых, хто насяляе гэту незвычайную планету.

Алесь працягваў:

— Шмат чаго я і мы ўсе тут не памятаем. Прайшло нямала стагоддзяў з дня нашага пакарання. Няма горшых пакутаў, чым вечны роспач і мітусенне душы, бо і ў душы павінна быць сваё ўміратварэнне і ўладкаванне. Вам гэтага не зразумець...

— Чаму?..— каб не маўчаць, абстрактна спытаў Ісаеў.

А Алесь распавядаў далей:

— Трагедыя яшчэ і ў тым, што не ўсе прагнуць успакаення і ўміратварэння. Напрыклад, тыя, хто сёння пры ўладзе, з усіх сіл стараюцца замітусіць, забаламуціць усіх, бо ў гэтым яны знаходзяць свае існаванне.

— А хто пакараў вас? — ціха пацікавіўся Іван.

— Пакараць цэлы народ такім чынам здольны толькі той, пра каго мы, у свой час, забыліся, ад каго адвярнуліся... Але думаю, што пакаранне пачалося з нас саміх. Мы самі сябе пакаралі... Калісьці, шмат вякоў назад, мы, людзі адной нацыі, адной дзяржавы, наперакор усяму свету пайшлі не ўперад, а, патаптаўшыся на месцы, накіраваліся назад. Кінуўшы пад ногі здабыткі продкаў збэсціўшы сваю гісторыю, сваё мінулае, мы, неяк непрыкметна для сябе, забыліся — хто мы! Забыліся пры жыцці! Ля магілак бацькоў! На святой сваёй зямлі! Мы замуцілі, забрудзілі свае вытокі, мы павысушвалі свае карані!

Такое, як аказалася пазней, не праходзіць бясследна, не даруецца. Забыўшыся, хто мы,— мы павярнулі вочы ў бок штучных цэннасцяў, мы смяяліся над такімі паняццямі, як духоўнасць, душа, мы, па сутнасці, адмовіліся ад душы, прадалі яе тагачасным заклікам і заклінанням шаманскай, чужой ідэалогіі.

Чалавек без душы — горш іржавага робата, ён, калі што і робіць,— робіць бяздумна, зацюкана, нятворча. А калі дадаць да гэтага, што бяздушны чалавек робіць яшчэ

і пад вечным страхам,— можна сабе ўявіць, да якога заняпаду мы дайшлі. Нас апанавалі хваробы, катастрофы, голад, жорсткасць. Нас пачалі касіць эпідэміі, мор. Мы дэградыравалі і зніклі...

Ісаеў і Сухін ад жаху не маглі варухнуцца. Іван, прыйшоўшы ў сябе, ледзь чутна спытаўся:

— Ну а яны, тагачасныя вашы кіраўнікі, няўжо не разумелі, што быць творцам можа толькі свабодны, разняволены чалавек, пазбаўлены страху?

— Яны-то, магчыма, і ведалі гэта, але разумелі і тое, што свядомы, свабодны, творчы і забяспечаны чалавек будзе пазбаўлены залежнасці ад уладаў і ніколі не сагне каленяў перад дыктатам.

Ісаеў таксама пацікавіўся:

— Няўжо ўсе падпарадкоўваліся гэтай несправядлівасці? А інтэлігенцыя? А творчыя людзі?

— Былі такія, хто не забыўся пра свае карані, але яны забыліся пра другое. Забыліся, што трэба адкінуць уласныя амбіцыі і ратаваць сваю бацькаўшчыну. Яны грызліся паміж сабой за нейкія прэміі, за права ўзначальваць саміх сябе — за дробязі, не заўважаючы галоўнае. Гэта нагадвала дзяцей, якія сквапна вытрасаюць кішэні сваёй паміраючай маці і радуюцца — хто болей знайшоў медзякоў...

— А сюды?! Як трапілі вы сюды?! Дзе — Зямля! Дзе — Аскал!

— Душа, як і думка, здольна перамяшчацца ў прасторы імгнення. Варта толькі некаму пажадаць — і душа пераселіцца ў самую недасягаемую далеч... што і здарылася з намі.

— І хто пажадаў такое? Не вы ж самі? — спрабаваў удакладніць Іван.

— Гэта ва ўладзе толькі Бога! Ён, назіраючы за нашым духоўным і фізічным выраджэннем, рашыў, што мы не дастойныя той зямлі, ад якой адвярнуліся, і выбраў

самую далёкую планету, куды і перасяліў нашы душы-прывіды. Гасподзь,у пакаранне, захаваў пры нас усю нашу тагачасную недарэчнасць і перанёс яе сюды.

— А падрабязней, што гэта за недарэчнасць? — спытаўся Ісаеў.

— Вы не бачылі нашу беднасць, якую мы працягваем ухваляць як нейкае эканамічнае дасягненне! Вы не бачылі нашы чэргі! Вы не спрабавалі пакаштаваць нашу каўбасу, ад якой сабакі дохнуць! Вы і не ўяўляеце нашу зашоранасць і даверлівасць! У нас тут пастаянныя сходы, галасаванні, рэферэндумы! Мы змагаемся за пераходны сцяг, за ганаровы вымпел, за грамату! Мы робім выгляд, што прымаем законы, а правіць сіла беззаконня! З намі — нашы хваробы: і фізічныя, і маральна-псіхалагічныя! Мы калісьці сваю годнасць, мову, духоўнасць і душу прамянялі на ўсё гэта. Забыўшыся, хто мы,— мы не маем мінулага, з намі толькі наша вечнае сучаснае — нашы пакуты...

Распавядальнік сціх і апусціў галаву. Было відаць, што кожнае слова аддавалася яму болем.

— А мова? Што ў вас за мова такая? Я не бачу ёй лагічнага тлумачэння,— асцярожна загаварыў Іван.— Вы і гэта мова — штосьці ненатуральнае, супярэчлівае, іншароднае...

Алесь не адказаў і яшчэ ніжэй апусціў галаву. Іван зразумеў, што гэта, магчыма, самы вялікі грэх кожнай сумленнай перасеmenai душы.

— А дзе выйсце? — занепакоена спытаўся Ісаеў.— Чым вам можна дапамагчы?

Алесь горка ўсміхнуўся:

— Дзе выйсце?.. А выйсце, здавалася б, вельмі простае: тая душа, якая ўспомніць, дзе пачатак яе роду, якая атуліць сябе адвергнутымі святынямі, якая шчыра пакаецца перад сабой і Богам, тая душа зробіцца нябачнай і знойдзе ўпакаенне на зямлі сваіх продкаў — і мучэнні скончацца...

— Няўжо так складана ўспомніць сваё мінулае і пазбавіцца ад пакутаў? — не вытрымаў Ісаеў.

— Каб гэта было так проста, большасць даўно б перасялілася ў вечную благадаць. Нават душы тых, хто калісьці збіраўся выратаваць нацыю ад слепаты, працягваюць і тут дзяліць прэміі і званні, не жадаюць саступіць лідэрства адраджэнства свайму паплечніку. Душы толькі тых нямногіх, хто ў свой час не раздваіўся, не зламаўся, пакояцца на адвечнай Радзіме ў згодзе з Богам і сабой.

— Мы не гісторыкі,— вінавата прызнаўся Іван,— тут патрэбны спецыяліст у сваёй галіне. Абяцаем, што, вярнуўшыся на Зямлю, дакапаемся да вашага роду-племені і неяк перададзім вам...

— О не! Гэта не дапаможа! Мы павінны самі ці ўратавацца, ці працягваць вечныя пакуты... Толькі самі...

Далей гаворка не складвалася. Усе разумелі, што пасля галоўнага і балючага распытваць сёння пра іншыя дробязі было б нетактоўным.

* * *

Прыкладна праз два тыдні аўтаномны блок сувязі на капсуле прыняў сігнал падлятаючага да планеты Аскал касмічнага карабля-выратавальніка.

Узрушаныя Ісаеў і Сухін перадалі адказ, назваўшы свае каардынаты, і папярэдзілі калег, каб не садзіліся на планету.

У сумнага Алеся не было прычын для радасці, бо новыя сябры і цікавыя субяседнікі збіраліся пакінуць яго назаўсёды, а наперадзе чакалі яго абраныя некалі ім пакуты.

Калі аднойчы касмічны карабель завіс над скалой і прыняў на борт капсулу з двума астранаўтамі, Алесь стаяў і плакаў — пакуты працягваліся.

Якое ж было Алесева здзіўленне, калі капсула з адным Іванам вярнулася назад і села побач з ім.

— Вы нешта забыліся? — пацікавіўся Алесь.

— Сядай! — раптоўна паказаў Іван на свабоднае месца.

— Не! — рашуча адказаў Алесь.— Перасяленне душы тэхнічнымі сродкамі немагчыма. Толькі тут і толькі мы самі! Вы бяссільныя дапамагчы нават аднаму мне...

— Ты не зразумеў! — засмяяўся Іван.— Сядай, давязеш мяне на карабель, а сам з капсулай вернешся назад. Душа павінна лётаць — вось табе і крылы! Хутчэй сядай!

— Не,— сумна адказаў Алесь,— у сапраўднай душы павінны быць свае крылы, узрошчаныя верай і праведнасцю, узнёсласцю і духоўнасцю яшчэ пры жыцці... Дзякуй! Вы і так шмат зрабілі для мяне, вы страсянулі і вывелі маё існаванне са стану змярцвелага сну... Шчаслівай дарогі, і няхай абміне вас тое бяспамяцтва, якое напаткалі мы...

Вяртаючыся дамоў, Іван Сухін не адчуваў ні радасці адкрыцця новай планеты, ні радасці хуткай сустрэчы з родным домам, бо недзе там, на маленькай планеце Аскал, мільёны чалавечых душаў пакутуюць і мітусяцца ў пошуках упакаення і боскай благадаці.

Іван Паўлавіч Цвік, старшыня калгаса «Ветлы шлях», вылез з УАЗіка і нетаропка падаўся па полі, на якім замест пасаджанай бульбы панавала нейкае паедзенае жукамі сцябло.

Цвік шумна ўздыхаў і ўголас разважаў:

— Жыта ў гэтым годзе нікудышнае, буракі загадалі доўга жыць, а бульба ўвогуле абыходзіць пятае праз дзесятае... О-хо-хо... Відаць, не старшынстваваць мне на гэтай зямлі. Нават матухна-прырода супраць мяне натурылася — то сушыць, то мочыць...

Раптам Іван Паўлавіч аб нешта спатыкнуўся. Думаў, аб камень, але, азірнуўшыся, убачыў у баразне бутэльку.

— П'юць, чэрці, дзе папала! — плюнуў ён і сабраўся ісці далей, але прыцягнула яго ўвагу тое, што бутэлька была закаркаваная. Іван Паўлавіч зацікавіўся і падняў яе, абцёр і пачаў разглядваць. Але шкло было матавае і не дазваляла ўбачыць, што ж там усярэдзіне пасудзіны. Іван Паўлавіч патрос знаходку ля вуха, але ў бутэльцы нічога не забоўталася.

— Прыйдзецца браць на нюх! — хмыкнуў Цвік і з цяжкасцю выцягнуў корак. Панюхаў — ніякага паху. Пастукаў рыльца аб далонь — ні кроплі:

— Чакай, пакінуць табе алкашы!

Раптоўна з рыльца бутэлькі закурэў чорны дым, пасудзіна заварушылася, закраталася ў руках, як жывая, і выслізнула з пальцаў на зямлю ля аслупянелага старшыні. Паступова густы дым набыў абрысы чалавека і ператварыўся ў згорбленую, высахлую старушэнцыю, дзівосна, па-даўнейшаму апранутую!

Іван Паўлавіч ад нечаканасці — як стаяў, так і бахнуў адным месцам на зямлю. Ён хапаў паветра разяўленым ротам і толькі лыпаў вачыма. Іван Паўлавіч, хоць быў атэістам, пачаў старанна хрысціцца.

— Свят! Свят! Згінь, нячыстая!

— Дарэмна хрысцішся, галубок! Я не нячыстая сіла і твой крыж мяне не кране.

— А вы хто, бабка? Сон? Міраж? Здань?

Старая засмяялася:

— Ты, галубок, не памыліўся, назваўшы мяне бабкай. Я — бабка. Але не звычайная бабка, а бабка Хатабка. Чуў пра такую? Хі-хі-хі...

Іван Паўлавіч яшчэ больш разгубіўся:

— Якая Хатабка?.. Ёсць, такі стары дзед Хатабыч, ды і той у дзіцячай казцы... Не-е, гэта ўсё ж сон! — і Цвік пачаў біць далонямі па сваім твары.

Старая чарговы раз самазадаволена захіхікала, падклыпала да Івана Паўлавіча і ўзяла яго за руку:

— Уставай, галубок! Нельга майму збавіцелю сядзець на сырой зямлі перад той, якая абавязана сама стаяць на каленях перад чалавекам, што вызваліў мяне з тысяча-тысяча і тысячагадовага палону. Гэта я з гэтага часу буду выконваць усе твае пажаданні, высокапаважаны мой уладар!

Іван Паўлавіч, абапіраючыся на руку старой, падняўся з зямлі і няўпэўнена спытаўся:

— Дык што атрымліваецца, стары Хатабыч — гэта казка ці што?

— А-а, Гасан Абдурахман ібн Хатаб! Ён мой старэйшы брат — сталейшы за мяне ўсяго на тры тысячы гадоў. Павінна табе дакласці, галубок, што ён даволі адсталы джын. Нахапаўся ўсякіх там «о свет очей моих...», «о достойный из достойных...», «о прекрасный и мудрый отрок...». Цьфу! У мой час гэтак не сюсюкалі. Ды і чарадзейнічаў ён дзедаўскім спосабам — вырываў з барады валасінкі. А валасінкі, сам ведаеш, рана ці позна скончацца. Ды і змоклая барада не лепей мачалкі. Не, галубок, я чарую больш сучасна: шчоўкну пальцамі і ў думках загадаю неабходнае. Думкам ні дождж, ні снег не перашкода.

Іван Паўлавіч вырашыў выказаць сваю дасведчанасць:

— Наколькі я памятаю з казкі, у Хатабыча быў брат Амар Юсуф, а пра сястру не было ні слова. Адкуль жа вы ўзяліся?

Бабка Хатабка ўскіпела:

— Не смей сумнявацца ў маіх словах і сцвярджаць, быццам тое было казка! Я і мае браты — не выдумка! — потым спахапілася, пакорна склала перад сабой рукі і ціхмяна сказала:

— Прабач мне, мой уладар, за тое, што не стрымалася, але мне балюча чуць, быццам я і мае браты не існуем.

Іван Паўлавіч супакоіў старую:

— Нічога страшнага не адбылося. У нас і не такія рэзкасці і нястрыманасці можна пачуць. Гэта вы мне прабачце за недавер, але ж надта ўсё гэта неверагодна і больш падобна на казку ці сон... А па-другому як вы маглі апынуцца тут, на калгасным полі? Дзе тыя Абдурахманы ды Гасаны, а дзе мы! У нас тут усё больш Іваны ды Дзям'яны... У мяне ад усяго гэтага галава не тое, што ідзе кругам, а ўвогуле адкручваецца.

Старая перапытала:

— Адкуль я ўзялася? Пра мяне мала хто ведае толькі таму, што мае браты, якіх зняволіў у гэткія ж бутэлькі Сулейман ібн Дауд, баючыся наслаць і на мяне гнеў Сулеймана, не згадвалі ніколі маё імя. Але знайшоўся нехта, хто данёс на мяне Сулейману, пасля чаго ён пасадзіў мяне ў гэту мярзоціну, закаркаваў і шпурнуў яе не ў ваду, як маіх братоў, а каб разлучыць нас канчаткова, кідануў яе ў паветра — куды вочы глядзяць. Павінна табе дакласці, галубок, што палёт быў даволі доўгім, а падзенне балючым. І вось, пасля тысячагоддзяў зняволення, дзе, дарэчы, я і састарэла, ты падараваў мне доўгачаканую свабоду. За гэта прасі ўсё, чаго толькі пажадаеш, але спачатку назаві сваё імя, мой вызваліцель, каб я магла ўхваляць цябе і тваіх шаноўных бацькоў.

— Мяне завуць Іванам Паўлавічам, ды і тое не ўсе,— сціпла адказаў Цвік.

— Па-нашаму, значыць, Іван ібн Павел,— заключыла Хатабка і спыталася: — А чаму не ўсе завуць цябе Іванам Паўлавічам?

— Ды так... Начальства, распякаючы, часцяком называе Іванам-балванам, а нехта наўздагон кідае крыўднае: «іржавы цвік»... Але я звыкся з гэтым і не звяртаю ўвагі — на кожны рот замок не павесіш.

— Дык не быць гэтаму болей! — зноў ускіпела Хатабка — З гэтага часу ты будзеш самым высокашаноўным з усіх людзей!

— Ну... гэта вы загнулі,— не стрымаўся Цвік, але ўспомніў, што словы старой нельга падвяргаць сумненню, і хуценька дадаў: — Веру! Веру!.. Хацеў бы верыць, але ж мой калгас самы адстаючы ў раёне. У мяне хлеб не родзіць, бульба не ўзыходзіць, каровы малака даюць менш, чым козы. Вертыкаль мне такую высокашаноўнасць пакажа, што не буду ведаць, куды ўцякаць. Вось так, бабуля.

— Ты, галубок, расталкуй мне больш даходліва сваё гора, а я ўсё выпраўлю. Ды не забывайся, з якой даўніны я тут апынулася — словы «калгас», «вертыкаль», «распякаць» мне незнаёмыя.

Цвік крыху пакумекаў і прапанаваў:

— У мяне тут машына... Можа, я вас падвязу куды вам трэба — дарогай і пагаворым. Згода?

— З гэтага часу я падпарадкоўваюся тваёй волі, мой збавіцель.

— Тады — калі ласка! — і Іван Паўлавіч адчыніў дзверцы УАЗа.— А куды вас даставіць, бабуля?

Хатабка не зразумела пытання:

— Як куды? Мяне вязі туды, куды і сябе. Цяпер мы — адно цэлае. Я — тваё другое «я», твой цень.

Цвік аслупянеў:

— О, бабуля, мы гэтак не дамаўляліся! Дзе я вас дзену? У мяне жонка, дзеці, што я ім скажу? Мне будзе хана!..

Тут Цвік успомніў пра абяцанкі старой рабіць розныя цуды ды выконваць усе яго жаданні.

— Я, увогуле, не супраць... Але што я скажу сваім хатнім? Як я патлумачу, хто вы, адкуль... Ды і як мне вас зваць-велічаць — не бабкай жа Хатабкай?

— Як мяне будзеш зваць?.. Мне вось спадабалася адно слова, якое ты называў: «Хана́». А што яно азначае? Можа, заві мяне бабка Хана. Як, гучыць?

Цвік усміхнуўся:

— Увогуле, слова «хана» — спецыфічнае... Але калі націск ставіць на першае «а», то імя не самае горшае. Што ж, будзем зваць вас — бабуля Ха́на!

— Вось і цудоўненька! — усклікнула Хатабка,— а ўжо тое, адкуль я і хто я — прыдумай што-небудзь сам.

Тут Цвік штосьці ўспомніў і ажывіўся:

— А памятаеце, у той казцы... прабачце, не казцы, а раней — Хатабыч мог рабіцца нябачным і праходзіць скрозь сцены? А вы так можаце? Мы маглі б без ніякіх праблем зайсці ў мой дом.

Адказ Хатабкі расчараваў Івана Паўлавіча:

— У адрозненне ад свайго брата, гэтымі сакрэтамі я авалодаць не паспела. Вялікі прарок і настаўнік Фархад Ібн Зухраб, ды прадоўжацца яго тысячагоддзі, пачаў раскрываць мне гэты вялікі сакрэт, але Сулейман ібн Дауд перарваў маё навучанне...

— Шкада,— выдыхнуў старшыня калгасу.

Калі машына кранулася з месца, у сэрцы Цвіка варухнуўся недавер і ён вырашыў выпрабаваць сваю новую знаёмую:

— А стварыце, бабка, Хат... бабуля Хана, цяпер які-небудзь цуд!

— Які цуд чакае мой збавіцель?

Цвік зморшчыўся:

— Вы, калі ласка, не завіце мяне збавіцелем ды ўладаром, інакш мае хатнія здадуць нас у дурдом.

— Слухаю і падпарадкоўваюся, Ваня ібн Павел! Не буду пры ўсіх гэтак цябе зваць. Але скажы, што гэта за такі дом, у які нас могуць здаць?

— Потым. Потым я вам шмат чаго патлумачу. Скажу толькі, што гэта — дрэнны дом. І яшчэ просьба: завіце мяне Іванам ці Ванем, а не Іванам ібн Паўлам.

Хатабка насцярожылася:

— Што, і за гэта нас здадуць у дрэнны дом?

Цвік суха адказаў:

— І за гэта!.. Вы забыліся, я чакаю цуда.

— Загадвай, што менавіта.

Цвік падумаў і прапанаваў:

— Ну, напрыклад, няхай тут, у машыне, з'явяцца грошы. Можна гэта?

— Можна. Але пакажы мне спачатку, што гэта такое, вашы грошы.

Іван Паўлавіч пакорпаўся ў кішэні і выцягнуў тысячарублёвую купюру:

— Вось... Такія можна?

Хатабка ўзяла купюру, уважліва яе разгледзела з двух бакоў, потым пстрыкнула пальцамі і штосьці шаптанула.

Раптоўна УАЗ да самага верху запоўніўся тысячарублёвымі купюрамі. Цвік рэзка затармазіў і спыніў машыну, бо і з бакоў, і да самага лабавога шкла, засланяючы дарогу, былі грошы. Недзе побач з гэтых каштоўных папер чуўся пераможны голас Хатабкі:

— Ці задаволены, галубок? Досыць ці яшчэ грошай?

— Хопіць! Досыць! Хутчэй забярыце іх назад пакуль ніхто не бачыць! Хутчэй, інакш мяне пасадзяць! Чуеце, Хатабачка?

На гэты раз пачуўся не пераможны, а расчараваны голас старой:

— Чую... Вымушана падпарадкавацца...

Праз хвіліну грошы зніклі. Цвік не мог стрымаць захапленне:

— Вось гэта клас! Ай ды бабка! А іх можна будзе вярнуць потым?

Хатабка не хавала свайго неўразумення:

— А навошта іх было прымаць адгэтуль, калі яны спатрэбяцца потым? Тым больш, што цябе за іх пасадзяць... Пасадзяць, гэта што — узнясуць высока? На трон пасадзяць?

Цвік кісла ўсміхнуўся:

— На такі трон пасадзяць, бабуля, што свету белага не ўбачу...

## НОВЫ ЧЛЕН СЯМ'І

Нарэшце машына спынілася ля катэджа, у якім жыў Іван Паўлавіч з сям'ёй. Цвік дапамог старой вылезці з машыны і няўпэўнена падаўся з ёй у дом. Жонка ўбачыла побач з мужам дзіўную старую і з неўразуменнем пазірала на абодвух.

— Мір і працвітанне гэтаму дому, здравіе і дабрабыт усім яго жыхарам на многія тысячагоддзі! Ды знізойдзе на вас літасць нашых тварцоў! — урачыста і мудрагеліста прывітала прысутных старая.

Жонка Цвіка раскрыла рот ад здзіўлення і чакала ад мужа тлумачэння.

Іван Паўлавіч блытана замармытаў:

— Сонечка, якое нечаканае шчасце звалілася на мяне — я сустрэў сваю родную бабулю! Сутракай яе і ты! Гэта — бабка Ханá! — пры гэтым, ён ад хвалявання зрабіў націск на другое «а».

Соф'я Сцяпанаўна, заікаючыся, прывіталася, але не магла стрымаць неўразуменне:

— Якая хана? Чыя бабуся? Адкуль?

Цвік замітусіўся:

— Абдыміцеся, пацалуйцеся... Сонечка, я табе потым усё растлумачу...

Соф'я Сцяпанаўна няўпэўнена абняла старую і разгублена працягвала здзіўляцца:

— Мы столькі гадоў жывём з табой і ніякіх бабуль не было нават у паміне, а тут...

— Сонечка, чалавек з далёкай дарогі — потым роспыты. Праходзьце, бабка Хат.. бабка Ха́на, распранайцеся.

Іван Паўлавіч узяў жонку за рукі і ціха сказаў:

— Была бабуля ў мяне, была, ды не было часу паведаміць табе пра яе. А цяпер яна пажыве з намі — месца хапае.

— Ты паставіў мяне перад фактам, як я магу пярэчыць. Няхай жыве...

— Вось і цудоўненька! Бабуля Хана, маю жонку можаце зваць Соняй ці Зосяй, а можаце Соф'яй Сцяпанаўнай. Мая жонка добрая, гэта першае хваляванне.

— Кажаш, Соф'я Сцяпанаўна? — удакладніла Хатабка.— Добра. Па-нашаму, значыцца, Соф'я ібн Сцяпан.

— Ваня, што гэта значыць? Што за ібн?

Іван Паўлавіч звярнуўся да старой:

— Вы, бабуля Хана, свае словы ў нас не ўжывайце. Гэта ў вас там, у Сярэдняй Азіі, так выражаюцца,— потым павярнуўся да жонкі: — Не звяртай увагі, бабуля доўга жыла на Усходзе. А Усход, сама ведаеш, справа тонкая.

— Дык адкуль яна — з Сярэдняй Азіі ці з Усходу? — удакладніла жонка.

— І там, і там жывуць людзі,— коратка кінуў Цвік.

— А чаму ты сваю родную бабулю завеш на «вы»?

Іван Паўлавіч крыху разгубіўся:

— Чаму? А таму! Таму, што мы доўга не бачыліся і

я паспеў ад яе адвыкнуць. Пажыве ў нас — буду зваць на «ты»...

Трэба сказаць, што ў гэтай сям'і было двое дзяцей — сямігадовы Вася вучыўся ў першым класе, а дзесяцігадовая Валя перайшла ў чацвёрты.

На здзіўленне ўсім, дзеці шчыра ўзрадаваліся бабулі — для іх прабабулі, якая так нечакана з'явілася.

Месца ў катэджы хапала на ўсіх. І бабка Хатабка заняла асобны пакойчык, побач з дзіцячымі пакоямі. Яна з непадробнай любоўю ставілася да Васі і Валі.

Аднойчы Хатабка выпадкова падслухала размову дзяцей з бацькам:

— Тата, а чаму бабуля прыехала да нас з пустымі рукамі? Ніякіх гасцінцаў, ніякіх падарункаў не прывезла... Яна што, бедная ці скупая?

Іван Паўлавіч супакоіў дзяцей:

— Не трэба дрэнна выказвацца пра бабулю, яна старэнькая, магла і забыцца.

Праз нейкі час старая зрабіла абыякавы выгляд і спыталася ў гаспадара:

— Скажы, Ваня ібн Павел, якія дарункі і гасцінцы ты атрымліваў у маленстве ад сваіх бацькоў і што ты дорыш сваім дзецям?

Іван Паўлавіч задумаўся:

— Мае бацькі жылі сціпла, як і ўсе ў той час, таму мы, дзеці, былі рады і скарыначцы хлеба... А нашы дзеці сёння больш прасунутыя...

— Прасунутыя куды?

— Прасунутыя — гэта значыць больш развітыя, больш забяспечаныя. Ім сёння падавай музычныя цэнтры, камп'ютэры, мабільнікі...

— А грошы?

— І грошы таксама, на кішэнныя расходы.

Хатабка дзейнічала асцярожна і змяніла тэму:

— Я ўсё дома ды дома сяджу... Ты, Ваня ібн Павел, абяцаў павезці мяне ў ваш раённы цэнтр, паказаць ваша жыццё. Ты ўхваляў там нейкі супермаркет, дзе ўсё ёсць. Я хачу на свае вочы пабачыць музычныя цэнтры, і камп'ютэры, і мабільнікі... Мне ж цікава!

— Заўтра ж паедзем! — рашуча паабяцаў Цвік і сваё абяцанне выканаў.

## ЭКСКУРСІЯ

Іван Паўлавіч кожны дзень вяртаўся з працы чарней хмары. Жонка ведала, што справы ў калгасе — горш не бывае, таму да мужа з роспытамі не лезла.

Затое бабка Хатабка адчувала сябе вінаватай перад сваім збавіцелем і не ведала, як і чым яму дапамагчы. Нарэшце яна не вытрымала і спыталася:

— Што, галубок, цябе зноў за нешта распякаюць?

— Не тое слова! Не тое, што распякаюць, а са свету белага зжываюць. Тое ім не так, сёе ім не гэтак. Далі мне тэрмін да восені — не выканаю план па хлебу, малаку і астатняму — і хана мне!.. Ой, прабач, бабуля, хана харошае слова пры правільным націску. Кранты мне!

— Ведаеш што, галубок,— прашамкала Хатабка,— пасадзі ты мяне ў сваю машыну ды павазі па палёх, пакажы ўзоры таго, што там павінна расці. Гэта для таго, каб я што-небудзь не наблытала. Абяцала ж я зрабіць цябе самым высокашаноўным — я і зраблю гэта.

Цвік сумна ўсміхнуўся:

— Якое там высокашаноўным! Хаця б крыхушаноўным...

— Паехалі! — схамянулася бабка Хатабка.— Там пабачым, можа, здолеем уцерці нос майму брату Хатабычу, які з піянерам Волькам займаўся дзіцячымі забавамі.

Ляснулі дзверцы машыны, і УАЗ весела пакаціў па палях калгаса «ветлы шлях».

Увогуле, правільная назва калгаса «Светлы шлях», але — ці нехта збіў наўмысна са стэлы першую літару, ці яна сама адвалілася — паступова ўсе прызвычаіліся да новай назвы і ўжывалі толькі яе...

— Вось, глядзі! — паказаў Цвік налева, калі яны ехалі ўздоўж поля, засеянага жытам,— хлеб у нас, бабуся,— усяму галава. А дзе ты тут бачыш галаву? Спрэс адны плехі. Ці ж такім павінна быць жыта?

— А якім? Растлумач.

— А такім, што, чым вышэй, чым гусцей, тым лепей. Тым большы ўраджай прынясе яно. А тут што? Каласок каласка не бачыць — разбегліся, як падшыванцы. Хлеб павінен стаяць сцяной! Зразумела?

— Здаецца, зразумела.

— Калі так — рушым далей! — і Цвік націснуў на газ.

— Цяпер зірні направа, бабуся. Бачыш гэта поле?

— О вялікі і магутны мой настаўнік Фархад ібн Зухраб! — пляснула ў далоні старая.— Гэта ж маё поле!

Цвік запярэчыў:

— Асмелюся не пагадзіцца з табой, Хатабачка, але гэта поле і не тваё, і не маё, а калгаснае.

— Ды не, Ваня ібн Павел,— кіпяцілася старая,— маё ў тым сэнсе, што тут я праляжала ў бутэльцы тысячы год і тут, на гэтым полі, ты падараваў мне свабоду, мой самы высокашаноўны збавіцель! Ты нават не ўяўляеш, Ваня ібн Павел, колькі разоў плугі выворвалі і зноў заворвалі мяне. А колькі я наслухалася тут розных слоў, якіх ад цябе пакуль не чула. Ды і ўвогуле, мой лексікон, як ты заўважыў, зрабіўся падобным да вашага.

— О, бабусечка! — рассмяяўся Цвік.— Нашага лексікону і тых слоў ты яшчэ наслухаешся. Але мы адхіліліся ад галоўнага. Дык вось, на гэтым полі я пасадзіў

бульбу, а бачым што? Паедзеныя жукамі сцяблінь. Адным словам не бульба, а фігня.

— Фігня, гэта што за расліна? Здаецца, я часцяком чула гэта слова, знаходзячыся ў бутэльцы.

— Гэта, бабуля, і ні расліна, і ні слова, а моўны быльнёг.

Раптам Іван Паўлавіч схапіўся за галаву:

— О, ё-ма-ё! Толькі гэтага не хапала! Зірні туды, бабулечка!..

Здаля, па гэтай жа палявой дарозе каціла насустрач «Волга».

— Гэта ж машына старшыні райвыканкама Кувалдзіна. Ну, цяпер трымайся, Іван-балван! — абурыўся Іван Паўлавіч.

«Волга» рэзка затармазіла, шугануўшы на УАЗ хмары пылу. Цвік мітуслiва падбег да высокага начальніка, які працягваў, адваліўшыся, сядзець.

— Здрасце, Мацей Мацеіч! Рады бачыць! А я вось аб'язджаю, узважваю...

— Ён узважвае! — раўнуў праз апушчанае шкло Кувалдзін,— Ён нешта тут узважвае! Гультай, нядбайнік! Тут вока няма на што пакласці, а ён узважвае.

— Ды я паднацісну, паднапнуся... Убачыце, Мацей Мацеіч! Абяцаю!

— Убачу! Восенню ўсё ўбачу! Толькі цябе ўжо, пэўна, не ўбачу. А гэта каго ты катаеш у машыне? — торкнуў Кувалдзін пальцам у бок старой.

— Гэта?.. Гэта мая бабуля... Яна прыехала з Усходу, з Сярэдняй Азіі... Я ёй экскурсію наладзіў, вы ўжо прабачце, Мацей ібн Мацей.

— Які ібн? Якая экскурсія? Уборка на носе, а ў яго тут турысты з Сярэдняга Усходу. Я табе гэта прыпомню. Іван-балван!.. Паехалі! — зноў раўнуў Кувалдзін, і «Волга» рванула з месца.

Цвік вінавата зірнуў на Хатабку і развёў рукі.

— Цяпер мне і хана, і кранты, і яшчэ адно слова, якое ты часцяком чула на гэтым полі.

— Дык вось хто распякае майго збавіцеля! Ну сцеражыся, куча адходаў! Я цябе ператвару ў п'яўку, каб цябе трымалі ў слоіку і давалі піць кроў толькі хворых людзей! — і Хатабка сабралася пстрыкнуць пальцамі.

Цвік кінуўся да старой:

— О не! Не, Хатабачка! Не рабі гэтага!

— Чаму? — шчыра здзівілася старая.

— Не трэба,— стомлена папрасіў Іван Паўлавіч,— ён правільна мяне распякае. Магчыма, груба, але мяне хваліць няма за што. Тых, хто ў хвасце, ніколі не гладзілі па галоўцы. Праўда, яны,— і Цвік пакачаў пальцам угару,— не ўлічваюць адсутнасць угнаенняў, гліністую глебу, пагоркавы рэльеф палёў і іншае. Ім давай план, хоць задушыся. Яны думаюць, што вось тут, на гэтым полі, дзе бульба не хоча расці, раптоўна вырастуць ананасы. Не, так не бывае! Кожнай агародніне не толькі свой час, але і сваё месца... Але ж ім гэта не дакажаш!

— Дакажам, Ванечка,— шаптанула старая.

Цвік крутнуўся ў бок знікшай «Волгі» і злосна кінуў:

— Табе гэта не дакажаш, каб ты не даехаў!

Бабка Хатабка непрыкметна пстрыкнула пальцамі і нешта шаптанула.

У гэты час у «Волгі» раптоўна прапароліся ўсе чатыры колы. Машына рэзка спынілася.

Перапалоханы шафёр выскачыў з яе і схапіўся за галаву:

— Мацей Мацеіч, мы прапалі!

Прыйшлося вышчаміцца з машыны і Кувалдзіну.

— Тут жа ні сустрэчных, ні папярэчных машын не бывае! — з жахам крыкнуў ён.— Цяпер будзеш рады і таму Івану-балвану.

## СЮПРЫЗЫ БАБКІ ХАТАБК

Час ляціць няўмольна хутка. Набліжалася восень, якая абяцае адным лаўры, другім галаўны боль.

Іван Паўлавіч некалькі разоў употай ад Хатабкі наведваў свае палі, спадзеючыся на цуд, але ніякіх цудаў не адбылося.

Жыта зусім «зліняла», бульбоўнік даелі жукі, а каровы толькі таму і зваліся каровамі, што мелі вымя, аднак малака амаль не давалі.

— Ашукала старая! Падвяла! — пляваўся Цвік.— Наабяцала кучу радасцяў — і ўсё на гэтым. Абяцанка-цацанка, а дурань радуйся... Э-эх, той стары Хатабыч з казкі быў больш спрытны.

У дадатак да ўсяго, патэлефанаваў Кувалдзін:

— Ну, Мічурын, заўтра еду да цябе! І еду не адзін, а высокі абласны прадстаўнік будзе прысутнічаць пры тваім трыумфе, каб потым не казалі, што крыважэрны Кувалдзін ні за што ні пра што з'еў цэннага работніка. Рыхтуйся!

Цвік не паспеў адкрыць рот, як у трубцы пачуліся кароткія гудкі. Яму падалося, што гудкі здзекуюцца і марзяняць: «вы-со-ка-ша-ноў-ны...» Ён кінуў трубку на стол:

— Во падклала свінню старая дык падклала! Запхнуць бы цябе назад у бутэльку, манюка! Нічога, пайду ў радавыя калгаснікі, буду цялятам хвасты падкручваць...

Раніцай да праўлення калгаса падкацілі дзве «Волгі», у якіх, як разумеў Цвік, вастрыў зубы на яго «выязны суд».

— «Эх, была не была! — рашуча распраміў спіну старшыня калгаса.— Паміраць —дык з гонарам! — і ён з высока паднятай галавой падышоў да начальства:

— Здрасце! Чым абавязаны?

— Вы толькі гляньце на яго, Васіль Вітальевіч,—

звярнуўся да абласнога куратара Кувалдзін,— блытаецца ў хвасце раёна, а выкрочвае, як Зеўс.

Цвік не ўтрымаўся і з'едліва заўважыў:

— А што б рабіла галава, каб хвост не адганяў ад яе мух?

— Ну, ну, павастраслоў. Што ты запяеш праз гадзіну, Мічурын... Памятаю, ты ладзіў экскурсію для нейкай старэчы з Усходняй Азіі — вязі і нас туды.

— Як загадаеце! — ляснуў дзвярамі УАЗа Цвік і націснуў на педаль газа. «Волгі» пакаціліся следам.

«З чаго б пачаць? — ліхаманкава думаў ён, адчуваючы, як напускная брвада пакідае яго.— Пачну з бульбянога поля, там паспрабую спіхнуць усё на каларадскіх жукоў — сжэрла замежная свалата бульбачку, з жукоў і пытайцеся... Ну, а потым прыйдзецца ехаць да жытнёвых плехаў...»

Цвік адчуваў сябе зайцам, за якім гоняцца раз'юшаныя ганчакі, і ад якіх няма паратунку.

Спыніўшыся ля бульбянога поля, Іван Паўлавіч разгубіўся: ці не заблудзіўся ён? Поле, на колькі хапала вачэй, ашчэрылася сакаўным, зялёным, востраканцовым лісцем, сярод якога красаваліся нейкія буйныя зялёна-жоўтыя плады.

Цвік скокнуў з машыны, падбег да поля і аслупянеў — у яго адняло мову. Ён забыўся на начальства, ён не верыў сваім вачам.

— Што гэта? Што гэта за культура? — пачуўся за спінай напружаны голас Кувалдзіна.

— Бог ты мой! — усклікнуў усхваляваны абласны начальнік.— Гляньце, гэта ж ананасы! Не можа быць такога! Неверагодна! Фантастыка!

Толькі цяпер Цвік успомніў сваю размову з Хатабкай, калі ён вобразна выказаўся наконт ананасаў на бульбяным полі... Ну і бабка! Не падвяла! А я хацеў яе назад у бутэльку...

— Неверагодна! — ніяк не мог супакоіцца абласны куратар.— Фантастыка! У нас — ананасы!

— Ну што тут такога неверагоднага? Ну, ананасы,— нядбайна адказаў Цвік,— для мяне гэта — звычайная справа.

Васіль Вітальевіч кіпяціўся:

— Якая звычайная справа? У нас, у Беларусі, і на табе — ананасы! Ды плявалі мы цяпер на замежжа!.. А пакаштаваць можна? — павярнуўся ён да Івана Паўлавіча.

Цвік увайшоў у ролю і зноў нядбайна даў дазвол:

— Якое пытанне! Можна, каштуйце! У нашых калгаснікаў ад іх ужо аскоміна.

Васіль Вітальевіч разрэзаў ананас і, смачна прыцмокваючы, усклікнуў:

— Цвікі б рабіць з гэткіх людзей! Ды з такімі кадрамі, як вы, Іван Паўлавіч, можна ў нашых умовах вырошчваць флору і фаўну ўсяго свету!

— А бульба дзе? — насядаў Кувалдзін.— Тут па плану павінна быць бульба, а не нейкія ананасы.

Цвік рэзка адказаў:

— Ды я за гэтыя ананасы накуплю бульбы на ўвесь раён, і вам асабіста.

— Ну, калі так, няхай будуць ананасы,— здаўся Кувалдзін, затым ліслiва спытаўся:

— А мне можна пакаштаваць?

Іван Паўлавіч зрабіў выгляд, што не пачуў пытання і адышоў убок.

— Шчыпіць! — з захапленнем выціраў бараду і шчокі Васіль Вітальевіч.— Шчыпіць родненькі! Наш, сапраўдны беларускі ананас! Сіла!

— А дзе насенне бралі? — дзелавіта спытаўся Кувалдзін.— На чарговай селектарнай нарадзе загадаю ўсім старшыням калгасаў перайсці з бульбы на ананасы і, як

мудра заўважыў Васіль Вітальевіч,— на флору і фауну ўсяго свету.

Абласны куратар кінуў пад ногі Кувалдзіну выгрызеную ананасную лупіну і бадзёра заключыў:

— Тут поўны парадак! Вязі нас, Іван Паўлавіч, да жытнёвых палёў! Ананасы — добра, а хлеб галоўней за ўсё.

Машыны загулі і паімчалі туды, куды Івану Паўлавічу менш за усё хацелася ехаць. Ён з цяжкасцю распазнаваў дарогу — перад вачыма стаяла так званае бульбяное поле. Захапленне, хваляванне і радасць перапаўнялі яго. Не ашукала бабулечка! Выратавала Хатабачка! Шкада толькі, што самому не ўдалося паспрабаваць ананаса, смак якога за ўсё жыццё не собіла паспытаць. Нічога! Цяпер экзотыка будзе круглы год у калгаснікаў на стале!

Такі настрой віраваў у душы Івана Паўлавіча. Лунаючы ў прыемных думках, Цвік і не заўважыў, як пад'ехалі да пляшывага жытнёвага поля. Але дзе яно?! Цвік рэзка націснуў на тормаз, каб не разбіць машыну аб... Ён і сам не зразумеў, аб што ён ледзь не расхвастаў свой УАЗ. Сцяна нечага незразумелага стаяла на іх шляху, падпіраючы сабой неба. «Волгі» таксама заскавыталі тармазамі, узняўшы густы пыл. Усім падалося, што гэта зараснік маладога леса ці гіганцкага бамбука. Калі ж разгледзеліся — ахнулі!

— Мама родная! Гэта ж жыта! — першым крыкнуў Васіль Вітальевіч.— Ды якое!

— Во-ой! — ускрыкнуў Кувалдзін.— Што за чартаўшчына! — і задраў галаву туды, адкуль нешта звалілася і балюча ўлупіла па плячы. А там, уверсе, велічна пагойдваліся агромністыя жытнёвыя каласы, ствараючы мілагучны пераззвон.

— Ды гэта ж жыта! — хапаўся рукамі за жэрдкападобныя саломіны Васіль Вітальевіч.— Вось жа колас...

каласішча! — ледзь падняў ён з зямлі ўпаўшы колас.— Трымаю ў руках, а не веру, што гэта не сон!

— Гваздане вам па галаве такое зернейка, адразу паверыце,— кснуў начальніка Кувалдзін, трымаючыся за плячо.

— Але як? Як вам гэта ўдалося? — з запалам звярнуўся Васіль Вітальевіч да Цвіка.— Ды вы — геній! Вы унікум сельскай гаспадаркі! — потым павярнуўся да Кувалдзіна і з дакорам сказаў:

— А вы сцвярджалі, што ён раённы хвост... Непрыгожа гэта.

— А я казаў і другое... я Вас,— ён раптам стаў зваць Цвіка на Вы,— я Вас, Іван Паўлавіч, назваў Мічурыным, а я слоў на вецер не кідаю.

А Васіль Вітальевіч не пераставаў захапляцца:

— Ды з аднаго такога зернейка атрымаецца цэлы бохан хлеба! Ды вы — наша надзея, Іван Паўлавіч! Цяпер нам і дзесяць — ды што дзесяць! — цяпер нам і дваццаць мільёнаў тон па плячу! Ваш вопыт распаўсюдзім паўсюдна!

— А дзе возьмем гэткія камбайны? А як захаваць, як пера-працоўваць такое зерне? Вы, дарагі Мічурын, апярэдзілі свой час,— не злазіў са свайго канька Кувалдзін.— Вы, шаноўны, стварылі нам праблемы.

— Гэта ўжо мае праблемы! — упэўнена адказаў Цвік, у думках спадзеючыся на сваю спрыяльніцу.

— Вось гэта па-нашынскаму! — пахваліў Івана Паўлавіча абласны начальнік.— Дарэчы, калі і ў жывёлагадоўлі ў вас парадак — Зорка Героя вам забяспечана!

— Праз галаву не зусім правільна даваць Героя,— дрыготкім голасам заўважыў Кувалдзін,— шмат поту і крыві я ўклаў у раённы росквіт.

Васіль Вітальевіч не звярнуў увагі на гэту заўвагу і скамандаваў:

— Паехалі на ферму!

Цвік ведаў, што на ферме яго чакае халодны душ у выглядзе нізкіх удояў і агульнай непрыгляднасці, але назад ходу не было. Якое ж было яго здзіўленне, калі ім насустрач выбегла ў бялюткім халаце даярка і горача засакатала, не звяртаючы ўвагі на высокае начальства:

— Што ж гэта робіцца, Іван Паўлавіч! Малаком запоўнілі ўсе ёмістасці, усе рэзервныя бакі, малакавозы не паспяваюць адвозіць малако на заводы! Трэба тэрмінова шукаць новыя магчымасці для рэалізацыі нашага малака! А яно ў нас высокай тлустасці і якасці! Вось... — затым крыху засаромелася,— ой, прабачце, вітаю вас!

— Нічога, нічога! Не бянтэжцеся! — супакоіў яе Васіль Вітальевіч.— Спачатку справа, а фармальнасці потым.

Цвік ажно засвяціўся:

— Малайчына, Клава! Непакоішся за справу! Знойдзем новыя магчымасці, не дадзім скіснуць малаку! Паказвай, Клава, свае ўладанні!

Высокая камісія, і ў першую чаргу сам Цвік, не верылі сваім вачам — каровы, як карцінкі, чыстыя, гладкія, прыгожыя. Вакол чысціня, стэрыльнасць. Не паветра, а водар, як у хваёвым лесе — і ніводнай мухі.

— Шампунем вы іх тут мыеце ці што? — здзівіўся нават Кувалдзін.

— Ну, даражэнькі,— і Васіль Вітальевіч абняў Цвіка,— і ў Маскве на ВДНГ такога не ўбачыш. Тут вы і галандцам нос падцерлі!

— Ды што нам Галандыя! — расхрабрыўся Іван Паўлавіч.— Падумаеш, Галандыя!

— Не скажы! — спыніў яго Васіль Вітальевіч.— Нездарма кажуць: калі ўбачыў непрыгожых жанчын і прыгожых кароў, значыцца ты ў Галандыі. Там карова, як у нас хлеб,— усяму галава. Аднак, калі меркаваць па гэтай ферме, наша галава — галавейшая.

Шчаслівы Іван Паўлавіч уставіў сваё:

— У нас і каровы прыгожыя, і жанчыны не горшыя за кароў!

## ПАДАРУНКІ

Аднойчы Соф'я Сцяпанаўна вярнулася з працы і з жахам убачыла, што амаль уся кухня заваленая скарынкамі хлеба. З цяжкасцю яна дапяла да стала, паставіла сумку з прадуктамі і разгублена гукнула:

— Ёсць хто дома? Дзеці! Бабуля Хана! Што ўсё гэта значыць? Адкуль хлеб?

На крык выбеглі са сваіх пакояў Вася і Валя.

— Мама! Мамачка! Зірні, што ў нас! Які цуд! Якія падарункі! Ні ў кога няма такога! Зайдзі да мяне! — цягнула маці за руку Валя.

— Не! Спачатку да мяне! — цягнуў за другую руку Вася.

Соф'я Сцяпанаўна зазірнула ў пакой да сына і ахнула: ва ўсіх чатырох вуглах стаялі новенькія камп'ютэры з нейкімі мудрагелістымі прыстаўкамі. Ля сцен з цяжкасцю ўціснуліся музычныя цэнтры, на пісьмовым стале, побач з падручнікамі, ляжала некалькі мабільных тэлефонаў і грошы.

Бедная жанчына раскрыла рот ад здзіўлення і толькі хапала паветра. З аслупянення яе вывеў вокліч дачкі:

— Мамачка, цяпер зазірні да мяне!

У пакоі дачкі ўсё паўтаралася: камп'ютэры, музычныя цэнтры, мабільнікі і грошы.

— Што гэта? Адкуль? — ледзь выціснула з сябе маці.

— Гэта... Гэта...— пачалі перакрыкваць адно аднаго дзеці, але дамоў вярнуўся Іван Паўлавіч і дзеці кінуліся да яго:

— Тата! Татачка! Глянь, якая круцізна ў нас! Апошні піск! Хутчэй ідзі сюды!

Іван Паўлавіч зазірнуў у дзіцячыя пакоі і павярнуўся да жонкі:

— Што за цуды? Гэта ты ім накупіла? Але навошта столькі? Хапіла б аднаго камп'ютэра, ды і мабільнікі ў іх ёсць...

— Я купіла? — ачомалася Соф'я Сцяпанаўна.— Я думала, што гэта твае мазгі заклінілі.

Дзеці наперабой загаманілі:

— Гэта бабулечка! Гэта бабуля Хана! Яна падаравала!

— Бабуля? — перапытаў Іван Паўлавіч.— Ну і дзівосы!

Соф'я Сцяпанаўна схапіла мужа за руку і пацягнула на кухню:

— А вось гэтыя дзівосы ты бачыў? Гэта што, таксама бабка Хана? Навошта ты прыцягнуў у дом столькі сухароў? Ты кухню ператварыў у кормацэх!

Іван Паўлавіч больш збянтэжыўся ад сухароў, чым ад дарагой апаратуры. Аднак праз імгненне нейкая думка прасвятліла яго:

— Хух ты! Здаецца, я зразумеў... А дзе бабуля Хана? — спытаўся ён у жонкі.

Замест яе, зноў жа перакрыкваючы адно аднаго, адказалі дзеці:

— У сябе яна! У сваім пакоі зачынілася! — і дзеці падбеглі да яе дзвярэй: — Бабулечка! Тата ідзе да цябе! І мама таксама! Усе хочуць табе падзячыць за падарункі!

Іван Паўлавіч адхінуў дзяцей:

— Дзеткі, ідзіце ў свае пакоі, нам з бабуляй неабходна пагаварыць. І ты таксама пакінь нас адных,— звярнуўся ён да жонкі, затым пастукаў у дзверы:

— Бабуля Хана, адчыні, калі ласка.

Дзверы прыадчыніліся, і Іван Паўлавіч праслізнуў за іх, зноў зачыніўшы.

Хатабка сядзела на канапе з выглядам пераможцы і чакала ад свайго збавіцеля пахвалы. Аднак Іван Паўлавіч шэптам зашыкаў на яе:

— Што ты навырабляла, бабуля? Як ты магла, не параіўшыся са мной, зрабіць такое?

— А што? — здзівілася Хатабка.— Мала ці што?

— Якое мала? Навошта столькі камп'ютэраў? Для чаго столькі музычных цэнтраў? А мабільнікі! Аднаго хапае на гады! А навошта столькі грошай? Грошы — зло, павінен табе сказаць!

— А навошта ж ты тады папрасіў поўную машыну зла? Памятаеш?

— Я папрасіў, я і назад адпрасіў!

— Чэрствая твая душа, Ваня,— абурылася Хатабка.— Глянь, як дзеткі цешацца, узрадуйся і ты.

— А кухню навошта заваліла хлебнымі скарынкамі?

Хатабка ажывілася:

— Сам жа казаў, што ў дзяцінстве быў рады хлебнай скарыначцы... А цяпер вунь колькі скарынак я табе падаравала, а радасці не бачу... Адным словам — чэрствая ты душа, Ваня.

— Эх, бабуся, нічога ты не разумееш... Нельга ўсё ўспрымаць літаральна. Карацей так — ты зачыніся і нікога не ўпускай, а я пайду ўсё згладжваць ды ўладжваць.

Вярнуўшыся да жонкі, Іван Паўлавіч напусціў на сябе нядбайны выгляд:

— Нічога дзівоснага тут няма — бабуля вырашыла пацешыць праўнучат, вось і накупіла ўсякай усячыны.

— Накупіла! — падкінулася Софья Сцяпанаўна.— Яна што багацейка, мільянерша? Ведаеш, колькі ўсё гэта каштуе?

— Ведаю, ведаю,— супакоіў жонку Цвік.— Яна за доўгае жыццё сёе-тое назапасіла... Не на той жа свет ёй забіраць грошы.

— А навошта столькі? Куды дзяваць лішнюю апаратуру? Усе пакоі застаўлены — захламечаны!

— Неабходнае пакінем дзецям, астатняе — падорым школе.

— А сухары адкуль? — не сунімалася жонка.

— Сухары?.. Гэта я, каюся, не падумаўшы, прывёз са склада безгаспадарчыя сухары і здуру выгрузіў на кухню. Я збяру ўсё ў мяхі і занясу ў пуню — скормім свінням... Вось і ўсе праблемы.

Соф'я Сцяпанаўна паціснула плячыма:

— Калі ўсе, дык дзякуй Богу, што ўсе.

## ТАЕМНЫЯ ДУМКІ

Іван Паўлавіч забег дамоў, і, не звяртаючы ўвагі на хатніх, бухнуўся на калені перад Хатабкай.

— Дзякуй, родная! Дзякуй, Хатабачка! Выратавала мяне, узнесла, узвысіла! Умыла ты іх усіх па першае чысло!

Соф'я Сцяпанаўна здзівілася:

— Што за фокусы ты выкідваеш, Ваня? Ад каго цябе ўратавалі? І што гэта за Хатабачка? Здурнеў!

Іван Паўлавіч апамятаўся і падняўся з каленяў:

— Гэта на мяне нахлынулі роднасныя пачуцці... Я так рады, што знайшлася бабулечка... Гэта — хвіліны слабасці.

— Нешта запознена нахлынулі на цябе пачуцці. Бабуля Хана даўно як прыехала, а ты толькі сёння бурна захапляешся. І што за Хатабачка? І хто каго ўмыў? Што ні дзень – новыя рэбусы.

Іван Паўлавіч пачаў выкручвацца:

— Хатабачка — гэта ласкальнае ад імя Хана... Што тут незразумела? А хто каго ўмыў? Ды мала што я мог ад

радасці змарозіць. Дарэчы, мне вось трэба пасля працы памыцца — магчыма, гэта я і меў на ўвазе.

— Ну, няхай будзе так,— уздыхнула Соф'я Сцяпанаўна.

Калі ж перад сном усе разышліся па сваіх пакоях, Іван Паўлавіч непрыкметна праслізнуў да Хатабкі. Яна зноў сядзела ў позе пераможцы і з захапленнем глядзела на свайго ўзрушанага збавіцеля.

— Я ўсё ведаю! — шэптам паведаміла Хатабка.— Я нават ведаю, што хацеў пасадзіць мяне ў бутэльку.

У Івана Паўлавіча адвісла сківіца і адразу знікла ўзрушанасць.

— Дык ты, аказваецца, і думкі здольная чытаць! Так?

— Магу. Я шмат чаго магу, аб чым ты не здагадваешся. А наконт бутэлькі — не хвалюйся, я не пакрыўдзілася. Я шмат чаго табе наабяцала, але нічога не рабіла, бо чакала спрыяльнага часу. Ты сам некалі сказаў: кожнай гародніне — свой час.

— Бабачка Хатабачка,— і Іван Паўлавіч узяў у рукі зморшчаныя далоні старой,— як ты здорава прыдумала з ананасамі! Мала таго, што мае мучыцелі забітыя напавал, дык яшчэ нашы людзі, іх дзеці будуць ласавацца гэтай смакатой цэлы год, да новых ураджаяў.

— Гэта ты, галубок, падказаў ідэю. Памятаеш?

— Ды я тады ляпнуў языком проста так, ад ліхтара!

Хатабка здзівілася:

— Ад якога ліхтара? Там, здаецца, ніякіх ліхтароў не было.

Іван Паўлавіч рассмяяўся:

— Ды бог з імі, з ліхтарамі! Скажы лепш, як мне жыта зжаць ды што з ім рабіць. Не загубіць бы!

— Не хвалюйся, галубок, дапамагу! — ласкава сказала старая.

Цвік хітравата зірнуў на Хатабку:

— Скажы, бабулечка, а ты думкі ўсіх людзей чытаеш ці толькі мае?

— Вядома, усіх!

— А вось, напрыклад, думкі маёй Соф'і Сцяпанаўны! Што яна пра мяне думае? Можа, што непатрэбнае? Га?

Хатабка ўсміхнулася:

— Табе, галубок, лепш гэтага не ведаць. О, каб мужы ведалі, што пра іх думаюць жонкі, не было б ніводнай сям'і на зямлі.

— Няўжо мухі ў яе галаве? — насцярожыўся Цвік.— Я гэтага не пераЖыву!

— Пра мух нічога не ведаю, а думкі розныя бываюць. Вось ты, Ваня, учора, адбымаючы сваю жонку, што падумаў?

— А што? — зачырванеўся Іван Паўлавіч.

— А тое, што калгасная бухгалтарка больш стройная, больш зграбная... Думаў такое?

— Ну, бабулечка, гэта падумалася неяк неспадзявана. Ты ж не прадасі мяне?

— Ды я хутчэй сабе язык вырву, чым здраджу свайму збавіцелю.

— Дзякуй, родная! — абняў Іван Паўлавіч старую.

Бабка Хатабка хітра зірнула на суразмоўцу:

— Калі ўжо мы з табой сёння гэтак адкрыта размаўляем, прызнайся, якія думкі паланілі цябе пра тваю любую жонку?

Іван Паўлавіч разгубіўся, але не падаў выгляду:

— Рознае думаецца... Яна — гаспадыня... яна клапатлівая маці сваіх дзяцей... Што яшчэ? Яна не пілуе мяне кожны дзень...

— Як гэта не пілуе? А што, бываюць жонкі, якія распілоўваюць сваіх мужоў? Жах! — здрыганулася Хатабка.— Нават у нас, у джынаў, такой жорсткасці не было.

— Ды не! Зноў ты ўсё ўспрымаеш літаральна. Ёсць такія словы, якія ўтрымліваюць у сабе двухсэнсоўе.

Пілуюць, рэжуць лес. Калі ж скарыстаць гэта да чалавека, значыцца ён загрызае другога чалавека.

— Зубамі? Зноў жах!

— Ды не! Як табе растлумачыць папулярна? Бываюць людзі, якія штодня вадзяцца, сварацца, дастаюць, як кажуць, да пячонак. На такога чалавека, бывае, кажуць: ну ты і дастаеўскі! Ясна? А мая жонка не такая.

— Цяпер зразумела. Цяпер буду ведаць, што твая Соф'я Сцяпанаўна — не дастаеўскі.

— Балда! — не стрымаўся Цвік.

— Дзякуй, мой збавіцель за пашану, але высокае званне «балда» насіў мой брат Хатаб, з ласкі піянера Волькі. Пераходзіць дарогу брату я не буду!

— Добра,— стомлена згадзіўся Іван Паўлавіч.— Ты — не балда!

Аднак старая вярнулася да непрыемнай для Цвіка тэмы:

— Не сярдуй, галубок, але ты не ўсе думкі агучыў пра сваю жонку. Штосьці ты ўтойваеш...

Іван Паўлавіч ціскануў плячыма:

— Ці ж іх усе пералічыш? Яны то з'яўляюцца, то знікаюць... Шмат іх...

— Ой і хітруеш ты! Ой і скрытнічаеш! Адна думка не дае табе спакою ўвесь час.

— Якая? — спужаўся Цвік.

— Не пужайся, галубок! — захіхікала старая.— Я ж паклялася, што ніколі не выдам цябе... А думаеш ты пра тое, што твая Соня і гаспадыня, і маці дзяцей, і адданая табе жонка, але...

— Што але?..

— Але, каб была крыху прыгажэйшай ды свяжэйшай. Так?

— Ёсць такая падлянка ў галаве... Я ад яе адмахваюся, адхрышчваюся, а яна ліпне, як бярозавы лісток у лазні. Але, Хатабачка... як бы табе сказаць? Гэта думка —

без задняй думкі. А па-другое, ты сама разумееш — адно і тое прыядаецца... Яе жаночая свежасць ліняе паціху. Мая нясвежасць, яе нясвежасць — іх трэба нечым асвяжаць. Вось я думкамі і цешуся. Спадзяюся, ты мяне зразумееш.

— Каму, як ні мне цябе зразумець! Ты перада мною, галубок, не дужа вінавацься. Усе вы, мужчыны, аднолькавыя. І ў мой час, бывала, жанаты джын, а заглядаецца на мяне, маладзенькую. І правільна рабіў — прыгажосць толькі сляпы не заўважае.

— Дзякуй табе, бабулечка, за разуменне і спачуванне да маёй слабасці... Лягчэй на душы зрабілася.

— А калі так — дабранач табе і ўсім у гэтым доме!

## «ПАЗАШТАТНЫ СУПРАЦОЎНІК МІЛІЦЫІ»

Аднойчы вечарам Іван Паўлавіч звярнуўся да Хатабкі:

— Вось што мяне хвалюе, Хатабачка. Хлеб — гэта добра, а спакой і здароўе людзей не меншае багацце. Разумееш, бабулечка, няма спасу ад living рознага жулля — грабяць, крадуць, забіваюць. Адным словам – атручваюць жыццё: іх затрымліваюць, судзяць, але далёка не ўсіх. Не магла б ты хоць калі падказаць, хто стаіць за злачынствам ці хто што задумвае? Дапамажы людзям!

— А каму я падкажу? Не ісці ж мне ў міліцыю.

— Мне! — горача ўсклікнуў Цвік.— Мне! А я буду ўпотай падсылаць у міліцыю ананімныя вестачкі. Няхай ужо міліцыя прафесійна затрымлівае злачынцаў ці папярэджвае злачынствы. Ну, згодна?

— Ты ж ведаеш, што я не магу табе адмовіць...

Спачатку ў міліцыі да ананімак паставіліся з недаверам, насцярожана. Ананімкі падшывалі і забываліся на іх. Але ананімкі настойліва працягвалі паступаць і

прымусілі людзей у пагонах звярнуць на сябе ўвагу. Вырашылі, дзеля смеху, праверыць адно такое данясенне. Праверылі — і ахнулі, усё супала да драбніц і злачынства было раскрыта, як па нотах. Тады хуценька дасталі з архіваў усе папярэднія паведамленні — і паказчыкі раёна па раскрыцці злачынстваў, нават самых цяжкіх і складаных, шуганулі ўгару.

Нарэшце высокае міліцэйскае начальства не вытрымала інтрыгі і вырашыла выкрыць любой цаной карыснага ананіма, каб узнагародзіць яго па заслугах.

Правільна кажуць: колькі вяроўцы ні віцца... Пры апусканні ў паштовую скрынку чарговага данясення Івана Паўлавіча вылічылі і «павязалі». Дакладней кажучы, яго ветліва запрасілі ў машыну і чынна прывезлі да начальніка раённай міліцыі, які, дзякуючы ананімкам, вырас ад маёра да палкоўніка.

Палкоўнік зноў жа ветліва, але рашуча спытаўся:

— Гэта вы доўгі час дасылалі нам цэнныя звесткі?

Цвік зразумеў, што аднеквацца бескарысна і скіс:

— Я, таварыш палкоўнік... Вінаваты...

— О, каб ва ўсіх была такая віна! — усклікнуў начальнік міліцыі.— Але адкуль такая дасведчанасць? Вы што, член усіх гэтых злачынных груповак? Гэтак дэталёва ведаць усе абставіны падрыхтоўкі злачынства, усе прозвішчы яго ўдзельнікаў здольны толькі адзін з групоўкі.

— Ну дзякуй! — крыўдліва выціснуў Цвік.— Я вам дапамагаў, а вы з мяне злачынцу робіце.

— Тады растлумачце сваю фенаменальную дасведчанасць! — рашуча запатрабаваў палкоўнік.

Іван Паўлавіч пачаў вагацца:

— Ці не ўсё роўна вам, адкуль інфармацыя? Галоўнае, што яна дакладная і карысная.

— О, не! — запярэчыў начальнік міліцыі.— Вы мне зубы не загаворвайце!

— Мне б не хацелася раскрываць чужую тайну, ды, відаць, прыйдзецца,— пачаў здавацца Цвік.— Справа ў тым, што да мяне прыехала сваячніца — мая бабуля... Яна валодае дзівоснымі здольнасцямі.. Але, калі яна даведаецца, што я раскрыў яе сакрэт, перастане вам дапамагаць.

Палкоўнік відавочна гэтым зацікавіўся:

— У яе што здольнасці яснабачання?

— Так, штосьці такое...

— Як у нябожчыцы Вангі?

— Што вы! Бярыце вышэй! — запаліўся Цвік.— Як у Настрадамуса!

— Ого! — здзівіўся палкоўнік,— Дык яе трэба залічыць у штат нашага райаддзела! Пенсію заробіць выдатную, табельную зброю ёй дадзім!

Іван Паўлавіч запярэчыў:

— Што вы, таварыш палкоўнік! Бабуля ў пагонах — засмяюць. Няхай яна застаецца, як і была, па-за штатам.

— Ну, няхай будзе, як і было,— згадзіўся палкоўнік і надаў свайму голасу афіцыйныя ноткі.— Абавязаны вас папярэдзіць, грамадзянін, што ананімкі неабходна выкарчоўваць з жыцця нашага грамадства. На першы раз я вам дарую, другі раз — будзеце пакараны...

Вярнуўшыся дамоў, Іван Паўлавіч аслабаніў Хатабку ад абавязкаў пазаштатнага памочніка міліцыі. Праз хуткі час раённыя паказчыкі ў сферы барацьбы дабра і зла рынуліся ўніз, а палкоўніка зноў панізілі да маёра, а потым зусім адправілі на пенсію.

## ВОСТРАЯ КАНКУРЭНЦЫЯ

Бабка Хатабка дасказала чарговую казку Васю і Валі і цяжка ўздыхнула:

— Стамілася я, праўнучаткі, распавядаць вам пра тое, што было, чаго не бывала. Усё я ды я! Мне таксама хочацца паслухаць ад вас штосьці цікавае.

Дзеці разгублена пераглянуліся:

— Што ж вам, бабуля, расказаць? Пра нашу сям'ю вам усё вядома... Хіба пачытаць вам казкі?

— Казкі? А гэта цікава? — схамянулася старая.

— Вельмі! Вельмі цікава! — і дзеці па чарзе чыталі пра Змея Гарыныча, пра Каваля-вярнідуба, пра Салаўя-разбойніка. Калі ж Вася дачытаў да таго месца, як Ямеля злавіў шчупака, які ўмеў размаўляць чалавечым голасам, Хатабка рашуча спыніла яго:

— Хопіць! Далей не чытай! Мне неабходна абдумаць адну ідэю!

— Далей самае цікавае!

— Не, не і не! — замахала рукамі Хатабка.

Валя прапанавала:

— Можа, пра залатую рыбку прачытаць, калі пра шчупака не жадаеце?

— А залатая рыбка большая за шчупака ці не? — пацікавілася старая.

— Што вы, бабулечка! Залатая рыбка маленькая, а шчупак велізарны.

— Тады ўсё! Болей нічога не чытайце! Маленькіх рыбак ваш бацька прывозіць з рыбацтва заўсёды, а мяне цікавіць толькі шчупак. Дабранач, мае залаценькія! — і яна пайшла ў свой пакой.

Дзеці губляліся ў здагадках:

— Нічога не разумеем... На самым цікавым спыніла нас і збегла... Даўся ёй гэты казачны шчупак.

А Хатабка зачынілася ў сябе і будавала грандыёзныя планы:

— Ананасы, жыта, хлебныя скарынкі — гэта ўсё цудоўна! Я абавязана стварыць свята для ягонай душы. Ён заўзяты рыбак, мерзне на лёдзе, бядак, ля лункі, а ловіцца ўсялякая мелюзга, драбяза. Паспрыяю я яму злавіць шчупака! Ды не звычайнага шчупака, а такога, з якім мог бы пагутарыць! Ці ж мой Ваня горшы за нейкага там Ямелю?

І вось у адну цудоўную нядзелю сабраў Іван Паўлавіч свае рыбацкія прычындалы, склаў іх у драўляную скрынку, перакінуў праз плячо бур і падаўся на Мінскае мора, на падлёдны лоў. Выбраў месца на лёдзе, насвідраваў лунак і, пасля прыкорму рыбак, сеў на сваю скрынку, пачаў дробненька падрыгваць кароценькім вудзільнам — спакушаць рыбку «малую і вялікую».

Спачатку выцягнуў некалькі маленькіх «матросікаў» — акунькоў, потым некалькі гэткіх жа маламерак плотачак... Рыбачылася, як заўсёды — для хатнягаката́.

Раптам нешта... ці, хутчэй, нехта моцна тузануў за лёску. Іван Паўлавіч ад нечаканасці ледзь не выпусціў з рук вудзільна. Танюсенькая лёска нацягнулася, як струна, і жаласліва ценькнула, гатовая ў любы момант пстрыкнуць.

Паўторны рывок быў настолькі моцны, што Цвік кульнуўся са сваёй скрынкі і таркануўся носам у лёд, але вудзільна з рук не выпусціў.

— Толькі б вытрымала лёска! Толькі б не адарвалася мармышка! — як пацеры, паўтараў Іван Паўлавіч.— Толькі б памер лункі дазволіў выцягнуць рыбіну!

Ён адчуваў, што рыбіна агромністая і што ніякія сіны на руцэ не здольны ахарактарызаваць яе памеры.

Нарэшце рыўкі пад лёдам пачалі слабець, значыцца слабела і невядомае падводнае стварэнне... І вось з лункі паказалася вастраносая галава з зубастай пашчай.

— Матухна прачыстая! — усклікнуў Цвік.— Гэта ж шчупак! На мармышцы шчупак! Ды які! Колькі ж ён качак праглынуў за жыццё! Але як яго выдраць праз гэта ігольчатае вушка?

Лёска звінела з апошніх сіл, галава шчупака тырчэла ў лунцы, як корак у рыльцы бутэлькі.

Іван Паўлавіч цягнуў адной рукой за лёску, а другой спрытна схапіў багорчык, якім цапануў пад жабры і з усёй

сілы тузануў палоннага з вады. Цяпер ужо ён шмякнуўся на спіну, але паваліўся не адзін — ля яго бока біўся аб лёд велізарны шчупак.

— Якая ўдача! — ускочыў на ногі шчаслівы Цвік.— Вось дык дзень сёння! Вось ды я!

Раптам шчупак узмаліўся чалавечым голасам:

— Адпусці мяне, Іваначка! Не губі маё жыццё дарэмна! Пашкадуй мяне, няшчаснага!

Іван Паўлавіч акамянеў. Ён азірнуўся — ці не жартуе хто за яго спінай? Нікога!

— Ты тут зараз казаў нешта ці мне падалося? — звярнуўся ён да шчупака.

— Я, Іваначка! Я! Табе не падалося. Пусці мяне назад у ваду!

— Ха! Знайшоў дурня! Калі яшчэ я такога злаўлю? Не! Зафаршыруе цябе мая жонка і пойдзеш ты за мілую душу пад гарэлачку!

— У імя тваёй Соф'і Сцяпанаўны, не губі мяне! Злітуйся! Там, у вадзе засталася мая маладая жонка — у нас зараз мядовы месяц.

— Мохам парос, а пра нейкі мядовы месяц пляцеш тут. Ды і адкуль ты ведаеш маю Соф'ю Сцяпанаўну?

— Я шмат чаго ведаю...

Іван Паўлавіч успомніў свой мядовы месяц, і гэта кранула яго сэрца:

— А можа, не трэба адпускаць? Га? Мядовы месяц хутка пройдзе, а потым пачнецца такая непрабудная шэрасць, што фаршыраванаму шчупаку пазайздросціш... Гэта я табе заяўляю аўтарытэтна...

— І ўсё ж сэрца маё там, у вадзе, Іваначка!

— Ладна, карыстайся маёй дабрынёй. Плыві да свайго шчасця! — і ён з цяжкасцю прапхнуў шчупака праз лунку ў ваду.

Рыбачыць далей расхацелася, і Іван Паўлавіч пачаў збірацца дамоў.

Раптам з лункі паказалася ўжо знаёмая галава шчупака, які ласкава прамовіў:

— За тваю дабрыню ўзнагароджу я цябе, Іваначка, чым толькі пажадаеш. Калі табе што-небудзь спатрэбіцца, ты толькі скажы: «Па шчупаковаму загаду, па майму хаценню... хачу тое ці тое». У тваіх вушах адгукнецца мой голас. Калі ж мой голас не будзе адгукацца, значыць я адплыў далёка — ты паўтарай да майго адказу.

— Дзякуй, шчупачок, але твае паслугі мне не спатрэбяцца.

— Чаму? — здзівіўся ён.

— А таму, што жыве ў мяне бабуля, якая таксама здольная на ўсялякія штукі. Да таго ж, пра слугу двух гаспадароў я чуў, а вось пра гаспадара двух такіх прыслужных — не.

— Не параўноўвай мяне з нейкай порхаўкай старой! — пакрыўдзіўся шчупак.— Выгані ты яе ў тры шыі, а я табе буду служкай!

— Відаць, дарэмна я цябе адпусціў,— абурыўся Цвік,— вучыш мяне выгнаць старога чалавека вон. Фаршыраваны ты быў бы лагаднейшы.

— Глядзі, Іваначка, каб не шкадаваў потым! — і шчупак знік у цёмнай зімовай вадзе.

Пакуль Іван Паўлавіч высвятляў адносіны са сваім шчупаком ды прапіхваў яго праз лунку назад у ваду, да яго падбегла нямала калег-рыбакоў, якія заўсёды глядзяць не толькі ў свае лункі, але і пільна сочаць за бліжэйшымі суседзямі. І калі заўважаюць, што суседу шанцуе і ён цягае рыбіну за рыбінай, здымаюцца з якара і непрыкметна, бачком-маўчком перадыслацыруюцца бліжэй да вязунчыка. Міма іх відушчых-завідушчых вачэй не праслізне ніводная, нават самая маленькая сяляўка, а што ўжо казаць пра такую аграмадзіну, якая вытанцоўвала на лёдзе вакол Цвіка? Таму да яго збегліся рыбакі ледзь не з усяго Мінскага мора.

— Дзе ён?
— Дзе шчупак?
— На што лавілі? Якая нажыўка?
— Дайце хоць глянуць на яго!
Цвік прыадчыніў века сваёй драўлянай скрынкі:
— Які шчупак? Пра што вы? Вось увесь мой улоў — некалькі яршоў смаркатых. Вам, калегі, штосьці падалося...
— Ды што вы нас за дурняў лічыце?
— Мы не сляпыя!
— Ён тут так вытанцоўваў вакол вас!
— А вы вакол яго!
Іван Паўлавіч не здаваўся:
— Я не вытанцоўваў, а саграваўся... А падскокваў на лёдзе вось гэты акунёк. Вядома ж — у чужых руках і плотачка здаецца шчупаком.
З натоўпу рыбакоў выкульгаў сівенькі стары і дакорліва сказаў:
— Навошта ж ты, сынок, абдурваеш старога чалавека? У мяне хоць і прытуманіліся вочы ад старасці, але я бачыў у тваіх руках вялізнага шчупака...
— Ах, шчупака-а!.. А я адразу не зразумеў пра што вы! — даводзілася зноў маніць Цвіку.— А, дык вы пра шчупака гамоніце! Дык ён, пакуль я вакол яго вытанцоўваў, шусь у лунку, як мыш у нару,— і збег. Я нават вокам не паспеў міргнуць, як ён даў драла...
У рыбакоў вырваўся з грудзей стогн роспачы:
— У-у... ё-ё... — пасля якога ў Цвіка паляцелі вострыя кпіны:
— Лапух!
— Ахлэмак!
— Разява! — і яшчэ больш моцныя, непрывабныя для вуха...
Па дарозе дамоў Івана Паўлавіча раздзіралі змрочныя думкі: «І што гэта за звіліны лёсу? Бабуля-джын жыве ў

мяне дома, а я не магу нікому раскрыць сакрэт, падзяліцца гэтым дзівам, бо не паверац, а здадуць у псіхушку... Цяпер вось шчупак гаваркі злавіўся — і зноў рот на замок, бо не мінеш дурдому. Які гэта цяжар для душы — неверагодныя тайны...»

Дома Іван Паўлавіч хадзіў змрочны і маўклівы, і толькі вечарам зайшоў да Хатабкі аблегчыць душу.

Старая сама пачала размову з таго, што больш усяго хвалявала Цвіка.

— Ну, які сёння ўлоў? Што на гэты раз прывёз дамоў?

— Што прывёз? Што прывёз, тое наш кот Гаўрык дахрумквае ўжо... Адна драбяза...

— Як драбяза? Ды такога не можа быць! А дзе шчупак?

— Які шчупак? — падскочыў Іван Паўлавіч.— А табе адкуль вядома пра шчупака?.. А-а, дык гэта зноў твае штучкі! А я, дурань, радаваўся, танчыў на лёдзе, выкрыкваў: «ай ды я!» — а гэта ты! Няма слоў, якімі хочацца абазваць цябе, старэча!

— Дык ты яго ўсё ж злавіў! — засвяцілася радасцю старая.— А дзе ён, пакажы хоць!

— Злавіць злавіў, а паказаць не магу, бо выпусціў назад у ваду.

— Навошта? Я так старалася для цябе, Ваня!

— Навошта выпусціў?.. Ты ж мне падсунула такога шчупака, што не выпусціць было немагчыма...

Старая пацікавілася:

— А хоць размаўляў ён з табой?

— О, усе мазгі мне задурыў! Такі гаварлівы, як Цыцэрон.

— Відаць, я табе зноў нечым не дагадзіла,— сумна зазначыла Хатабка.

— А ты хоць ведаеш, галава, што шчупак з рускай народнай казкі сваімі здольнасцямі можа паспрачацца з любым джынам?

— Няўжо нейкая там нікчэмная рыбка здольная скласці мне якую-кольвек канкурэнцыю?

— Якую-кольвек! — перадражніў старую Цвік.— Ды ты хоць ведаеш, што вычвараў той шчупак у казцы?

Хатабка збялела:

— А я ж, дурноціна, не даслухала тады казку да канца і, відаць, на сваю галаву, падаслала таго шчупака... Я ж думала — пагаворыць ён з табою, павесяліць цябе і ўсё... А ён вунь які!

— А хочаш ведаць, што тая «нікчэмная рыбка» раіла мне гнаць цябе ў каршэль з дому? Сама хацела мне служыць.

— А ты што? — насцярожылася старая.

— Ты ж бачыш, што! Адмовіўся ад яе паслуг і размаўляю з табой.

— За гэта дзякуй, Ваня! — супакоілася Хатабка, і раптам ускіпела: — Ды мы яшчэ паглядзелі б — хто каго! Я б яго жыўцом скарміла нашаму Гаўрыку!

— Ён бы праглынуў нашага ката і не заўважыў,— засмяяўся Іван Паўлавіч.— Давай дамовімся так: не звязвайся ты лепш са шчупаком і забудзься пра нашу размову. Будзем жыць, як і жылі дагэтуль!

Хатабка нічога не адказала, але падумала: «Як бы не так!..»

Нарэшце зіма саступіла дарогу вясне. Для працаўнікоў сельскай гаспадаркі пачыналіся напружаныя дні. А паколькі Цвік быў самым непасрэдным сельгасработнікам, спаць яму даводзілася менш за Напалеона, а есці меней за балерыну. Не хапала светлавога дня, каб усюды паспець, усё своечасова зрабіць. А гэты светлавы вясновы дзень, як вядома,— год корміць.

Памкнуўся быў Іван Паўлавіч звярнуцца за дапамогай да Хатабкі, але перадумаў без вострай неабходнасці напружваць старую.

«Неяк сам упраўлюся»,— думаў ён, гойсаючы на

такім жа, як і сам, стомленым УАЗе па калгасных палёх.

Аднак, адчуваючы, што не спраўляецца сам, успомніў пра шчупака, ад паслуг якога легкадумна адмовіўся.

«А паспрабую я звярнуцца да яго! — абнадзеіла думка.— І Хатабцы дам палёгку, і праверу здольнасці шчупака... Мядовы ж месяц у яго даўно скончыўся...»

І Іван Паўлавіч шаптануў:

— Па шчупаковаму загаду, па майму жаданню — хачу, каб лепшыя палі майго калгаса былі сёння ж засеяны першасортнай пшаніцай!

У вушах Цвіка адразу пачулася:

— Чую, Іваначка! Будуць палі засеяны! Не хвалюйся!

— Ага, спрацавала! — радасна пацёр далоні Цвік.— Лічы, што пшанічка ў мяне ў кішэні. Цяпер можна крыху і расслабіцца, і дыхнуць вальней.

На наступны дзень Іван Паўлавіч патэлефанаваў Кувалдзіну і ўрачыста адрапартаваў:

— Дакладаю, Мацей Мацеіч! Адсеяўся па поўнай праграме, нават, звыш усяго, вялікія пасяўныя плошчы засеяў адборнай пшаніцай! Будзем з булкамі, Мацей Мацеіч!

— Рады чуць, Іван Паўлавіч! Пасля Вашых знакамітых ананасаў, я ў вашых здольнасцях не сумняваюся! Прыемна і тое, што ты першы ў раёне адсеяўся! А што тычыцца пшанічкі, прыеду праз які месяц палюбавацца на ўсходжасць. Ды і прэсу захаплю з сабой. Да хуткай сустрэчы!

Упэўнены ў лёсе пшаніцы, Цвік як бы забыўся на яе і ўсю ўвагу аддаў астатнім угоддзям і культурам. Беспярапынны рытм калгасных клопатаў хутка «з’еў» адпушчаны Кувалдзіным месяц, і толькі яго тэлефонны званок скалануў старшыню калгаса:

— Ну, даражэнькі Іван Паўлавіч, прывядзі сябе ў «эфірны выгляд», едзем да цябе з Васілём Вітальевічам,

тэлебачаннем і газетчыкамі — будзеш сёння тэлезоркай! Сустракай!

Цвік быццам толькі прачнуўся:

«А я ж ні разачку не быў на пшанічных палёх — даверыўся шчупаку! А што, калі там пуста!»

Але адступаць было позна, тым больш, што неўзабаве да праўлення калгаса падкацілі дзве «Волгі» са світай, а за імі прышыбаваў мікрааўтобус з палохаючым надпісам па баках: «ПРЭСА».

Прывітаўшыся і выканаўшы ўсе пратакольныя фармальнасці, усе разгрупаваліся па машынах, гатовыя накіравацца да чарговага цуда, створанага Іванам Паўлавічам.

Ён таксама накіраваўся да свайго УАЗа, але Кувалдзін з павагай прапанаваў:

— Пакінь у спакоі сваю тарантайку, шаноўны Іван Паўлавіч! Запрашаю да мяне ў «Волгу»! Я цябе і адвязу, і прывязу назад. Прымі такую пашану!

Цвік нехаця падпарадкаваўся прапанове.

Эскорт з трох машын праз хуткі час прымчаў да першага знакамітага поля. Яшчэ здаля, убачыўшы ўзыходы, Кувалдзін захапіўся:

— Толькі месяц прайшоў, як ты адсеяўся, а пшанічка ў рост чалавека! Малайчына, Іван Паўлавіч!

Цвік і сам не чакаў убачыць такое.

Калі ж усе павыходзілі з машын — ахнулі і здзівіліся яшчэ больш:

— А што гэта? Што за сорт пшаніцы? Да чаго яна падобная?

Васіль Вітальевіч падышоў бліжэй, каб памацаць дзівосныя парасткі, але схапіўся за руку:

— Вой, як упякло! Што гэта? Гэта ж крапіва, вышэйшая за мяне! Звычайная пякучка! Цэлы лес з крапівы! Ну і пшаніца!..

— Крапіва!..— як рэха пералятала з вуснаў у вусны.

Кувалдзін запытальна зірнуў на Цвіка:

— Ну, Мічурын, дзе твая хвалёная пшаніца?

Цвіка больш за ўсіх хвалявала гэта пакутлівае пытанне, ён ліхаманкава шукаў ратавальныя словы:

— Я... Я заблудзіўся... не туды заехалі... Прабачце, тут недалёка другое поле — там пшаніца.

— Ну, калі заблудзіўся, вязі, куды трэба — больш мякка прапанаваў Васіль Вітальевіч.

Па дарозе да другога поля Цвік кляў і шчупака, і сябе за даверлівасць і маліў усіх святых, каб хоць на другім полі расла пшаніца.

Але цуда не адбылося — другое поле густа парасло дзядоўнікам і іншым быльнёгам у чалавечы рост.

Кувалдзін не хаваў сваёй злосці, абласны куратар пляваўся на ўсе бакі, прадстаўнікі прэсы акружылі няшчаснага Цвіка і сыпалі пытанні:

— Колькі цэнтнераў калючак вы плануеце сабраць з аднаго гектара?

— А крапіву будзеце рэалізоўваць свежай ці кансерваваць?

Цвік апусціў галаву і маўчаў — ён быў раздушаны, знішчаны, зняслаўлены.

Пачулася каманда Кувалдзіна: «Па машынах!» — і праз хвіліну Іван Паўлавіч застаўся адзін.

«Нават не прапанавалі падвезці... Вось так, Іван-балван, варта толькі спатыкнуцца, і ты нікому не патрэбен... Прыйдзецца ў эткую далеч тупаць пешадралам. Так табе і трэба — на шчупака спадзявайся, ды сам не махай вушамі...»

Ужо сцямнела, калі абяссілены Іван Паўлавіч дапяў дадому. На ўсе роспыты жонкі адказваў маўчаннем і, хоць быў галодны, як воўк, ад вячэры адмовіўся.

Хатабка дапытліва і нават весела пазірала на гаспадара і штосьці кумекала.

Раніцай Соф'я Сцяпанаўна здзівілася.

— А ты што, Ваня, на працу не пойдзеш? Захварэў ці што?

— Ногі туды не нясуць,— уздыхнуў Цвік.— Каму я там цяпер патрэбен?

— Вышэй нос! — падбадзёрыла жонка.— Снеданне на стале, я пайшла на працу. Пакуль!

Калі Соф'я Сцяпанаўна зачыніла за сабой дзверы, Хатабка падклыпала да Цвіка:

— Што здарылася, Ваня? Ваня ібн Павел... Даўно я цябе такім прыгнечаным не бачыла і даўно цябе так не называла...

— Ты мяне, Хатабачка, як ні называй, а я як быў Іванам-балванам, так ім і застаўся... Так ім і памру...

— Адкуль такое самапрыніжэнне? Ты ж даўно на высокім рахунку ў начальства, цябе даўно не распякаюць.

— Так? — ускочыў Цвік,— Шмат ты ведаеш! Мяне не распякаюць, затое аб мяне публічна выціраюць ногі!

— Ай, бедненькі! — са здзекам прашамкала Хатабка.— А ты пакланіся свайму ўсемагутнаму шчупаку, ён тваю бяду адным плаўніком развядзе...

— Здзекуйся, бабулечка, ёрнічай! Я з літасці таго шчупака і пакутую. Мяне зганьбілі, прынізілі, аплявалі прылюдна... Мне цяпер найкранцейшыя кранты! Ясна?

— Растлумачыш — будзе ясна.

І Іван Паўлавіч, як на споведзі, распавёў Хатабцы пра ўсе здарэнні мінулага дня.

— Заводзь сваю машыну і пакоцім да тых крапіўна-дзедаўных палёў! — рашуча прапанавала яна.— Але спярша паснедай!

— Я не паеду! — ускочыў, нібы з вострага цвіка, Іван Паўлавіч.— Другі раз такое відовішча я не перажыву!

— Перажывеш і яшчэ доўга жыць будзеш! — спакойна зазначыла Хатабка.— Збірайся і паедзем...

Калі ж пад'ехалі да першага, «крапіўнага» поля, Цвік літаральна зароў:

— Ды не можа быць такога! Учора, на гэтым самым месцы мяне чыхвосцілі за крапіву. Сёння — тут цудоўная пшаніца! Чые гэта штучкі? Твае ці шчупаковы?

— Мае! — сазналася старая.— Твая рыбіна сапраўды хацела дапамагчы табе і засеяла палі першасортнай пшаніцай. Але я разгадала вашу змову за маёй спінай і перад прыездам тваіх начальнікаў перамяніла пшаніцу на розны быльнёг. Няхай ведае твая нікчэмная рыбка, што да мяне ёй далёка!

— Навошта ты гэта зрабіла, злыднюга? — зноў зароў Цвік.— Ты мяне гэтым забіла, знішчыла, абняславіла! Забіць цябе мала пасля гэтага!

— А ты не ганіся за двума зайцамі! — параіла старая.

— Ды ты злосная, шкодная баба! Я думаў, што мы з табой сябры... не хачу цябе болей бачыць!

Бабка Хатабка узяла руку свайго пакрыўджанага збавіцеля і ласкава сказала:

— Супакойся, Ванечка ібн Паўлуша!

— Як я магу супакоіцца, калі сёння тэлебачанне ліло на мяне ўсякую брыдоту, а газетчыкі рыхтуюць ганебныя фельетоны? І гэта ўсё дзякуючы табе!

— Напішуць абвяржэнне, папросяць у цябе прабачэння, у ножкі табе паклоняцца.

— А дзядоўнік на другім полі? Што з ім рабіць? — спалохана спытаўся Цвік.

— Няма там ніякага дзядоўніка — і там цудоўная пшаніца!

Іван Паўлавіч разгублена пацiснуў плячыма:

— Я ўжо не ведаю, на каго болей злавацца — на цябе, Хатабачка, ці на шчупака?

— На сябе, Ванечка, на сябе!..

Аднак на гэтым процістаянне Хатабкі і шчупака не скончылася.

Іван Паўлавіч не вытрымаў і цішком ад Хатабкі паехаў да Мінскага мора і, не надта верачы, паклікаў:

— Па шчупаковаму загаду, па майму хаценню, плыві да мяне, шчупак!

Доўга чакаў ён ад мора адказу, не дачакаўся і крутнуўся да УАЗа, але за спінай пачуў:

— Хух, як я стаміўся, спяшаючыся да цябе, Іваначка, аж з другога канца Мінскага мора! А вось і мая жоначка,— паказаў ён побач з сабой, дзе з вады выглядала галава другой рыбіны.— Толькі яна не здольная размаўляць па-чалавечы — нямая, як рыба.

— Прыгажуня! — ветліва азваўся Іван Паўлавіч, потым расказаў шчупаку пра ўсё, што здарылася з пшаніцай, і дадаў: — Бабуліны чары больш моцныя, чым твае... Таму, калі я другім разам праяўлю сваю слабахарактарнасць і зноў папрашу цябе аб нейкай паслузе — не выконвай яе, бо старая пераробіць усё па-свойму.

— Я табе, Іваначка, прапаноўваў выгнаць яе вон, а ты не паслухаўся мяне... А наконт таго, што тая старая мацней у сваіх чарах за мяне — мы яшчэ пабачым! Успомніць яна мяне, ах успомніць!

Іван Паўлавіч абурыўся:

— Толькі гэтага мне не хапала! Пацягнула ж мяне за язык... Возьме ды яшчэ зжыве са свету маю бабулю, якая для мяне і без чараў стала, як родная. Трэба ж было найсці касе на камень...

На наступны дзень Цвіку патэлефанаваў сам старшыня аблвыканкама Дашкевіч:

— Што там у цябе, Іван Паўлавіч, на палёх расце? Нейкім быльнёгам захапляешся. Газеты сёння стракацяць markers рознымі колкімі публікацыямі, тэлебачанне вочы намазоліла тваімі «дасягненнямі». Зноў ты раён цягнеш назад, ды і вобласць ганьбіш. Мы цябе рыхтавалі на павышэнне... а цяпер хоць здымай цябе з пасады. Растлумач, у чым справа?

— Не ведаю, Генадзь Васільевіч, адкуль узялася такая інфармацыя... дакладней — дэзінфармацыя. У мяне

на калгасных палёх быльнёгам і не пахне — расце пшаніца як пшаніца. Наколькі мне вядома, лепшая, чым у суседзяў.

— А тэлевізіёншчыкі знялі ў цябе нейкія калючкі ды пякучкі. Каму верыць?

— Верце мне, Генадзь Васільевіч! Телебачанне змануіруе і іншапланецян на маіх угоддзях...

— Ладна! Заўтра прыеду сам і буду верыць сваім вачам. Правільна кажуць: лепш адзін раз убачыць, чым процілеглае чуць.

І прыехаў! І здзівіўся! І захапіўся!

— Куды яны глядзелі? Што яны панавыдумлялі? Сёння ж прымушу Кувалдзіна папрасіць у цябе прабачэння, Іван Паўлавіч! І газетчыкам, і тэлевізіёншчыкам накручу хвасты!..

Радасны і шчаслівы Іван Паўлавіч заскочыў вечарам дамоў, каб падзяліцца сваім трыумфам з хатнімі, але дома панаваў нейкі смутак.

— Што здарылася? — насцярожыўся ён.

— Захварэла бабуля Хана,— у адзін голас сумна паведамілі хатнія.— Не дакранаецца да стравы, нават ваду не п'е. А чалавек яе веку хутка слабее без ужывання ежы.

«Яе веку! — сумна ўсміхнуўся ў думках Цвік.— Ведалі б вы яе век!..»

Іван Паўлавіч ласкава звярнуўся да хворай:

— Бабулечка, можа б ты...

— І не старайся дарэмна! — перарвала яго Хатабка.— Пры адной думцы пра яду мяне ванітуе...

На наступны дзень усе заўважылі, што бабуля панікла, зжаўцела і працягвае гаршэць на вачах.

Тут ужо Іван Паўлавіч праявіў рашучасць і настойліва націснуў пытаннямі на Хатабку, на што яна адказала:

— Гэта твой шчупак зжывае мяне са свету!

— Якім чынам? — ускрыкнуў Цвік.— Што табе баліць?

— А такім чынам, што чакае мяне самы пакутлівы канец — галодная смерць. Твой шчупак — садыст.

— Які ён мой? — падкінууўся Цвік.— Сама мне яго падсунула, сама зварганіла гэту кашу!

Хатабка заціснула рот рукой:

— Не кажы мне пра кашу! Ад напаміну пра яду мяне выварочвае.

Іван Паўлавіч замітусіўся вакол старой:

— Можа б выклікаць дактароў!

— Не, галубок, дактары бездапаможныя перад чарамі... Відаць, недаацаніла я тую нікчэмную рыбіну.

— Няўжо ў цябе, такой усясільнай, няма ніякага супраць-яддзя? — шукаў выйсця Цвік.

— Не, ён валодае нейкімі сваімі сакрэтамі, як і я сваімі,— тут Хатабка ажывілася: — Але і я яму адплаціла тым жа! Думаю, што ён зараз ляжыць недзе на дне і пухне ад голаду... Так што памром мы адначасова.

— Ды вы абодва з'ехалі з глузду! Здымі зараз жа з яго чары! Каб знішчыць адно другога, шмат розуму не трэба!

— Няхай ён першы здыме свае чары, тым больш, што ён першы іх і наслаў на мяне.

— Добра, няхай будзе так! — згадзіўся Іван Паўлавіч.— Зараз ноч на падыходзе, патрывай да раніцы. Раніцай я памчуся да Мінскага мора і дай бог каб шчупак быў яшчэ жывы... Ляжы, не варушыся, беражы сілы.

Рана-раненька Іван Паўлавіч быў на беразе Мінскага мора і доўга і настойліва клікаў шчупака, а ён усё не прыплываў.

Калі надзея канчаткова пакінула яго, з вады паказалася шчупакова галава і ледзь чутна спыталася:

— Ну, чаго табе яшчэ трэба? Я аслаб і бачу цябе, як праз туман...

— Адбываецца штосьці жахлівае! — ледзь стрымліваў крык Іван Паўлавіч.— Людзі, джыны, рыбіны не ўмеюць ці не жадаюць жыць у міры і згодзе! Усе

падурнелі! Вось ты, шчупачок, маеш такую ўладу над усімі — чаго табе не хапае, каб жыць у радасці?

Шчупак ціха адказаў:

— Зараз мне не хапае аднаго: яды. Я паміраю з голаду, а яда ў рот не лезе — адвярнула ад яе.

— Даскакаліся, уладары ды чарадзеі! — яхідна хмыкнуў Цвік.— Дык вось, даражэнькі шчупачок, выканай маё самае апошняе і самае галоўнае пажаданне: здымі з бабулі свае чары. Гэта нават не пажаданне, а патрабаванне!

— Ты ж сказаў, Іваначка, што яна, што б я ні зрабіў, перайначыць па-свойму.

— Не перайначыць! Яна, як і ты, памірае з голаду, і калі ты не здымеш чары — памрэ.

— Тады не здыму! Няхай памірае! Я ёй дакажу, хто з нас галоўны!

— Ды і ты памрэш, калі памрэ яна! Тваё жыццё залежыць ад старой. Уцям гэта!

— Чаму залежыць? – здзівіўся шчупак.

— Таму што яна, у адплату, пазбавіла цябе магчымасці есці. Хутка ты будзеш плаваць у вадзе ўверх пузам, а каму дастанецца твая маладая жонка? А жыццё — такая цудоўная штука!

— Ты ж, Іваначка, некалі мяне пераконваў, што жыццё — адна шэрасць.

— Я тады маніў!

— А дзе гарантыя, што пасля мяне твая старая здыме і свае чары?

— Я — гарантыя! — запальна запэўніў шчупака Іван Паўлавіч.— Калі яна ўпрэцца, тады я, як ты і раіў, выганю яе вон з дому!

— О, дзеля гэтай радасці я гатовы рызыкнуць! Ідзі, Іваначка, да сваёй шкоднай старой, я ёй дарую! — і шчупак павольі апусціўся ў ваду.

Іван Паўлавіч імчаў на сваім старэнькім УАЗе дамоў,

пераганяючы ўсе іншамаркі, не звяртаючы ўвагі на дарожныя знакі і святлафоры.

Ускочыўшы ў дом, ён перш-наперш забег у пакой да Хатабкі, якая ляжала на спіне, паклаўшы на жывот рукі.

«Няўжо памерла? Эх, не паспеў!» — апякла думка.

Ён кінуўся да старой і залямантаваў:

— Не памірай, Хатабачка! Я з ім дамовіўся!

Старая з асалодай пагладзіла жывот і выдыхнула:

— Адчапіся, Ваня, ты перашкаджаеш мне пераварваць яду...

— Ну, дзякуй богу! Слава шчупаку! — потым схапіў старую за плечы і страсянуў: — А пра шчупака ты не забылася? Ты зняла з яго свае чары?

Хатабка выслабанілася ад гаспадаровых рук і зноў з асалодай адкінулася на падушку:

— Шмат гонару для твайго шчупака будзе, калі я здыму з яго чары! Няхай канае і ведае, хто галоўны!

— Ах ты, старая карчажына! Скалелая твая душа! Я табе, як твой збавіцель, загадваю зняць з шчупака чары! Ну!

Хатабка лянотна пацягнулася і пстрыкнула пальцамі:

— Добра, няхай жыве твая маляўка.

## ЗАЛОЖНІК

Не дарэмна кажуць, што тайнае рана ці позна робіцца яўным. Тайна перастае быць ёю, калі яна належыць не аднаму чалавеку, бо чалавечы язык не толькі «вораг мой», але і вораг любой тайны.

Так здарылася і з Хатабкавай ананімнай дапамогай праваахоўным органам.

Як і належала чакаць, страціўшы такога цэннага «пазаштатнага супрацоўніка», міліцыя набыла другое — імклівы рост злачыннасці ў раёне. Атрымаўшы ў свой час

па зубах, злачынцы затаіліся, выспявалі для новага, яшчэ больш магутнага выбуху.

Выбух злачыннасці — страшней за цунамі. Хвалі стыхіі рухаюцца з вядомага напрамку і даюць магчымасць ратавацца, а хвалі злачыннасці — нябачныя, і патэнцыяльная ахвяра не толькі не ўяўляе, куды ўцякаць, але і не падазрае, што яна ахвяра.

Дык вось, у злачыннае асяроддзе, у якім і свае апекуны, і свае паведамляльнікі, непазбежна прасачылася інфармацыя аб тым, што фенаменальны поспех міліцыі забяспечвалі ананімкі, якія нараджаліся ў доме Цвіка.

А каб больш балюча ўдарыць па Цвіку, было вырашана выкрасці яго сына. Вырашылі — і выкралі.

Знікненне хлопчыка было заўважана ў першы ж вечар, калі за вячэрай яго месца аказалася пустым.

Спачатку ўсе дзівіліся такой недысцыплінаванасці, як сказаў бы Хатабыч, «юного отрока», затым здзіўленне змянілася на хваляванне. Пасля безвыніковага абтэлефанавання ўсіх Васіных сяброў і знаёмых увесь дом запоўніла прыгнечаная трывога.

Трывогу ўзмацняла і тое, што яго мабільны тэлефон быў недасягальны.

Іван Паўлавіч патэлефанаваў у міліцыю і дрыготкім голасам паведаміў аб знікненні сына, але пачуў адказ:

— Не парыце гарачку, грамадзянін! Паўдня адсутнічае сын, а вы панікуеце. Другая справа, каб месяц не было яго...

Іван Паўлавіч бразнуў трубку і схапіўся за сэрца:

— Ім трэба, каб месяц адсутнічала дзіцянё, тады яны заварушацца! Куды цяпер кінуцца?

— Што ж рабіць? — заломвала рукі Соф’я Сцяпанаўна.— Бедны Васілька, дзе ты? Адчувае маё сэрца, што з ім адбылося штосьці жахлівае!

Валя ціха плакала, а Хатабка аб нечым засяроджана думала.

Паступова вечар змяніла ноч, але пра сон ніхто нават не думаў. Страшная невядомасць малявала больш страшэнныя карціны, бо ў страху — вочы вялікія.

Раніцай Іван Паўлавіч паімчаўся ў міліцыю, дзе даў волю сваім пачуццям, пакінуў там заяву і фотакартку сына. Яго, як маглі, супакоілі і запэўнілі, што прыкладуць усе сілы і выкарыстоўваюць усе магчымасці, каб адшукаць прапажу.

Гэта пакута доўжылася двое сутак, а на трэці дзень патэлефанаваў незнаёмы мужчына ці хлапец і, кашляючы, з хрыпам у голасе, рашуча заявіў Цвіку:

— Так. Мужык, твой вырадак у нашых руках. Зразумеў?

— Зразумеў! Зразумеў! — закалаціўся ад хвалявання Іван Паўлавіч.— Жывы ён? Дзе ён? І хто вы?

— Жывы твой байструк, на паслухай...

У тэлефоннай трубцы пачуўся зрывісты голас Васілька:

— Тата, татачка, я...— і крык адразу абарваўся.

— Так, мужык, пераканаўся? Жывы твой пацан!

— Што вам трэба? Чаго вы дамагаецеся? — закрычаў Цвік.

— Першае, што мы хочам, гэта, каб твая смярдзючая рука ніколі болей на даносіла на нас мянтам.

Іван Паўлавіч не стрымаўся:

— Я даўно ўжо не пішу ананімак! Даўно! І не збіраюся пісаць, толькі адпусціце сына!

— Адпусціць! Бач, які спрытны! А што калі мы крыху з яго паздзекуемся — адрэжам на памяць пальчык-другі...

— Не трэба! Малю вас! Адрэжце лепш у мяне пальцы!

— Ты, мужык, бачу, шустры. Ды за твае пальцы ніхто і капейкі не дасць, а тут можна патаргавацца.

— Колькі вы хочаце? Шмат?

Хрыпаты голас у трубцы зарагатаў:

— Во дурань! Пытаецца, шмат трэба ці не... Ды шмат грошай ніколі не бывае...

Івану Паўлавічу не да месца ўспомніўся мультфільм «Залатая антылопа», дзе таксама былі такія словы: «шмат золата не бывае», і ён сумна падумаў: «Трэба ж, і казкі пераклікаюцца з рэчаіснасцю...»

Соф'я Сцяпанаўна падчас гаворкі стаяла, нахіліўшыся да тэлефоннай трубкі, і ледзь дыхала, каб не прапусціць ніводнага слова.

— Назавіце суму! — напружана крыкнуў Цвік.

Пасля невялікай паўзы выкрадальнік сына назваў суму, ад якой у вачах Івана Паўлавіча пацямнела.

Ён няўпэўнена гукнуў у трубку:

— Мы ніколі не мелі такіх грошай...

Соф'я Сцяпанаўна выхапіла ў мужа трубку і крыкнула:

— Мы згодны! Згодны мы! Чуеце? Усё прададзім да апошняй кашулі, а грошы будуць!

— Вось і лады! — прахрыпеў незнаёмец.— Заўтра чакайце новага званка і далейшых інструкцый... І не падумайце бегчы ў міліцыю, інакш атрымаеце па пошце галаву сына...

Пачуўшы кароткія гудкі, Соф'я Сцяпанаўна паклала трубку і стомлена апусцілася на кушэтку.

Іван Паўлавіч разгублена спытаўся:

— Сонечка, дзе мы возьмем такія грошы?

— Да заўтра — не ведаю... Але ж не магла я адмовіць тым бандытам... Быў бы ў нас час, прадалі б катэдж і ўвесь свой скарб, а так – не ведаю...

— Грошы знайду я! — пачулася за спінай засмучаных бацькоў, якія забыліся на Хатабку.— І знайду столькі, сколькі скажаце! — заявіла старая.

— Ты? — перапытаў Іван Паўлавіч і раптам засвяціўся: — Безумоўна ты! Толькі ты здольная дапамагчы нам, дарагая Хатабачка!

— Зноў нейкая Хатабачка... І адкуль у вас, бабуля, такія грошы? У вас што, мяхі з грашыма стаяць у кожным кутку?

— Соня! Не чапляйся да чалавека! Дай нам з бабуляй перамовіцца па сакрэту і сёе-тое абмеркаваць! — і Іван Паўлавіч пацягнуў за руку старую ў яе пакой.

— Як жа я забыўся пра цябе? Вось калі спатрэбяцца грошы, якія былі ў машыне!

Хатабка абыякава пагадзілася:

— Можна тыя, можна другія...

Цвік раптоўна спахмурнеў і спытаўся:

— А як жа ты, прадбачніца ўсяго, дазволіла злачынцам выкрасці нашага Васілька? Чужым ты памагала, а свайго не ўберагла!

— Прабач, Ваня! Але ж ты пасля візіту ў міліцыю загадаў мне выкінуць з галавы ўсіх злачынцаў і іх задумкі... Давай лепей абмазгуем, як нам дзейнічаць далей.

— Нам? — здзівіўся Іван Паўлавіч.— А для чаго міліцыя? Няхай яны прафесійна даводзяць усё да канца... з нашым удзелам, безумоўна.

— Не, Ванечка, міліцыі не трэба! Міліцыя ўсё нам перапсуе. Падрыхтуй лепш на заўтра мяшок з-пад бульбы, а астатняе — мой клопат...

Раніцай наступнага дня пачуўся доўгачаканы тэлефонны званок. У трубцы хрыпеў і кашляў усё той жа голас:

— Грошы гатовыя?

— Так! Так! Гатовыя! — ледзь стрымліваў сябе Цвік.— Куды іх прывезці?

— Слухай уважліва, татуля! У самым канцы Залесскай вуліцы ёсць закінуты драўляны дом, які стаіць асобна ад астатніх. Сядай на свой іржавы УАЗ і каб праз гадзіну быў тут! Адзін! Без мянтоў, інакш наплачашся. Чуў такое слова — «бартэр»? Ты нам — грошы, мы табе — пацана...

У трубцы пачуліся кароткія гудкі.

— Можа б, паведаміць у міліцыю... няхай бы акружылі злачынцаў,— параіла Соф'я Сцяпанаўна.

— Не трэба міліцыі! — рашуча заявіла Хатабка.— Я паеду з Ванем!

— Вы? Для чаго? Вы ж будзеце там перашкодай! — запярэчыла Соф'я Сцяпанаўна.

— Соня! Не блытайся пад нагамі! Я паеду з бабуляй! Не хвалюйся і чакай нас з Васільком. І машына паехала ў накірунку Залесскай вуліцы. Хатабка трэслася на заднім сядзенні і маўчала, трымаючы ў руках пусты мех.

— Дык якія нашы дзеянні, бабуля? — спытаўся Цвік і азірнуўся да старой, але яна знікла. Замест яе на сядзенні стаяў напоўнены нечым мех.

Іван Паўлавіч затармазіў, каб высветліць, дзе ж бабуля, ад чаго мяшок хіснуўся наперад і з яго пачуўся Хатабкін голас:

— Асцярожна ты! Ледзь не скінуў мяне ўніз!

— А ты дзе?

— Ды ў мяшку я! У мяшку, замест грошай!

Цвік разгубіўся:

— А дзе ж выкуп? Не цябе ж мне аддаваць бандытам!

— Менавіта мяне! Занясеш мех у тую хату і скажаш: вось вам вашы грошыкі... Далей стой і маўчы. Зразумеў?

— Зразумеў,— нерашуча адказаў Іван Паўлавіч і націснуў на газ.

Аказваецца, міма гэтай закінутай драўлянай развалюхі ён праязджаў шмат разоў, не звяртаючы на яе ўвагі. Ці мог ён тады падумаць, што менавіта тут, у гэтай непрыгляднасці, будзе вырашацца лёс, а магчыма, і жыццё яго сына?

Іван Паўлавіч ускінуў на плечы мех, падышоў да дзвярэй і пастукаў.

Дзверы крыху прыадчыніліся, і ў праёме паказаўся няголены твар мужчыны ці хлапца, які з галавы да ног падазрона агледзеў Цвіка.

— Цвік? — спытаўся ён.

— Так, я,— пацвердзіў Цвік.

— Грошы прынёс?

— Тут яны,— адказаў Іван Паўлавіч і павярнуўся, паказваючы мех.

— Заходзь! — і дзверы расчыніліся на ўсю шырыню.

Іван Паўлавіч увайшоў у цьмянае памяшканне і ў першую чаргу агледзеў яго. Тут прысутнічалі яшчэ два незнаёмца, але першае, што яму кінулася ў вочы,— гэта Васілёк, які сядзеў прывязаны да крэсла. Кінулася ў вочы і яго схуднеласць.

— Татачка! — памкнуўся хлопчык да бацькі, але тыя двое яго асадзілі:

— Сядзі, шпанюк!

— Гані манету, мужык! — падышоў да Цвіка няголены незнаёмец.

Іван Паўлавіч асцярожна паставіў на падлогу мех з Хатабкай.

Уся тройца сквапна кінулася да мяшка, а Цвік ірвануўся да сына, ліхаманкава выслабаняючы яго рукі і ногі ад вяровачных путаў:

— Зараз, сыночак! Пацярпі, родненькі!

Ён так захапіўся вызваленнем свайго сына, што забыўся на злачынцаў і толькі іхнія крыкі расчаравання і адчаю прымусілі яго азірнуцца.

— Гэта ж старая карга, а не грошы! — зароў галоўны злачынец.— А дзе выкуп? У цябе пытаюся, казёл! — павярнуўся ён да Цвіка, пагрозліва бліснуўшы вачыма.

Мех быў развязаны, і з яго тырчала галава Хатабкі. Яна павольна аслабанілася ад яго, абтрэслася, як старая варона ад дажджу, і спакойна сказала:

— Будзе табе выкуп, будзе! І за майго праўнучка Васю будзе, і за тое, што старую жанчыну абазваў каргой.

— Ды я цябе, аблезлая курыца, адной рукойператвару ў мокрае месца! — і бандыт замахнуўся на Хатабку, але яна пстрыкнула пальцамі, і Васін крыўдзіцель пачаў змяншацца, нібы кавалачак снегу ў гарачай вадзе. Разам з ім раставалі на вачах і яго кампаньёны. Праз хвіліну ўсе трое зніклі — на іх месцы стаялі тры закаркаваныя бутэлькі.

Іван Паўлавіч адразу зразумеў што да чаго, а вось Васілёк, якога засланяла ад астатніх шырокая бацькава спіна, нічога не зразумеў і спытаўся:

— А дзе гэтыя людзі? Збеглі яны?

— Гэта, сынок, не людзі,— адказаў Цвік сыну,— хутчэй забудзься пра іх існаванне.

Раптам аднекуль пачуліся прыглушаныя крыкі:

— Выпусціце нас! Злітуйцеся! Мы болей не будзем!

Іван Паўлавіч узяў сына за руку:

— Пайшлі, сынок, пацíху да машыны, адтуль патэлефануем маме і Валі, а бабуля праз хвіліну-дзве прыйдзе да нас.

Калі бацька з сынам выйшлі з хаты, Хатабка сабрала ўсе бутэлькі і саставіла іх у цёмны кут.

— Прабачце за каргу! І за казла! Лепш здайце нас у міліцыю! — чулася з бутэлек.

— О, не! — запярэчыла Хатабка.— Міліцыя вас не перавыхавае! На першы раз я пратрымаю вас у такой няволі столькі, колькі вы ўтрымлівалі Васілька, а потым выпушчу — дам вам шанц. Але калі вы зноў возьмецеся за сваё — пасаджу вас у гэтыя пасудзіны і кіну ў памыйную яму... назаўсёды!..

Каля машыны Хатабка шаптанула Івану Паўлавічу:

— Можа б ты патэлефанаваў у міліцыю, няхай спыняць пошук...

— А яны яго і не пачыналі! — махнуў рукой шчаслівы бацька.

## «ДРЭННЫ ДОМ»

Неяк вечарам Валя звярнулася да Хатабкі і прапанавала ёй:

— Бабулечка Хана, дырэктар нашай школы пытаўся ў вучняў: у каго ёсць бабулі ці дзядулі, якія нарадзіліся да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Дырэктар хоча арганізаваць сустрэчу вучняў з такім чалавекам. Каб усе пачулі ад яго, як кепска жылося да рэвалюцыі, і як добра мы жывём сёння. Можа б ты згадзілася на такую сустрэчу? Ты ж такая старэнькая і, пэўна, нарадзілася пры цару...

— Па-першае, праўнучанька, я не ведаю, што такое рэвалюцыя, а па-другое, твой бацька забараніў мне без яго дазволу пакідаць сцены гэтага дома.

— Чаму? — здзівілася Валя.— Ты ж не ў турме! Галоўнае, каб ты дала згоду, а мы з табой ціхенька днём, у адсутнасць таты, наведаем школу і вернемся назад.

— Мне, шчыра кажучы, праўнучанька, і самой надакучыла сядзець усё дома ды дома... Мала што змянілася ў маім жыцці пасля праклятай бутэлькі...

Валя чарговы раз здзівілася:

— Якой бутэлькі? Можа, Бутыркі? Турма такая ёсць, але ж ты не сядзела ў турме.

— Не ведаю, дзетка, ні рэвалюцыі, ні Бутыркі, але да дзяцей схаджу. Ёсць што расказаць ім, ды і праветрыцца мне не пашкодзіць.

Дырэктар школы быў вельмі рады, даведаўшыся, што Валіна прабабка дала згоду на сустрэчу з вучнямі і што яна дзівосны распавядальшчык.

У школе, як і ў арміі, сустрэчы з цікавымі людзьмі ладзяцца хутка — даў каманду, і праз гадзіну ўсе ў зборы.

Бабку Хатабку з пашанай правялі праз усю напоўненую вучнямі і настаўнікамі залу проста на сцэну.

Дзеці заапладзіравалі, упершыню ўбачыўшы такую згорбленую, старэнькую бабулю.

Пачуўшы апладысменты і ўбачыўшы столькі ажыўленых дзіцячых вачэй перад сабой, Хатабка і сама ажывілася, акрылілася душой. На яе нахлынулі ўспаміны пра ўласнае бязвоблачнае і такое далёкае дзяцінства.

Дырэктар узяў са століка перад Хатабкай мікрафон і звярнуўся да залы:

— Дарагія дзеці! Шаноўныя калегі! Нам выпала рэдкае шчасце пачуць з гэтых паважаных вуснаў, ад гэтай мудрай жанчыны, якая жыла пры цару, сярод капіталістаў-прыгнятальнікаў, што бачылі яе вочы і што чулі яе вушы. У нас няма падстаў не верыць пачутаму. Прашу вас, бабуля Хана, кажыце ў гэты вось мікрафон! — і дырэктар спусціўся са сцэны, сеўшы ў першы рад паміж настаўнікамі.

Дзеці зноў горача заапладзіравалі, а Хатабка паднесла да вуснаў мікрафон і пачала расповяд:

— Я рада бачыць вас, дзеці, у цялесным здароўі і душэўнай гармоніі! Ды ахіне вас, высокашаноўныя слухачы, міласцівейшая ласка вашых стваральнікаў!

З залы пачулася:

— Не стваральнікаў, а бацькоў! — пасля чаго залу напоўніў лёгкі смех. Было бачна, што вучні пасля напружаных урокаў у такім вялікім гурце адчуваюць сябе вольна і рады пашуткаваць ды падурэць.

Хатабка не звярнула ўвагі на выкрык з залы і працягвала:

— Мне, мае непараўнальныя знаўцы гэтых навуковых сценаў прыемна вам дакласці, што мне вельмі шмат гадоў. Настолькі шмат, што я памятаю, як сонца ўзыходзіла адтуль, куды сёння садзіцца, а месяц і зоркі яшчэ не былі створаны.

З залы зноў пачулася:

— А як жа прылівы і адлівы без месяца?

— А раней без зорак караблі не маглі плаваць начамі...

Хатабка і на гэты раз прапусціла заўвагі міма вушэй і працягвала:

— У тыя далёкія часы горы былі такой вышыні, а іх вяршыні такія вострыя, што распорвалі нябеснае покрыва і адтуль звяргалася процьма вады...

— Пра цара раскажыце, як ён правіў і жыў,— пачулася просьба з залы.

Хатабка ажывілася:

— У маю бытнасць светам правілі магутныя джыны — настолькі магутныя, што нават мае бацькі з славутага роду Абдурахманаў трапяталі перад імі. Не было дня, каб...

— Хлусня! — ізноў пачулася з залы.— Бабуліны казкі! Вы б яшчэ ўспомнілі Сулеймана ібн Дауда з казкі «Стары Хатабыч»!

На гэты раз вытрымка пакінула Хатабку — ёй адкрыта выказвалі недавер і падвяргалі сумненню існаванне яе брата Хатабыча.

— Замоўкні, занядбаны отрак! Як пасмеў ты, паганец, лічыць майго роднага брата Гасана Абдурахмана ібн Хатаба персанажам нейкай там казкі? А ці ведаеш ты, невук, хто такі Сулейман ібн Дауд? Ды перад яго магутнасцю трапяталі ўсе ад аднаго краю Зямлі да другога. Ды я ператвару кожнага з вас, хто не давярае мне, у агрызак крэйды, якой будуць пісаць на платах усякую непрыстойшчыну!

Дырэктар школы збялеў і шаптануў настаўніцы:

— Хуценька патэлефануйце у Рэспубліканскую псіхіятрычную бальніцу, няхай тэрмінова прышлюць брыгаду санітараў.

Настаўніца пад шумок непрыкметна выслізнула з залы.

А ў зале ўжо не смех чуўся, а стаяў рогат.

Хатабка тым часам распаліла сябе канчаткова, адкінуўшы ўсе перасцярогі, якімі адгароджваў яе ад непрыемнасцяў Іван Паўлавіч:

— І калі я ператвару некага ў кавалачак крэйды ці смярдзючую швабру — лічыце гэта за шчасце, бо я магу пасадзіць вас у бутэльку, як зрабіў са мной і маімі братамі Сулейман ібн Дауд, і кінуць у самае гнілое балота. Літасць мая — бязмежная, але і гнеў — жахлівы! Асцерагайцеся гневу джынаў і карыстайцеся іх міласцю!

Пакуль Хатабкай уладарылі эмоцыі, прымчалася брыгада санітараў, якія непрыкметна зайшлі ў залу і даслухалі красамоўны дыялог будучай сваёй пацыенткі.

Затым жанчына ў белым халаце паднялася на сцэну і ласкава прапанавала старой:

— Ці не магла б шаноўная распавядальшчыца прайсці са мной? Ваш расказ настолькі праўдзівы і цікавы, што яго прагнуць паслухаць у нашай культурнай установе. У нас там вам выкажуць увагу і пашану!

Хатабка бліснула вачыма ў залу:

— Вось як трэба звяртацца да глыбокашаноўных старцаў! Вучыцеся, няўдзячныя! — і яна пакорна паклыпала за ветлівай незнаёмкай.

З залы пачуўся спужаны голас Валі:

— Бабулечка, не хадзі! Вярніся! — але настаўнікі хуценька выпхнулі дзяўчынку з залы.

Хатабку ветліва правялі праз службовы ўваход, дапамаглі ёй сесці ў санітарную машыну і павезлі ў тую ўстанову, якую Іван Паўлавіч назваў калісь «дрэнным домам».

Яе, у суправаджэнні двух санітараў, правялі па доўгаму калідору і, адчыніўшы дзверы, упусцілі ў прасторны светлы кабінет, у якім за сталом сядзела жанчына прыемнага выгляду.

— Вітаем вас, бабуля! Мы рады бачыць вас у нашай культурнай установе! — пачула Хатабка пявучы голас гаспадыні кабінета.— Сядайце, калі ласка, адпачніце з дарогі!

Хатабка з асалодай апусцілася ў мяккае крэсла.

— Настолькі ветлівы зварот да мяне напаўняе маю душу салодкім зачараваннем і пасяляе надзею на прыемнае знаходжанне пад гэтым гасцінным дахам.

Гаспадыня кабінета зноў жа ветліва працягвала:

— Упэўнена, што вам у нас спадабаецца, шаноўная бабуля... але спачатку мы павінны выказаць яшчэ большую павагу і зрабіць невялічкую працэдурку...

Хатабка напомніла:

— Але ж я чакаю сустрэчы з удзячнай аўдыторыяй, каб працягнуць свой расказ...

— Безумоўна! — усклікнула жанчына ў белым халаце,— Безумоўна! Адразу ж пасля працэдуркі павядзём вас у аўдыторыю!

— Я згодна на працэдурку! — горача адказала старая.

Да яе адразу ж падышлі два санітары, адзін з якіх падняў вышэй локця рукаў, а другі хуценька зрабіў нейкі ўкол у руку.

— Вой! Балюча! Я не хачу працэдурку! — запратэставала Хатабка.

— Усё, бабулечка, усё! Ужо не баліць! — супакоіла старую жанчына, яна ж і галоўны ўрач псіхбальніцы.— А зараз хадзем у аўдыторыю... Паціху... Не хвалюйцеся...

Хатабка хацела раззлавацца за такую бесцырымоннасць у адносінах да яе, але раптоўна адчула млявасць ва ўсім целе, захацелася спаць.

— А каму я буду распавядаць пра сваё мінулае жыццё?.. Дзе аўдыторыя... дзе мае джыны... Я... я...

Яна адчувала, што яе некуды вядуць, чула нейкія словы, штосьці казала сама, але было адчуванне, што гэта цяжкі сон. Перад ёй усплыў твар Івана Паўлавіча, яго жонкі, дзяцей... Яна паспрабавала пстрыкнуць пальцамі, каб вярнуцца да іх, але не было сіл, пальцы не слухаліся...

Галоўны ўрач гэтай спецыфічнай бальніцы, даведаўшыся, што старая мае цягу да ўсходніх казак,

распарадзілася ўладкаваць яе ў палату да «Васілісы Прамудрай», «Бабы-Ягі» і строга загадала:

— Першы тыдзень абавязкова давайце ўколы, якія нейтралізуюць буянства і агрэсію,— праз некалькі дзён звыкнецца з нашымі парадкамі і будзе паводзіць сябе спакойна без лекаў.

Знаходзячыся штодня ў паўсонным становішчы, Хатабка мірна суіснавала са сваімі суседкамі па палаце, хаця і насміхалася з іхніх казачных здольнасцяў і пагражала ператварыць іх у гумавую клізму альбо ў сасуд для прыбіральных адходаў.

Знаходзіліся і такія санітары ці санітаркі, якія цішком давалі Хатабцы кухталя за пагрозу ператварыць іх у туалетную анучку.

Іван Паўлавіч, пасля жахлівага паведамлення сваёй дачкі разрываўся паміж бальніцай, раённай адміністрацыяй і зноў бальніцай. Аказалася, што ў «дрэнны дом» людзі трапляюць лёгенька, а вось выходзяць з яго — з неверагоднай цяжкасцю. Яго ніхто і слухаць не хацеў, ды і аргумент іхні быў «жалезны»:

— Дзе вы чулі, каб здаровы чалавек называў сябе джынам?

Не мог жа Іван Паўлавіч сказаць ім, што старая — сапраўды вельмі магутны і вельмі добры джын. За такое сцвярджэнне яго б самога ўладкавалі ў суседнюю з Хатабкай палату.

А старая, як і меркавала галоўны ўрач, праз нейкі час канчаткова супакоілася, перастала называць сябе джынам і кідацца налева і направа пагрозамі. Улічваючы яе неагрэсіўнасць і «адэкватнасць», Хатабку пачалі рыхтаваць да выпісвання дамоў.

Шчаслівы Іван Паўлавіч прымчаўся на сваім УАЗе да ўвахода ў псіхбальніцу і ледзь не задушыў у абдымках Хатабку. Трэба сказаць, што і яна не стрымала слёз радасці ад сустрэчы.

Ужо ў машыне, вяртаючыся дамоў, Цвік распякаў старую:

— Я ж цябе папярэджваў, каб без майго дазволу не выходзіла за парог нашага дома. І не таму, што я такі дрэнны, а таму, што ты знаёма далёка не з усімі тонкасцямі нашага жыцця. А ў школе! Што выраблівала перад вучнямі? Сорам! Ганьба!

Хатабка «палезла ў пузыр»:

— А чаму яны, паганцы, кожнае маё слова высмейвалі? Я ім казала толькі праўду, а яны што? Зневажалі мяне і маіх братоў недаверам!

— Божухна! — застагнаў Іван Паўлавіч.— Ды твая праўда ў нас варочаецца супраць цябе! Я! Толькі я сёння здольны ўспрымаць тваю праўду! Дай час, патрывай, пакуль усе, ці хаця б многія, павераць табе, як веру я.

Хатабка памякчэла:

— Так, Ванечка, у школе мяне захлынулі пачуцці, я не стрымалася. Мне сорамна і перад вучнямі, і перад усімі вамі. Аднак мяне суцяшае тое, што я не дазволіла сабе ператварыць вучняў у што-небудзь непатрэбнае... А гэтых! — яна ўскіпела.— Гэтых з «дрэннага дома» я ўсіх ператвару ў каменную маставую, каб па іх калясілі машыны і твой УАЗ... Дарэчы, а чаму міма нас снуюць такія розныя і прыгожыя машыны, а ты трасешся на такім старым карыце? Якую ты жадаеш машыну? Паказвай!

Іван Паўлавіч рэзка затармазіў і спыніўся.

— Ты распачала такую размову, што немагчыма ехаць, баюся, што ляснуся ў слуп... Слухай, бабулечка, што я скажу, і запамінай: першае — я забараняю табе ператвараць медперсанал у каменную маставую, нават калі камяні будуць з золата. Калі хочаш неяк паўплываць на жыццё псіхбальніцы, дапамажы па-добраму і хворым, і персаналу. Зразумела?

— Не зусім... але падпарадкоўваюся.

Цвік рашуча працягваў:

— Другое: ніякай іншай машыны мне не трэба!

— Чаму?

— Таму што новая машына — гэта куча праблем і непрыемнасцяў: адкуль яна ўзялася? Як яе паставіць на баланс калгаса? Дзе ўзяў грошы? — і гэтак далей. І апошняе: надалей кожны свой крок узгадняй са мной, бо «дрэнных дамоў» у нас шмат.

## ВЯРТАННЕ Ў ДЗЯЦІНСТВА

У вольны ад працы час Іван Паўлавіч любіў пасядзець у пакоі Хатабкі і пабалабоніць з ёй на розныя тэмы. У асноўным гэта адбывалася па прынцыпу: пытанне — адказ. І ў гэтым не было нічога дзіўнага, бо Хатабка, апынуўшыся ў нашым часе, шмат чаго не разумела. Праўда яна, у адрозненне ад свайго брата Хатабыча, не кідалася ад машын, не замілоўвалася перад электрычнай лямпачкай і не называла самалёт калясніцай. У развіцці яна сапраўды перагнала свайго брата і, убачыўшы штосьці зусім для яе не знаёмае, не захаплялася ўголас, а прагнула сваім розумам дайсці да разумення.

Дык вось аднойчы, падчас чарговай бяседы, Хатабка спыталася:

— Скажы, галубок, пра што ў сваім жыцці больш за ўсё мараць людзі? Чаго яны больш за ўсё хочуць?.. Вось ты, напрыклад?..

Пытанне напаткала Івана Паўлавіча знянацку, нечакана. І хоць яно было, на першы погляд, просценькае, ён надоўга задумаўся...

— За ўсіх мне адказваць цяжка... Нехта, магчыма, хоча быць багатым, нехта больш за ўсё цэніць здароўе, многія гатовы ўсё адкінуць дзеля славы... Не, кожны павінен адказваць сам за сябе.

— А ты за сябе можаш?

— Я?.. Я, бадай, больш за ўсё хацеў бы вярнуцца ў маленства, да жывых сваіх бацькоў... Ды і то вярнуцца не назаўсёды, таму што моцна прывязаны сёння да сучаснасці, да родных людзей, да цікавых спраў... Думаю, што кожны дарослы, асабліва сталы чалавек, марыць аб гэтым, бо кожны дарослы бачыць сваё маленства ў сне. І ўвогуле, чым сталейшы чалавек, тым часцей у думках вяртаецца ў мінулае, а вось у будучыню зазірае неахвотна...

— Чаму? — здзівілася Хатабка.

— Ды таму, што чалавеку дадзена ўладарыць сваімі ўспамінамі, ён можа выбраць любое з мінулага і замілоўваць ці катаваць сябе ўспамінам. Як правіла, чалавек грэе сабе душу ўспамінамі пра маленства, скінуўшы з сябе цяжар нялёгкай рэчаіснасці... А чаму чалавек з неахвотай зазірае ў будучыню?.. Таму што будучыня непрадказальная і трывожная. А галоўнае — у будучыні ёсць канец... Я маю на ўвазе не канец для ўсяго свету, а для кожнага чалавека.

— Дык дзе ж яно, чалавечае шчасце: у мінулым, у сучасным, ці ў будучым? – дапытвалася Хатабка.

— Пра шчасце я ўвогуле гаварыць не хачу! Шчасце — гэта штосьці абстрактнае... Па-сапраўднаму шчаслівым здольна быць толькі малое дзіця, не абцяжаранае жыццёвымі стратамі і вялікай, падчас негатыўнай інфармацыяй. Малое дзіця нават не ўсведамляе, не разумее, што яно шчаслівае — яно радуецца кожнаму імгненню, кожнаму дню... Вось чаму людзі ахвотна вяртаюцца ў думках у сваё дзяцінства, нават галоднае...

Хатабка ўздыхнула:

— Ты, Ваня ібн Павел, быццам чытаў напісанае ў маёй душы...

Аднойчы Іван Паўлавіч прачнуўся не як звычайна ад надакучлівага будзільніка, заведзенага на пяць гадзін раніцы, а ад ласкавага голасу сваёй маці:

— Іваначка, сынок, уставай — у школку пара! Бацька ўжо пайшоў на працу, хутка і мне бегчы ў поле... Уставай, сынок,— бульба і малако на стале...

Іван Паўлавіч моўчкі ляжаў, наталяючы сэрца мацярынскім голасам.

Маці падышла да ложка і адкінула коўдру:

— Сынок, ты мяне затрымліваеш! Уставай!

Іван Паўлавіч скасавурыў уніз вочы, дзе павінны былі ляжаць яго доўгія ногі, сорак трэцяга памеру і ўздрыгнуў — замест напрацаваных яго ног ляжаў карантышок. Ён ускочыў і памацаў свае ногі, потым зірнуў на рукі — гэта былі маленькія дзіцячыя далоні... Няўжо гэта не сон? Не можа такога быць!.. Тут ён успомніў колішнюю размову з Хатабкай і ўсё зразумеў. Так. Гэта яна стварыла гэты цуд!

Яго апякла думка:

— Божа! А колькі ж мне год?

Іван Паўлавіч падбег да лавы, ускочыў на яе і зірнуў ў люстэрка. Люстэрка было невялічкае, таму ўдалося ўбачыць толькі бялявую галаву хлопчыка. Маці здзівілася з такіх паводзінаў сына:

— Што ты, сынок, як паненка, круцішся перад люстэркам? Памыйся і хуценька за стол.

— Мама, а колькі мне год? У якім я класе? — напружана спытаўся Іван Паўлавіч.

Яго маці, Таццяна Юр'еўна, спалохалася:

— Што з табой, Іваначка? Ці не захварэў ты?

— Мама! Я спытаўся — адкажы, калі ласка! — настойліва паўтарыў пытанне хлопчык.— Колькі мне год?

— Ты ў першым класе і табе сем год,— разгублена адказала маці.— Сёння роўна месяц, як ты пайшоў у школу.

Іван Паўлавіч з гаркатой адзначыў, што, вярнуўшыся ў дзяцінства, ён поўнасцю не выйшаў з дарослага жыцця,

разважае, як саракагадовы Іван Паўлавіч... Ён быў малы, а палёгкі яго душы гэта не несла.

Яго зноў апаліла думка: «Дык я ж у любы момант магу знікнуць з маленства, з гэтай хаты, ад мамы і зноў апынуцца ў сталым жыцці!.. Я магу адсюль знікнуць!»

Іван Паўлавіч падбег да маці, абхапіў яе калені і заліўся гарачымі слязьмі:

— Мама! Мамачка! Родная! — рыдаў ён.

Маці спужана сагнулася і ўзяла яго на рукі:

— Усё-такі ты захварэў! Што табе баліць, сынок?

Іван Паўлавіч моцна абхапіў мамчыну шыю, моцна прыціснуўся да яе шчакі, адчуваючы ад яе валасоў гаркаваты і такі салодкі пах пячнога дыму і яшчэ нечага забытага, але такога роднага.

— Мама, мамачка! Не хадзі сёння на працу! Пабудзь са мной! — прасіў Іван Паўлавіч, ведаючы, што гэта не паўторыцца ўжо ніколі.

— Не магу, сынок, застацца... З калгасам дрэнныя жарты. Восень, уборка кармавых буракоў... Запішуць мяне ў прагульшчыкі, каня не дадуць, а то і ўвогуле абрэжуць соткі... Калі прыхварэў, Іваначка, не хадзі ў школу, пабудзь дома...

Іван Паўлавіч сумна падумаў пра тое, што не намнога лепш і яго калгаснікам...

— А тата дзе сёння працуе? Я хачу убачыць тату!

— Бацька сёння аж у другой брыгадзе, там заканчваюць дамалот сцірты жыта!

— Ды яны што? — не стрымаў Іван Паўлавіч свой старшынскі запал.

— Не твайго розуму справа, сынок,— сказала маці, выходзячы з хаты,— ну, будзь за гаспадара!

Ледзь толькі зачыніліся за маці дзверы, Цвік хуценька апрануў штанцы, нейкі пінжачок і лупянуў на двор. Выбег і спыніўся. Яго вочы лашчылі паўзабытае наваколле, ён глядзеў, і яму здавалася, што на яго здзіўлена

пазіраюць вясковыя хаты, пахілыя платы, яго атуліла з усіх бакоў не заўважаная некалі чароўнасць маленькай радзімы.

Па вуліцы нетаропка прарыпелі запрэжаныя худым канём калёсы, па дварах запознена спявалі пеўні, недзе рыкала карова...

Зусім побач радасна скуголіў сабака. Іван Паўлавіч азірнуўся, і сэрца яго ёкнула: гэта ж Пушок!

— Пушок! Любы Пушок! — не стрымаўся Цвік і падхапіў на рукі свайго маленькага адданага сябра.— Мы ізноў убачыліся праз столькі год! Як я рады цябе бачыць, мой сябручок!

Пушок радасна біў хвастом на Цвіковых каленях і лізаў шчокі свайго маленькага гаспадара.

З вуліцы раптоўна пачулася:

— Гэй, Івашка-дурашка! Гайда ў школу!

Іван Паўлавіч уважліва пазіраў праз штыкеціны на вуліцу і з цяжкасцю пазнаваў абзывалу.

— Ну, дык ідзеш ці не? — данеслася з вуліцы.

— Не-е... Я захварэў,— адказаў Іван Паўлавіч, ліхаманкава ўспамінаючы: хто гэта? А-а, гэта ж Крывіцкі Сцяпан! Выдатнік! Падліза!

А гэты падліза адбегся і зноў крыкнуў:

— Івашка-дурашка!

Іван Паўлавіч патрос абразніку наўздагон кулачком і таксама крыкнуў:

— Сцёпа-недацёпа!

Наталіўшы вочы наваколлем, Іван Паўлавіч падаўся па вуліцы, спадзеючыся сустрэць знаёмых і ўбачыў на полі за канцавой хатай трактар і сеялку. Як вопытны гаспадарнік, ён зацікавіўся тэхнікай мінулага і накіраваўся туды.

Трактар быў дапатопны, адзін з першых «Беларусаў», сеялка па ўзросту не саступала трактару, да сеялкі былі прычэплены бароны.

Каля гэтай немудрагелістай тэхнікі сядзелі і курылі двое мужчын, відаць, трактарыст і сеяльшчык, якіх Іван Паўлавіч, вядома ж, не пазнаў.

— Здарова, мужыкі! — прывітаўся Цвік.

— Здароў, малец!.. А чаму не ў школе?

— Захварэў я...

— Захварэў, а блытаешся тут... А чым захварэў, дурнотай ці лянотай? — спытаўся адзін з курыльшчыкаў.

Іван Паўлавіч не ведаў, якую хваробу назваць, таму сам спытаўся:

— А чым гэта вы займаецеся?

— Павылазілі ці што? Азімыя сеем!

Другі курыльшчык улез у размову:

— Каму ты робіш справаздачу! Пашлі ты яго!..

У Іване Паўлавічы прачнуўся старшыня калгаса:

— Ды вы з глузду з'ехалі! Хто ж у такую пару сее азімыя?

Адзін з мужчын мацюкнуўся:

— Ёксель-моксель! Брыгадзір знайшоўся! Прэч адсюль, кузурка!

— Вы нішчыце зерне! Спыніце сеў! — не здаваўся Цвік.

Трактарыст выхапіў з трактара манціроўку і кінуўся да хлопчыка:

— Ногі пераламлю, смаркач!

Іван Паўлавіч забыўся, што ён старшыня калгаса, і драпануў, аж пыл за ім закурэў.

— А чый гэта шкет? — спытаўся трактарыст у сеяльшчыка.

— Гэта Цвікоў маленькі цвічок! Шустры, як Леніна бацінак.

А Іван Паўлавіч вярнуўся ў вёску і спытаўся ў нейкай жанчыны, дзе сёння выбіраюць кармавыя буракі.

— Ву-унь, дзетачка, за тым пагоркам поле...

Цвік подбегам падаўся ў тым напрамку і за пагоркам убачыў жанчын, якія, не разгінаючыся, хапалі рукамі бацвінне, выцягвалі з зямлі вялікія буракі і кідалі іх у кучы.

«Колькі прайшло часу,— падумаў Іван Паўлавіч,— а і ў маім калгасе жанкі выбіраюць буракі ўручную... Пякельная праца...»

Ён так пранікнуўся спачуваннем да жанчын, што старшынства перапоўніла яго і ён зычна прывітаўся:

— Здарова, бабанькі! Усё рачкуеце? Ды хрэн на гэтыя буракі — адпачніце!

Жанчыны выпрасталі спіны і здзівіліся:

— А чый гэта зяблік такі?

Таццяна Юр’еўна пляснула рукамі:

— Божа, літасцівы! Гэта ж мой Іваначка!..

— Гэта ў твайго, Таццяна, гэткі востры язычок?

Таццяна Юр’еўна схапіла сына на рукі:

— Сынок, ты ж хворы! Чаго ты тут?..

Апынуўшыся ў маці на руках, Іван Паўлавіч успомніў, што сёння ён не старшыня калгаса, і павініўся:

— Мамачка, я больш не буду...

Вечарам вярнуўся з працы стомлены бацька.

Таццяна Юр’еўна паставіла на стол няхітрую вячэру: бульбу, сала, агуркі.

Іван Паўлавіч уважліва глядзеў на роднага тату, якога ўжо няма сярод жывых, і які зараз паспешна, як чалавек дужа галодны, амаль не жуючы, глытаў усё, што падсоўвала да яго маці.

«Які ён малады! — думаў, гледзячы на яго Іван Паўлавіч.— А тады мне здаваўся такім старым... І гэтай худзізны я тады не заўважаў, і гэтых, не па гадах, патухлых вачэй... Шмат чаго не заўважаюць дзеці, нават даволі дарослыя... І толькі пасталеўшы і дасягнуўшы бацькоўскага веку, гаркотна думаюць: які я быў сляпы!..»

Разважанні Івана Паўлавіча перарваў бацька, відаць, наталіўшы голад:

— Разумееш, Таня, мы так і не дамалацілі сцірту — снапы перапляліся, зблыталіся, хоць зубамі рві. Ды і падсырэлі зверху, падпрэлі, забіваюць, як корак, барабан у камбайна — ні туды, ні сюды... Хай бы іх немач!

— А хто ж складвае жыта ў сцірты? — не стрымаўся Іван Паўлавіч.— Снапы, сам сказаў, сырэюць, прэюць — які ж будзе вымалат?

— Ты чуеш, маці? — засмяяўся Павел Захаравіч, бацька малога Цвіка.— Вось што робіць школа! Месяц правучыўся, а разважае па-гаспадарску.

Іван Паўлавіч. Пачуўшы пахвалу ад бацькі, натхніўся:

— Тата, сціртаванне жыта — гэта дзедаўскі метад! А чаму адразу камбайнамі не ўбіраць з поля, ды ў жніўні, а не ў кастрычніку? Гэта ж і казе зразумела!

— Ты, Іванчык, разважаеш, як акадэмік сельскай гаспадаркі. Але твая каза не ведае, што ў нас на некалькі брыгад адзін камбайн, ды і той «храмы». Вось мы і выбіраем... Дакладней, у нас няма выбару — каб хоць неяк ратаваць хлеб, мы яго і сціртуем, а ўжо пазней камбайн курсіруе — ад брыгады да брыгады, ад сцірты да сцірты. Некалі, сынок, спатрэбяцца і твае парады, але тады, як тэхнікі прыбудзе...

Маці падтрымала бацьку:

— Адкуль у цябе, сынок, такія недзіцячыя развагі? Слоў розных ад некага нахапаўся...

Бацька падтрымаў сына:

— Сын пайшоў у першы клас! Навука! Разумець трэба!

Потым бацька ўзяў Івана Паўлавіча на рукі і зазірнуў яму ў вочы:

— А ты, сынок, і сапраўды разважаеш па-даросламу ды па-разумнаму! Пабачым, што з цябе будзе, як пойдзеш у дзесяты клас... ну, абдымі тату — і дабранач!..

Раніцай Іван Паўлавіч прачнуўся ад звяглівага званка будзільніка і ўспомніў свой дзівосны сон. «А я думаў, што

Хатабка сапраўды вярнула мяне ў маленства, а гэта быў толькі сон...»

Аднак у праўленні калгаса яго здзівілі падначаленыя:

— Учора мы цэлы дзень нідзе не маглі вас знайсці — вунь, цэлы стос накладных на подпіс...

Вечарам вярнулася з працы жонка і накінулася на Івана Паўлавіча:

— Раніцай, перад дзецьмі, не хацела ўздымаць лямант. Дзе ты быў мінулую ноч?

— У камандзіроўцы! — схлусіў Цвік і накіраваўся да Хатабкі.

— Ты?! Ты пстрыкнула сваімі пальцамі? Сазнавайся!

Хатабка вінавата апусціла галаву.

Іван Паўлавіч абняў яе і пяшчотна сказаў:

— Дзякуй табе, родная! Мая самая запаветная мара збылася! Ты яе здзейсніла, Хатабачка!

## РАСКРЫТАЯ ТАЙНА

У прыёмнай міністра сельскай гаспадаркі было поўна людзей. Кожны імкнуўся патрапіць да міністра са сваёй просьбай, праблемай, прапановай. Знаходзіліся і такія, а іх была большасць, хто абіваў высокі парог, каб быць на слыху ды на вачах у шэфа. Усе былі напружаныя, усхваляваныя, з пячаццю ўрачыстасці на твары. У паветры мітусілася пытанне:

— У якім настроі сёння Іван Паўлавіч?

— У працоўным! — суха адказвала сакратарка, якая сваім важным выглядам не саступала міністру.

Праз хвіліну ёй зноў даводзілася суха адказваць:

— У рабочым настроі Іван Паўлавіч!

Да міністра на прыём запісваліся загадзя, таму яна, сакратарка Люба, глядзела ў спіс і пыталася:

— Хто Субоцін?.. Хто Ляшкевіч?.. Хто Смычкоў?..— Заходзьце!

Паступова прыёмная аслабанялася, і Люба чарговы раз спыталася:

— Хто Кувалдзін? Вы? Заходзьце!

Названы наведвальнік нервовай хадой зайшоў у кабінет.

— Здрасце, Іван Паўлавіч! Даруйце, што меў нахабства марнаваць ваш каштоўны час.. мне вельмі...

— Вы праходзьце і сядайце! — мякка, але ўладарна запрасіў Цвік.

Кувалдзін подбегам адолеў адлегласць ад дзвярэй да стала і нерашуча прыткнуўся на крайчык крэсла.

— Слухаю вас! — адарваў вочы ад нейкай паперы міністр і зірнуў на наведвальніка:

— Га-а! Знаёмыя ўсё твары! Мы з вамі, памятаю, недзе сустракаліся!

— Так, так, Іван Паўлавіч... Я — старшыня калгасу «Светлы шлях».

— Як жа, памятаю! Некалі ён называўся «Ветлы шлях».

— Так, так... Але я ўсталяваў на месца літару «С»...

— І што? Пасвятлела ў калгасе?

— Пакуль не, Іван Паўлавіч.

— Вось бачыце, справа, аказваецца, не ў назве,— усміхнуўся Цвік і з сарказмам спытаўся: — Ну, а ананасы вырошчваеце?

— О, не! У свой час я на іх і спёкся! Як быў старшынёй райвыканкама, абавязаў усе гаспадаркі раёна перайсці на вырошчванне ананасаў... А якія могуць быць у Беларусі ананасы? Гэта толькі вы адзін прыручылі гэты фрукт...

— Ананас — ягада, а не фрукт! — удакладніў Цвік.— Прытым ягада, якая адных ператварае са старшыні

калгаса ў міністра, а другіх — са старшыні райвыканкама ў старшыню калгаса... Загадкавая гэта ягадка!

Раптоўна Кувалдзін паважна адкінуўся на спінку крэсла і ператварыўся ў былога самаўпэўненага тырана:

— А я, паважаны Іван Паўлавіч, раскрыў сакрэт вашай загадкавай ягады! З гэтым да вас і з'явіўся!

Цвік, памятаючы жахлівасць характару Кувалдзіна, спытаў:

— Што гэта значыць? Якую тайну?

— А тое, што мне вядома ўсё пра ваш фантастычны службовы рост! Усё-ё!

— Што ўсё? — занепакоіўся Іван Паўлавіч.

— Ну, напрыклад, вядома мне пра нейкую бабулю, якую ў яе далёкім-далёкім часе назвалі Хатабкай...

У Цвіка пацямнела ў вачах, усё перад ім паплыло — і Кувалдзін, і мэбля...

А Кувалдзін тым часам з асалодай назіраў за эфектам, які выклікалі яго словы.

— Адкуль? Адкуль вам вядома? — прастагнаў Цвік...

Кувалдзін самазадаволена рассмяяўся і закінуў нагу на нагу:

— Гэта ўжо пачатак дзелавой размовы двух роўных субяседнікаў. Думаю — мы дамовімся...

Іван Паўлавіч зняў тэлефонную трубку і загадаў:

— Люба! Сёння больш нікога прымаць не буду! Я заняты!

— Гэта ўжо зусім па-дзелавому! — са здзекам заўважыў Кувалдзін.

Цвік зноў задаў пакутлівае пытанне:

— Дык хто вам сказаў пра Хатабку? Акрамя мяне ніхто аб ёй не ведае!

— Ведае! Свет вялікі, і ён, аказваецца, цесны!.. Вам, Іван Паўлавіч, спадзяюся, вядома казка пра старога Хатабыча?

— Гэта не казка! — вырвалася ў Цвіка.

— Цяпер і я ведаю, што гэта — не казка!.. Дык вось, у той казцы-неказцы ўпамінаецца брат Хатабыча — Амар Юсуф ібн Хатаб. Памятаеце?

— Памятаю,— згадзіўся Іван Паўлавіч,— але ён быццам бы згубіўся недзе ў глыбінях космасу...

— Мана! — ускочыў Кувалдзін,— дэзінфармацыя старога Хатаба. Піянер Волька, магчыма і знайшоў медны сасуд з Амарам, і аслабаніў яго, але Амар Юсуф не знікаў з Зямлі і не паляцеў на Месяц...

— Нейкая блытаніна... — завагаўся Іван Паўлавіч.— А дзе ж ён дзеўся?

Кувалдзін распаліўся:

— Стары Хатабыч, ведаючы неўраўнаважаны нораў свайго брата і жадаючы застацца на Зямлі адзіным магутным джынам, завабіў Амара зноў у медны сасуд і кінуў яго ў ваду.

— Ну, цяпер ужо я ўсклікну: мана! Дзе доказы?

Кувалдзін нахіліўся да самага твару Цвіка:

— А даказваецца гэта вельмі просценька!

— Якім чынам? — не здаваўся Іван Паўлавіч.

— А такім, што рыбку я лаўлю ў Нёмане сеткай... Сетачкай...

— Браканьерыце! — удакладніў Цвік.

— Няхай сабе і так... Дык вось, лаўлю я рыбку на лукавіне ля Старога Броду і... як той стары з казкі: закінуў невад першы раз — пуста, закінуў другі раз — прыйшоў невад з цінаю рачною, закінуў трэці раз і выцягнуў не залатую рыбку, а штосьці пафацэтней...

— І што гэта было? — зацікавіўся Іван Паўлавіч.

— І што б вы думалі я выцягнуў?.. Старадаўні медны сасуд... Я яго, вядома ж, раскаркаваў і...

— І што?!

— Гісторыя паўтараецца!.. Як і з вашай бутэлькі некалі, паваліў дым і набыў абрыс чалавека... Не скажу, што

абрыс меў прыемны выгляд, але ён бухнуўся перада мной на калені і назваў сябе:

— Я ёсць Амар Юсуф ібн Хатаб! Загадвай, мой збавіцель!.. Ну, як?..

Цвік хапаўся за саломіну:

— Як гэта можа быць? Па-вашаму, стары Хатабыч кінуў свайго брата недзе на Ладазе... Дзе тая Ладага, а дзе Нёман? Яны ж не злучаюцца між сабою!

Кувалдзін і тут знайшоў тлумачэнне:

— Колькі год... дакладней, колькі тысячагоддзяў мінула з таго часу? Рэчкі мянялі свае рэчышчы, накірункі, вада мянялася з сушай месцамі... Усё ў гэтым свеце ўзаемазвязана, як, дарэчы, і мы з вамі цяпер... Але самае цікавае тое, што я выпадкова знайшоў на тым вашым бульбянішчы старадаўнюю пустую бутэльку, якую Амар Юсуф адразу пазнаў і запэўніў:

— У гэтай турме праседзела доўгі час і, магчыма, састарэла мая сястра Хатабка...

— Тады я ўспомніў як ты... — Кувалдзін перайшоў на ты,— некалі наладзіў экскурсію для нейкай старой па калгасных палёх, як потым гэтыя палі нечакана разрадзіліся ананасамі ды гіганцкім жытам, як пацяклі з тваіх фермаў малочныя рэчкі і, самае галоўнае, я зразумеў, як ты ўскочыў у гэта міністэрскае крэсла, о мой ганебны отрак! Ха-ха-ха!

Уражаны Іван Паўлавіч не знаходзіў слоў... Затым стомлена выціснуў:

— Што вы ад мяне хочаце?

— Самую дробязь! Твой аўтарытэт настолькі заоблачны, што ні сёння-заўтра цябе ўзнясуць у прэм’еры. Тваё слова — закон, вось і замові за мяне слова...

— Як гэта? — не зразумеў Цвік,— назваць твой адсталы калгас перадавым? Гэта — немагчыма! Гэта будзе відавочная мана. А што яшчэ?

— Што яшчэ?.. Ты — у прэм’еры, я — у тваё крэсла! І ніякіх Хатабак не існуе! Я пра ўсё забудуся!

Іван Паўлавіч ледзь стрымліваў сябе, каб не штурхануць у каршэль нахабніка, але спярша трэба было параіцца з Хатабкай і выйграць час. Свае козыры ён яшчэ паспее раскрыць!

— Добра, я падумаю,— устаў з-за стала Іван Паўлавіч і развітаўся з Кувалдзіным.

## СТАРАЯ-НОВАЯ ЖОНКА

Іван Паўлавіч вяртаўся дамоў з працы ў службовай машыне і ў думках дакараў сябе: «Кепскі я муж, дрэнны я бацька... Кожны дзень ад цямна да цямна — то міністэрства, то камандзіроўкі... Жонка заўчасна старэе, дзеці непрыкметна для мяне сталеюць: хутка сустрэну іх на вуліцы і не пазнаю. Трэба больш удзяляць ім увагі...»

Іван Паўлавіч загадаў шаферу крутнуць да кветкавага магазіна, дзе купіў вялікі букет любімых Соніных белых руж. Узняўшыся на ліфце да сваёй кватэры, вырашыў не званіць у дзверы, а, каб не сапсаваць сюрпрыз, ціхенька адчыніў іх сваімі ключамі. Гэтак жа ціхенька разуўся і на дыбачках зазірнуў у кухню, дзе часцей за ўсё можна было бачыць жонку. Там яе не аказалася.

Іван Паўлавіч пачуў гук уключанага тэлевізара і зазірнуў у залу. Соні і там не было, затое на канапе паўляжала, адкінуўшыся на падушку, незнаёмая маладая жанчына. Ніжнія гузікі халата былі расшпілены і дазволілі прыгожым нагам прадэманстраваць усю іх стройнасць і спакусу. Крыху міндалепадобныя, раскосыя вочы і сінявата-чорныя валасы, раскіданыя па падушцы, сведчылі, што гэта чароўная незнаёмка неславянскай крыві. Яе ярка-пунцовыя вусны дапаўнялі і падкрэслівалі гэту прыгажосць.

Іван Паўлавіч разгубіўся, памкнуўся гукнуць Соню, але палічыў, што ў адносінах да незнаёмкі праявіць няветлівасць, не прывітаўшыся з ёю. Таму ён, каб не спалохаць прыгажуню, ціхенька кашлянуў і напаўголаса прывітаўся:

— Вітаю Вас... прабачце, не ведаю, хто Вы і як Вас зваць...

Жанчына радасна ўскочыла з канапы:

— А-а, Ваня! А я прыйшла з працы — цябе няма, дзяцей няма, бабуля Хана зачынілася ў сябе, я і прылягла... Во-ой! Ды ты з кветкамі! Гэта мне? — і незнаёмка працягнула рукі да руж.

Іван Паўлавіч машынальна адсунуў букет ад незнаёмкі і зрабіў крок назад.

— Хто Вы?.. Як трапілі ў кватэру?.. А дзе Соня?..

— Якая яшчэ Соня табе трэба? Ты захварэў, Ваня? Давай кветкі і хуценька на кухню!

Іван Паўлавіч не разумеў, што адбываецца.

— Хто Вы? Калі Вы прыехалі да нас у госці, давайце будзем знаёміцца... Я — Іван Паўлавіч,— і працягнуў руку незнаёмцы, але зараз ужо яна адхапіла сваю руку.

— Хопіць называць мяне на Вы! Твой жарт зацягнуўся! Марш на кухню!

Іван Паўлавіч хацеў далей высвятляць адносіны з незнаёмкай, але хтосьці пазваніў у дзверы.

— А вось і дзеці са школы! — весела крутнулася да дзвярэй прыгажуня. Яна адчыніла дзверы, і на парозе паказаўся Вася.

— Заходзь, сынок! — запрасіла незнаёмка.

Вася ўбачыў у калідоры тату, хуценька праслізнуў да яго і ціхенька спытаўся:

— Тата, а хто гэтая цёця, і чаму яна назвала мяне сынком?

— Здрасце! — усклікнула «цёця».— Цырк працягваецца! Сын пытаецца, хто такая яго мама! — яна

павярнулася да сына: — Васілёк, ты жартуеш? Ты падыгрываеш тату? Сёння ж не першае красавіка!

Бацька і сын у адзін голас усклікнулі:

— Мы не жартуем!

— Падурнелі ўсе! — абурылася незнаёмка.— Я што, за дзень так змянілася? Дзе люстэрка? — і яна рашуча накіравалася ў спальню да трумо.

На крыкі са свайго пакоя выкульгала Хатабка, але ў гэты час са спальні пачуўся душараздзіральны лямант. Усе кінуліся туды і ўбачылі на падлозе перад трумо беспрытомную чароўную незнаёмку.

— Я выклікаю «хуткую дапамогу»! — кінуўся да тэлефона Іван Паўлавіч, але старая яго спыніла:

— Не трэба, галубок, ніякай дапамогі! Супакойся!.. Ідзі, праўнучак, да сябе, а мы тут разбярэмся.

Калі Вася пайшоў да сябе, Хатабка сказала:

— Гэта ніякая ні госця. Гэта — твая Соня! Соф'я Сцяпанаўна.

Іван Паўлавіч абурыўся:

— Ты што?! Мяне дурнем робіш, але і сама здурнела! Якая гэта Соня? Гэта ж нейкая Шахеразада!

Хатабка вярнула Цвіка ў недалёкае мінулае:

— А памятаеш, галубок, ты казаў, што прыгажосць і свежасць тваёй жонкі паліняла, патухла... Вось я і асвяжыла, і ўпрыгожыла тваю Соню. Няўжо няўдала?

Іван Паўлавіч аслупянеў ад пачутага, затым схапіў за плечы старую і страсянуў:

— Ды ты што? Каму патрэбна гэта экзотыка? Вярні зараз жа мне Соню! Вярні, бо я з цябе душу вытрасу!

— Табе не дагадзіць,— сумна выдыхнула Хатабка і хацела пстрыкнуць пальцамі, але Цвік сціснуў ёй руку:

— Пачакай пстрыкаць! Зрабі так, каб яна вярнулася ў сваім былым абліччы і каб успрымалі яна і Вася ўсё, што адбылося, як звычайны сон! Чуеш?

— Падпарадкоўваюся... Э-эх. Ад такой прыгажосці адмаўляешся... Сапсаваны ў цябе густ, Ваня ібн Павел,— і старая шчоўкнула пальцамі...

За вячэрай, як звычайна, усе сядзелі за агульным сталом, абменьваліся навінамі, жартавалі.

Нечакана Вася з захапленнем, весела загаманіў:

— Вой, чуць не забыўся! Які дзівосны сон я бачыў мінулай ноччу! Быццам мяне са школы сустрэла дома не мама, а нейкая незнаёмая цёця, як дзве кроплі вады падобная на мульцяшку з «Тысяча і адной ночы»! Але самае цікавае ў тым, што яна называла мяне сынком. Во дзіва!

— Сапраўды дзіва! — азвалася Соф'я Сцяпанаўна,— ніколі не думала, што розным людзям можа прысніцца адзін і той жа сон... А ў тваім сне, сынок, тая цёця не падала перад трумо?

— Падала, мамачка! — цяпер ужо здзівіўся Вася.

Іван Паўлавіч з Хатабкай хітра пераглянуліся і прамовілі:

— А вось нам дык нічога не снілася...

## АТЭСТАЦЫЯ

Як вядома, кадравыя пытанні самыя складаныя і важныя. Вырашэнне гэтых пытанняў закранае лёсы людзей. Але ёсць адно, самае галоўнае патрабаванне да кожнага — прафесіяналізм. Не на апошнім месцы і маральны ўзровень чалавека.

Усё гэта і шмат іншых, другасных нюансаў, пры правільным іх раскладзе, пацвярджае вядомае — «кадры вырашаюць усё!»

Вось чаму Іван Паўлавіч моцна задумаўся пасля таго, як яго першы намеснік пайшоў на пенсію. Ён, можна сказаць, застаўся без «правай рукі».

І чым мацней задумваўся Цвік, тым больш заблытвалася кола патэнцыяльных прэтэндэнтаў.

Іван Паўлавіч вырашыў скарыстаць правераны метад — звярнуцца за дапамогай да Хатабкі. Яна бачыць кожнага наскрозь, чытае думкі кожнага, каму, як ні ёй, зрабіць беспамылковую падказку?

Аднак старая адмовілася ўдзельнічаць у гэтым:

— Прабач Ваня ібн Павел за адмову! Чалавечая душа — поцемкі. Сёння ён думае адно — заўтра другое. Лепш я дам табе параду, як выбраць самага лепшага.

— І што я павінен зрабіць?

— Памерці!

— Памерці? — жахнуўся Іван Паўлавіч.— Вось дзякуй, дык дзякуй, Хатабачка! А на якога д'ябла мне на тым свеце намеснік?

Старая, відаць, чакала такой рэакцыі, таму зарагатала:

— Безумоўна, не па-сапраўднаму памерці. Жыві, Ваня, тысячу гадоў.

— Можаш больш ясна выказаць сваю думку?

— Калі ласка! — адказала Хатабка,— Ты ў сваім кабінеце зрабі выгляд, што табе дрэнна, схапіся за сэрца і заціхні — «памры». Заціхні і чакай.

— І чаго я дачакаюся? Пакуль мяне не вынесуць уперад нагамі і закапаюць?

— Ты даслухай і не кіпяціся! — працягвала старая.— Галоўную ролю ў гэтым спектаклі павінна сыграць твая сакратарка, калі яна чалавек надзейны.

— Надзейная!

— Дык вось, падрыхтуй спіс кандыдатаў на пасаду і няхай сакратарка па чарзе выклікае іх... Ну, напрыклад: усхвалявана тэлефануе першаму: «Ах якое гора — міністру зрабілася дрэнна ў кабінеце і ён толькі што памёр за сваім рабочым сталом... Вам я тэлефаную першаму, пакуль не прыехалі дактары... Прыйдзіце, праверце, ці ляжаць на стале сакрэтныя паперы і заадно развітаецеся

з нябожчыкам...» Вось прыкладна такое няхай паведамляе кожнаму з гэтага спіса. Першая рэакцыя людзей — самая шчырая. Потым, пры пахаванні, кожны ўзважвае, што яму выгадна сказаць, а што не...

Іван Паўлавіч разгубіўся:

— Ну і параду ты мне дала, Хатабачка! Гэта ж — цэлы спектакль! А які з мяне артыст?

— Ва ўсе часы такім метадам мужы правяралі сваіх жонак, правіцелі — сваіх пераемнікаў, багатыя бацькі — сваіх дзяцей і спадкаемцаў... Твае падначаленыя як на талерачцы паднясуць табе сваю душу.

Цвік здаўся:

— Спадзяюся, ты ведаеш, чаму мяне вучыш.

На наступны дзень Іван Паўлавіч выклікаў да сябе сакратарку Любу і, як вучыла Хатабка, дэталёва абмеркаваў з ёю будучы «спектакль».

Перад самым дзействам Цвік прайшоўся па кабінеце і выбраў сабе месца за часопісным столікам, у самым куце кабінета, адкуль можна было, паклаўшы рукі на галаву, употай назіраць за ўсім, што будзе адбывацца.

Цвік патэлефанаваў Любе і даў дазвол на пачатак «атэстацыі». Паклаўшы галаву на рукі і заплюшчыўшы вочы, падумаў: — «Толькі б не чхнуць!..»

Першым баязліва ўвайшоў у кабінет начальнік управлення капітальнага будаўніцтва Ласкуцін.

Іван Паўлавіч пачуў яго набліжэнне і сцішыў дыханне. Ласкуцін закурыў, чаго ніколі раней не дазваляў сабе ў кабінеце міністра, шумна зацягнуўся, выдыхнуў і праспяваў:

— Не доўга музыка іграла, не доўга танчыў фраер наш...

Затым прайшоўся па кабінеце, падышоў да стала, пашапацеў нейкімі паперамі і, да здзіўлення Івана Паўлавіча, выйшаў.

Сакратарка таксама здзівілася:

— Вы так хутка?

— А што мне там рабіць? — нядбайна адказаў Ласкуцін.— З нябожчыкам сумна весці размову...

Люба карцінна скрывіла вусны:

— Шкада яго...

— Усе там будзем,— ізноў нядбайна адказаў «першы нумар» і пайшоў прэч.

Наступнаму Люба патэлефанавала начальніку фінансава-планавага ўпраўлення Валянтовічу. Той хуценька прымчаўся ў прыёмную і ўсхвалявана спытаў:

— «Хуткую» выклікала?

— Дарэмна, ён ужо халодны...

— Ды як жа ты магла! А што, калі яго яшчэ можна выратаваць! — потым схапіў тэлефон: — Я сам!

— Ды выклікала я «хуткую», выклікала! — схлусіла Люба.— Вы лепш зайдзіце ў кабінет і, пакуль няма дактароў, развітайцеся з ім...

— Чаго я пайду? Чым я дапамагу? — і раптам кінуўся да ўваходу ў кабінет: — А раптам ён яшчэ жывы! А раптам ёсць пульс! Я праверу!

Цяпер ужо Люба кінулася да тых жа дзвярэй і закрыла сабой уваход:

— Не трэба пульс!.. Я сама правярала... Няма пульсу... не будзем лішні раз непакоіць нябожчыка...

Адпіхнуўшы ад дзвярэй Валянтовіча, Люба папрасіла яго:

— Вы пакуль нікому не паведамляйце... Няхай дактары ўсё афармяць, бо набягуць сюды і спачувальнікі, і зявакі...

— Ці ж гэта радасная вестка, каб пра яе раззвоньваць? — сумна сказаў Валянтовіч і ўжо на выхадзе дадаў: — Цудоўны быў чалавек, надзейны кіраўнік — царства яму нябеснае!..

Люба забегла ў кабінет да «нябожчыка» і ў двух словах выклала Івану Паўлавічу паводзіны і словы Валянтовіча, ад чаго Цвік пасвятлеў:

— Ёсць жа сапраўдныя людзі! А Ласкуцін сухар, але не падлюга...

Трэцім у кабінет дзелавіта ўвайшоў Туркін, начальнік упраўлення гандлю. Іван Паўлавіч пачуў, як ён са смакам ляснуў далонямі і пацёр іх адна аб адну, як чалавек, які убачыў шыкоўны стол з закуссю і пітвом. Затым закурнявіў нейкую мелодыю і плюхнуўся ў міністэрскае крэсла.

Іван Паўлавіч асцярожна прырасплюшчыў вочы і з цікавасцю назіраў за галоўным гандляром.

Той бесцырымонна перагледзеў усе шуфляды стала і адкінуўся на спінку крэсла, паклаўшы на край стала ногі. Нейкі час ён прасядзеў у такой «амерыканскай» позе, затым зняў тэлефонную трубку і прыклаў яе да вуха, «гуляючы ў міністра»:

— Слухаю! Так, міністр Туркін ля тэлефона! Так, прышліце мне мой асабісты самалёт... Вы пытаецеся, а дзе Цвік? Ах, Цвік! Быў такі ў мяне на пасылках... А цяпер? Куды дзяваюцца цвікі? Іх забіваюць у века дамавіны — вось і наш Цвік ужо ў дамавіне... Засталося вынесці, як смецце...

Іван Паўлавіч не вытрымаў і ўскочыў, як сталёвая спружына:

— Вон адсюль, нягоднік! Во-о-он!

Туркін выпусціў тэлефонную трубку, перакуліў крэсла і ледзь не лбом вынес дзверы кабінета з дзікім крыкам:

— Ажыў! Ажыў!

Люба, з перапуду ўскочыла на стол і залямантавала:

— Што здарылася? Хто ажыў?

— Нябожчык ажыў! — ужо ў калідоры чуўся крык Туркіна.— Ратуйцеся!

У прыёмную са свайго кабінета ўскочыў раз’юшаны Іван Паўлавіч, трымаючыся за сэрца:

— Бачыў свалату, але такую — ніколі!

# ПАЛЁТ НАД МІНСКАМ

Бабка Хатабка прыжылася, асвоілася ў сям'і Івана Паўлавіча. Дзеці прывязаліся да яе, палюбілі, як родную, ды і сама старая аддавала ім усю сваю душу. Расказы старой пра часы яе далёкай маладосці дзеці ўспрымалі як бабчыны казкі, не падазраючы, што слухаюць сапраўдныя гісторыі.

Адносіны ж Соф'і Сцяпанаўны з ёю складаліся не так бязвоблачна. Дзіўнай здавалася яна гаспадыні дома, насцярожвалі манера старой выказвацца, манера апранацца, Соф'я Сцяпанаўна выказвала свае думкі мужу:

— Дзіўная нейкая твая бабуля, Ваня. Часцяком у сваім пакоі сама сабе нешта кажа, успамінае нейкіх Сулейманаў, Абдурахманаў, Даудаў... Хто гэтыя людзі? Ці ж была ў цябе такая радня?.. А потым гэта слова «джын»... Яна яго не выпускае з роту...

Іван Паўлавіч супакоіў жонку:

— Сонечка! Яна — стары чалавек. Старыя людзі — прыхільнікі размоў з сабой... А Сулейманы, джыны — гэта ж казачныя героі. Бабуля і дзецям часта распавядае пра іх.

Аднойчы бабка Хатабка, пасля таго, як дзеці выканалі свае ўрокі, села з імі на канапу і спыталася:

— Ну, якія пажаданні ў маіх праўнучкаў?

— Ты так цікава расказваеш свае казкі,— пачала Валя, што часам здаецца, быццам ты сама жыла ў тых казках.

— О, мае праўнучаткі, магчыма, і жыла! — загадкава выказалася старая.— Людзі майго веку шмат дзе паспелі пабыць... Але на чым мы ўчора спыніліся?

— На дыване-самалёце! — у адзін голас напомнілі дзеці.— Як адзін джын ляцеў на дыване-самалёце, трапіў пад дождж і зваліўся на галаву самому султану...

— Успомніла! — ажывілася старая.— Так, мае родныя, дыван быў даволі ненадзейным лятальным сродкам. Ён і макрэчы баяўся, і моль яго праядала, тады ён губляў і хуткасць, і вышыню, а то і зусім валіўся ўніз.

— А на чым яшчэ лěталі джыны? — пацікавіўся Вася.— Мы ні пра што іншае, як пра дыван, нічога не чыталі і не чулі. Праўда, у нашых казках баба-Яга лётала ў ступе і на веніку.

— Куды вашай Язе да нас, джынаў! — запалілася Хатабка і прыкусіла язык.

Дзеці рассмяяліся:

— Бабуля Хана, вы зараз так сказалі, быццам і вы джын.

— Гэта, праўнучаткі, у нас сёння такая гульня ў джынаў,— выкруцілася старая, а потым крыху падумала і прапанавала: — А хочаце, сакаляткі, мы зараз паляцім на гэтай канапе?

— Вы, бабуля, лічыце нас за зусім маленькіх! — пакрыўдзіўся Вася.— Канапы не лётаюць нават у казках.

— Ну, тады трымайцеся! Галоўнае не дужа нахіляйцеся наперад, каб не выкуліцца! — старая непрыкметна пстрыкнула пальцамі.

Адразу ж знік Васеў пакой і дом, у якім яны жывуць, а пад імі, недзе ўнізе, было бачна, як распластаўся нейкі вялізны горад.

— Гэта ж наш Мінск! — у адзін голас закрычалі ўзрушаныя дзеці.

Старая сама ўзрушылася не менш дзяцей і ўсё пыталася:

— А вунь тое што?

— Дзе? А, гэта наш оперны тэатр!

— А тое?

— Гэта Акадэмія навук, бабуля!

— А там што такое прыгожае?

— Спусціся, бабуля ніжэй! Гэта — гонар нашага горада — Нацыянальная бібліятэка ў форме брыльянта! Там захоўваюцца вельмі разумныя кнігі!

— Ух ты! — па-дзіцячы захаплялася Хатабка.— Сам Сулейман ібн Дауд пазайздросціў бы вашай бібліятэцы!

— Канечне, пазайздросціў бы! — перакрыквалі свіст ветру ў вушах дзеці.

— А тут, наверсе, даволі сцюдзёна,— заўважыў Вася.

— Прыцікайся да мяне, праўнучак! — абняла Васю старая.

Валя здзівілася:

— Дык вы, бабуля, сапраўдны джын! А мы думалі, што вы нам казкі расказваеце.

— Лічыце, родныя, што гэта сон! — хітра адказала Хатабка.— А ў сне здольныя лётаць усе... Ну што, дамоў ці палётаем яшчэ?

— Палётаем! — зноў у адзін голас адказалі дзеці.

А ў гэты час Соф'я Сцяпанаўна вярнулася з працы і вельмі здзівілася, не застаўшы нікога дома. Здзівіла яе і тое, што з Васева пакоя знікла канапа.

— Дзіўна! — прагаварыла яна.— Калі Ваня паспеў аддаць канапу ў рамонт?.. Ой, не падабаецца мне ўсё гэта!

Праз нейкі час вярнуўся і Іван Паўлавіч і першае, што пачуў,— гэта пытанне ад жонкі:

— Ты што, аддаў у рамонт Васеву канапу? Яна ж яшчэ амаль новая...

— Якую канапу? — здзівіўся Цвік і пайшоў у Васеў пакой. Там на канапе сядзела Хатабка, а з двух бакоў каля яе расчырванелыя дзеці.

Хатабка шчоўкнула пальцамі і шапнула:

— Гэта быў сон... толькі сон...

Іван Паўлавіч здзіўлена гукнуў жонку:

— Соня! Пра якую канапу ты казала?

## РАПТОЎНАЯ ХВАРОБА

Раніцай Вася не ўстаў з пасцелі і не пайшоў у школу. У яго ўзнялася тэмпература, яго мучыла гарачка і нейкія трызненні. Ён кідаўся па ложку, нікога не пазнаваў і, што самае горшае, нічога не еў.

Соф'я Сцяпанаўна не адыходзіла ад ложка хворага сына, Іван Паўлавіч пастаянна тэлефанаваў з работы, хаця б па тэлефоне кантралюючы стан здароўя Васі.

«Хуткая дапамога» то прыязджала, то ад'язджала, але дапамагчы нічым не магла, бо дактары не маглі паставіць больш-менш дакладны дыягназ. А няма дыягназу — няма і лячэння.

Вася крычаў у гарачцы:

— Бабуля, бяры вышэй! Давай віраж улева! Цяпер управа! Мы — сапраўдныя джыны!..

Соф'я Сцяпанаўна застагнала:

— Зноў гэтыя джыны! О, гэта бабуля Хана!

А Хатабка была занепакоена станам здароўя Васі не менш, чым астатнія. Яна разумела, адкуль што ўзялося, і ведала, што толькі яна можа пазбавіць хлопчыка ад хваробы, але для гэтага ёй неабходна было наблізіцца да Васі і пакласці сваю далонь яму на лоб, прашаптаўшы толькі ёй вядомае слова. Але гэта зрабіць было немагчыма, таму што Соф'я Сцяпанаўна не адыходзілася ад сына ні на хвілінку і пільна сачыла, каб каля Васі і духу старой не было.

Хатабка спрабавала ўздзейнічаць на гаспадыню праз Івана Паўлавіча і той звяртаўся да жонкі:

— Дапусці бабулю да Васілька! Ну не з'есць жа яна яго! А раптам дапаможа?

— Не! — рашуча адмаўляла Соф'я Сцяпанаўна.— Чуе маё сэрца, што ўсё ліха ад старой!

Але час ішоў, а Васю не рабілася лягчэй, тым больш, што без ежы і вады ён відавочна слабеў.

Нарэшце Соф’я Сцяпанаўна здалася і дазволіла Хатабцы наблізіцца да сына, хаця і сачыла за дзеяннямі старой з непрыхаваным недаверам.

А дзеянні Хатабкі былі вельмі простымі. Яна паклала далонь на гарачы лоб Васі і штосьці прашаптала. Пры гэтым яна закрыла вочы і нібыта заснула. Затое адразу адкрыў свае вочы Вася і, на здзіўленне прысутных, спытаўся:

— Мама, колькі часу? Я, мусіць, праспаў у школу!..

Хатабка павярнулася і моўчкі пайшла ў свой пакой.

Соф’я Сцяпанаўна залілася слязьмі радасці і, не перастаючы, шаптала:

— Васечка... Сынок... Якое шчасце!

Вася прыўстаў з пасцелі і, як нічога не было, сказаў:

— Мама, я хачу есці! Чаму я так моцна хачу есці?

Соф’я Сцяпанаўна ўскочыла з Васева ложка:

— Зараз, сынок! Бягу! Нясу ежу!..— І калі хлопчык пачаў з апетытам сілкавацца, ціха сказала: — Ты ж, Васілёк, тры дні не ўставаў і ўвесь гэты час нічога не еў...

Пасля таго, як Вася пад’еў і па тэлефоне паведамілі Івану Паўлавічу аб выздараўленні сына, Соф’я Сцяпанаўна ўвайшла ў пакой Хатабкі і ласкава сказала:

— Дзякуй вам, бабулечка Хана, і даруйце мне! Што б мы рабілі без вас? — і шчыра пацалавала старую, даўшы гэтым зразумець, што яны зблізіліся, як родныя людзі.

Праўда, засталася яшчэ адна загадкавая абставіна, якая не давала Соф’і Сцяпанаўне спакою: дзеці ўзахлёб расказвалі ёй свае сны — сны-блізняты. Іхнія сны супадалі да драбніц, да апошняга слова, пра палёт на канапе над Мінскам.

— Гэта нейкі феномен! — не пераставала здзіўляцца яна.— Можа, дзяцей паказаць псіхіятру?

Іван Паўлавіч адразу усё зразумеў і забараніў нават думаць пра псіхіятра.

— Ваня, а канапа ж адсутнічала... Яна ж некуды знікала...

— Ты толькі заікнешся псіхіятру пра канапу, якая знікала і лётала над Мінскам, цябе саму ён паставіць на ўлік. Выкінь усё з галавы!

Крыху пазней Іван Паўлавіч праслізнуў да Хатабкі ў пакой і патрос кулаком перад яе носам:

— Усё-ткі лётала з дзецьмі над горадам!

— Ну, адзін разок... Эх, бачыў бы ты захапленне сваіх дзяцей у час палёту! — з замілаваннем тлумачыла старая.— Дарэчы, магу і цябе пракаціць з ветрыкам, і тваю Соф'ю Сцяпанаўну... Як?

— Дзякуй, але я баюся лётаць на канапе!

## СУСТРЭЧА ПРАЗ ТЫСЯЧАГОДДЗІ

Іван Паўлавіч з сям'ёй і з бабкай Хатабкай жыў ужо Мінску, у прасторнай пяціпакаёвай кватэры. Жыццё цякло па-новаму, але ўжо звыкламу рэчышчу.

У прыродзе часта бывае так, што на чыстым блакітным небасхіле адкуль ні вазьміся з'яўляецца маленькая аблачынка, якая хутка вырастае ў вялікую чорную хмару, а ўжо ад гэтай хмары нічога добрага чакаць не даводзіцца...

Такой аблачынкай раптоўна з'явіўся ў кабінеце Цвіка сумнавядомы Кувалдзін. З'явіўся і надоўга знік. Іван Паўлавіч стараўся не думаць пра той візіт, спадзеючыся, што больш яны не ўбачацца.

Але такія людзі, як Кувалдзін, падобныя пякотцы — яе не бачыш, але пастаянна адчуваеш, а калі пякотка і знікае часова — апасаешся яе вяртання.

Як ні адцягваў Іван Паўлавіч час, але пра візіт Кувалдзіна быў абавязаны расказаць Хатабцы, бо навіна тычылася яе брата.

— О, Амар Юсуф... — з нейкай затоенай чарнотай і зусім не радасна ўскліканула Хатабка.— Ён заўсёды быў няўдзячным, зайздрослівым, сварлівым... Поўная процілегласць Гасану і мне. Яго стыхія — зло.

І яшчэ паведаміў Цвік старой, што Кувалдзін патэлефанаваў і ад імя яе брата прасіў перадаць Хатабцы, што Амар патрабуе сустрэчы з ёю.

— У мяне няма важкіх падстаў адмовіцца,— зноў сумна адказала старая,— ён мой брат і гэтым усё сказана, хаця ад такой сустрэчы нічога добрага чакаць не даводзіцца...

Іван Паўлавіч пацікавіўся:

— А хто ў вас, у джынаў, больш магутны — той, хто творыць дабро, ці той, хто робіць зло?

Хатабка адказала пытаннем на пытанне:

— А ў вас, людзей?

— На жаль, бывае, што зло бярэ верх...

На наступны дзень Івану Паўлавічу зноў патэлефанаваў Кувалдзін і ўдакладніў:

— Амар Юсуф заўтра ў полудзень будзе чакаць сваю сястру Хатабку ля Старога Броду, каля таго месца, дзе я вылавіў медны сасуд.

— Чаму там, а, напрыклад, не ў мяне дома? — здзівіўся Цвік.— Тут, у горадзе, лягчэй схавацца ад чужых вачэй.

— Катэгарычна не! — запярэчыў Кувалдзін.— Выгляд Амара настолькі экзатычны, а характар некіруема-буйны, што без скандалу і непрыемнасцяў не абысціся. Вы яго яшчэ не ведаеце!

Іван Паўлавіч падумаў: «Затое я добра ведаю цябе... А яшчэ сцвярджаюць, што прыцягваюцца толькі рознапалярныя часціцы, а вось тут дык прыцягнуліся адзін да другога два такія адмоўныя суб’екты...»

На наступны дзень Іван Паўлавіч, каб пазбегнуць непатрэбных сведкаў, адпусціў свайго шафёра, сам сеў за руль і паціху паехаў да месца сустрэчы.

За горадам ён усім сэрцам адчуў, наколькі моцна засумаваў па родных мясцінах. На яго нахлынулі ўспаміны, яго душу агарнула хараство таго мінулага, больш цяжкага, затое больш шчаслівага жыцця.

— Хутка, Хатабачка, будзем ехаць ля таго поля, дзе я знайшоў цябе,— пяшчотна заўважыў Цвік.— І чаму я тады, дурань, не схаваў тую бутэльку, а пакінуў навідавоку?.. Менш было б клопатаў сёння...

Хатабка думала пра сваё і нібы адсутнічала, таму на словы Цвіка не звярнула ўвагі, а магчыма, увогуле не пачула іх. Потым ціха сказала, хутчэй, сама сабе:

— Колькі ж мы не бачыліся? Ці пазнаем адно аднаго?

Нарэшце наперадзе мільганула блакітная стужка Нёмана. На абрывістым беразе ля Старога Броду стаяў знаёмы УАЗ, побач з якім знаходзіліся дзве чалавечыя постаці. Дакладней, адна постаць была не чалавека, а джына, хаця і другога чалавекам можна было назваць з вялікім нацягам.

Цяпер і Іван Паўлавіч напружыўся і адчуў хваляванне.

Пад'ехаўшы да УАЗа, Цвік дапамог выйсці з «Волгі» Хатабцы, у якой на вачах блішчэлі слёзы.

Старая падкульгала да брата, уважліва зазірнула яму ў твар і з крыкам: «Амарчык!» — кінулася да яго на шыю.

Аднак Амар Юсуф зрабіў крок назад і выставіў перад сабой руку:

— Толькі не гэта! Адбымкі і слёзы — не для мяне!

— Чаму, Амарчык? — слёзна спыталася Хатабка.— Мы ж родныя! Мы ж — адной крыві!

— Пра кроў пагаворым потым... Дай мне на цябе паглядзець... Фу-у, якая старая!

Сам жа Амар Юсуф быў старэйшы за сваю сястру, ды і сівая, ледзь не на зямлі, барада не маладзіла яго.

Амар павярнуўся да Кувалдзіна:

— Нам трэба пагаварыць з ёю без сведкаў... Пакорліва прашу майго ўладара адысці з гэтым незнаёмцам,— і Амар злосна бліснуў вачыма ў бок Івана Паўлавіча.

Кувалдзін прапанаваў:

— Давай пройдземся, Іван Паўлавіч. Нам таксама ёсць аб чым пагутарыць без сведкаў,— і яны нетаропка падаліся па маляўнічаму берагу.

Цвіку было прыемна знаходзіцца сярод гэтай некранутай чысціні, дзе прырода сама вырашала, як упрыгожваць свае наваколлі, дзе птушачкі завіхаліся адна перад адной, высвістваючы свае непаўторныя песні, і ў той жа час было непрыемна, што побач з ім ідзе чалавек — поўная процілегласць гэтай чысціні і шчырасці.

Як бы пацвярджаючы гэта, Кувалдзін пачаў размову:

— Я, Іван Паўлавіч, поўнасцю даспеў і гатовы на тваё месца. Ці даспеў ты, каб саступіць мне яго? І калі ты згодны, мы можам стаць саюзнікамі.

— А калі я не згодны? Што тады?

Кувалдзін спыніўся і перагарадзіў сабой Цвіку далейшы шлях:

— Што тады?.. Ты ж, Іван Паўлавіч, усё роўна ўспрымаеш мяне як свайго начальніка... Псіхалагічна ты баішся мяне. Не выключаю і такі варыянт, што будзеш баяцца не толькі псіхалагічна... Ву-унь, мой варыянт вядзе бяседу з тваёй старой! — Кувалдзін паказаў у бок Амара.— І гэта мой бяспройгрышны варыянт!

— А там і мой бяспройгрышны варыянт! — адказаў Іван Паўлавіч.— І хто ведае, што будзе заўтра?

— Залатыя словы! — падхапіў Кувалдзін.— Пакуль мы нічога не ведаем да канца, давай лепш аб'яднаем нашы намаганні. Мы, з гэтымі двума варыянтамі, дасягнулі б высокіх вяршыняў! Пакуль не позна — згаджайся!

Івану Паўлавічу вельмі хацелася заехаць кулаком у гэту сытую, нахабную морду, але ён стрымаў сябе і пакрочыў далей.

Раптоўна абодва спыніліся, бо адтуль, дзе засталіся брат і сястра, пачуліся раз'юшаныя крыкі.

Цвік і Кувалдзін кінуліся да «мітынгуючых» і ледзь разнялі іх. Амар гнеўна крычаў:

— Размазня старая!

— Нікчэмны паскуднік! — адазвалася сястра.

Іван Паўлавіч хуценька памог сесці ў машыну Хатабцы, ускочыў за руль і з месца газануў на ўсю моц матора. Ён разумеў стан душы старой, таму не лез да яе з роспытамі — Хатабка таксама маўчала.

Нарэшце Цвік пачуў яе прыглушаны голас:

— Які быў, такім і застаўся — авантурыст, інтрыган, грубіян!

Іван Паўлавіч маўчаў, даючы магчымасць Хатабцы аблегчыць душу. Хатабка працягвала:

— Не бяруся агучваць тыя словы, якія выляталі з яго мярзотнага рота ў мой адрас,— Сулейман ібн Дауд яму суддзя,— але яго ганебная прапанова зрабіць з цябе медны сасуд, пасадзіць у гэты сасуд — у цябе, Ваня,— тваю сям'ю і кінуць вас у бруднае балота вывела мяне з сябе...

Іван Паўлавіч ад нечаканасці папярхнуўся ўласным дыханнем і збялеў:

— Я па іхняй задумцы павінен стаць вечнай турмой для сваёй сям'і! Як гэта жорстка! Да гэтага дадумаўся не Амар — гэта прапанова Кувалдзіна.

— Сам вінаваты, што не дазволіў ператварыць яго ў п'яўку!.. Але гэта не ўсё, Іванка... Амар Юсуф выказаў пагрозу: у выпадку тваёй адмовы Кувалдзіну ты і твая сям'я штодзённа будзеце адчуваць яго пакасці.

Іван Паўлавіч, ведаючы, што з джынамі дрэнныя жарты, спалохаўся:

— А што ж рабіць? Як нам жыць далей?..— у яго міжволі вырваліся словы: — Знайшоў жа я тады тую праклятую бутэльку на сваю галаву!

— Не смей болей так думаць! — сярдзіта глянула на Цвіка Хатабка.— Тую бутэльку ты знайшоў не на сваю галаву, а сабе на радасць!

— Даруй, бабулечка! — павініўся Іван Паўлавіч.— Гэта я ад страху ляпнуў! Але ж як нам жыць далей, маючы такога ворага?

— Жыві, як і жыў! І сям'я няхай жыве спакойна! Я, у адрозненне ад Амара, здольная чытаць чужыя думкі — і думкі джынаў. Цяпер кожная думка-задумка Кувалдзіна і Амара будуць у мяне на ўліку!

## ПРАЦА НА ПАЎСТАЎКІ

Пераехаўшы на пастаяннае месца жыхарства ў Мінск, Соф'я Сцяпанаўна нарэшце атрымала магчымасць працаваць па спецыяльнасці — псіхолагам.

Яна ўладкавалася ў інстытут сацыялагічных даследаванняў на пасаду вядучага спецыяліста.

Галоўнай асаблівасцю яе спецыяльнасці з'яўлялася тое, што псіхолаг, выступаючы перад аўдыторыяй, паўстае не лектарам, які завучана і марудна выкладае сутнасць свайго выступлення, а раскрывае, ва ўсякім выпадку павінен раскрываць, сутнасць усіх магчымых праяўленняў чалавечай душы ў самых непрадказальных сітуацыях.

Жыццё імкліва і няўхільна паглыбляецца ў бездань стрэсавых сучасных падзей і экстрымальнай штодзённасці, таму ролю псіхолага ў паслабленні нервовых узрушэнняў, якія абрынуліся на чалавека, цяжка пераацаніць.

Соф'я Сцяпанаўна даўно адчула розніцу між спакойнай, часам абыякавай аўдыторыяй і выбуховай негатыўнай энергіяй раптоўных чалавечых трагедый. Самае складанае і адказнае — знайсці патрэбныя ў кожнай канкрэтнай сітуацыі словы, надаць патрэбную душэўную інтанацыю словам, выводзячы чалавека з шокавага стану. У такія хвіліны псіхолаг павінен умець паставіць сябе на месца пацярпелага, прапусціць праз сябе ўвесь жах перажываемага ім, інакш усе словы і намаганні псіхолага будуць несуцяшальнымі і непераканаўчымі, пазбаўленымі чалавечай цеплыні.

Што і казаць, Соф'і Сцяпанаўне даводзілася зведваць

— Ты, пэўна, сваю сухапаруюнагу гладзіў!

Васіль горка ўсміхнуўся:

— Каб жа так! А то горай!.. Зірнуў я пад стол і ледзь не самлеў — трымаюся за ножку стала. Яе я і гладзіў...

— Калі ўжо пачалі пра ногі,— страпянуўся Антось,— дык і я аб іх балюча спатыкнуўся! Слухайце! Сядзелі мы некалі з Галяй Нехайчыхай у райцэнтры на прыпынку і чакалі аўтобуса ў наш бок. Прабачце, што і я агучваю мамзель, але, акрамя хітрасці і яе шальмоўства, нічога не будзе. Дык вось, сядзім мы, чакаем аўтобуса. А на ёй — тое ж здрадніцкае міні, якое моцна непакоіла нашага брата. На прыпынку, акрамя нас, нікога — таму я не толькі ў адкрытую, на ўсе вочы прымаў міні-тэрапію, але яшчэ і ўголас захапляўся:

— Ножанькі ў цябе, Галіначка, такія спраўныя, нібы іх адшліфаваў токар шостага разраду! А ці магла б ты хоць крышачку вышай цягануць сваю сукеначку? Навошта ж хаваць прыгажосць, створаную Богам?

Галя хмыкнула:

— Ты ж казаў, што гэту прыгажосць стварыў токар шостага разраду.

— Гэта я дзеля вобразнасці токара прышпіліў... Дык цягані сукеначку, хоць на сантыметрык! Га?

Гэта маладая шэльма какетліва хіхікнула:

— Чаму ж не! Вось побач крама — купі мне сто грам самых дарагіх цукерак, выканаю тваё жаданне.

Я — маланкай у краму, і праз некалькі хвілін працягваю ёй кулёчак з «Чырвоным каптурком». Яна ўзяла кулёчак:

— Ну, не болей, як на адзін сантыметр.

Я зірнуў на «заваяваныя пазіцыі» і не мог стрымаць свайго незадавальнення:

— Што гэты сантыметрык! Нічога ж не змянілася! А яшчэ хоць пару сантыметраў можаш мне саступіць?

— Чаму ж не! Магу! — адказала шэльма.— Нясі яшчэ дзвесце грам цукерак і будзе па-твойму.

Праз некалькі хвілін я зноў урачыста ўручыў ёй большы кулёк з цукеркамі. Але і новы «адваяваны бастыён» падаўся мне мізэрным. Я пракруціў у мазгах свае фінансавыя магчымасці і сумна адзначыў: не з маім капіталам ісці на прыступ такіх цытадэляў. Уздыхнуў я і адвярнуўся — нават замілоўвацца «вырабамі токара» расхацелася.

Яна заўважыла маю абыякавасць, рассмакавала цукеркі і сама праявіла ініцыятыву:

— Нерызыкоўны ты хлопец, Атоська! Што ты ўсё — то сантыметр, то два! А хочаш я табе пакажу, дзе мне апендыцыт выразалі?

У мяне палезлі вочы на лоб ад нечаканасці. Я, як уявіў, што мне давядзецца ўбачыць, ледзь не грымнуўся аб зямлю.

— Хачу! — ажно крыкнуў я.— Няўжо пакажаш?! Яна спакойна заключыла:

— Кіло «Мішкі клышаногага»! Слабо? Ці грошай шкада? Га?

— Ды ліха іх бяры, тыя грошы! — падскочыў я і кінуўся ў краму.

Перадаючы ёй увесістаы куль з цукеркамі, я зноў ледзь не крыкнуў:

— Паказвай!

Яна спакойна ўзяла цукеркі і адхіліла мяне вольнай рукой:

— Адхініся, бо замінаеш.

Я разгублена адышоў у бок, а яна торкнула пальцам праз вуліцу:

— Ву-унь, у той бальніцы, мне выразалі апендыкс.

Я машынальна крутнуў галаву ў той бок:

— Навошта мне твая бальніца? Ты ж абяцала...

Яна смехам перапыніла мяне:

— Я абяцала што? Што пакажу табе, дзе мне выразалі апендыцыт. Я і паказваю. Што яшчэ?

Тут я зразумеў усю яе хітрасць і толькі сабраўся сказаць ёй пару ласкавых, як падышоў аўтобус і мы селі ў

ім на розных сядзеннях. Я ўсю дарогу кіпеў ад злосці, яна — увесь час дрызгала мае цукеркі...

— Ну вы і цыркачы! — ускочыў Генадзь.— Ад вашых баек заснеш — ні смеху, ні грэху! Я вам зараз такое адчыбучу, што іскры з штаноў пасыпяцца, да жонак будзеце бегчы, спатыкаючыся! Слухайце!

— І я паслухаю! — пачуўся за Генадзевай спінай жаночы голас. Усе здрыгануліся ад нечаканасці, бо ў азарце не заўважылі, як да нас падышла Генадзева жонка.— Ну, што там у цябе было? Чыбуч!

Генадзь збянтэжыўся:

— Кранты, хлопцы! Ні смеху, ні грэху, ні іскраў, ні полымя сёння не будзе!

## Неверагодная чутка

Адкуль ні вазьміся, па вёсцы папаўзла неверагодная чутка. Яна набывала моц і вырасла да ўзроўню агульнавясковага перашэптвання. А, як вядома, шэпты лёсы людскія губяць.

Вось і тутэйшыя шушуканні скаланулі вёску мацней, чым навальнічныя грымоты. Да і было ад чаго! Ці ж гэта жарт — Антось, быццам бы, пераспаў з Анютай. Што?! І самі не чакалі такой закваскі?!

Калі ж гэтай неверагоднасці зрабілася цесна ў межах перашэптванняў, яна, па законах фізікі, ці, дакладней, ланцуговай рэакцыі, выклікала эмацыянальны выбух. Людзей выштурхнула з хатаў на вуліцу, дзе яны пачалі гуртавацца і паддаваць адно аднаму жару:

— Чулі? Яму ўжо роднай жонкі мала, таму агрызку! Свая ж Параска, як ікона!

— А яна, тая цытра! Муж, дзеці, гаспадарка пад бокам! Што яшчэ трэба? Калі ўжо засвярбела, няхай бы аб вугал пачасалася!

— Ды на такіх мужыкоў маліцца трэба! Абурацца трэба тады, калі мужчына ні да жонкі, ні да суседкі!

Жаночы голас сеకануў:

— Да жонак вы — карантышы, да суседак — асілкі!

І панеслася, і загуло, і завіхурыла.

Тут, як на тое ліха, нос у нос сутыкнуліся Антосева пакрыўджаная «ікона» і «тая цытра».

Ніводная не хацела саступаць дарогу, тым больш навідавоку ўсёй вёскі.

Прабачце за нелітаратурныя словы, але, што было, тое было: Антосева жонка выцягнула шыю, падалася наперад і ў самы нос крыкнула сваёй крыўдзіцельніцы:

— Курва з кацялком!

І хоць у руках у Анюты ніякага кацялка не было, напад Параскі ўразіў прысутных сваёй арыгінальнасцю. Усе горача запляскалі ў далоні.

— Сама малпа на лапаце! — імгненна адбілася Анюта.

І яе словы пераканаўча трапілі ў кожнае вуха, бо вяскоўцы на сваіх рыдлёўках бачылі ўсё, акрамя малпы. Гэта ўсім спадабалася, і Анюта «сарвала апладысменты».

Магчыма, дзве, распаленыя да чырвані жанчыны перайшлі б да больш рашучых дзеянняў, даўшы волю рукам, але з натоўпу выйшаў Антось і пачаў супакойваць «апанентак»:

— Параска, астынь, не падкідвайся! Не спаў я з ёй! Не спаў!

— А адкуль такія чуткі? — не астывала жонка.— Дыму без агню не бывае! Ды і па вачах гэтай жабы бачу, што не чыста тут!

— Ты мне лепш сюды зазірні! — павярнулася задам да суперніцы Анюта.— Тут убачыш больш цікавага, чым у маіх вачах!

— Ды нікуды ты ёй не зазірай! — адцягваў жонку Антось, бо тая збіралася ўчарэпіцца ў валасы ненавіснай суседкі.

Але ёсць на свеце Бог! Ён для ўсталявання спакою і згоды падаслаў настаяцеля мясцовай царквы, айца Ануфрыя.

— Што, дзеці мае, тут за гвалт? — спыніўся ля мітынгуючых святар.— Лямантуеце, ды яшчэ ў вялікі пост. Пабойцеся Бога!

— Вось яна, гэта сучка...

— Гэта яна, аблезлая курыца...

— Ды яны абедзве... — спрабаваў штосьці тлумачыць і Антось.

— Ціха-а! — айцец Ануфрый высока ўзняў крыж, зняўшы яго з шыі.— Ціха, дзеці мае! Пры чым тут сучка і курыца? Пакінем у спакоі бязгрэшных жывёл і птушак, пяройдзем да справы.

Дзве жанчыны зноў кінуліся да святога айца, кожная са сваёй праўдай, але той спыніў іх і загадаў:

— Няхай нейтральны бок распавядзе, аб чым тут спрэчка! Наперад выйшаў калгасны брыгадзір.

— Прабачце, святы айцец, язык не паварочваецца... Як бы тут падалікатней сказаць...

— Кажы, як ёсць, сын мой,— падбадзёрыў брыгадзіра поп.

— Дык вось,— працягваў брыгадзір,— быццам, вось ён, гэты Антось, нейкім чынам заскочыў пад коўдру да яе, вось гэтай Анюты...

— Чаго? — здзівіўся айцец Ануфрый і зірнуў на Антося.— Што ты там забыўся?

— Ды пераспаў ён з ёй! — пачулася з натоўпу.— Пераспаў!

— Чаго ж пад коўдру лазяць?

— Пераспаў? — збянтэжыўся святы айцец.

— Гэта няпраўда! — горача адбіўся Антось.— Я з ёй не спаў!

— Грахаводніца!

— Адлучыць яе ад царквы! — чуліся жаночыя галасы. Пачуліся і мужчынскія парады:

— Ды адпусціце вы, святы айцец, Антосю гэты грашок! З кім не бывае!

— Можаце мяне адлучаць ад чаго хочаце! — рашуча заявіла Анюта.— Я — атэістка!

— Ведаю, што Бог табе не ўказ,— звярнуўся айцец да Анюты,— ведаю, і засмучаны гэтым, таму я табе не суддзя. А вось ты,— айцец павярнуўся да Антося,— ты набожны чалавек! Адкажы зараз, як на страшным судзе: — Пераспаў з ёй ці не?

Антось апусціў галаву і выдыхнуў:

— Не, бацюхна, не пераспаў.

— А крыж цалаваць згодзен? — грозна спытаўся айцец Ануфрый.

— Згодзен! — рашуча адказаў Антось.

— Дык вось, браты і сестры,— зычна звярнуўся да людзей святар, перад Богам і вамі даю цалаваць крыж рабу Божаму Антосю і пытаюся:

— Ці праўда, што тваё грахаўное цела пераспала з целам гэтай нехрысці? Адказвай, як на духу і цалуй крыж!

Антось узняў галаву, зірнуў на айца Ануфрыя, потым на аднавяскоўцаў і гэтак жа зычна адказаў:

— Не! Я не спаў з суседкай Анютай! Што і засведчваю цалаваннем крыжа! — пасля чаго пацалаваў крыж і перахрысціўся.

Над натоўпам, быццам ачышчальны вецер, пранёсся ўздых.

Чуткі, як кажуць, загадалі доўга жыць.

Узрадаваная Антосева жонка падышла да Анюты і з цеплынёй сказала:

— Прабач, суседачка, я там з гарачкі абазвала цябе нечым з кацялком... Гэта — не так, забудзься...

— Ды і ты на лапаце ніколі не была, гэта я здуру не стрымалася.

— Чаго па-суседску не бывае.— У адзін голас заключылі жанчыны.

Айцец Ануфрый узяў пад руку Антося і адвёў яго ў бок:

— Ты ж глядзі, сын мой, цалаванне крыжа — не жарты. Барані Бог, калі ты быў пад коўдрай у той кабеты,— атрымаецца, што ты ўвёў у зман і Бога, і ўсіх нас.

Антось зачырванеўся:

— Скажу вам па сакрэту, як на споведзі, святы айцец, што пад коўдрай у Анюты быў і не раз...

— Ды як жа ты мог нас абдурыць? — абурыўся святар.— Ты ж крыж цалаваў! Хрысціўся!

— У мяне вы пыталіся што? Ці пераспаў я з Анютай? Так?

— Ну, так...

— Я шчыра адказаў: не!

— Як жа не, калі зараз сведчыш іншае! — ускіпеў святы айцец.

— Быць з ёй быў,— тлумачыў Антось,— але ж не пераспаў! Хіба ж можна спаць з такой гарачай жанчынай? Мы з ёй усю ноч вачэй не зводзілі... а вы кажаце — пераспаў. Пераспаць мне хапае з жонкай. Так спім, ажно храп стаіць, як дышла...

— Ну, шальмец, выкруціўся! — памякчэў айцец Ануфрый, потым зірнуў у бок Анюты і шапнуў Антосю ў вуха: — З ёй сапраўды не заснеш ні на хвілінку... Я ведаю гэта, сын мой...

## Незвычайнае адпяванне

Памерла ў Трахіма жонка. І хоць веку яна была немаладога, засумаваў гаспадар — адзін застаўся.

Каб хоць неяк аблегчыць душу і апошні раз дагадзіць жонцы, вырашыў Трахім перад апошнімі праводзінамі заказаць у царкве адпяванне нябожчыцы. Як кажуць: трэба — не трэба, а душа просіцца на неба.

Назаўтра, як і было дамоўлена, у Трахімавай хаце з'явіўся айцец Кірыла з неабходнымі для адпявання прычындаламі — кадзілам і Святым Пісаннем. Святар праціснуўся праз натоўп людзей да дамавіны і ад здзіўлення раскрыў рот:

— Сын мой,— звярнуўся ён да Трахіма,— а чаму новапрастаўленая ляжыць на баку, а не на спіне, як і належыць пачыць хрысціянцы? Што гэта за дзіва?

Трахім, відаць, тлумачыў гэта не аднаму чалавеку, таму спраўна адказаў:

— Дык яна, святы айцец, лежачы на спіне храпіць. Ды так дае ў дзве дзіркі, што ажно сцены патрэскваюць. Я, па праўдзе кажучы, за ўсё жыццё з ёю ні разу па-людску не выспаўся. Во зірніце на мае вочы! Чырвоныя, як у таго ката на сакавіцкай страсе.

Айцец Кірыла торкнуў крыжам у бок дамавіны:

— Яна ж памерла! Яна ж...

Трахім перахапіў гаворку:

— І я хутка памру, таму і на бок яе паклаў. Я хачу хоць там спакойна выспацца. Разумееце?

— Тут няма чаго разумець! — ускіпеў святар.— Чалавек памёр — і ўсё! Нябожчыкі не храпяць! Я адпяваць вашу жонку ў такой позе не буду. Кладзіце яе на лапаткі.

— А адкуль вам вядома, што нябожчыкі не храпяць? Вы ж там не былі! — зноў жа спраўна адрэагаваў гаспадар хаты.

— Дык гэта і дурню зразумела! — стаяў на сваім святар.— Ды там чарната, пустата, прах! Спарахнеласць!

— А я вам кажу, што яна будзе на тым свеце храпець! — ціснуў на сваё Трахім.— І не толькі кажу, але і дакажу!

— Ха-ха-ха! — зарагатаў айцец Кірыла і спахапіўся: — Прабач, Божа, не стрымаўся. Але ж тут такое гародзяць, што і перад нябожчыкам смех бярэ.

— Дык вось, людзі добрыя,— звярнуўся Трахім да прысутных,— нас у царкве увесь час запэўнівалі, што пасля зямнога жыцця надыдзе другое, яшчэ лепшае. Вечнае жыццё! І вучылі нас вы, святы айцец. А паколькі надыдзе другое жыццё — у ім будзе ўсё, як у жыцці гэтым. Дык адкажыце нам, айцец Кірыла, ёсць другое жыццё ці гэта — мана? Ці там толькі пустата і прах?

Святар залыпаў вачыма, відавочна спалохаўся:

— Якая мана, дзеці мае! Ёсць... будзе другое жыццё пасля зямнога. Будзе вечная благадаць!

Трахім падскочыў да айца Кірылы:

— А паколькі ўсё ж ёсць другое жыццё, значыцца і ў тым жыцці будзе храп. А я не жадаю, каб у маім другім, вечным жыцці мне вечна храпелі ў самае вуха. Не жада-ю! Адпявайце жонку, бо хутка трэба выносіць яе.

— Што з табой зробіш, сын мой... Можа і твая праўда,— прамармытаў святар і пачаў адпяваць нябожчыцу, якая ляжала на баку і сапраўды пакуль не храпела.

## Дзед-кіёк

— Ну што ты мне туманіш пра свой горад?! Неба не відаць — адны дамы. Дарогі ці... вуліцы не бачна — адны патыліцы. Паветра няма — адзін смурод. І гэта жыццё?.. Не-е, сынок! Не, не і не!..

— Тата... як табе яшчэ тлумачыць?.. Ну, састарэў ты... Ну, адзін застаўся... А што далей?..

— Далей?.. Далей вунь таго пагорка нічога не бывае,— і стары паказаў кійком у бок кудлацінкі дрэваў, пад якімі векавалі вясковыя могілкі і дзе чакала яго ўжо тры гады жонка.

— Зноў ты за сваё! — абурыўся сын.— У мяне ты забудзеш пра... пра могілкі і пра...

— І пра маці,— перабіў бацька сына.— Я і бачу, што вы бываеце там толькі раз у год — на Радаўніцу, і то са скрыпам ды дзеля людскога вока...

— Ты не так зразумеў...

— Пачакай! — зноў перабіў стары.— Я правільна зразумеў, што той, хто забываецца пра могілкі, той перастае быць чалавекам. Бачыў, на вясковых кладах колькі магіл, на якіх расце бур'ян? А ведаеш, у каго ператварыліся тыя адцуральнікі? Не? У злодзеяў, п'яніц, прайдзісветаў. А той, хто не спіўся, а нажыў сеё-тое — ваўкамі глядзяць на людзей... Вось што значыць забыцца пра продкаў сваіх!..

Стары працягнуў ціха, але з болем і крыўдай:

— А што за людзі ляжаць пад тым дзірваном! Ведаеш?.. Дабрыня! Працавітасць! Сціпласць!

Сын крутнуў размову ў свой бок:

— Тата! Ну што ты распаліўся? У горадзе табе будзе добра... на ўсім гатовым...

— Не крыўдзіся, сын, за жарт! У горадзе толькі адно добра — можна «шашка» пусціць у натоўпе і ніхто не здагадаецца, адкуль ён... А за ўсё гатовае — дзякуй! Але я лепей раз на дзень з'ем свайго, чым тры разы няхай сабе і сынавага ці нявестчынага...

Стары пераведзіў дух і працягваў:

— А што з хатай? З будынкамі? — спытаўся хутчэй сам у сябе.— А сабака? Куды яго, старога і амаль сляпога? Га?..

Сын падбадзёрыўся:

— Будынкі прададзім! Пакупніка я ўжо напытаў. А сабаку?.. Бяда яшчэ з сабакам такая — спусцім, няхай гойсае!

Стары цяжка выдыхнуў:

— А ці ведаеш ты, сынок, што гэты сабака пасля смерці тваёй маці парваў ланцуг і збег. Два дні не было дома. Калі ж я на трэці дзень пайшоў праведаць старую, ажно аслупянеў — спачатку пачуў жаласлівае выццё, а потым убачыў нашага сабаку, які сядзеў ля магілы маці і выў. Галодны, схуднелы, а не ішоў дамоў, клікаў сваю гаспадыню... А ты кажаш — спусціць і выгнаць... Не!..

Горкая думка міжволі апаліла сэрца старога чалавека: «Бог ведае, магчыма, гэты сабака больш шчыра гараваў па гаспадыні, чым яе дзеці...»

Сын ускіпеў:

— Ведаеш, тата! Мне няма часу ездзіць да цябе! Ганяю машыну, палю бензін, нервы!.. Дык што сказаць пакупніку дома?

Стары падумаў і выдыхнуў:

— Скажы пакупніку, што ў дома ёсць пакуль жывы гаспадар... І яшчэ скажы, што бацькі дзецям патрэбны з кубёлкам сала або з кішэняй грошай, а паколькі ў мяне ні таго, ні другога няма — гаспадар застаецца ў сваёй хаце... І яшчэ скажы пакупніку...

— Хопіць! — цяпер ужо сын абарваў бацькавы сло-

вы.— Хопіць! Прабач, але хутка не чакай! Я па вушы ў справах. Выпадзе — прыеду!

— І за гэта дзякуй, сынок,— сказаў стары сынавай спіне, бо сын рашуча даўся з хаты.— Паробіш свае справы, прывязі ўнукаў, даўно не бачыў іх... дарослыя ўжо...

Але спіна сына хавалася ўжо ў машыну, і стары не зразумеў, пачула яна яго просьбу ці не...

Застаўшыся адзін, стары доўга стаяў ля схіленага плота, абапёршыся на кіёк. Ён і сам нагадваў гэты сукаваты, скручаны кій, быў высахлы, згорблены, зжаўцелы. Але і ў старога чалавека душа застаецца жывой, чулай, аголенай. Можа, нават болей аголенай, чым у маладых. Вось і гэты згасаючы дзед-кіёк насіў у сабе зраненую за доўгае жыццё, змучаную і здратаваную пакутамі і падзеямі, збалелую душу. Цяжар шчымлівых успамінаў і перажытага фізічнага болю робіцца ў старасці нясцерпным, прымушае згорбіцца плечы, прыціскае цела да зямлі, ад чаго старыя людзі ледзь перасоўваюць ногі...

Магчыма, стаяў бы дзед яшчэ доўга, але адчуў на сабе погляд. Павярнуў галаву і сустрэў спачувальны позірк змутнелых ад старасці сабачых вачэй.

— Зараз, даражэнькі... Зараз...— і паціху паклыпаў у хату. Думка не пакідала старога, непакоіла яго: трэба спусціць сабаку... Трэба... Нельга ісці супраць прыроды... Нельга...

Расціснуўшы ў далонях некалькі вараных бульбін, стары заліў іх у місцы вадой і панёс гэта да сабачай будкі. Крэкчучы і хукаючы, паставіў перад сабакам яго яду.

— Еш... Еш і прабач, што дужа пасцімся...

Сабака ледзь крануў аблезлым хвастом, з разуменнем зірнуў дзеду ў вочы і некалькі разоў языком сербануў ваду. Бульбу не зачапіў.

— Гэта ж трэба! — скардзіцца дзед сабаку.— Прыехаў і нават хлеба не прывёз. Кажа, забыўся. Не, не забыўся! Голадам хоча прымусіць мяне з’ехаць адсюль... А

мы і без хлеба... мы і на бульбачцы пераседзім... Колькі тут засталося... Паспее прадаць хату і пусціць грошы на вецер...

Сабака, здавалася, каб падтрымаць старога, вылавіў кавалачак бульбіны і праглынуў яго...

«Ой, трэба спусціць сабаку,— зноў падумаў стары.— Сабака, як ніхго, шкадуе чалавека і паміраць сыходзіць далей ад дому... Так Бог яму наканаваў, не мне ісці супраць...»

Схіліўся стары над сабакам і вузлаватымі пальцамі расшпіліў ашыйнік. Пагладзіў па галаве сябра і прызнаўся яму:

— Не хочацца мне заставацца аднаму... Ох, як не хочацца...

* * *

Адвязаўшы сабаку, стары накінуў клямку на дзверы сенцаў і, абапіраючыся на кіёк, пасунуў ногі ў бок могілак. Сабака памкнуўся за гаспадаром, але вымушаны быў спыніцца. Яго заднія ногі былі быццам звязаныя ля каленных суставаў, адказваліся трымаць абцяжэлае цела, падгіналіся і заблытваліся. Яны то спатыкаліся, то цягнуліся і больш заміналі, , чым дапамагалі кратацца.

З жалем і зайздрасцю азірнуўся сабака на старога, чые ногі пакуль трымалі яго, і, апусціўшы галаву, вярнуўся да будкі.

Да могілак ад вёскі было даволі блізка — мо які кіламетр з хвосцікам, але і ён даўся старому нялёгка.

— Во каб ты затанула! — мармытаў ён.— Ідзеш, як па грудзі ў смале, робіш крок, а нешта не пускае, затрымлівае на месцы...

Падышоўшы да магілы жонкі, дзед тройчы перахрысціўся сам і перахрысціў магілу.

З драўлянага крыжа, дзе была прымацавана закручаная ў цэлафан, зацёкшая фотакартка, на яго глядзела

тая, з якой пражылі доўгае жыццё, нажылі пяцёра дзяцей, ладкавалі і шанавалі ўтульнасць і цеплыню сямейнага жыцця.

Не стала яе — і пакацілася ўсё па нахіле жыцця ў нейкую цемру непаразумення і недарэчнасці. Пакацілася, як тонкі і крохкі сасуд, злеплены рукамі ўсёй сям'і, які каціўся ўсё хутчэй і хутчэй, наскокваючы на каменні чэрствасці і адчужэння,— і толькі чарапкі пырснулі ва ўсе бакі. Не стала тварэння ўсяго жыцця. Засталіся адны чарапкі...

Стары даўно адчуў сябе такім чарапком... Ляпіць нешта новае ўжо немагчыма — не засталося ні сіл, ні часу і, галоўнае, той, з кім можна было б спрабаваць нешта аднаўляць...

— Ну... зачакалася ты мяне, бабка... Ведаю... Ды і я не магу прычакаць, калі ты паклічаш мяне да сябе. Забавіўся я тут, ох, забавіўся... І навошта Бог гэтак доўга трымае мяне на зямлі? Чым я прагнявіў яго?.. Вунь маладых колькі палягло, а я карчак карчаком, хліпаю, як газоўка без газы, а згаснуць не магу... Во гора, дык гора...

Старая, каб магла чуць плач мужавай душы, даўно б ужо вывучыла яе на памяць, слова ў слова, бо дзед, ходзячы сюды тры гады, ледзь не кожны дзень, гаварыў адно і тое ж. Праўда, разбаўляў гэта навінамі, якія даходзілі да яго ад людзей, дакладваў жонцы пра сціплыя хатнія справы. Маўчаў ён толькі пра дзяцей. Не хацеў засмучаць матчын спакой тым, што выракліся яны чамусьці, а сёння і апошні сын ляснуў дзвярыма. «Няхай спакойна спіць старая,— падумаў дзед,— хапіла ён пакутаў за жыццё... Можа, як закапаюць мяне побач з ёй, тады і шапну на вуха. Разам лягчэй будзе перагараваць...»

Пасядзеў стары ля магілы жонкі ды і пачаў кратацца дадому.

«Паспяшаўся, дурань я, сабаку спусціць,— абураўся ў думках дзед,— ох, паспяшаўся... А што, калі ўжо сышоў

і няма яго... Хай бы сустрэла мяне дома жывая душа... Цяжка вяртацца ў пустэчу, у немату... Ох, паспяшаўся я...»

Але сабака сустрэў гаспадара і нават насустрач клыпануў, наколькі дазваляла нямогласць.

— Перадаў! Перадаў ад цябе прывітанне гаспадыні нашай. Не хвалюйся,— пагладзіў стары свайго сябра.— А бульбачку так і не з'еў, толькі вадзіцу выпіў... Ах ты, басяк,— дакорліва, але з цеплынёй у голасе папракнуў дзед сабаку.

* * *

Дзень хіліўся да скону. Пасвяжэла, і стары зазбіраўся ў хату. Стомленасць і нервовасць гэтага дня яшчэ ніжэй сагнулі дзедавы плечы, і толькі кіёк утрымліваў яго на нагах, не дазваляў яму ткнуцца носам у зямлю.

З'еўшы бульбіну і запіўшы яе малаком, якое зрэдзь прыносілі суседзі, дзед, не распранаючыся, прылёг на ложак і вочы заплюшчыў. Здавалася, што ён засне, але вочы расплюшчыліся, і дзед, абапіраючыся на кіёк, устаў і запаліў святло.

Адчыніўшы шафу, ён дастаў самае дарагое — закручаныя ў паперу фотаздымкі. Не было дня, каб стары не раскладваў іх на стале і не разглядаў па чарзе, доўга і ўважліва. Гэта быў ратавальны рытуал, была сустрэча з мінулым, якая балюча пякла і салодка лашчыла сэрца.

Раскручваючы паперу, стары гаварыў сам сабе:

— Ён мне загадвае ехаць у горад... А што я там буду рабіць, шукаць пяты вугал? З кім загавару? З нявесткай? З сынам? Чакай! Толькі гыркаць будуць ды рот затыкаць... Не!.. Тут я і з сабакам нагаваруся, і жонцы вушы намазолю, і сам сабе што хачу, тое і пляту... Тут я вольны чалавек...

Нарэшце фотакарткі раскладзены, і стары паволі пераводзіў вочы з адной на другую. «Нагуляўшыся» вачыма па мінулым, ён, як заўсёды, узяў у рукі сямейны фотаздымак.

— Колькі ж гэта гадоў прайшло з тае пары? — спытаўся дзед, хоць добра ведаў колькі, бо гэта ж пытанне задаваў сабе і ўчора, і тыдзень, і месяц назад...

На аматарскім фотаздымку былі ўсе разам — і дзеці, і ўнукі, і жонка, якой заставалася жыць яшчэ чатырнаццаць гадоў. А сабраліся ўсе, каб адзначыць ягоныя, старога, семдзесят год.

Колькі было слоў і пацалункаў! Колькі было смеху і тлуму! Здавалася, вечна жыві і не памірай.

«Ці не таму,— падумаў стары,— што мелася малако, сала ды яйкі? Няўжо кавалак сала даражэй за чалавека?

Але ці ж у нас адных такое ліха падкруцілася? Вунь — і б’юць, і душаць бацькоў дзеці. Нашы хоць за горла не бралі — адцураліся, і ўсё. Зніклі, як і не было... І за гэта дзякуй...»

«А тут, на гэтай фотакартцы,— пацяшаўся думкай стары,— усе вясёлыя, добрыя... А мы з жонкай тут яшчэ нічога! Толькі сталі чамусьці неяк дзіўна — збоку прыпёку... А-а, дробязь...»

Паклаўшы асцярожна гэты фотаздымак, стары ўзяў картачку дачкі. Узяў і, гледзячы паверх яе, стаў блукаць у думках... «У каго яна пайшла? Здаецца, у нашай радні такіх колкіх на язык і цвёрдых на сэрца не было. Раскрые рот — дык можна на падводзе заехаць і развярнуцца ў ім... Але на яе мы з жонкай не дужа і спадзяваліся, яна з маленства такая — такой, як тое жарабя з лысінай, і засталася...»

Зноў, не гледзячы на дачку, паклаў здымак на месца і ўзяў картачку ўнукаў. Пацяплелі вочы старога, закраталася ў душы светлае пачуццё.

— Залатыя мае ўнукі! — звярнуўся да іх дзед.— Вось хто імкнуўся да мяне на ўсё лета, хоць на хлеб і ваду, толькі б быць у дзеда... Але радзей і радзей вас прывозілі, а потым, відаць, зусім забаранілі і думаць пра дзеда... Некалі вы шмат чаго зразумееце... Дасць Бог, зразумееце...

Перабіраў бы дзед фотаздымкі і далей, але стомленасць ацяжарыла павекі, нейкі туман паплыў над фотаздымкамі, і галава старога павалі апусцілася на стол, дзе ляжала самае дарагое — яго мінулае...

Раніцай аднавяскоўцы з суседніх хатаў пачулі студзіўшае кроў скавытанне сабакі ля дзедавага ганка.

Адчынілі дзверы ў хату і ўбачылі старога, які сядзеў за сталом, паклаўшы галаву на фотаздымкі.

З фотакарткі, якую сціскалі вузлаватыя пальцы дзеда, пяшчотна ўсміхаліся яго ўнукі...

Ля ганка жаласліва выў, перажыўшы свайго гаспадара, стары, спушчаны з ланцуга сабака.

## Суседава ласка

Вядома, што бліжэйшы сусед нярэдка бывае больш блізкім па жыцці, чым сваякі.

Да каго чалавек найперш кідаецца за дапамогай, за парадай, калі здараюцца нейкія непрадбачаныя праблемы? Да суседа! З кім сустракаецца амаль штодзённа? З суседам!

Вось і Параска, збіраючыся вясной адсеяцца, падалася з просьбай да суседа.

— Міхалка, суседзе, дыскані ты мне зямлю пад грады. Месца новае, дзірваннае — амаль цаліна. Учора пасля працы ткнулася туды з рыдлёўкай, сёння — сярэдзіну не чую, рукі адвальваюцца...

Міхалка працаваў на трактары, да якога можна пачапіць плуг, барану, культыватар з дыскамі.

Параска бачыла, як Міхалка кожны год — вясной і восенню — дыскаваў сваю зямлю перад сяўбой і пасля збору ўраджая. Зямля пасля такой працэдуры робіцца як пярына.

Жанчына, магчыма, і не пайшла б на паклон да суседа, але новая, невыпрацаваная зямля патрабавала шмат фізічных намаганняў. А рукі ў чалавека толькі дзве на безліч рознай работы.

Міхалка ўважліва выслухаў суседку і даў згоду:

— Чакай! Днямі ўзрушу твой дзірван. Рыхтуй... сама ведаеш што.

Параска, ды і ўсе суседзі Міхалкі, ведалі гэта яго «што». Ён кожны дзень пасля працы, як кажуць, не прасыхаў. Бывала і з-за руля выкульваўся «падшафэ».

Чакала Параска, чакала дзень, тыдзень, а клопат яе, па-ранейшаму з ёй.

Гукнула яна аднойчы праз плот суседа, а той толькі рукой махнуў:

— Буду! Буду! Нікуды не ўцячэ твой дзірван! Ці ж табе гарыць?!

А ў Параскі сапраўды гарэла душа. Суседзі даўно адсеяліся, а яе зямля «гуляе» ўхаластую.

Не дачакаўшыся суседавай ласкі, жанчына сабралася з сіламі, ператрэсла віламі дзірваннае карэнне і адсеялася па поўнай. І морквачку, і бурачкі, і цыбульку, і фасольку, і розную неабходную драбязу — салату, кроп ды радыску.

Выпрастала гаспадыня спіну і з палёгкай уздыхнула:

— Ад чужой ласкі не з'ясі каўбаскі, а праз свае рукі наядуцца і ўнукі.

Прайшло некалькі дзён, Параска пераключылася на іншыя клопаты і пачала забывацца на дзірванную эпапею.

Але аднойчы пад вечар пачула напружанае гудзенне трактара на сваёй сядзібе.

Параска куляй выскачыла з хаты і з жахам убачыла, як «Беларус» з прычэпленым культыватарам дыскуе яе адсеяныя і спарадкаваныя грады.

Яна з усяе моцы закрычала:

— Стой, вар'ят ты гэтакі! Спыніся!

Але Міхалка заліхвацкі выпісваў васьмёркі і развароты, «узрушваючы дзірван».

Убачыўшы гаспадыню, ён «выкуліўся» з-за руля і з гонарам паказаў на знішчаную Параскіну працу.

— Ну як?!

Параска, стрымліваючы слёзы, выдыхнула:

— Злыдзень ты, злыдзень!..

Яна абяссілена падалася дадому шукаць новае насенне, а збянтэжаны і падпіты Міхалка ніяк не мог зразумець, чаму за такое яго старанне, ён атрымаў не тое, чаго чакаў?

— Вось і рабі людзям ласку, — выдыхнуў ён.

Сеў у трактар і паехаў шукаць, каму б яшчэ узрушыць грады.

# Сухі закон

Распіліся людзі да таго, што кіраўніцтва ўсіх узроўняў вымушана было, як кажуць, наступіць на любімы мазоль «алканаўтам».

Былі абнародаваны дырэктывы, загады, распараджэнні, якія забаранялі распіваць спіртное ў працоўны час, у службовых памяшканнях, а таксама настойліва прапаноўвалася і пасля працы не збірацца больш двух чалавек.

А паколькі не адно пакаленне на генным узроўні прывыкла варганіць «на траіх», забарона балюча ўдарыла па нацыянальнай асаблівасці мужчынскай паловы насельніцтва.

Але для таго і будуюць абарончыя цытадэлі, каб іх бралі хітрасцю...

Алесь патэлефанаваў у суседні кабінет свайму супрацоўніку і сябру:

— Кастусь, сёння пасля працы чакай мяне ля «Гастранома». Папярэдзь і хлопцаў з планавага аддзела.

— Ты што, Алеська, — пачуўся ў трубцы спалоханы голас Кастуся.— Нас жа пазвальняюць з працы. Я баюся!

Алесь запэўніў:

— Бяспройгрышны варыянт! Усё прадумана да драбніц! Сустракаемся ля крамы!

Алесь лічыўся аўтарытэтам і ў начальства, і ў супрацоўнікаў, таму ягоныя пяць сяброў чакалі ў вызначаным месцы, нервова пазіраючы па баках.

Алесь сабраў з усіх грошы і рашуча ўвайшоў у краму, дзе купіў усё неабходнае для размачывання сухога закону.

— За мной! — закамандаваў ён, і ўсе баязлівым гуртам падаліся за сваім аўтарытэтам. Было страшнавата,

але й цікавасць перапаўняла кроў, таму адрэналіну ў ёй было значна больш, чым самой крыві.

Прайшоўшы адзін квартал, Алесь зноў жа рашуча крутнуў на гарадскія могілкі, дзе адчыніў варотцы агароджы і тут жа, ля помніка, на імправізаваны стол выставіў гарэлку і закусь.

— Вось яна, нейтральная зона! — усміхнуўся Алесь.— Сюды ні начальства носу ні ткне, ніякія кантралёры. Налівай!

Але Алесь памыляўся. Начальнік аддзела кадраў, як правіла, надзелены асаблівым нюхам і слыхам, нават чуццём.

Не паспелі сябры наліць па другой, як кадравік Нюхновіч непрыкметна з'явіўся на гэтых жа могілках і здаля, з-за другога помніка назіраў за сваволыніцтвам падначаленых.

Трэба сказаць, што Нюхновічу Бог даў не толькі нюх і слых, а яшчэ і чалавечнасць. Таму кадравік пачаў дакараць сябе: «памінаюць людзі, а я, як той следчы... Праўда, чуецца смех памінальшчыкаў, але ж жыццё працягваецца — жывыя павінны жыць».

І ён, гэтак жа непрыкметна, як прыйшоў, пайшоў прэч, каб не перашкаджаць выконваць святы рытуал.

На наступны дзень Алесь зноў патэлефанаваў у суседні кабінет:

— Ну як, Кастусь, сёння паўторым?

У трубцы пачулася бадзёрае:

— Ніякіх сумненняў! Збіраемся ў той жа час і на тым месцы.

На могілках Алесь прапанаваў:

— Не будзем дакучаць аднаму нябожчыку, хадзем да другога.— І памінальшчыкі ўладкаваліся за другой агароджай, ля другога помніка.

Падначаленыя Нюхновіча не ведалі, што ён памятае і такі ленінскі прынцып, як «давярай, але правярай». Таму

кадравік зноў непрыкметна назіраў за вясёлай кампаніяй і здзіўляўся: «Чаму гэта яны сёння памінаюць другую душу?»

Ён падкраўся бліжэй і нават пачаў сёе-тое чуць.

Смеху сёння было значна больш, чым учора.

Вось нейкія людзі прайшлі побач з яго падначаленымі і смех спыніўся, пачулася:

— Пухам зямля будзь нашаму дарагому Ігнату!

— Спі спакойна, наш дарагі дружа!..

Нюхновіч зноў, як і ўчора, хацеў падацца прэч, але «ленінскі прынцып» спыніў яго: «Дачакаюся заканчэння, усё высветлю і праверу».

І ён пайшоў апошнім з тых могілак, наведаўшы перад адыходам тую магілу, якую «аплакваў» Алесь з сябрамі. Якое ж было здзіўленне, калі ён на помніку прачытаў, што ў зямлі пакоіцца не «дарагі сябар Ігнат», а нейкая Агаф'я, пражыўшая на гэтым свеце 89 гадоў, і пахаваная даўным-даўно, бо гарадскія могілкі, колькі ён памятае, былі закрытымі для пахавання.

— О-о, прайдзісветы! — зашаптаў Нюхновіч.— Ну я вас заўтра памяну!

Назаўтра начальнік аддзела кадраў запрасіў да сябе Алеся.

Алесь узрадаваўся, бо быў на добрым уліку ў кіраўніцтва і чакаў павышэння. Алесь не стрымаўся і патэлефанаваў свайму сябру:

— Трымайся, Кастусь, за неба! Іду да «Нюхалкі», лічы, што сёння будзем абмываць маю новую пасаду!

Прывітаўшыся, Алесь стаў ля парога начальніцкага кабінета і чакаў, што той запросіць яго сесці ці ўвогуле кінецца насустрач, але Нюхновіч разглядаў нейкія паперы і не звяртаў увагі на наведвальніка.

Алесь кашлянуў.

Нюхновіч падняў вочы і запытаўся:

— Скажыце, хто ў вас пахаваны з родных, блізкіх ці сяброў на гарадскіх могілках?

Алеся нібы лупянулі калом па галаве. Ён ажно прысеў ад нечаканасці. Ды і раней Нюхновіч звяртаўся да яго на «ты», а сёння...

— Ну дык хто? — паўтарыў пытанне кадравік.

Алесь адчуў нядобрае, таму адказаў туманна:

— Многія...

— А ўчора вы каго паміналі? — зноў лупянула, нібы калом па галаве пытанне.

— Учора?..— Алесь пачаў успамінаць, якое імя яны называлі.— Учора мы паміналі майго роднага дзядзьку Ігната... Памёр, бедны, у маладым узросце...

Нюхновіч, чаго не жадаў цяпер Алесь, устаў з-за стала і падышоў да яго:

— Дык вось, сынок... Схадзі сёння на тую магілу адзін, памяні тую старую жанчыну і папрасі ў яе прабачэння. Абяцаю, што сачыць за табой не буду — за табой будзе сачыць тваё сумленне.

Алесь выскачыў ад кадравіка, як абліты варам. Ля дзвярэй яго кабінета стаяў узрушаны Кастусь.

— Ну, абмываем тваю новую пасаду?

Алесь сумна зазірнуў сябру ў вочы і ціха прамовіў:

— Буду... але не абмываць, а адмываць сваё сумленне.

## Чалавек, які глядзеў на зоркі

Якім Каваль з маленства цягнуў свой воз. Пасляваенная галеча і галаднеча змяніліся пазней на перабіванне з хлеба на ваду. Якім прыкладаў усе намаганні, з апошніх сіл кідаўся ва ўсе бакі, шукаў палёгку, але, як кажуць, толькі часова паслабляў пятлю на шыі. Сіл заставалася ўсё меней, здароўе з узростам пахіснулася, а «дабрабыт» якім быў, такім і заставаўся.

Якім горка жартаваў:

— Вось я, Каваль, кую свой лёс... І што? Нястачы повен воз...

Але, кажуць, калі Бог затрымае сваё вока на некім — лёс таго чалавека робіцца шчаслівым. Мусіць, Бог усё ж заўважыў Якіма Каваля і непрыкметна для гэтага ўжо немаладога чалавека запаліў у ягонай душы сваю боскую іскру. Хутчэй за ўсё так і адбылося, бо раптоўна Якім, які даўно апусціў галаву і глядзеў толькі сабе над ногі,— расправіў плечы і заўважыў сонца і ўбачыў на начным небе зоркі. Дзіва — але рука пацягнулася да паперы, і на ёй пачалі нараджацца прадыктаваныя душой творы. Літаратурныя творы! Паэтычныя творы! Хлеба па-ранейшаму не хапала, адзенне было старым і нэндзлым, затое душа адчула крылы, і гэта зрабілася галоўным у жыцці. Дзень быў непадобны на мінулы дзень, кожная ноч адрознівалася ад той, што прайшла, новым, нечаканым творчым здабыткам. Вакол была тая ж жыццёвая шэрасць, а Якім Каваль быццам знаходзіўся на цудоўным, казачным востраве. І такі востраў, сапраўды, існаваў — востраў творчасці, востраў душэўнай узнёсласці Якіма Каваля!

Будучы чалавекам даволі сталым, чалавекам, які з’еў пуды горкай солі, Якім здагадаўся, што без боскай дапа-

могі тут не абышлося. Ці ж гэта магчыма: усё жыццё без хлеба, а пад старасць — у неба! І Якім шчыра і рэгулярна пачаў наведваць царкву — хрысціцца і выказваць падзяку Богу.

Пісалася яму лёгка, «пладавіта» — кнігі выходзілі з друку адна за другой. Задуманага і ненадрукаванага было яшчэ болей.

І яшчэ больш на аднаго шчаслівага чалавека стала на зямлі!

Аднойчы Якімавы думкі прымусілі руку напісаць твор, які спалохаў самога аўтара. Не тое каб надта спалохаў, але ў душу закраліся трывога, сумненні — навошта ж я так?!.

Якім і сам не мог адказаць, як атрымалася так, што напісаўся богаадступніцкі твор. Праўда, пасля наведванняў царквы ў Якіма і сапраўды закралася падазронасць, што служыцелі храмаў боскіх самі не надта верацъ у тое, што прапаведуюць. Якім злаваўся на сябе: «Якая мая справа? Няхай сабе не вераць! Навошта ж я плюнуў у студню, якая мяне поіць?..»

Настрой псаваўся. Жыццёвая шэрасць бліжэй падступіла да казачнага вострава Якімавай творчасці. Відаць, сам спакуслівы д'ябал вадзіў Якімавай рукой, шаптаў яму ў вуха багахульшчыну...

Але справа зроблена. Твор надрукаваны. Узнёсласць пакідала Якіма Каваля.

* * *

Лета, як кажуць, прайшло толькі паўдарогі. Краскі разбегліся па лугах і палях. Птушаняты вылецелі з гнёздаў, і ў птушак паявілася больш вольнага часу для спеваў.

У свой вольны час Якім Каваль імчаў у родную вёску, каб душой зліцца з прыродай, з краскамі ў полі, з птушыным шчабятаннем.

Калі надышла субота, Якім сабраўся, сеў на аўтобус і пакаціў у вёску. Жонку на гэты раз чамусьці не ўзяў, хоць тая таксама любіла вёску і сёння прасілася разам з мужам у дарогу. Нешта прымусіла катэгарычна адказаць жонцы: «Я хачу пабыць адзін!»

Жонка з неахвотай пагадзілася — магчыма, будзе замінаць яму ў творчай працы — і засталася дома ў Мінску.

Прыехаўшы ў вёску, Якім заварыў каву і з асалодай піў яе маленькімі глыткамі на верандзе. Думаў, як здавалася, аб усім і ні аб чым. Ды і глядзеў у нікуды — у адну кропку, а бачыў усё мінулае жыццё, такое складанае, цікавае і супярэчлівае. Гэткая ж супярэчлівасць запоўніла душу: спакой і трывога, задавальненне і расчараванне, узнёсласць і сум.

Выпіўшы каву і нагледзеўшыся «ў нікуды», Якім чамусьці ўзяў «ТОЙ» твор і ўважліва перачытаў. Перачытаў і падбадзёрыў сябе: «Ды я маю права пісаць усё, што захачу! І кропка!..»

Але гэтая думка бадзёрасці не дадала, і супярэчлівасць па-ранейшаму панавала ў душы.

Ноч надышла цёплая, зорная. Спаць не хацелася, і Якім стаяў на двары ля хаты. Стаяў і глядзеў на неба. Справа гэта — глядзець на зоркі — зрабілася прывычнай, і Якім рэдка ўспамінаў той час, калі глядзеў толькі пад ногі і амаль не задумваўся над тым, што глядзець на зоркі — гэта вялікае шчасце, падараванае Богам.

«Чаму я жонку не ўзяў? — падумалася міжволі.— Такая цудоўная ноч! Усё роўна нічога не пішу...»

Здавалася, што зоркі падміргваюць, што яны кратаюцца, як жывыя, што гэты казачны карагод зараз адарве ад зямлі, уздыме ў бяздоннае неба і закруціць у бясконцым зорным танцы.

Якім глядзеў не міргаючы, быццам баяўся, што бачыць гэта ў апошні раз.

Раптоўна ў глыбіні чорнага неба з’явілася новая зорка, якая гарэла ўсё ярчэй і ярчэй, набліжаючыся да зямлі.

— Яна набліжаецца! — усклікнуў Якім.— Які цуд!

Зорка набліжалася з неверагоднай хуткасцю, ператваралася ў агністы шар, рабілася ярчэй за сонца. Якіму было нясцерпна балюча глядзець на яе, але адарваць вочы ад гэтага начнога сонца не было сіл. Свячэнне зрабілася такім моцным, што Якімавы вочы аслеплі. Агонь на імгненне балюча дыхнуў, ператвараючы ўсё на сваім шляху ў попел, пачуўся страшэнны выбух, і Якіма Каваля не стала.

* * *

Месца падзення метэарыта ачапілі шчыльна і хутка. Хата, у якой жылі калісь Якімавы продкі, у якой прайшло Якімава маленства і маладосць і ля якой Якім стаяў, углядаючыся апошні раз у жыцці ў зорнае неба,— знікла, нібы яе і не было. Знікла імгненна разам з гаспадаром. На яе месцы зеўрала вялізная варонка з аплаўленымі краямі. У паветры вісеў пах гарэлага жалеза і драўляных галавешак, раскіданых вакол падзення метэарыта.

Да гэтага месца нікога блізка не пускалі, нават Якімаву жонку, якая стаяла непадалёк ад жахлівага месца, галасіла і рвала на сабе валасы.

Зацікаўленыя афіцыйныя асобы — вучоныя, спецыялісты, прадстаўнікі адміністрацыі Прэзідэнта, карэспандэнты ўсіх сродкаў масавай інфармацыі, шчыльна абклалі дзівосны кратэр і не столькі займаліся даследаваннем, колькі заміналі адзін другому. Вучоныя здзіўляліся, што пасля сутыкнення метэарыта з зямлёй і выбуху ані кавалачка нябеснага цела не знайшлі.

Хтосьці з журналістаў спытаўся ў вучоных з Акадэміі навук, ці праўда, што тут стаяла хата і загінуў чалавек?

— Чалавек?! Якая дробязь у параўнанні з цэлай крыніцай для навукі! — адказалі вучоныя.

— Які добры і цікавы быў чалавек! — выцiралі ўзмакрэлыя вочы аднавяскоўцы Якiма.

— Светлая была душа! — цяжка ўздыхалі людзі з навакольных вёсак.

«Не будзе болей сваімі творамі пароць у наша самалюбства!» — з палёгкай думалі пісьменнікі.

— Пры падзенні метэарыта не абышлося без шматлікіх ахвяр, на шчасце, загінуў толькі адзін чалавек,— паведамлялі газеты, радыё і тэлебачанне.

За сенсацыйнай шуміхай ніхто не звярнуў увагі на такую дробязь, як гібель аднаго чалавека.

І самае галоўнае — ніхто не сказаў і не напісаў, што загінуў чалавек, які глядзеў на зоркі.

* * *

Па палявой дарозе, абапал якой раслі рознакаляровыя краскі, ішоў стары дзед з унукам. Хлапчук амаль не звяртаў увагі на краскі — яго больш цікавілі незвычайныя каменьчыкі.

— Дзядуля! Глядзі, які перламутравы, з чорным бачком! — захапляўся ўнучак.

— Гэта крэмень! — тлумачыў дзед.

— А чаму іх так многа на нашай зямлі? — не супакойваўся хлопчык.

— Даўно, калі яшчэ мой дзед быў такім хлапчуком, як ты,— пачаў распавядаць стары,— на нашу вёску зваліўся з неба метэарыт. Выбух, кажуць, быў страшэнны, і метэарыт дробнымі кавалачкамі разляцеўся па ўсёй лагойскай зямлі. Магчыма, што кавалачкі крэменю і ёсць часцінкі таго нябеснага госця, бо крэмень знойдзеш не ўсюды, а толькі ў нас,— закончыў дзед.

— Ой, як цікава! — усклікнуў хлопчык і падняў новы каменьчык з вострымі акрайчыкамі...

Час сцірае многія падзеі і імёны, таму сёння пра Якіма Каваля ні дзед, ні ўнук не чулі і вухам. І толькі колішні боскі падарунак — боская іскра, запаленая ў душы Якіма Каваля, працягвае ззяць у ягоных творах.

# Суседзі

Была нядзельная раніца. Ягор Халадовіч выйшаў з хаты на двор, закурыў і з прыемнасцю зірнуў на вёску. Хату сваю ён калісьці пабудаваў на самым пагорку, таму вёску, да самай канцавой сядзібы Васіля Каптура Ягор бачыў, як на далоні.

І як было без прыемнасці пазіраць на родны кут, калі ў кожнай хаце — сумленныя і працавітыя яго аднавяскоўцы, большасць з якіх яго аднагодкі.

Варта было радасці альбо суму наведаць чыю-небудзь хату, як ужо ўся вёска гатова была падзяліць і радасці, і непрыемнасці суседа як уласныя.

Ягорава маленства гойсала па гэтым наваколлі, юнацтва ж светла і далікатна чакала непазбежнай сустрэчы з тым, аб чым не раз чуў ад дарослых, пра што ўсхвалявана чытаў у кніжках, бачыў у кіно.

Каханне не абмінае нікога ў жыцці, прыносіць у лёс кожнага, ні з чым не параўнальнае свята душы, надае сэрцу асаблівую асалоду.

Пранесці праз жыццё такую ўзаемную гармонію пачуццяў няпроста, але ўсё ж большасць закаханых і ў пасляшлюбных выпрабаваннях не дазваляюць светлым пачуццям, узнікшым у маладосці, марнець, захоўваюць іх гэткімі ж светлымі і, нават больш моцнымі ўсё жыццё.

З такімі думкамі Ягор пазіраў на родны яго сэрцу куток зямлі і цешыўся, што яго сямейныя адносіны з Надзеяй, з жонкаю, не пакідаюць так званых рамак кахання.

Ягор падумаў пра каханне і ўсміхнуўся. З узростам у сям’і такое паняцце як каханне набывае іншую, значна большую вагу і жыццёвую акрэсленасць.

Тое, лёгкакрылае каханне маладосці, з гадамі сумеснага жыцця ўзбагачаецца ўзаемапавагай, узаемаразуменнем, узаемападтрымкай і ўзаемаадказнасцю.

Проста каханне, без такіх узаеманеабходнасцяў, было б недаўгавечным і няжыццяздольным.

Ягор з задавальненнем адзначыў, што вось ужо пятнаццаць гадоў — а тэрмін не малы — яны з Надзеяй сапраўды ўзаеманеабходныя адно аднаму.

Праўда, існуе адно «але», якое псуе, і даволі моцна, жыццё — Бог не даў ім дзяцей.

Гэту тэму яны ў размовах абыходзілі, але яна прысутнічала ў іх думках пастаянна Іхоць яны рабілі выгляд, што не думаюць пра гэта, ведалі, што кожны з іх балюча перажывае адсутнасць дзіцячых галасоў у хаце, якая ад гэтых галасоў набыла б большую ўтульнасць.

Ягор яшчэ і яшчэ раз акінуў вокам вёску, блізкіх праз плот і праз вуліцу суседзяў, і больш далёкія сядзібы аднавяскоўцаў.

Зноў усміхнуўся ад думкі пра «блізкіх» і больш «далёкіх» суседзяў. Хіба ж мог ён падзяляць аднавяскоўцаў на блізкіх і далёкіх? Усе яны — блізкія яго думкам, яго душы і сэрцу людзі.

Бразнула клямка дзвярэй, і з хаты выйшла Надзея, як заўсёды зграбна апранутая і зачэсаная.

— Ягорка, што ж ты да сняданка глытаеш дым ад цыгарэты? — абурылася яна.— Мы ж дамовіліся, што ты ўвогуле кінеш гэтае глупства.

Ягор, як злоўлены настаўніцай вучань, кінуў акурак пад ногі і хуценька наступіў на яго.

Надзея рассмяялася:

— Эх ты, канспіратар! Пайшлі снедаць — твая любімая яешня на сале з блінамі.

Ягор апетытна прыцмокнуў:

— Эх і смакацішча! І сапраўды, больш смачная, чым дым.

Паснедаўшы, Ягор памкнуўся з хаты.

— Пайду да Юрася,— сказаў ён жонцы.— Абяцаў яму дапамагчы перавезці стажок сена.

Жонка Юрася Алена, толькі рукамі развяла:

— Юрась запрог каня і паехаў да Каптура, штосьці ў яго пераворваць ці перавозіць...

— А сена? — здзівіўся Ягор.— Мы ж дамаўляліся перавезці стажок пакуль суха.

Алена ўсміхнулася:

— Ты ж ведаеш майго руплівуца. Пакуль не пераробіць чужую работу, да сваёй не дакранецца.

— Ну не скажы! — запярэчыў Ягор.— У вас парадак пазірае з усіх куткоў. А ўвогуле падамся і я да Каптура, магчыма, і мае рукі там спатрэбяцца.

Адышоўшыся, гукнуў да Алены:

— А стажок мы перавязём, не хвалюйся!

— А я... — не паспела Алена адказаць, як штосьці загрукацела і Ягор прачнуўся.

Грукаценне далятала ад суседа праз дарогу. Там вось ужо амаль месяц стаіць машына з вышкай і бурыць свідравіну, шукаючы артэзіянскую ваду.

— Эх, такі сон сапсавалі, прышэльцы! — абурыўся Ягор. Прышлых, якія панаехалі ў яго вёску дачнікаў, ён называў прышэльцамі.

Ягору, дакладней, дзеду Ягору, апошнім часам сніўся адзін і той сон — яго маладосць, яго, у сіле яшчэ вёска, калі былі жывыя ўсе яго сябры, аднавяскоўцы і, галоўнае — той час, калі была яшчэ жывая яго жонка, яго Надзея.

Дзеду Ягору за восемдзясят. Ад калісьці напоўненай жыццём і неўгамоннасцю вёскі — сёння засталіся рожкі ды ножкі.

Жыццё вёскі, як і жыццё чалавека, здавалася, будзе доўгім, а на самай справе аказалася кароткі сном. Многія вяскоўцы пайшлі з гэтага свету ў іншы, маладыя з’ехалі

бліжэй да сучаснага жыцця туды, дзе ёсць праца і перспектыва.

Сёння на канцавой сядзібе ледзь клыпае Васіль Каптур, які таксама, як і Ягор, застаўся адзін. Сябры міжволі дасяброўваюць у думках, бо дзеду Ягору, як і Каптуру, складана прыкалдыбаць адзін да аднаго.

Цяпер у старога Ягора новыя суседзі — дачнікі, якія няведама адкуль наехалі і апанавалі гэту зямлю і няведама за якія грошы адбудавалі двух-трохпавярховыя дамы-шыбельніцы.

Даўней Ягор кожную раніцу сустракаўся з першым сонечным промнем. Цяпер нязграбная пабудова суседа праз вуліцу закрывае сабой паўнеба, і дзед Ягор забыўся ўжо, як выглядае сонечны ўсход.

Злева і справа ад яго — гэткія ж дамы-гмахі, напоўненыя шумам, гамам, музыкай — птушачкі не пачуць.

Цяпер вось нават гэтую гвалтоўню перакрывае свідравальная траскатня, ад якой у дзедавай хаце трымцяць шыбіны ў вокнах.

— Пайду! — не вытрымаў дзед Ягор.— пайду да суседа і даведаюся, дакуль ён будзе труціць маю старасць.

І дзед з кійком у руцэ падаўся праз дарогу шукаць паратунку.

Але не так проста аказалася трапіць да суседа, бо дом быў агароджаны высачэзнай жалезнай агароджай.

Патузаў стары масіўныя вароты і сабраўся было ісці дахаты ні з чым, але ўбачыў кнопку званка.

Цісконуў на яе некалькі разоў, патаптаўся на адным месцы, і зноў памкнуўся назад праз дарогу. Але вароты прыадчыніліся і з-за іх выглянуў круглатвары гаспадар маёнтка.

— Что, старче, надо? — спыталася суседава галава, бо астатняга цела не было відаць.

— Добрай раніцы, шаноўны сусед! — неяк вінавата павітаўся дзед Ягор.— Вось, прыйшоў пазнаёміцца...

Тры гады, як вы тут пасяліліся, а нам неяк не дало пагутарыць. Не па-людску гэта, не па суседску.

— Ты что, старче! Какое знакомство?! Какие разговры?! У меня дел по горло! Усёк?

У дзеда Ягора ад такога прыёму яшчэ больш прыгорбілася спіна. Але ён знайшоў сілы працягнуць размову.

— А я чую, што вы не валодаеце беларускай мовай... Пэўна, з Расіі?

Сусед, на здзіўленне старому, адказаў па-беларуску:

— Валодаю, валодаю і рускай, і беларускай мовамі. Але ж у нас, дзед, двухмоўе, руская таксама дзяржаўная. Чуў пра гэта?

— Чуў, чуў, але ж у вёсцы больш натуральна гучыць беларускае слова. А па-другое, няхай сабе руская мова дзяржаўная, а нацыянальная мова адна — беларуская.

Сусед рассмяяўся:

— Ты, старэча, я бачу, разумны. А ці вывучаеш ты кітайскую мову?

Стары здзівіўся:

— Кітайскую? Навошта?

Сусед паўтарыў дзедава пытанне:

— Навошта? Хутка, дзядуля, кітайцаў у Беларусі будзе больш, чым беларусаў. І рады будзеш пачуць рускую мову... Вось так, нацыяналіст.

— Нешта я нічога не разумею,— разгубіўся дзед Ягор.

— А паколькі нічога не разумееш, старэча, будзь здароў! — і галава суседа знікла за варотамі, якія бразнулі сваімі жалезнымі зубамі.

Стары патаптаўся ля агароджы і паклыпаў дамоў, дакараючы сябе:

— Тузанула ж мяне за язык закрануць мову... Пра галоўнае так і не спытаўся... А пры чым тут кітайская мова і кітайцы?..

* * *

Ішоў час. Знаёмства так і не адбылося. Ягораў сусед зімой амаль не прыязджаў, а летам гойсаў на машыне туды-сюды, не звяртаючы ўвагі на старога.

Праўда, сям'я яго — жонка і двое дзяцей, усё лета жылі на дачы, насупраць дзеда Ягора, да якога таксама праяўлялі мала зацікаўленасці.

Аднойчы стары заўважыў, як да суседава маёнтка прымчала «хуткая дапамога». На наступны дзень — зноў. Потым убачыў, як людзі ў белых халатах на насілках вынеслі з дому суседаву жонку і павезлі яе, пэўна, у бальніцу. Следам на машыне памчаў і сусед.

Тут дзед Ягор змікіціў, што справа сур'ёзная, але што да чаго, спытацца не было ў каго.

Прыкладна праз месяц, стары зноў заўважыў, як сусед прывёз сваю жонку. І жыццё насупраць пацякло на былы манер.

Суседка з дзецьмі заставалася дыхаць вольным паветрам, а сусед шнураваў на сваёй машыне туды-сюды.

Але праз нейкі час зноў пачала наведвацца да суседа «хуткая дапамога».

Дзед Ягор па сапраўднаму занепакоіўся, ды і невядомасць данімала яго.

Стары не вытрываў і зноў паклыпаў да жалезных варот суседа, дзе ціскануў на знаёмы ўжо званок.

На гэты раз паказалася не толькі галава, а і ўвесь сусед, які не спытаў: «Табе, чаго, старэча?», а прыцішана выдыхнуў:

— А-а, гэта вы, сусед... Вітаю...

Дзед Ягор адказаў на прывітанне і таксама ціха спытаў:

— Непакоюся я, што з вашай гаспадыняй?

— Бяда,— зноў выдыхнуў сусед.— Сэрца яе згубіла свой здаровы рытм, ды настолькі, што дактары пасуюць... Праўда, раяць легчы пад нож, але мы пакуль не рызы-

куем... — Потым спахапіўся: — Прабачце, мы пакуль па сапраўднаму не знаёмыя. Мяне завуць Аляксеем Іванавічам, можна проста Аляксеем. А вас?

Стары адказаў:

— Я калісьці быў Ягорам Максімавічам, а цяпер зрабіўся дзедам Ягорам.

Дзедаў сусед працягнуў руку:

— Вельмі прыемна.

Стары штосьці пакумекаў і спытаў:

— Кажаш, сэрца збілася з сваёй дарогі? Было і ў мяне такое.

— І што? — запаліўся сусед.— Дапамаглі дактары? Як? Чым?

Дзед Ягор кісла ўсміхнуўся:

— Дактароў, сынок, тады тут не надта і было. Тэлефонаў, каб выклікаць іх, таксама не было. Людзі спрадвек ратаваліся ад сваіх балячак самі.

— А вы? Як уратаваліся вы?

— Я? — дзед падумаў і працягваў: — Ёсць такі важны доктар, як матухна-Прырода. Шмат людзей яна ўратавала ад розных хвароб. Шмат... Я штосьці пераняў ад бацькоў, да чагосьці датумкаўся сам. Збіраў розныя лекавыя травы, зёлкі, настойваў іх разам з коранем валяр’яны. Штосьці дадаваў, штосьці адымаў, пакуль не дабіўся іх спрыяльнасці сэрцу. Піў гэтыя напоі і прыслухоўваўся да сваёй хваробы, піў і прыслухоўваўся, пакуль яе зусім не перастаў адчуваць. З тае пары я забыўся, што ў мяне ёсць сэрца... А пад нож, сынок, не спяшайцеся...

Аляксей Іванавіч запаліўся яшчэ больш:

— А можа, вы, шаноўны Ягор Максімавіч, прыгатуеце такі напой і для маёй жонкі?

— Я і сам пра гэта падумаў, але баяўся пачуць ваш недавер.

— Што вы, шаноўны дзед Ягор! Пра недавер забудзьцеся!

— Ну тады,— пагадзіўся дзед,— патрывайце тыдзень, пакуль завараныя травы аб’яднаюць сваю лекавую сілу. І не хвалюйцеся, травы — не аптэчная хімія, не пашкодзяць. Дасць бог, дапамогуць.

Аляксей Іванавіч не сунімаўся:

— Будзем чакаць хоць тыдзень, хоць два!. А зараз, можа, зойдзеце да нас у дом. Будзем рады.

Стары адмовіўся:

— Другім разам. Лепш скажы, сынок, як завуць тваю гаспадыню, бо над травамі я чытаю малітву і кірую яе да таго, хто будзе прымаць напой.

— Завуць яе Надзеяй,— адказаў сусед.

— Надзеяй? — сумна перапытаў стары, успомніўшы сваю жонку.— Прыгожае імя, вельмі прыгожае...

І пачала праз тыдзень суседава Надзея з надзеяй на выздараўленне прымаць дзедаў лекавы настой, і пачало яе сэрца вяртацца ў каляіну здаровага рытму.

А калі збеглае здароўе жанчыны вярнулася да сваёй гаспадыні, зрабіўся дзед Ягор не толькі добрым суседам гэтай сям’і, а родным чалавекам.

Цяпер Аляксей Іванавіч, коцячы на машыне з горада на сваю дачу, заўсёды вёз дзеду свежы хлеб, малако і розныя прысмакі.

Надышла чарговая зіма і дзедавы суседзі з’ехалі ў горад да вясны, а сам Аляксей Іванавіч наведваўся ў вёску рэдка.

Прыехаўшы аднаго разу да сябе на дачу, ён, як заўсёды, накіраваўся з харчовымі падарункамі да дзеда Ягора, але натыкнуўся на замок на дзвярах.

У вёсцы зімой амаль нікога не было, і Аляксей Іванавіч крутнуў на машыне да канцавога Каптура, каб у яго даведацца, куды падаўся Ягор Максімавіч.

Сумную навіну пачуў Аляксей Іванавіч. Дзеда Ягора вось ужо тыдзень як пахавалі. Яго знайшлі ля патухлай

печы з пучком лекавых траў у здранцвелай руцэ. Побач стаяў саган з вадой, у якім стары збіраўся прыгатаваць для сябе ратавальны напой Матухны-Прыроды.

Не паспеў — сэрца старога спынілася.

Аляксей Іванавіч выцер узмакрэлыя вочы і ціха прамовіў:

— Кажуць, што суседзяў не выбіраюць. Каб іх выбіралі, я б найперш выбраў дзеда Ягора — незабыўнага Ягора Максімавіча, зямля яму пухам...

## Пластычная аперацыя

Васіль з Наталляй пражылі сямейна дваццаць пяць гадоў і, як і належыць, справілі сярэбранае вяселле.

У іх сям'і, як і ў кожнай, было ўсякае, як кажуць, і белае, і чорнае.

І усё ж белага — згоды і ладу, было пераважна больш. А калі дадаць да згоды і ладу галоўны скарб жыцця, дзяцей, дык вунь як хораша выглядае дваццаціпяцігадовае серабро іх шлюбу.

У старэйшага сына Анціпа і яго жонкі Ганны, вось-вось з'явіцца свой «галоўны скарб жыцця». І Васіль з Наталляй урачыста рыхтаваліся да ганаровага звання дзядулі і бабулі.

Малодшы сын Ігнат, якому «стукнула» ўжо дваццаць гадоў, завіхаўся за аднавяскоўкай Таццянай, прыгажуняй і шчабятухай.

Жыццё, як смяяўся Васіль, набірала абароты.

Але дзе вы бачылі, каб жыццёвыя абароты абыходзіліся без непатрэбнай турботы?

І сапраўды, ёсць гэтыя турботы патрэбныя, нават неабходныя, напоўненыя руплівасцю і гаспадарлівасцю.

А ёсць зусім непатрэбныя, напоўненыя згрызотай і дурнотай.

Менавіта такія турботы, як лыжка дзёгцю ў бочку мёду, уваліліся ў адбудаваны і ўсталяваны лад жыцця гэтай звычайнай сям'і.

Адным разам, Наталля села на канапу да Васіля і лісліва кажа, дакладней, пытаецца:

— Ты, Васілёк, не супраць, калі я на тыдзень-другі ад'еду да маці і паруплюся там на іх клопатах? Дапамагу бацькам, падтрымаю іх. Ды і пабачыцца дужа хочацца, тым больш, што я ў адпачынку. Га?

— А можа, крыху пазней і я выкручу час, ды разам скокнем да бацькоў? — спытаў яе Васіль.— Ты тамналяжаш на грады, а я пазавіхаюся з плугам і сякерай...

Наталля запярэчыла:

— Пакуль ты будзеш выкручваць свой час, мой адпачынак скончыцца. Паеду я адна!

— Адна дык адна... — паціснуў плячыма ў знак згоды Васіль.

Бацькі Наталлі жылі ў дзесяці кіламетрах ад вёскі Васіля, куды Наталля пасля вяселля і пераехала жыць да мужа.

Васіль застаўся адзін на гаспадарцы. Праўда, дапамагалі сыны і цяжарная нявестка.

У вёсцы, калі хочаш, каб «жылосы ды вялося», няма паасобку жаночай ці мужчынскай працы. Гаспадарка агульная, яна і корміць, і поіць сям’ю. Васіль лёгка прызвычаіўся да агульных сямейных абавязкаў. Таму цяпер, застаўшыся і за гаспадара, і за гаспадыню, ўпраўляўся з усім без вялікай напругі.

Прыкладна, дзён праз дзесяць пасля ад’езду жонкі да бацькоў, Васіль вярнуўся дадому з працы і, пераступіўшы парог, аслупянеў, заўважыў нейкую незнаёмую асобу, якая ў фасоністай позе стаяла ля стала.

Апрытомнеўшы, гаспадар здзіўлена запытаўся:

— У нас госці? Але я вас ніколі не бачыў сярод нашых сваякоў. Вы хто?

— Ты што, Васілёк, не пазнаеш мяне? — спытала незнаёмая асоба.

А вось голас Васілю падаўся знаёмым. Ён уважліва пачаў разглядаць жанчыну. Вусны ў яе былі таўшчэзныя, як спелыя слівы. Размаўляючы, яна ледзь кратала імі. Вочы былі чамусьці розныя, не колерам, а па абрысу. Адно вока было як у кітайцаў — выцягнутае, як шчылінка, а другое — круглае, як у рыбіны. І дзіўная рэч, «шчылінка» міргала, а «рыбіна» пазірала не міргаючы, як перламутравы гузік.

Паміж вачыма і «слівамі» наліўся чырванню распухлы нос.

— Дык хто вы? — выдыхнуў аслупянелы Васіль.

Ён адчуваў сябе неяк спалохана, бо бачыў, як сыны і нявестка, седзячы ў куце хаты, напружана пазіралі на жанчыну.

На пытанне Васіля адказаў Ігнат:

— Тата, ты толькі не палохайся... Гэта наша мама...

— Хто-о-о? — выцягнуў шыю гаспадар.— Чыя гэта мама? Гэтае страхалюдзіна ваша маці? Апамятай, Ігнатка!

«Страхалюдзіна» наблізілася да збялелага Васіля.

— Васілька, ты ж прыглядзіся лепш. Гэта я, Наталля, з якой ты пражыў шчаслівыя дваццаць пяць гадоў. Ну, пазнаеш?

Васіль адскочыў ад жанчыны, як ашпараны:

— Вы што, дурня з мяне ўсе робіце? Я што, сваёй жонкі не пазнаю? Хопіць! Хто гэта жанчына?

— Супакойцеся, калі ласка, і паслухайце,— звярнулася да Васіля нявестка.— Гэта сапраўды ваша жонка Наталля і мая свякроўка. Яна нам шмат растлумачыла, а я вам усё раскажу. Наталля ездзіла не да бацькоў, а ў Мінск да нейкага там доктара, які зрабіў ёй пластычную аперацыю. Зараз гэта вельмі модна.

— Навошта аперацыю? — спалохаўся Васіль.— Яна хворая?..

Ганна зноў пачала супакойваць свёкра:

— Такую аперацыю робяць, каб стаць маладзейшым, прыгажэйшым...

Васіль тыцнуў пальцам у твар «страхалюдзіны»:

— Прыгажэйшай?! Ды з такой прыгажуняй боязна начаваць у сваёй хаце!

Наталля, а гэта была сапраўды яна, зноў наблізілася да мужа, які сціснуўся ў камяк.

— Васілёк,— пачала жанчына,— супакойся. Дасць бог, прывыкнеш. Я ж хацела, як лепш... Там, разумееш,

розныя тракцыі, карэкцыі, надрэзы, падцяжкі... Бывае горш, бывае лепш...

Васіль перахрысціўся.

— Якое тут лепш! Была жанчына як жанчына, баба як баба, не лепшая, але і не горшая за астатніх...

Наталля перахапіла гаворку:

— Не лепшая за астатніх?! Вось гэта тваё «не лепшая» і вымусіла мяне шукаць паратунку, каб быць лепшай.

Васіль зарагатаў:

— Паглядзіце на гэтую лепшую! Ад цябе ж на вуліцы нетолькі людзі, а нават вясковыя сабакі будуць шандарахацца.

Наталля зноў звярнулася да мужа:

— Ну а голас мой хоць пазнаеш?

— Што мне голас! — не супакойваўся Васіль.— Я не з голасеам жаніўся, і не з голасом жыў дваццаць пяць гадоў. Затыкні ты свой голас у адно месца.

Што было рабіць Васілю? Не выганяць жа з хаты сваю, хоць і такую «папрыгажэлую» жонку. Але як жыць з ёй далей? Як кажуць, ні сабе паглядзець, ні людзям паказаць.

Вечарам, трохі супакоіўшыся, Васіль кажа Наталлі:

— Вось што, даражэнькая, у такім выглядзе ты людзям на вочы не паказвайся!

— А што? А як?..— разгубілася Наталля

— Будзе так! — рашуча адказаў Васіль.— Ёсць у мяне процівагаз, вось і будзеш яго нацягваць на сваю дурную галаву перад тым, як выйсці з хаты на вуліцу.

— Ты што, Васілька! А што людзі скажуць? А што я ім скажу?

— Табе не пашкодзіла б і спаць у ім...

— Ноччу — не! Ты ж мяне палохацца будзеш у працівагазе.

— І праўда,— хмыкнуў Васіль,— з ім страшна, але і без яго хоць крычы.

Вось так і пачалося ў Васіля з Наталляй новае сямейнае жыццё.

Ідуць яны па вуліцы, а насустрач аднавяскоўцы:

— Што гэта, Васіль, твая Наталля ў процівагазе? — пытаюцца яны.

А Васіль бадзёра адказвае:

— Па прадпісанню грамадзянскай абароны і ў сувязі з абвастрэннем міжнародных адносін, неабходна прызвычайвацца вось да такіх мер бяспекі.

Але, не хадзіць жа астатняе жыццё Наталлі ў гэтай гуме. Трэба шукаць нейкі паратунак. І, здаецца, Васіль яго знайшоў.

— Бяры, Наталля, якія ёсць грошы,— кажа ён жонцы,— едзь да таго доктара, няхай ён па тваім здымку кіруе тыя тракцыі і карэкцыі, на былы твой знешні выглыд.

— А калі ў яго не атрымаецца?

Васіль супакоіў жонку:

— Больш жахліва чым ёсць, спадзяюся, не будзе...

І паехала Наталля шукаць сваю сапраўдную былую прыгажосць.

А Васіль не можа знайсці сабе спакою: ці пазнае ён тую, якая пераступіць парог роднай хаты? І хоць вельмі спадзяецца, што пазнае, але працівагаз на ўсякі выпадак трымае пад рукой.

# Вясенні эцюд

*Пародыя*

*Як я баюся вясны!..*
А. Зэкаў

Сонечны вясенні дзень. Гэткі ж сонечны і бязвоблачны настрой. Нягледзячы на паважаны ўзрост, крочыцца лёгка, акрылена.

О, вясна! Што ты робіш са мной!

Раптам чую за спінай таямнічае і хвалюючае пастукванне жаночых абцасаў: цок-цок, цок-цок!

Мая прыгорбленая спіна міжволі выпрамляецца, стомленыя ногі набываюць пругкасць. Ці магу я калдыбаць перадпенсіённай хадой перад таямнічай незнаёмкай? Ды яшчэ вясной!

О, гэта мілагучнае перастукванне абцасікаў, рытм якога дзіўным чынам супадае з арытміяй майго памаладзелага сэрца!

Можа, азірнуцца? Не! Са спіны я яшчэ нічога. А вось сваім «фасадам» баюся спалохаць нечаканую і таямнічую спадарожніцу.

О, вясна! Як я баюся цябе!

А абцасікі за спінай працягваюць спакусліва і прывабліва пацокваць.

А што, калі яна ідзе менавіта за мной і чакае маёй мужчынскай рашучасці? Так! Так! Ідзе менавіта за мной, інакш даўно б перагнала мяне. Азірнуся! Няма болей моцы стрымліваць сябе. Яшчэ крок — і азірнуся!

І ўсё ж — не! Вунь паварот у мой завулак. Калі і яна павярне за мной — я рызыкну. Я пакажу, на што я яшчэ здольны!

О, вясна! Як я цябе чакаю, як я баюся цябе!

Нарэшце, вось ён, паварот у мой завулак, да маёй хаты. Магчыма, зараз вырашаецца мой лёс.

Сэрца так моцна тарабаніць, што не чую за сабой стуку абцасікаў. Няўжо яна пайшла прама? Няўжо?!

О, шчасце! Чую за спінай не толькі жаданае цок-цок, але адчуваю патыліцай і яе гарачае дыханне.

А вунь і мая хата. Толькі б не было на двары маёй, крыху падстарэлай жонкі. Толькі б не сапсавала яна сваёй звягай гэту вясеннюю казку!

Дзякуй богу, ля маёй хаты — нікога, і я рашуча азіраюся... Азіраюся і слупянею. Цок-цок абмінае мяне і кіруецца да суседняй хаты. Гэта сусед на кані павёз на сваю сядзібу дровы.

О, вясна... Што ты робіш са мной?..

# Залаты буліт

Юрасік рос хлопчыкам сціплым і сарамлівым. Такія рысы яго характару праявіліся асабліва выразна пасля таго, як ён пайшоў у першы клас пачатковай школы. Тут, сярод шматгалосся сваіх аднакласнікаў, ён разгубіўся і на перапынках між урокамі, шукаў ціхі закутак, дзе можна было пабыць аднаму.

Але пабыць аднаму яму рэдка ўдавалася, бо больш дужы заўсёды шукае слабейшага за сябе, каб кухтальнуць таго ў спіну ці знянацку падставіць падножку. Прытым рабілася гэта больш дужымі хлопчыкамі заўсёды навідавоку дзяўчынак-аднакласніц, каб у іх вачах выглядаць героямі.

Юрасік быў сціплым, але зусім не быў баязліўцам, таму дэманстратыўна рабіў выгляд, што не звяртае ўвагі на такія крыўдныя жарты сваіх аднакласнікаў, і гэта яшчэ больш падбухторвала яго крыўдзіцеляў.

Было ў Юрасіка і адно вельмі важнае суцяшэнне. Самая прыгожая ва ўсім класе дзяўчынка, Анютка, выбрала сабе ў сябры не кагосьці з гэтых дзёрзкіх і шумлівых «герояў», а яго, сціплага і сарамлівага Юрасіка. Вось гэта здорава! Яны разам ішлі са школы, бывала, разам рыхтавалі хатнія заданні.

Аднойчы, у трэцім класе, разам з настаўнікам на ўрок прыйшоў незнаёмец і прадставіўся:

— Мяне завуць Алегам Іванавічам. Я — трэнер дзіцячай спартыўнай школы «Узлёт» і набіраю ў секцыю хакея хлопчыкаў вашага ўзросту. Хто з вас мае здольнаці да гэтага і, галоўнае, хто жадае прысвяціць сябе гэтаму віду спорта?

Хлопчыкі, як адзін, паўскоквалі са сваіх месцаў, але Алег Іванавіч спыніў іх:

— Ціха! Не спяшайцеся! Я павінен вас папярэдзіць, што гульня ў хакей не жарты. Будуць і сінякі, і траўмы, не выключаны і пераломы. Усіх вас, вядома ж, прыняць у секцыю я не маю магчымасці, бо ёсць і іншыя класы. Таму падумайце і парайце, хто з вас мае такія рысы, як мужнасць, рашучасць, пачуццё сяброўскага локця?

Хтосьці з хлопчыкаў з'едліва хмыкнуў:

— Ну, самы мужны ў нас Юрасік Лятун.

Алег Іванавіч звярнуўся да класа:

— Хто з вас Юрасік?

Юрасік зачырванеўся, устаў і ціхенька сказаў:

— Не... я не самы мужны... Яны жартуюць.

Трэнер падышоў да хлопчыка, паклаў яму на плячо руку, патлумачыў:

— Як правіла, пахваляюцца сваёй мужнасцю далёка нямужныя. А вось сказаць пра сябе перад усім класам, што ты нямужны — трэба мець сапраўдную смеласць і шчырасць. Менавіта такія, як ты, мне ў першую чаргу і патрэбныя.

І Юрасік, сярод нямногіх сваіх аднакласнікаў і вучняў іншых класаў, патрапіў у секцыю хакея спартыўнай школы «Узлёт», дзе стваралася каманда «Зорачка».

Як жа ён расчараваўся, калі, замест клюшкі, шайбы, атакі, абароны, іх, упэўненых у сваіх здольнасцях хлопчыкаў, пачалі спачатку вучыць правільна стаяць на каньках, слізгаць па лёдзе аднолькава ўпэўнена не толькі ўперад тварам, а і спінай, бокам, імгненна спыняцца і гэтак жа імгненна набіраць хуткасць.

І ўжо пасля таго, як, па словах Алега Іванавіча, хлопчыкі адчулі лёд пад калькамі, ім выдалі клюшкі і пачалі выкладаць больш мудрагелістую навуку — як дасканала валодаць шайбай.

О, якая гэта складаная навука!

Аказваецца, шайба — непаслухмяная, свавольная, самастойная. Яна ўвесь час звальваецца з клюшкі, ляціць не ў той бок, а ўжо адарваць яе ад ільду — адна маруднасць...

Юрасік, назіраючы па тэлебачанні за прафесійнымі хакейнымі баталіямі, захапляўся майстэрствам і спрытнасцю гульцоў, не мог надзівіцца, як лёгка і проста ў іх усё атрымліваецца.

А тут!.. Колькі поту, колькі падзенняў і сінякоў! Але Юрасік, хоць і дужа стамляўся, трываў, сцяўшы зубы. Ён памятаў першае знаёмства з Алегам Іванавічам і не хацеў расчароўваць таго, хто ў прысутнасці ўсяго класа паверыў у яго. Яму надавала сілы і тое, што больш дужыя яго аднакласнікі адступалі і не прыходзілі больш на трэніроўкі.

«Значыцца, справа не толькі ў фізічнай сіле,— думаў ён,— ёсць яшчэ і моц духу, пра якую настойліва напамінаў Алег Іванавіч».

Нарэшце трэнер абвясціў хлопчыкам:

— Вось мы і падышлі з вамі да амаль самага галоўнага ў нашых трэніроўках.

Усе ўзрадваліся, чакалі сапраўднага паядынку — каманда на каманду, але... зноў расчараванне. Хлопчыкаў пасадзілі ў спецыяльным класе за парты, а сам Алег Іванавіч, як і настаўнікі ў школе, стаў ля дошкі з крэйдай у руцэ.

— Хакей — цэлая навука! — пачаў ён.— Вось вы думаеце, што варта толькі выпусціць вас на лядовую пляцоўку — і вы па-майстэрску будзіце гуляць? Не! Атрымаецца неразбярыха, мітусня. Кожны з вас павінен ведаць сваё месца і свае асноўныя абавязкі. Пры неабходнасці, вам давядзецца і ўзаемападстрахоўваць, і ўзаемазамяняць адзін аднаго. Самае галоўнае заўсёды памятаць, што вы — адно цэлае. Зламаецца маральна хтосьці адзін — і гэта адно цэлае можа разваліцца.

Алег Іванавіч пачаў дэталёва і даходліва выпісваць на дошцы розныя камбінацыі і канфігурацыі будучых паядынкаў.

І пачалося: дзень у класе тэорыя, дзень на пляцоўцы практыка. Прытым практыка была, як хлопчыкі таго і праглі,— каманда на каманду. Праўда, каманды былі свае, з адной секцыі, але прысутнічаў азарт, барацьба, сілавыя прыёмы, перамогі і паражэнні.

Усе напружана рыхтаваліся да рэспубліканскага турніру на прыз «Залатая шайба».

І вось турнір пачаўся. З васьмі каманд, прадстаўленых на спаборніцтве, толькі адна падымецца на вышэйшую ступень п'едэстала. Толькі адна! Усе гэта разумелі, і хваляванне, адказнасць і жаданне быць самымі лепшымі перапаўнялі кожнага ўдзельніка турніру.

Менавіта гэта неверагоднае хваляванне і адказнасць настолькі захапілі Юрасіка, што ён, як у чароўным сне, памятае толькі азарт барацьбы, сілавыя прыёмы, балючыя падзенні і шум трыбун. Быццам гэта не ён, а хтосьці іншы віраваў у самай гушчы першых у жыцці хвалюючых падзей, быццам не яго, а некага другога абдымалі сябры па камандзе пасля забітай шайбы, быццам не ён, а яго двайнік адчайна перажываў пасля кожнага нерэалізаванага галявога моманту. О, гэтыя хвалюючыя паядынкі! Ён іх будзе помніць усе жыццё, як імгненнае і чароўнае святло знічкі ў начным небе, святло, якое ледзь паспяваеш заўважыць.

Усе гэтыя эмацыянальныя перажыванні сваёй душы Юрасік асэнсаваў пасля таго, як Алег Іванавіч абвясціў сваёй камандзе:

— Заўтра фінал! Зрабіце так, каб зорачкі ператварыліся ў сапраўдных зорак!

— А што, мы ўжо ў фінале? — не стрымаўся Юрасік.

Усе дружна засмяяліся, а Алег Іванавіч з усмешкай спытаўся:

— Ты што, Юрасік, толькі што прачнуўся? І твае намаганні паспрыялі прабіцца нам да фіналу.

Толькі цяпер хлопчык адчуў усім сваім дзіцячым сэрцам, што адбываецца штосьці вельмі важнае ў яго жыцці, магчыма, самае значнае і лёсавызначальнае.

І яшчэ Юрасік заўважыў дзіўныя перамены ў сябе. Гуляючы за сваю каманду, ён са здзіўленнем кожны раз адзначаў, што ад яго сціпласці і сарамлівасці не засталося і следу. Ён рабіўся часткай калектыву, дзе ўсе за аднаго, а адзін за ўсіх. Тут, на лядовай пляцоўцы, праяўляюцца ўсе лепшыя рысы характару, тут сарамлівасць і сціпласць саступаюць месца рашучасці і адказнасці.

Ноч перад самым галоўным матчам прайшла марудна. Заснуць так і не ўдалося, хаця трэнер і раіў добра выспацца.

Раніцай Юрасік зрабіў зарадку, лёгка паснедаў і накіраваўся да месца збору каманды.

Перад гульнёй Алег Іванавіч знешне спакойна даваў апошнія настаўленні:

— Выконвайце ўсё, чаму навучыліся на трэніроўках. Гэта — барацьба за кожную шайбу, барацьба да апошняй хвіліны, калектыўныя намаганні і, канешне, асабістае майстэрства і імправізацыя. Галоўнае — верце ў перамогу! І памятайце назву нашай спартыўнай школы — «Узлёт». Сёння павінен адбыцца ваш узлёт да новых перамог, да вяршынь беларускага хакея.

Юрасік чуў словы любімага трэнера, як праз туман. Ды і сябры па камандзе выглядалі засяроджанымі і па-даросламу стрыманымі. Было відаць, што ў думках яны ўжо скрыжавалі клюшкі са сваімі сапернікамі.

Калі ж пачалася сапраўдная гульня, кожны быў нацэлены толькі на перамогу. Але адной нацэленасці мала. Хваляванне і нервовасць з боку абедзвюх каманд ператварылі пачатак матчу ў мітусню і шматлікія парушэнні правілаў. Было такое ўражанне, што хлопчыкі страцілі ўсё, чаму іх вучылі трэнеры.

Паступова, як кажуць, па́ра была выпушчана і гульня наладзілася.

Юрасік выкарыстоўваў усю спрытнасць, дэманстраваў свае каронныя фінты, але абарона сапернікаў паспяхова нейтралізоўвала ўсе намаганні Юрасіка і яго сяброў. У дадатак да ўсяго, каманда «Прамень» адкрыла лік. У першым жа перыядзе, на апошняй хвіліне лік стаў 2 : 0 на карысць праменьцаў.

Тут неабходна ўдакладніць, што на дзіцячых хакейных турнірах кожны матч складаецца з трох перыядаў, але не па 20 хвілін, як у дарослых, а па дзесяць.

Таму ў каманды «Зорачка» заставаліся ўсяго два перыяды па дзесяць хвілін, каб пераламаць ход гульні. Задача гэта надзвычай складаная, бо юныя хакеісты «Праменя» былі маральна наўздыме. Алег Іванавіч у першым перапынку, як мог, заспакойваў выхаванцаў.

— Не хвалюйцеся, не гарачыцеся. Часу пакуль хапае. Згуляйце другі перыяд, як на трэніроўцы, і ў вас усё атрымаецца.

Але ў другім перыядзе лік не змяніўся. Гульня выраўнялася, знікла нервовасць і мітусня. Адчувалася, што хлопчыкі з «Праменя» не рызыкуюць і ўсе намаганні прыкладаюць на ўтрыманне ліку. Яны перайшлі ў глухую абарону.

На другім перапынку Алег Іванавіч быў больш напружаны, нават усхваляваны.

— Я веру ў вас, сябры! Аддайце ўсе свае сілы і майстэрства гэтым дзесяці хвілінам. Дакажыце, што вы — лепшыя!

І пачаўся апошні, рашаючы перыяд. Завязалася па-мужчынску сапраўдная барацьба. Цяжка было ўсачыць за шайбай, якая маланкава пералятала ад адных варотаў да другіх, адна камбінацыя змяняла другую. Хлопчыкі абедзвюх каманд не шкадавалі сябе і — спачатку капітан «Зорачкі» Міхась, а потым, напрыканцы

трэцяга перыяду, Юрасік зрабілі лік 2 : 2. Вось гэта дык матч — барацьба сапраўдных майстроў дзіцячага хакея. Абедзве каманды заслугоўваюць пачэсны прыз. Абедзве!

Але пасля заканчэння трэцяга перыяду пераможца так і не быў вызначаны. «Хто ж будзе першым — “Зорачка” ці “Прамень”?» На гэтыя пытанні адкажа серыя булітаў, па тры ад кожнай каманды.

Напружанасць узрастала з кожнай хвілінай. Нават перапоўненыя трыбуны прыціхлі.

Хто з нас не бачыў, як выконваецца буліт?! Хто з нас не перажываў, не завіраў у гэтыя звышадказныя імгненні?!

Мы не дыхаем, не міргаем, забываемся аб усім на свеце — бачым толькі нападаючага і варатара.

Дык гэта мы, гледачы! А што ўжо казаць пра таго, хто імкнецца з шайбай да варотаў, і пра таго, хто абараняе гэтыя вароты?

Ім — і нападаючаму, і варатару — не пазайздросціш, настолькі вялікая адказнасць кладзецца на іх і за ўсю каманду, і за трэнераў, і за шматлікіх балельшчыкаў.

Вось калі неабходны самыя галоўныя рысы характару хакеіста — спартыўная рашучасць, гарачае жаданне перамогі і халодны разлік.

Ты — адзін, і ніхто табе ўжо не дапаможа, толькі ты сам. Удачы табе, адважны юны хакеіст!

Трэнер каманды «Прамень» адабраў для выканання булітаў трох лепшых гульцоў. Алег Іванавіч таксама назваў тых, на каго больш спадзяваўся. У гэтую тройцу патрапіў і Юрасік, які імгненна адчуў, які груз адказнасці лёг на яго плечы.

Па жэраб’і першым будзе атакаваць вароты «Зорачкі» нападаючы каманды «Прамень».

І вось, пасля свістка суддзі, атакуючы імкліва наблізіўся да варотаў, выканаў ледзь бачны кідок і — гол! Шайба праслізнула між шчыткамі варатара і апынулася ў

варотах. Лік зрабіўся 1 : 0. Псіхалагічна хакеісты каманды «Прамень» у лепшым становішчы.

Але адказ зорачкаўцаў быў не менш эфектным. Нападаючы адцягнуў увагу варатара і паслаў шайбу ў «дзявятку». Лік зраўняўся.

Цяпер ужо праменьцы напружыліся, бо ведалі, што адзін промах здольны закрыць дарогу да запаветнай мары.

Але праз хвіліну праменьцы ўскінулі рукі ўгару з крыкам «ура!» — лік зрабіўся 2 : 1 на іх карысць.

Зноў хакеіст «Зорачкі» імчыць па лёдзе насустрач невядомасці, прымушаючы ўвесь стадыён замерці — і дружнае «ўра!» зорачкаўцаў абвясціла аб тым, што зноў усталявалася раўнавага — 2 : 2.

Вось гэта паядынак! Вось дык накал барацьбы! Як шкада, што хтосьці павінен будзе прайграць, бо абедзве каманды паказваюць і майстэрства, і імкненне да перамогі.

Між тым, псіхалагічнае напружанне дасягнула свайго апагея. Усе разумелі, што надыходзіць развязка. Чые нервы будуць мацнейшымі?

І вось яны, рашаючыя імгненні. Нападаючы каманды «Прамень» імкліва наблізіўся да варотаў, зрабіў моцны кідок — і шайба... шайба з усяго лёту ўдарылася ў штангу і адскочыла ўбок.

Стадыён глуха выдыхнуў і заціх. Ніхто з хакеістаў і той, і другой каманды не варухнуўся. Нават зорачкаўцы не выказалі радасці, бо яны ў душы былі сапраўднымі спартсменамі і з павагай ставіліся да сваіх калег, разумеючы іх становішча.

Але паядынак не быў закончаны і суддзя запрасіў да шайбы апошняга хакеіста каманды «Зорачка» — Юрасіка.

У выпадку няўдалай атакі Юрасіка, лік застанецца 2 : 2 і трэнеры павінны будуць вызначыць новых гульцоў да далейшага высвятлення пераможцы. Ведаў гэта

і Юрасік. Ведаў і разумеў, што менавіта ён можа зараз паставіць пераможную кропку.

Юрасік ліхаманкава пракруціў у галаве ўсё, на што ён быў здольны, нават знакаміты прыём Фірсава, замітусіць шайбу: клюшка — канёк — клюшка, пра які шмат распавядаў Алег Іванавіч.

Ён, закручваючы на лёдзе спіралі, паімчаў да варотаў, рызыкнуў выканаць клюшка — канёк — клюшка, дэзарыентаваў варатара і ўляпіў шайбу ў сетку варот — го-о-ол! Перамога!

Аглушальна зароў стадыён. Усе хакеісты «Зорачкі» кінуліся да Юрасіка — імгненна стварылася «куча мала». Нехта абдымаў яго, хтосьці падкідваў хлопчыка ў паветра, а нечая рука працягнула яму букет кветак. Юрасік падняў вочы — гэта была Анютка, яго школьная сяброўка.

— Віншую цябе, Юрасік! — з цеплынёй сказала яна.— Ты — самы лепшы!

Юрасік зачырванеўся, зноў адчуў сарамлівасць і сціпласць:

— Гэта не я, гэта мы — наша каманда сёння лепшая.

Падбег шчаслівы Алег Іванавіч і абняў Юрасіка.

— Малайчына! Які ты, Юрасік, малайчына! Гэта быў твой залаты буліт!

Уручаючы ганаровы прыз хакеістам і трэнеру каманды «Зорачка», загадчык аддзела спорту гарвыканкама ўрачыста заключыў:

— Вось яны, гэтыя мужныя хлопчыкі, якіх мы бачылі на лядовай пляцоўцы — надзея і будучыня беларускага хакея!

# Баявая нічыя

Хто з мальцоў-удальцоў не любіць гуляць у футбол?! Хлопчыкі ўсіх узростаў з асалодай ганяюць мяч і мараць стаць знакамітымі футбалістамі. І гэта гульня, як ніякая іншая, даступная для ўсіх аматараў гульні ў футбол, бо ў любым горадзе, у любой вёсцы заўсёды знойдзецца нейкая пляцоўка, нейкі падворак ці выган для азартных і рухавых баталій.

Паклаў на зямлю партфель, паклаў другі — вось табе і вароты. А колькі спрэчак, колькі крыкаў і спартыўнага запалу чуюць ва ўсе часы такія імправізаваныя спартыўныя пляцоўкі.

— Пас! Сюды пасуй, мне! Бі! Лупі з лёту! Эх, мазіла! А гэта ж падножка, а не падкат! Трэба біць адзінаццаціметровы! Пендаль трэба біць!..

І шмат чаго іншага, спецыфічна футбольнага можна пачуць ад юных футбалістаў.

Для малечага вуха гэта не проста крык і лямант, а музыка.

Пэўна, праз такую школу праходзілі ў свой час і Яшын, і Пеле, і Малафееў.

Хто хоць раз ударыў нагой па футбольным мячы і адчуў, як звонка і прыемна адгукаецца ён на кожны ўдар, той назаўсёды робіцца прыхільнікам самай масавай гульні.

Менавіта гэта адбылося са Стасікам пасля таго, як ён лупянуў нагой па тугой акругласці футбольнага мяча. Нічога, што першы блін камяком атрымаўся і хлопчык разам з мячом пырнуў чаравікам у зямлю, ён ўсё роўна патрапіў у палон футбольных чараў.

Школа, дзе ён вучыўся ў другім класе, знаходзілася ў раённым цэнтры. І хоць райцэнтр нядаўна набыў статус горада, шматлікія драўляныя дамы і сады вакол школы больш нагадвалі сельскі быт, хаця цэнтр упрыгожвалі шматпавярховыя дамы і адміністрацыйныя будынкі.

Яна, Стасікава школа, сябравала з другой школай, якая знаходзілася аж у Мінску. Вучні і настаўнікі сталічнай школы былі частымі гасцямі ў раёне: прывозілі розныя кніжкі для школьнай бібліятэкі, ладзілі разам усякія віктарыны і дыспуты. Карацей, лічылі Стасікаву школу падшэфнай.

Стасік з класам не раз бываў у сваіх сталічных шэфаў, дзе, між іншым, знаходзіцца на школьнай тэрыторыі сапраўдны стадыён з абцягнутымі сеткай варотамі, бегавымі дарожкамі і трыбунамі для балельшчыкаў.

Ну, на тое яны і сталічныя шэфы, каб адрозніваюцца ад правінцыі.

Падчас адной такой міжкласнай сустрэчы хтосьці са сталічных вучняў прапанаваў:

— А давайце згуляем у футбол! Клас на клас! Ваша каманда «Арляня» супраць нашага «Факела».

— А калі? А дзе? А на які прыз? — пасыпаліся пытанні.

— А на нашым стадыёне! — з гонарам адказалі шэфы.— А галоўны прыз — перамога!

Стасік неяк няўпэўнена выказаўся:

— У вас?.. Ого! Я на такім стадыёне ні разу не гуляў.

— Што, слабо? Збаяліся! — ухмыльнуўся хтосьці з шэфаў.— Можа, вам яшчэ анучны мяч патрэбен?

Другі сталічны вучань перапыніў аднакласніка:

— Прычым тут анучны мячык? Да нас прыехалі сябры, і паводзь сябе з імі па-сяброўску.

— Я ж пажартаваў...

І ўсё ж, адкінуўшы жарты і колкасці, дамовіліся правесці спаборніцтва праз дзесяць дзён.

Стасік і яго каманда рыхтаваліся з усёй адказнасцю на галоўным раённым стадыёне, які адпавядаў усім спартыўным стандартам.

Праўда, стадыён быў крыху завялікі для дзіцячай каманды, а з другога боку, тут мелася магчымасць па-іншаму планаваць атакуючыя камбінацыі і абарончыя магчымасці.

А галоўнае, хлопчыкі па-даросламу адчувалі сябе частачкай вялікай сям'і славутых футбалістаў.

Закрануўшы славутых футбалістаў, трэба ўдакладніць тое, што Стасік, наслухаўшыся ад дарослых пра легендарнага Льва Яшына, добраахвотна стаў у вароты.

Да Стасіка варатаром класнай каманды «Арляня» быў Толік, але ў яго не вельмі атрымлівалася роля вартаўніка варотаў. Таму Таляна жартаўліва абазвалі варатаром-дзіркай і паставілі ў нападзенне.

І вось дзень правядзення таварыскага матча паміж дзвюма камандамі настаў. І хоць планавалася спаборніцтва паміж класамі, вучні кожнага класа разумелі, што будуць адстойваць гонар сваіх школ.

Хлопчыкі ў спартыўных формах выстраіліся ў лінейку — каманда перад камандай для ўзаемнага вітання. На сталічных вучнях была сапраўдная футбольная форма з вялікімі нумарамі на спінах.

Тут трэба сказаць, што сёння так званая правінцыя ні ў чым не адстае ад буйных гарадоў. У сельскіх і раённых школах маюцца камп'ютарныя класы, вучні, пачынаючы з першага класа, свабодна адчуваюць сябе ў інтэрнэце, бо амаль у кожнай сям'і ёсць уласны камп'ютар. Што ўжо казаць пра спартыўныя школы і секцыі! Тут — і неабходны спартыўны інвентар, і кваліфікаваныя трэнеры, і адпаведная форма.

Таму лінейка раённых футбалістаў выглядала не менш прывабна, чым іх сталічныя сапернікі.

Пасля традыцыйнага ўзаемнага «Фізкульт — прывітанне!» каманды разбегліся па сваіх паловах поля — і матч пачаўся.

О, як прыгожа было назіраць за спаборніцтвам на стадыёне. Футбалісты сталічнай школы мелі чырвоную форму і гэткага ж колеру буцы, а іх гасцей упрыгожвала зялёная, з белым арнаментам на грудзях форма. Буцы ж былі белымі і падкрэслівалі спрытнасць ног футбалістаў.

А спрытнасці і спартыўнага запалу ў хлопчыкаў абедзвюх камандаў хапала, тым больш што вакол стадыёна было вялікае мноства балельшчыкаў, як з аднаго, так і з другога боку.

Камандам неабходна было правесці на полі два перыяды па трыццаць хвілін кожны.

Хлопчыкі выкладваліся з усіх сіл, паказвалі сваё майстэрства, не забываючыся спадцішка падставіць падножку свайму занадта жваваму саперніку. Але суддзя, вучань старэйшага класа гэтай жа школы, пільна сачыў за ходам барацьбы.

А накал гэтай барацьбы ўзмацняўся з кожнай хвілінай — і адна, і другая каманда хацелі як мага хутчэй адкрыць лік.

Магчыма, вельмі хутка зрабілі б гэта гаспадары стадыёна, але Стасік стаяў у варотах, як кажуць, «мёртва». Ён «выцягваў», здавалася б, самыя безнадзейныя мячы, ён разлікова выбягаў у штрафную пляцоўку і па-яшынску выбіваў кулаком мяч далей ад варотаў.

Адчуўшы надзейнасць свайго тылу, Стасікавы сябры кінуліся ў атаку, паслабіўшы абарону, за што і пакваціліся. Адразу два нападаючыя сапернікаў апынуліся перад Стасікам і — лік быў адкрыты.

Вось што значыць саманадзейнасць і безагляднасць у футболе.

Задача для арлянятаў ускладнілася.

А футбалісты каманды «Факел», адчуўшы псіхалагічную падаўленасць сапернікаў, навaліліся на вароты Стасіка.

У адной такой штурханіне-мітусне ён, ратуючы свае вароты, адчайна кінуўся ў ногі адразу тром факельцам, накрыў сабой мяч і адчуў рэзкі боль у баку. Зрабілася цяжка дыхаць, памутнела ў вачах. Ён з цяжкасцю падняўся і выбіў мяч у поле. На шчасце, прагучаў свісток суддзі, абвяшчаючы перапынак.

На перапынку трэнер, а гэта быў звычайны настаўнік фізкультуры, які да футбола меў малое дачыненне, падбадзёрваў хлопчыкаў, гаварыў штосьці пра гонар школы, раёна, пра барысаўскую каманду «БАТЭ», затым звярнуўся да Стасіка:

— А што ты так пазелянеў? Хворы ці стаміўся?

— Усё нармальна,— адказаў хлопчык, трымаючыся за бок.

— Ты не раскісай, Стасік, у нас запаснога варатара няма.

— Сам ведаю,— коратка адказаў ён.

Другі тайм пачаўся з узаемных атак. Стасік адчуваў, што боль у баку ўзмацняецца, кожны крок востра аддаецца ва ўсім целе. Але хлопчык мужна ўступаў у барацьбу, перахапляў мяч у паветры, здымаў яго з нагі нападаючага. Ён кідаўся ў гушчу барацьбы, адстойваў свае вароты, не дазваляючы ліку павялічыцца.

Нарэшце, падчас атакі ягонай каманды Талян, якога абазвалі дзіркай і, на шчасце, паставілі ў нападзенне, эфектна паслаў галавой мяч у ніжні вугал варот факельцаў.

— Ура-а-а! — закрычаў Стасік разам з іншымі прыхільнікамі каманды «Арляня».— Ура-а-а!..— Але ад напругі боль прарэзаў усё яго цела. Ён сеў і скурчыўся, не ў сілах разагнуцца. Зірнуў з надзеяй на гадзіннік побач з табло — заставалася гуляць яшчэ цэлых пяць хвілін.

Чарговая атака факельцаў кацілася да яго варотаў.

«Я павінен пратрымацца гэтыя хвіліны! Я абавязаны стаць у вароты... Стаць!» — ліхаманкава падумаў Стасік і выпрастаўся, займаючы сваё месца.

Адчувалася, што гаспадароў стадыёна не задавальняе нічыйны вынік. Яны карагодзілі ля яго babротаў, стваралі адну небяспечную сітуацыю за другой.

Стасік, перасільваючы боль, рабіў усё магчымае і немагчымае, каб не даць нападаючым змяніць лік на іх карысць.

І здавалася, што ён абароніць свае вароты, але на апошняй хвіліне гульні, па меркаванні суддзі (вучня гэтай жа школы), хтосьці з арлянят парушыў правілы ў сваёй штрафной пляцоўцы. Суддзя рашуча паказаў на адзінаццаціметровую адмеціну.

Арляняты кінуліся да суддзі, абступілі яго, штосьці даказваючы яму, але той быў няўмольны.

Хтосьці з балельшчыкаў крыкнуў: «Суддзю на мыла!», але і гэта не падзейнічала.

Стасіка ўжо хістала ад болю і слабасці, але ён стаў па цэнтры сваіх варотаў. Гэта быў апошні рубеж абароны гонару класа, школы і яго самога.

Хіба мае ён права пакінуць гэты апошні рубеж?

Да мячыка на адзінаццаціметровай кропцы разваліста падышоў футбаліст у чырвонай форме. Падправіў мяч, пры гэтым непрыкметна падсунуў яго бліжэй да варотаў. Адышоўшыся на некалькі крокаў, пераможна паглядзеў у бок трыбунаў. Адтуль пачулася ў адрас Стасіка:

— Трымай плюху! Віталікавы ўдары не бяруцца!

І Віталік ударыў...

Стасік чамусьці не да месца ўспомніў свой першы ўдар па мячы, калі пырнуўся ў зямлю. Як прыемна адгукнуўся тады мяч на той першы яго ўдар...

Сёння, пасля ўдару Віталіка па мячы, ён не адгукнуўся, а выбухнуў глуха і пагрозліва, пасля чаго маланкава паляцеў у самы вугал, упрытык са штангай.

Але Стасік не менш маланкава зрэагаваў і ў неверагодным кідку намертва перахапіў мяч.

«Я зрабіў гэта! Я не адступіў!» — мільганула шчаслівая думка, але кідок быў зроблены якраз на той балючы бок, павялічыўшы боль у разы.

Падняцца самастойна Стасік ужо не мог. Не мог ён стаяць і насупраць лінейкі факельцаў, выкрыкваючы: «Фізкульт — ура!»

Стасіка тэрмінова адвезлі ў бальніцу, дзе рэнтген высветліў, што ў яго зламаныя дзве рабрыны.

Нават дактары дзівіліся мужнасці хлопчыка, які з такой сур'ёзнай траўмай працягваў стаяць у варотах. І не толькі стаяць, а змагацца да апошняй хвіліны.

На наступны дзень у палату да Стасіка прыйшлі прадстаўнікі каманды «Факел», сярод якіх быў і Віталік.

Ён узяў Стасіка за руку і ціха сказаў:

— Ты прабач мне, дружа... Гэта я тады змарозіў пра анучны мяч. Ты, Стасік, сапраўдны футбаліст, і я схіляюся перад тваёй мужнасцю.

## Безумие

Прошел год со дня окончания мировой войны, с применением ядерного оружия двумя сверхдержавами.

Столько же — год, прошел со дня начала этой всеуничтожающей войны.

Войны, в классическом понимании, как таковой, не было. Был всего лишь один единственный день — день начала и день окончания этого безумия.

Теперь уже трудно определить, какая сторона первой нанесла удар всеми имеющимися ядерными силами — наземного, воздушного и морского базирования, а какая из противоборствующих сторон ответила на удар ударом.

Да и смысла в определении первичного или вторичного удара, уже не было, поскольку и подводить итоги этому самоуничтожению, не было кому.

Солнце, весь этот год скрывавшееся за плотной завесой черноты, состоящей из вздыбленной, испепеленной земли, из сгоревшей в одночасье растительности, из сотен миллионов человеческих тел, превратившихся в пыль, из всего того, что было создано человечеством на протяжении веков,— солнце с трудом угадывалось в этом, поднятом до стратосферы месиве, величайшей из трагедий.

Теперь, спустя год, с осторожностью и опаской, начала отступать, так называемая ядерная ночь, принесшая с собой на обугленную землю неизменную спутницу — ядерную зиму.

Правда, назвать зимой этот застывший, замерзший хаос, было трудно.

В нашем понимании зима — это белоснежные поля, это хрустальный лес и бодрящий морозный воздух.

Теперь же, снега не было, был только леденящий, сковавший все вокруг, холод. Теперь, вместо снега, если и выпадали осадки, так это была грязно-серая зола бывшей цивилизации.

Пока еще, находясь в непроницаемом мраке, в этом царстве и торжестве ада, невозможно было даже приблизительно определить масштабы глобальной катастрофы.

Тишина, в сочетании с застывшим мраком, тишина, такая же черная и безжизненная, как эта затянувшаяся ночь, воздействовала на психику, даже страшнее тысяч одновременных ядерных взрывов.

Казалось, что самый маленький ветерок, до смерти напуганный недавним громыханием, боялся появиться среди этой кроваво-обескровленной, бескрайней пустыни.

Каково же было выжившим, если таковые были?

*

Прошло еще полгода. Ночь постепенно переходила в состояние вечернего полумрака, что позволяло разглядеть кое-какие детали застывшего вокруг ужаса.

Глядя на бесформенные останки чего-то, по-видимому, законченного и совершенного в прошлой мирной жизни, сразу определить, что это было, не представлялось возможным.

Только искореженные и оплавленные конструкции или механизмы из металла, напоминали собой либо поезда, либо остовы самолетов, либо, скрюченные в спираль каркасы чего-то.

Строения же из кирпича, блоков, даже из бетона, были вообще перемолоты в песок и щебень.

Груды этих остовов и щебня, если можно так выразиться, светились от радиации. Пожалуй, невозможно

изобрести такие измерительные приборы, которые, при замере радиационного фона, не зашкаливали бы.

Сама зараженная земля, казалось, стонала от своей непригодности для жизни.

Известно, что погубить на Земле всё живое — всё! — способны лишь неземные силы. Такие, как солнце своей активностью, которая может превзойти защитные возможности магнитного поля Земли, либо пролетающие слишком близко от земного шара крупное космическое тело, которое может сорвать атмосферный слой со всей округлости Земли.

Существуют и другие угрозы из космоса, против которых человечество бессильно.

Такие катастрофы не способно пережить ни одно живое земное существо.

Воинствующее же человеческое безумие, может погубить миллионы и даже миллиарды человеческих жизней, это безумие способно отбросить в своем развитии человечество на сотни, на тысячи лет, но погубить всё живое на земле, оно, безумие это, бессильно.

Теперь же, нужно было преодолеть тысячи километров, чтобы так называемый «эпицентр» случившейся катастрофы, остался за спиной. Но таких эпицентров, лишенных жизни, было множество.

О том, что эпицентры ядерных ударов оставались позади, свидетельствовали сохранившиеся кое-где, полуразрушенные строения, уцелевшие машины и разные механизмы.

Далее представлено перед взором самое страшное — обгоревшие, скрюченные в неестественных позах, тела людей, которым «повезло» уцелеть, в отличие от тех, кто в вышесказанных эпицентрах, исчезли без следа.

Еще дальше от безжизненных огромных территорий, можно было видеть тех несчастных, кто пережил первые дни и недели после того рокового дня — начала и конца

войны — но умерших, по-видимому, от сильного, несовместимого с жизнью облучения, либо от холода и голода.

А скорее всего — от совокупности всех этих убийственных факторов.

Нет более страшного горя для матери, чем похороны своего ребенка. Это — в обычной, мирной жизни. Слыша об этом, наблюдая за такой трагедией, постигшей наших родных, знакомых, наши сердца разрываются от сопереживания.

А что уж говорить о сердце бедной матери?

Здесь же, повсюду были видны тела женщин, которые в последние мгновения жизни пытались спасти своих детей, закрывая их собой от неминуемой гибели, прижимая их к сердцу — и так умирая в отчаянных объятиях.

И некому было хоронить, оплакивать и отпевать бесчисленных убиенных.

Казалось, что и время застыло от ужаса и остановилось в этом обездвиженном и безжизненном хаосе.

Наконец-то — о чудо! — где-то впереди послышались приглушенные голоса людей.

С трудом верилось, что, после того, что произошло с Землей и ее жителями, на этой планете снова зазвучит когда-либо человеческая речь.

Но она звучала! Приглушенно, неуверенно, но все-таки звучала!

Подойдя ближе, можно было увидеть несколько человек, точнее, в полумраке они выглядели призрачными силуэтами, усевшимися кружком.

В центре этого кружка лежали бесформенной горкой какие-то деревянные обломки, сучья, разный деревянный хлам. Было видно, что насквозь промерзшие бедолаги, пытаются развести костер.

Один из них держал в каждой руке по камню, должно быть, по кремню, и с остервенением чиркал камнем о

камень, пытаясь высечь искру и воспламенить спасительный деревянный хлам.

Странно и страшно было осознавать то, что на земле, всего год назад погибающей в сплошном ядерном огне — огне, от которого некуда было спрятаться, теперь эти истощенные и оборванные остатки человечества, пытаются первобытным способом добыть огонь...

Казалось, что время в этом аду остановилось? Нет! Время не останавливается. Оно неудержимо мчится, заметая собой и события, и, что очень печально, заметает человеческую память.

Камни в руках человека чиркали и чиркали друг о друга, высвечиваясь слабыми искрами, но костра они пока не разжигали.

Что ж, придется им начинать с нуля — с умения добывать огонь.

До 2016 года оставалось каких-то десять тысяч лет. Время пролетит быстро.

*

Год 2016-ый. До начала очередной ядерной войны осталось всего... три минуты.

Нет, это не черный юмор. Таким — не шутят!

Это — не черный юмор, а, к величайшему сожалению, мрачная реальность.

Есть в США символические часы, стрелки которых определяют, по разумению американских же стратегов и экспертов, накал напряженности в отношениях между Россией и Америкой.

Конечной точкой на этих часах, роковой отметиной, выбрана цифра 12.

В этом, 2016 году, минутная стрелка поставлена все теми же стратегами-ястребами, всего в трех минутах от двенадцати.

Три минуты, конечно, условные, символические, но это только три минуты.

Шутка со стороны американцев и НАТО? Вряд ли. Повторюсь — таким не шутят!

Мы — на пороге третьей мировой войны, и ее последствия будут даже более ужасающими, чем они описаны в первой части этих размышлений.

Написал, третьей мировой, и засомневался — так ли это?

Скорее всего, цивилизации гибли уже не один раз. Гибли и возрождались, начиная с умения добывать первобытным способом огонь.

Наша цивилизация, похоже, идет путем своих древних предшественников.

Странно, что этого многие не хотят понимать. Даже, так называемая просвещенная Западная Европа, унизилась в глазах всего мира, перед своим более сильным партнером до уровня национального неприличия, наивно надеясь, что не сгорит в разожженном ей же и ее партнером ядерном огне.

И, если действительно человечество погибало до сего времени не один раз, то только потому, что не погибал и здравствует поныне, ген воинствующего безумия, ген самоуничтожения.

## Не адпускаюць успаміны

Помніцца, хвалюе і сніцца тое, што, здаецца, павінна было даўно знікнуць пад цяжкімі, жорсткімі, пакутлівымі пластамі часу. Але чамусьці не знікае!

Тонкія, кволыя, безабаронныя парасткі тых пасляваенных «радавых» падзей не толькі не загінулі ў сячкарні нашай бязлітаснай рэчаіснасці, не толькі не згубіліся ў мешаніне душэўнага нераўнавесся і фізічнага болю, а прабілі ўвесь гэты маналіт часу — і жывуць!

Даўно адчуў вострую неабходнасць напісаць і пра першыя пасляваенныя гады, за якія ўчарэпілася мая памяць, і пра падзеі больш «сталыя», але ніяк не мог скрануць сябе з месца, бо тое, пра што хочацца пісаць,— звычайнае, неадметнае, не вострасюжэтнае. Цяпер чытачам і гледачам падавай крывавыя баевікі і секспошласць.

І ўсё ж адважваюся ўзяцца за пяро і ў сціплых замалёўках расказаць пра тое, што для многіх можа паказацца неверагодным, для некаторых — непатрэбным.

Але ўпэўнены, што знойдуцца людзі, чые сэрцы страпянуцца, як пры сустрэчы з нечым далёкім, пякучым, родным, бо ўбачаць сябе, пакуты тых пасляваенных гадоў, пачуюць галасы мінулага, адчуюць водар маленства.

Перакананы і ў тым, што сучасная моладзь, прачытаўшы гэтыя замалёўкі, па-іншаму гляне на сваё больш ласкавае маленства, па-новаму ацэніць свой «незалатаны» гардэроб і з павагай гляне на штодзённы хлеб на стале.

Пішу, каб тое, што выпала на долю майго пакалення, не згінула назаўсёды з памяці часу.

# Калодкі

Колькі помню свайго тату, ён ніколі не сядзеў без справы, злажыўшы рукі. Калі выпадаў рэдкі вольны час — ён то пілу вастрыў, то касу кляпаў, то дратву смаліў і валёнкі падшываў, то кошычак плёў, то ражачку майстраваў, то лучыну шчапаў — святла ж не было. Адным словам — майстар.

Чалавек, які ўцягнуўся ў працу, без яе не можа, як п'яніца без гарэлкі. Вось чаму адразу пасля вайны, на зайздрасць усім, у нас першых з'явіліся драўляныя калодкі.

Лапці — гэта адно. Калодкі — зусім іншае. Яны замянялі нам абутак, якому не было зносу.

Вычэсваў тата сякеркай нешта падобнае на падэшву, зверху прымацоўваў, як у лыжах, раменьчык ці кусок гумы, каб было куды ўсунуць нагу,— і «абутак» гатовы. Праўда, хадзіць у калодках было няёмка — падымеш нагу, каб пераступіць, а пятка драўлянай падэшвы не хоча падымацца, адвісае ўвесь час. Даводзілася ногі цягнуць, перасоўваць.

Затое як гэтыя калодкі па-заліхвацку палясквалі на каменьчыках, цокалі, нібы конь капытамі. Ідзеш і сам сабе зайздросціш — цок! цок! цок! цок!

# Базар

Летам нам жылося лягчэй — арэхі, ягады, нейкая дзічка, а то і яблык перападзе, потым — грыбы. А яшчэ было шчаўе!

Мне здаецца, што шчаўю, наогул, трэба паставіць помнік — яно ўратавала многа людзей ад галоднай смерці. Назбіраем яго ўсёй сям'ёй мех, і потым мама ці сястра нясуць гэты мех на сваіх плячах пешшу аж у Мінск. А да Мінска — сорак вёрст. Там шчаўе прадавалася даволі

хутка — патрэба на яго была заўсёды, а за выручаныя грошы купляўся хлеб і — зноў з мяшком за плячыма, адным днём, пешшу дамоў. Хлеб ніколі лёгка не даваўся бедным людзям.

Але якое ж было свята, калі мама ці сястра вярталіся дахаты. Праўда, хлеб выдаваўся мамай маленькімі лустачкамі, каб як мага больш аддаліць голад. Чым менш заставалася хлеба, тым танейшымі былі лустачкі. Бывала, возьмеш яе ў руку, а лустачка перагінаецца, як паперка. Я, памятаю, кідаўся ў слёзы — чаму так мала хлеба. Тады тата браў мяне на рукі і казаў, трымаючы лустачку насупраць святла:

— Глядзі, сынок, а вось — базар!.. А колькі людзей на базары!..

Лустачка была танюсенькая і амаль уся прасвечвалася ад порыстасці, была ўся на дзюрачках, як рэшата. Гэта мяне забаўляла, я пераставаў плакаць і з’ядаў свой «базар».

## Вераб’юшка

Адразу ж за вёскай пачынаўся луг з высокай травой, мноствам розных палявых кветак. Сталаму чалавеку трава была трошкі вышэй за калена, а ў нас тырчэлі толькі нашыя «макаўкі» з травы. Але бегалі мы на гэты луг не толькі дзеля забавы — на ім густа расло шчаўе, якое праз некаторы час выкідвала ўгару далікатныя сакаўныя дудкі, на якіх ужо пазней выспявала семя. Вось гэтымі дудкамі мы і сілкаваліся, яны нас моцна ратавалі ад голаду. Чамусьці гэтыя дудкі мы звалі — вераб’юшка і нават жартавалі:

— Вераб’юшка — баліць б’юшка.

І сапраўды, ад гэтай зеляніны-кіслаты нярэдка балелі нашыя жываты.

Сярод нас была Ларыса Міцько, якой сваякі прывезлі з Мінска прыгожую, у кветачкі, сукенку. Шчаслівая Ларыса апранула абноўку і не адчувала зямлі пад нагамі — бегала, шчабятала, качалася па траве. І трэба ж было так здарыцца, што сукеначка за нешта зачапілася і разадралася. А маці ў Ларысы была вельмі строгая, з дзецьмі не цырымонілася, бо і ў іхняй сям'і «галавасцікаў» была цэлая куча — якія тут могуць быць цырымонкі, ледзь выжывалі, тым больш без бацькі, які загінуў на вайне.

Пайшлі мы ўсе разам прасіць Ларысіну маму, каб не біла дзяўчынку. Ларыса ж была вельмі ветлівая, ласкавая, «ліслівая», яна і запрычытала:

— Мамачка, міленькая, родненькая, не бі мяне — я парвала сукеначку...

Толькі тады я звярнуў увагу на свае лахманы, якім нічога ўжо не было страшна, і з палёгкай уздыхнуў.

## Гузакі на лбе

Бывала так — выскачыш на двор пагойсаць, сустрэнеш сябра, а ў яго — гузак на лбе. Заўтра ён цябе сустрэне, а ў цябе — таксама лоб з гузаком.

Ні ён у цябе, ні ты ў яго не пытаешся — што ды адкуль? Справа вядомая, звыклая. Што за шалянец без такога гузака?

Мяркуйце самі. Садзімся есці ўсёй сям'ёй вакол адной вялікай місы,бо другога посуду пасля вайны не было.

А каб бліжэй быць да булёну ці заціркі, трэба сядзець шчыльна — локаць да локця, калена да калена.

А хіба ж магчыма сядзець каля братавага бока і не парнуць спадцішка ў гэты бок? І ледзь толькі парнеш у бок — як брат пырскае ад смеху. А за сталом — Божа барані — каб хто слова сказаў ці круціўся. Яда — святая справа. Але гэта для дарослых, бо дзецям — толькі б

паштукаваць, павыскаляцца. А смяяцца заўсёды прыпірае тады, калі гэта забаронена. Тады падскоквае дурны смех.

Вось і ў час яды — парнеш у бок брата — той у смех, а тата — трэсь лыжкай па лбе брату. Таму — ужо не да смеху.

Затое ты «пырскаеш» ад удалай «штуковіны», але адразу ж зарабляеш свой гузак за «парушэнне парадку».

Карацей, яда — справа сур'ёзная.

## Валачобнікі

Валачобнікі — гэта нешта надзвычай прыгожае, урачыстае, прыстойнае. Збіраліся на Вялікдзень самыя рухавыя, вясёлыя, няўрымслівыя аднавяскоўцы і разам з гарманістам хадзілі ад хаты да хаты, прыгожа спяваючы. Святочна апранутыя, знешне шчаслівыя, чыста вымытыя, яны зусім не нагадвалі зрабаваных, абяздоленых, задушаных працай людзей. Сапраўды Бог спускаецца на зямлю ў гэты дзень.

У кожнай хаце ўжо чакалі святочных пасланцоў і нават пакрыўдзіліся б, каб яны абмінулі кагосьці.

Падыходзілі валачобнікі да акна і спявалі:

— Проша паненцы адчыніць акенцы...

Спевы былі прыгожыя, мілагучныя, узнёслыя, як і душы тых пакрыўджаных лёсам людзей. Калі не памыляюся, валачобніцкія спевы называліся васоламі.

Калі спевы толькі пачыналіся, шчаслівая гаспадыня адчыняла акенца і з пашанай слухала іх, а потым праз акно падавала валачобнікам ад свайго стала ўсё, чым была багата гэтая хата. Падарункі складвалі ў вялізны плецены кош, які нехта з валачобнікаў насіў на рэмені цераз плячо,— і гэтак ад хаты да хаты. Такое святкаванне аб'ядноўвала людзей, зблізкала іх.

Валачобнікі ніколі не хадзілі адны, за імі заўсёды цягнуўся «хвост» — мы, дзеці. Я ганарыўся больш за ўсіх, бо гарманістам быў мой тата.

Калі хаты былі «абпетыя», збіраліся ўсе аднавяскоўцы на сонейку і, паслаўшы посцілкі на траву, працягвалі свята за агульным святочным «сталом».

Сёння нашыя дзверы і вокны шчыльна зачынены...

## Пажачкі

На святы Вялікдзень у дзяцей было столькі радасці, што і сёння цяпло тых дзён не астыла, не згасла, не згінула.

Дарослыя заўсёды цешацца па-свойму — стрымана, узважана, «посна» — ім да дзяцей расці і расці.

Перш-наперш мы да ўсходу сонца беглі на пагорак, каб пабачыць, як на Вялікдзень танцуе сонейка пры ўсходзе. Дарослыя гэтага не рабілі, бо ведалі, што гэтак жа сама яно «танцуе» і кожны дзень.

Дзеці ж у гэта верылі шчыра, і таму свята набывала ўжо зрання асаблівую таямнічую прыгажосць.

Гавеліся разам, усёй сям'ёй, нешта снедалі. Дарослыя пілі чарку, другую, пятую, слабейшы мог і пад стол зваліцца — тады і канец святу. А ў дзяцей усё толькі пачыналася. Найгалоўнейшая для дзяцей справа святога дня — біцца ў яйкі. Колькі піску, колькі крыку, колькі рогату і спрэчак! Кожнаму ж хочацца перамагчы і забраць сабе пабітае яйка. Азарт! Некаторым дужа не шанцавала — яны куляй ляцелі дамоў і прасілі ў мамы яшчэ фарбаваных яек, бо ўшчэнт прайграліся. Сталейшыя хлопцы часцяком шальмавалі з намі, малымі,— непрыкметна падстаўлялі сустаў пальца пад удар, і ўжо нікому нічога не дакажаш, хоць тут плач-расплачся — аддавай яйка, і ўсё. Аднаго года аб'явіўся ў нас і зусім

«непераможны» хлапец, пабіў усіх без разбору. Нагроб цэлыя кішэні нашых яек, стаім мы з пустымі рукамі, ледзь не плачам. Калі потым высветлілася — у яго было драўлянае яйка, якое па-майстэрску зрабіў яго тата, пафарбаваў і даў сыну. Больш з ім ніхто ніколі не гуляў у яйкі, хоць ён і прасіўся, маліўся, скуголіў.

Значна «інтэлігентней» гулялі ў яйкі дзяўчынкі. Яны рабілі з пясочку пагорачкі і па чарзе скочвалі яйкі ўніз. Яйка коціцца няроўна — то нечакана ўлева зверне, то ўправа крутнецца — вось чыё яйка «знойдзе» іншае, тое і перамагае. Цікава, ажно дух захапляе! Бывала, і мы, меншыя, далучаліся да дзяўчынак...

Быў і яшчэ адзін абавязковы для дзяцей «рытуал» — пажачкі. Гэта значыцца — кожнае дзіця на Вялікдзень павінна было зайсці ў кожную хату па фарбаванае яйка. Ніхто, канешне, у карак не гнаў, можна і не ісці, але каму ж не хочацца мець як мага болей прыгожых яек — гэта ж цэлае багацце! Сапраўды носішся з імі, як курыца з яйкам.

Дарослыя пра пажачкі ведалі, таму прыкідвалі, колькі дзяцей у вёсцы, каб кожнаму хапіла.

Заскокваеш да каго-небудзь у хату, смарганеш носам і абавязкова, як і «дзяўблі» бацькі, кажаш:

— Хрыстос уваскрэс!

А потым, каб атрымаць яйка, неабходна яшчэ сказаць:

— Не дасі яечка — здохне авечка, не дасі кока — вылезе вока!

Карацей, за яйка трэба і «папрацаваць».

Я быў вельмі ціхі, сціплы, сарамлівы, ды і гадкоў мне было, можа, з пяць усяго. Я заходзіў у хату і стаяў ціхенька ля парога, апусціўшы галаву. Дарослыя разумелі, які з мяне «аратар», і давалі яйка, не дамагаючыся ад мяне гэтых пацераў.

Заскочыў я гэтак да Кухаронкавых і стаю як слупок.

— А што трэба сказаць? — пытаюцца ў мяне.

Я сціснуўся ў камячок і стаю, як пружына ўвесь...

— Не хочаш гаварыць, не атрымаеш яйка! Ну?

Я як даўся ў дзверы, ды на двор, ды ходу, а мне ўслед крычаць:

— Куды ты?! Пастой! На яйка! А мой і след прастыў...

Дурненькі я, дарэмна пакрыўдзіўся, людзі ж хацелі пачуць ад дзіцяці святочныя прыказкі.

## Эх, пракоцімся!

Да Жукоўскіх з Мінска прыехаў іх старэйшы сын Іван. Не проста прыехаў, а на грузавіку — уладкаваўся недзе ў Мінску працаваць шафёрам. Форсу, гонару таго, як кажуць, без фігі не да носа! Ды і было чым ганарыцца — пасля вайны шафёр — больш значная шышка, чым сёння міністр. Машыну мы бачылі першы раз у жыцці, і таму, калі Іван, ад’язджаючы ў Мінск, прапанаваў нашай хеўры пракаціцца ў кузаве, мы ажно зараўлі (прабачце, запішчалі) ад захаплення. Калі машына набірала хуткасць і вецер пачаў паласкаць нашыя твары, мы адчулі нешта незвычайнае, у нас быццам выраслі крылы, і, не згаворваючыся, мы запелі штосьці без слоў: «Ля-ля-ля»,— і ў такт нашым крыкам пачалі выстукваць па кабіне. Машына рэзка затармазіла і прыпынілася. Вылез з кабіны Іван і запытаўся:

— Ну што, зайцы, так мала пракаціліся? Вылазьце!

Нас быццам з вару апусцілі ў ледзяную ваду, настолькі змяніўся наш настрой. Нічога не разумеючы, мы пасаскоквалі на зямлю і з вялікім жалем глядзелі ўслед ад’язджаючай машыне. Праехалі мы ўсяго метраў з пяцьдзесят. Дамоў сунуліся як пабітыя...

Нам тады ў галаву не магло прыйсці, што стуканне па кабіне азначае просьбу супыніць машыну. Прыехалі!

# Дурны жарт

Аднойчы вярталіся мы з арэхаў дамоў і раптам спыніліся як укопаныя. На мяжы, на ўскраі вёскі, спала дзяўчына. Спала спакойным, казачным сном, прыгожа нахіліўшы ўбок галаву, раскідаўшы доўгія валасы. Гэтую дзяўчынку мы ведалі, яна прыехала на лета да сваякоў у нашу вёску з Ленінграда. Яе звалі Аня. Сонечны пяшчотны дзень, цішыня і спакой, водар лясоў і траў паспрыялі гэтай прыгожай дзяўчынцы, якой было, можа, год з чатырнаццаць, заснуць глыбокім сном. Яе твар упрыгожвала ледзь бачная, бесклапотная ўсмешка, якая адлюстроўвала чысціню і светласць гэтай дзявочай душы...

Мы стаялі, зачараваныя, і любаваліся ёю.

Раптам Тонік Сінкевіч, таксама меўшы ўжо гадоў з чатырнаццаць за плячыма, выйшаў наперад, таямніча прыклаў палец да сваіх вуснаў, паказваючы гэтым, што зараз адкрые нам страшэнную тайну, і прыцішана сказаў, закаціўшы вочы ўгару:

— Мая!

Так мы яму і паверылі! І нават не таму, што Тонік быў цыбаты, нязграбны, грубы, а перад намі ляжаў ледзь не анёл, а таму, што ніхто ні разу не бачыў іх разам, нават размаўляючы. А ў вёсцы — усё як на далоні.

Далей здарылася нечаканае і страшнае. Тонік падышоў да дзяўчынкі, нахіліўся над ёй і як зараве дзікім ровам. Нават мы ад нечаканасці перапужаліся. А што казаць пра дзяўчынку? Бедная Аня. Яна ўсхапілася, вочы дзікія, нічога не разумее. А Тонік стаіць над ёй і рагоча, аж хістаецца. Ніхто з нас, значна меншых, не смяяўся з Тонікавага «жарту».

Добра, калі гэты спалох не адбіўся на далейшым здароўі ці псіхіцы Ані. Лёс жа Тоніка быў сумны. Ён адслужыў у арміі, чалавек увогуле быў добры, але спіўся і памёр ад гарэлкі ў маладым узросце.

# Першы заробак

Сталейшая мая сястра Жэня была, як кажуць, на выданні. Ды і прыгожая была і, нягледзячы на голад, даволі «круглая» — маладосць брала сваё. З гэтай нагоды ў наш закутак нярэдка зазіралі хлопцы — проста так, выпадкова: «Ішоў тут, дай, думаю, зайду»...

Заходзіў да нас і К. (не буду называць прозвішча). Вось гэты К. аднойчы мне і кажа ціхенька на вуха:

— За кожнае мацюковае слова буду плаціць па дваццаць капеек...

У мяне загарэліся вочы — ого, аж дваццаць капеек за слова! (Потым, пасля рэформы, дваццаць капеек ператварыліся ў дзве, а зараз сам чорт не разбярэцца з грашыма.) Я пачаў напружана ўспамінаць тыя мацерныя словы, якія, канешне ж, чуў ад сталейшых хлопцаў, ад дарослых. Успомню такое слова — шапчу К. на вуха. Ён, каб усе чулі, хваліць мяне:

— Малайчына! Харошае слова! — спраўна плаціў грошы і рагатаў з задавальненнем, забаўляўся.

Але лексікон мой быў небагаты ў гэтай галіне, і запас «харошых» слоў хутка вычарпаўся, а «зарабіць» хацелася, і я пачаў шаптаць розныя словы, але не мацюковыя. Тады К. глядзеў на мяне сурова і таксама, каб усе чулі, строга казаў:

— Ты што мацюкаешся! Як табе не сорамна? Ану ўспамінай харошыя словы!

Цяжка было мне, пяцігадоваму, разабрацца — што да чаго. На жаль, першыя зробленыя мае грошы былі бруднымі.

# Фіга

У Будах у Кухаронкаў было ўсё — і хата, і свіран, і жорны, і іншыя розныя будынкі і прыстасаванні. Быў у іх і цудоўны сад, праўда, надзейна агароджаны, а шкада...

Вось прыехаў аднойчы да іх нейкі важны госць, якога спачатку частавалі ў хаце, а потым Барыс, малодшы сын Кухаронкавых, якому было гадоў каля дваццаці, павёў гэтага госця ў сад.

Мы, хлапчукі, заўсёды «пры справе», без нас нідзе не абысціся, і тут мы не падкачалі. Барыс з госцем у сад, а мы праз адчыненыя варотцы — следам, авось, думаем, што і перападзе, авось перад госцем не выгане. Цыкнуў на нас Барыс, а выганяць не стаў, бо надта ўжо быў заняты гэтай персонай.

— Калі ласка, вось гэты яблычак пакаштуйце!..

— А вось гэты, дык такі наліўны, ажно семкі бачны!..

— А цяпер вось гэты, ён як мёд...— і гэтак далей. Водзіць ад яблынькі да яблынькі, усё сцелецца дарожкай перад госцем.

Мы, як тыя сляпыя шчаняты, увесь час скуголілі ззаду:

— Дай, Барыс, яблычак! Дай, Барыс, яблычак! Дай, Барыс, яблычак! Дай! Дай! Дай!

Здавалася, ён не звяртаў на нас увагі, трымаў марку, але мы, мусіць, яго так «дасталі», што ён рэзка павярнуўся і з шалёнай злосцю выставіў нам фігу:

— Наце яблычак!

Паколькі я быў самы першы, фіга трапіла прама мне ў нос. Барысаў агромністы кулак, складзены ў такую фігуру, быў, здавалася, большым за маю галаву, закрываў сабой і сад, і ўвесь свет. Не па-дзіцячы горкую крыўду адчуў я тады...

Крыўда тая даўно ператварылася ў вялікі жаль, бо Барыс, пасля таго як ажаніўся, не ладзіў з жонкай і застрэліўся з ружжа. Даруй яму, Божа!

## За што?

Пасля вайны нас у мамы было толькі пяцёра, да вайны — аж дзевяць. Я — самы маленькі. Мама і тата ад цямна да цямна — у калгасе, а мы — самапасам. Мяне, чатырохгадовага, адвялі ў суседнюю вёску да сваякоў — усё ж маме спакайней і лягчэй будзе. У гэтай сям'і жыла і дзяўчынка Соня, якая ўжо хадзіла ў першы клас. І вось тут я ўбачыў першую ў сваім жыцці кніжку — гэта быў буквар, у якім аж «кішэла» малюнкаў. Праўда, малюнкі былі не каляровыя, але ўсё роўна бачыць першы раз у жыцці такі цуд — гэта вам не сёння, што кнігарні ломяцца ад розных кніжак, яркіх, прыгожых. А тады — галеча, паперкі не знойдзеш, не тое што кніжкі. Ці ж магло маё дзіцячае сэрца вытрымаць і прапусціць проста так гэтую прыгажосць? Я адразу ж узяў нажніцы і павыразаў самыя прыгожыя, на мой розум, малюнкі, асцярожненька, каб не парваліся, склаў іх і схаваў у кішэньку, а ў душы радаваўся магчымасці бачыць у любы момант гэтую незвычайнасць дома.

Якое ж было маё здзіўленне, калі, вярнуўшыся ў хату знадворку, дзяўчынка Соня кінулася ў слёзы, нарабіла такога ляманту — хоць вушы затыкай. Збегліся дарослыя, забралі мой дарагі скарб і адвялі мяне назад да мамы. Праўда, не білі. А я доўга не мог зразумець, за што на мяне сварыліся.

## Макуха

Надакучыў я вам са сваім голадам? Прабачце! Але зноў вяду размову пра яго, праклятага...

Прывезлі неяк у Буды цэлую машыну нейкай макухі. Згрузілі яе ў будыніну — напалову склеп, бо частка ў зямлі была. Навесілі на дзверы замок, і ўсё. Не, не

ўсё! А як жа без нас?! Мы хуценька даведаліся пра тое, што прывезлі макуху, каб даваць яе жывёле. А чым мы горшыя за жывёлу? Нам таксама хочацца есці. Круціліся мы вакол гэтага будынка, круціліся — ні дзюрачкі, ні шчылінкі, толькі пах той макухі насы зварочвае, ахвоты паддае. Нарэшце залезлі мы на дах, нешта адсунулі, нешта ададралі — і вось яна, жаданая! Паспрабавалі — смакацішча! Ну і навалiліся ж мы на яе, толькі хрумст стаяў у цемры. Елі, елі — колькі ўлезла, яшчэ і з сабой хапянулі — хто ў кішэні, хто ў запазуху. Вось гэта жыццё! Заўтра зноў наведаем «харчэўню»!

Але ні заўтра, ні пазней сюды мы не палезлі, бо праз некалькі гадзін нас стала так ванітаваць і тузгаць, што мы зелянелі, сінелі, чарнелі. Ці мы задужа перагрузілі свае вечна галодныя жываты, ці макуха была, сапраўды, толькі для жывёлы — ніхто не ведае. Вядома толькі адно — тую будыніну мы абыходзілі далёка, бо не маглі чуць нават паху той макухі.

## Смяротная рана

Пасярод Будаў узвышаецца пагорак, яго называлі малаказаводам. Мусіць, тут быў некалі сапраўды завод, бо захаваўся вялікі, высокі падмурак. На адным схіле гэтага пагорка рос арэшнік, былі нейкія ямы, таму мы, вясковае «войска», тут гулялі «ў вайну». Падзяляліся на два лагеры, і пачыналася «перастрэлка», поўзанне, перабежкі, перамогі і паражэнні. Камандзірам нашага атрада быў Шурка Бурло — хлопец сталейшы за нас — на тое ён і камандзір.

Паўзу я з нейкім ражончыкам, замяняўшым стрэльбу, па гэтым арэшніку і нечакана натыкаюся на Шурку, які ляжаў на спіне, распластаўшы рукі і заплюшчыўшы вочы.

Я, як і належыць, пытаюся:

— Што з вамі, таварыш камандзір?

У адказ — ні гуку... Зноў і зноў задаю тое ж пытанне — вынік аднолькавы. Я не на жарт перапужаўся і давай крычаць на ўвесь арэшнік, клікаць на дапамогу.

Пазбягаліся і «нашы», і «не нашы» і давай валтузіць Шурку — не дай Бог памёр.

Нарэшце ён, не адкрываючы вачэй, працадзіў скрозь зубы:

— Мяне ранілі прама ў сэрца...

Хух! Цяпер ужо і ў нас адлягло ад сэрца.

Аказваецца, Шурка гэтак увайшоў у ролю.

## І смех, і слёзы

Сядзім мы неяк са старэйшым братам Кастусём на печы і шчыкочымся — зубы скалім. То ён мяне пакоціць, то я на яго ўссяду. Весела! Валтузімся, ажно печ трашчыць, ажно комін хістаецца.

Але праўду кажуць — надта не рагачы і не выскаляйся, бо хутка плакаць будзеш.

Так яно і атрымалася. Кастусь за мяне на чатыры гады сталейшы, у яго і сіл значна больш. Ён мяне прыціснуў і казыча, а я... а я, сказаць вам па сакрэту, баюся гэтага казытання і сёння горш за ўсё на свеце. Я й сёння буду ўцякаць ад гэтага хоць па сценах, хоць па столі, хоць у ваду, хоць у агонь.

А тады куды я мог уцячы, калі ён мяне прыціснуў, а я ўжо заходжуся ад смеху, ажно сінею? Што я мог зрабіць? Як мог ратавацца? Правільна! Толькі адным спосабам. Я яго і скарыстаў — што першае папалася пад руку, тым я і смалянуў брату ў зубы. А папалася, на жаль, нешта важкае, бо ў беднага Кастуся выскачыла адразу аж тры зубы. Ды якія! Самыя што ні ёсць найпярэднія! Як карова

языком злізала. Вось мы і нарагаталіся, і наказыталіся, і навыскаляліся. Сядзім на печы, звесіўшы ногі, і плачам. Кастусь таму, што баліць, я — таму, што зрабіў брата шчарбатым. Сам сябе ён убачыць доўга не мог, бо не было люстэркаў.

Гэты сумны выпадак каб і хацеў выкінуць з галавы, дык немагчыма, бо і праз паўвека, пры сустрэчы з братам, бачу яго ўстаўленыя зубы.

## Навучыў

У дубе, як ісці на Жукаўку, вадзіліся шэршні. Іх раней было на кожным кроку — і ў крушнях, і ў дуплах, і дзе іх толькі не было. Каб сказаць, што яны былі «задзірыстымі», дык не. Не чапай іх, і яны не зачэпяць.

А які ж гэта падшыванец пройдзе каля шэршняў, каб не кінуць у іхні бок камень ці палку? Вось і я ўнадзіўся хадзіць да гэтага дуба і кідаць па дупле каменнямі. Камень стукнецца аб дуб і адскоквае, а шэршні за ім. Цікава! Канешне, ёсць рызыка, што шэршань можа не за каменем паляцець, а за тым, хто яго кідае, але ў гэтым заключаецца ўся вастрыня гульні, якая і прываблівае.

Аднаго разу набраў я каменняў, стаў, як заўсёды, на «баявую» пазіцыю і давай шпурляць. Ды, мусіць, я ўжо ў тых шэршняў сядзеў у пячонках, бо адзін з іх паляцеў не за каменем, а праміком да мяне. Шэршань — гэта цэлы бамбавоз, і гудзе ён грозна, як бамбавоз. Я ад страху ледзь не абамлеў. Не паспеў я і пікнуць, як ён грызануў мяне за руку ля локця. Было такое адчуванне, што мне нехта палкай па руцэ трэснуў. Добра, што пашкадаваў мяне і не ўкусіў за твар.

Я схапіўся за руку і з дзікім гвалтам панёсся дахаты.

Да таго дуба болей я не падыходзіў.

## Спрэчка

Далёка за Будамі, як ісці на Сухую Гару, жанчыны, і сярод іх мая мама, жалі сярпамі калгаснае жыта. Спёка стаяла страшэнная, і мы, хлопчыкі і дзяўчынкі — дзеці гэтых жнеек, набралі ў бутэльку вады і панеслі яе сваім змучаным матулям.

Хто з нас прапанаваў зрабіць такі высакародны ўчынак — не памятаю. Усё было б добра, але ў аднаго хлапчука знайшлася ў кішэні цукерачка-гарошына, якую ён ніяк не адважваўся з'есці, бо яна была апошняя. Яго тата хварэў на сухоты, і, каб «падтрымаць» яго здароўе, прывозілі з Мінска пасля продажу шчаўя маленькі кулёчак цукерак — рознакаляровага гарошыку, можа, грамаў сто, бо на большае і лепшае не хапала грошай, хоць бы хлеба купіць ды з голаду не памерці. (Неўзабаве яго тата і памёр.)

Вось гэтую прыгожую гарошынку наш сябар «аджалеў» і кінуў у бутэльку — «для смаку». Але адразу нас занепакоіла — чыя мама будзе піць ваду апошняй? Усе разумелі — апошняй дастанецца цукерачка.

Падняўся шум, піск, штурханіна, кожны крычаў:

— Мая!

Кожны спрабаваў завалодаць бутэлькай, каб потым і распараджацца ёю. І да таго мы завалтузіліся, што бутэлька слізганула з рук, бразнулася аб каменьчык і разбілася. Мы акамянелі ад нечаканасці.

Сонца пякло нясцерпна...

## Промах

Гулялі ў лапту. Мячыка ў нас не было, але гэта не бяда. Скруцілі яго з ануч — чым не мячык? Адзін яго падкідвае, другі палкай стараецца папасці па ім, каб ён ляцеў як мага далей. Гулялі хлопцы, якім было ўжо год па дванаццаць, а такую, як мы, пяці-шасцігадовую мелюзгу

не бралі. Але я так прасіўся, так скуголіў, каб дазволілі хоць мячык падкінуць, што Віцька Жукавец (чамусьці яго звалі Красянцом), які стаяў з палкай, нарэшце злітаваўся і дазволіў мне падкінуць «мячык».

Не ведаю, што атрымалася — ці я стаў заблізка да Віцькі, ці ён не тым бокам да мяне, але Красянец з усяго размаху «змазаў» мне палкай па пераносіцы, ажно іскры (якія там іскры?) — ажно вуголлі з вачэй пасыпаліся. Я заліўся крывёй і брыкнуўся, як падсечаны.

З тае пары мой нос крыху крываваты, мусіць, не так храшчык зросся. Затое гульні ў лапту ніколі не забуду.

## Шкада...

Да мяне, як віхор, падляцеў Жэнька і, сціскваючы «лодачкай» далоні, у якіх быў аловак, спытаўся з жарам:

— Не ты згубіў?

У мяне перахапіла дух. Сапраўдны аловак! Мне ж так хацелася маляваць, але не было чым і на чым, таму мы, дзеці вайны, малявалі на пяску. А тут сапраўдны аловак! А які Жэнька чэсны! Знайшоў аловак і шукае гаспадара!

Я, доўга не думаючы, адказаў Жэньку: «Мой!» — хоць нічога не губляў, бо губляць не было чаго.

Жэнька з такім жа жарам «заіржаў» і паказаў «аловак» — гэта была драўляная прадольная палавінка без стрыжня.

Ну, Жэнька! Ну, шэльма! А шкада, што аловак быў несапраўдны.

## «Бычкоў падарунак»

У сорак пятым годзе мы жылі ў спаленай немцамі роднай Карпілаўцы, у зямлянцы. Мне было тры гадкі...

Выкараскаўся я неяк з нашай зямлянкі, стаю перад ёй, думку думаю: «Куды падацца?» Бачу, пасецца побач Тодараў бык. (Як яны на яго разжыліся — не ведаю.) Я ціхенька, нага за нагу, бокам, бокам — ды да яго, гэтага быка. Ён перастаў скубці траву і, не паднімаючы сваёй рагатай галавы, глядзіць на мяне — што гэта за такая шмакадзяўка вырасла перад яго вачыма?

Ён мяне разглядае, я — яго...

Крыху расхрабрыўшыся, я пачаў пальчыкам дакранацца да ягонага ілба ды паціху поркаць у той лоб.

Ці доўга гэта «порканне» працягвалася, ці не, а, відаць, я яму надакучыў, бо ён ціхенька піхнуў сваім ілбом мяне ў грудзі. Гэтага «ціхенька» хапіла для таго, каб я задраў ногі.

Я перапужаўся, ляжу, раву — на чым свет стаіць! Бык здзіўлена глядзіць на мяне, а я — раву!

Канешне, ён не біў мяне, бо ў яго хапіла розуму «скумекаць», што перад ім — дзіця, таму ён не рогам, а ілбом «пагладзіў» мяне...

...Між іншым, бываюць у жыцці выпадкі, калі бык забівае дарослага чалавека...

Але вернемся да нашага «добрага» быка. Ён здзіўлена стаіць нада мной, а я — раву... Як выбегла з сваёй зямлянкі, што насупраць нашай, Тодарыха ды як убачыла, што я ляжу каля іхняга быка,— перапужалася, бедная, падумала, што бык па-сапраўднаму «ўваліў» мне. Адагнала яна ўбок жывёліну, падняла мяне, бачыць — я цэлы і здаровы, толькі раву. Тады яна, каб уціхамірыць мой роў, збегала дамоў і прынесла мне лусту хлеба, пасыпаную цукрам.

Які ж быў смачны «бычкоў падарунак»!

## Будзе вайна...

Праўду кажуць, што маленькая істота, якую маці носіць пад сэрцам у перыяд цяжарнасці, усё чуе, усё разумее. і ўсё ўбірае ў сябе, каб потым адпаведным чынам «рэалізавацца» у жыцці.

Калі ўсё адчувае і ўспрымае зародак чалавека, дык не мог жа я ніяк не рэагаваць на тое, што ў першыя гады майго жыцця вакол мяне лютавала вайна. Мае вочы бачылі ўсё, што бачылі вочы дарослага чалавека: немцаў, якія прыкладамі выштурхоўвалі нас з хаты, а потым спалілі яе, суровае жыццё партызанаў, да якіх мы прыбіліся і з якімі адыходзілі да Паліка, дзе потым немцы ўчынілі крывавую бойню і адкуль вырываліся хто як мог. Многа начэй правялі мы ў лесе без агню, без цяпла, без яды. Бачылі мае вочы і слёзы, і кроў, і смерць — не ўсё разумелі яны, але смяротны страх пасяліўся ў мяне, занадта маленькага ў параўнанні з тым агромністым горам.

Я не памятаю вайну, але выбухі, крыкі, уцяканне, хаванне, пакуты таго часу атруцілі маю кроў, мае дзіцячыя мазгі надоўга, бо слова «вайна» выклікала ў маім сэрцы неверагодны жах і я пачынаў дрыжаць усім целам. Гэта я пачаў заўважаць у сорак пятым годзе, па сутнасці, пасля вайны. І асабліва праяўлялася гэта цёмнымі вечарамі, калі мама мяне ўкладвала спаць. А спаў я чамусьці на спіне, але «калачыкам», падціснуўшы ногі да жывата і ўшчаміўшы пад іх рукі.

У нас, малых, было тады павер’е — калі нейкія словы доўга паўтараць — будзе ўсё наадварот.

Вось я, не раскрываючы свой сакрэт маме, вечарам не засынаў, а тросся ад страху і, як пацеры, доўга і старанна паўтараў праз сябе: «Будзе вайна... будзе вайна... будзе вайна...»

Дзякуй Богу, маё заклінанне «памагло» і на Беларусі больш як пяцьдзесят гадоў няма вайны.

# Сталінская кароўка

Ледзь толькі скончылася вайна, як аднекуль «зверху» распарадзіліся дапамагчы самым што ні ёсць пацярпелым ад гэтай праклятай вайны.

Мы, як пагарэльцы, былі тады самымі беднымі, бо акрамя вошай у нас нічога не было...

Той, хто памятае пасляваенны час,— памятае і ідэалагічны чад, што запоўніў усе куточкі знявечанага жыцця. Што б ні рабілася, ні манілася — усё прыпісвалася Сталіну. Сталін — перамог... Сталін — пабудаваў... Сталін — клапоціцца...

Вось тую «дапамогу» бедным — таксама аднеслі на рахунак Сталіна. І нам, нашай сям'і, якая не мела ні даху над галавой, ні крошачкі хлеба, ні бульбінкі,— калгас, ад імя Сталіна, даў карову.

У якой дзяржаве такое магчыма?! Хай паспрабуе камар нос падаткнуць пад сталінскую «заклапочанасць» пра бедных!.. І наша сям'я трапіла недзе ў спіс «шчаслівых» сем'яў, якіх было мільёны пад сталінскім сонцам...

Дасталася нам карова страшнючая, худзенная, як кажуць,— скура і косці. Здавалася, што і скуры не было — адныя косці, але, нягледзячы на гэта, мы былі шчаслівымі — якая ні ёсць, а карова — багацце!

Я бегаў па вёсцы і з раніцы да вечара выкрыкваў тое, што чуў ад мамы, ад дарослых: «Сталін даў кароўку! Сталін даў кароўку!..»

Кароўка тая не даілася, бо скура і косці і не маглі даваць малако. Адкуль яно ў іх? Яна хісталася ад слабасці ці ад старасці, а можа, ад хваробы, а хутчэй — ад усяго разам, бо хуценька яна, як кажуць, адкінула капыты — здохла. Вось мы і набыліся «багатымі» — зноў засталіся толькі мы і вошы...

«Зарэзаў» тата тую бедную кароўку, і голад вымусіў нас есці «шчодры» сталінскі падарунак.

## Чужое слова

Пераязджалі Міцьковы на новае месца жыхарства — у Мінск. Нагараваліся ў Будах, «наеліся» працадзён калгасных, ажно горка зрабілася.

Прыехаў грузавік, і пачалі загружаць у яго прыдбаны скарб — чарапы нейкія ды рызманы розныя. Беднаму чалавеку — і гэта багацце.

Мы, малыя, стаім, з самотай і зайздрасцю назіраем за мітуснёй дарослых. І шкада, што ад'язджаюць твае бясштаннікі-сябры, і зайздросціш ім — пра Мінск мы толькі вухам чулі, а яны будуць жыць у ім — сярод булак і цукерак.

Раптам мужчына, што стаяў у кузаве машыны, звярнуўся да мяне:

— Мальчнк, подай кувшнн!

Я так разгубіўся, нібы соннаму трэснулі палкай па лбе — зачырванеўся, нічога не разумею. Першыя два словы разабраў, а вось пра «кувшнн» я ніколі не чуў. Я збянтэжана забегаў вачыма па розных хатніх дробязях, якія стаялі каля машыны, а патрэбнай рэчы не знайшоў, хоць збан гэты быў на самым бачным месцы...

Аказваецца, не надта даўно гэта было, калі беларуская вёска ведала і шанавала сваю родную мову,— слова «кувшин» было для мяне незнаёмым, чужым.

Сёння ж для многіх беларусаў, нават для тых, чые карані засталіся ў вёсцы, матуліна мова зрабілася чужой.

## Хто есць хто?

Аднаго часу прывозілі ў нашу вёску зняволеных — «зэкаў». Яны збіралі па палях каменні, сцягвалі іх у кучы — рабілі пад канвоем. Абед ім прывозілі ў вялізных бачках-тэрмасах, каслілі пераважна крупянымі кашамі.

Голад гнаў нас да гэтых людзей, мы шчыльна іх акружалі і «блішчэлі».

А ў дзяцінстве я быў такі белагаловы — валасы як снег. Пэўна, у маім арганізме нечага не хапала, вось валасы і былі бялюткімі. Але дзякуючы ім мне больш, чым каму з маіх сяброў, шанцавала. Як нас адрозніць адзін ад другога? Усе абарваныя, худыя, галодныя, босыя. А вось я сярод іх быў як той дзьмухавец, як заяц-бяляк летам — нідзе не схавацца яму. Таму я кожны дзень чуў ад якога-небудзь зняволенага адно і тое: «Ну, белая галава, падыходзь!» — усаджваў мяне на калені і дзяліўся сваёй небагатай «пайкай».

Потым ужо іншыя зняволеныя частавалі і маіх сяброў, але я заўсёды быў першым.

Не ведаю, за якое злачынства яны адбывалі пакаранне, але людзьмі засталіся.

А вось другі прыклад — амаль самы балючы мой успамін.

Ішлі мы з мамай аднекуль, а ля дарогі, у цяньку, сядзіць наш брыгадзір з нейкімі двума незнаёмцамі. Сядзяць і сілкуюцца. Перад імі — бутэлька самагонкі, хлеб і свежыя агуркі.

Брыгадзір зачапіў маму, пра нешта запытаўся, і мы прыселі.

Свежых агуркоў я яшчэ ніколі не еў, а яны так смачна пахлі, так апетытна хрумсцелі, што я забыўся пра ўсё на свеце — бачыў толькі агуркі, чуў толькі іх пах.

Мама цягнула мяне за руку, бо гаворка яе з брыгадзірам скончылася, а я прасіўся:

— Мамачка, я яшчэ пасяджу трошачкі!

Я спадзяваўся, што дадуць мне кавалачак агурка, хай сабе без хлеба, бо хлеб хоць зрэдку, хоць патрошку наведваў нас. Я заглядваў у вочы брыгадзіру і незнаёмцам.

— Пайшлі, сыночак, пайшлі!

— Мамачка, я хоць трошачкі яшчэ пабуду! — зазірнуў я і маме ў вочы...

І толькі многа пазней, пасталеўшы, я прачытаў усё, што было тады напісана ў маміных вачах — нясцерпны, пякучы боль за сваіх дзяцей, бездапаможнасць і бязвыхаднасць гаротнага пасляваеннага жыцця...

А я ўсё прасіўся і прасіўся ў мамы, пакуль апошні кавалачак агурка не захрусцеў жалобным хрустам у чужым роце...

Прабач мне, мама, за той боль, які я наклікаў у тваё сэрца...

## Ногі трэба мыць!

Прыязджаў разы з два ў Буды летам на адпачынак да сваёй маці Кухаронкаў Косця — лётчык, пры пагонах з зорачкамі (у званнях мы тады не разбіраліся). Што ён прывозіў сваёй маці і сваякам — невядома. А вось нас, абарванцаў, частаваў цукеркамі. Уявіце — цукеркі пасля вайны! Такое з памяці не вываліцца ніколі. Але самае галоўнае было не ў цукерках. Самае цікавае ў тым, што гэты надзвычай сур'ёзны чалавек цэлыя дні праводзіў з намі, дзецьмі. Пра што ішла гаворка — не памятаю. Запомнілася яго ваенная форма і ён сам у нашым шчыльным акружэнні. Яшчэ адно запомнілася вельмі жыва, можа, таму, што датычылася мяне і мяне моцна здзівіла.

Сядзім мы, пра нешта гутарым, і нечакана наш сябар глянуў на мае босыя ногі і, як бы між іншым, кажа:

— А ногі, хлопчыкі, трэба кожны раз мыць перад сном...

Тут аўтарытэт Косці ў маіх вачах пахіснуўся, бо я не зразумеў, пра што гаворка. Усю вайну мы басцяліся па лясах, па балотах, пасля вайны жылі ў зямлянцы, абутку ў мяне зроду не было, мыла ў вочы не бачыў, пра пасцель

вухам не чуў — пра якія ногі размова? Я і рукі ніколі не мыў — а тут ногі!

Я зірнуў на свае чорныя, закарэлыя, хоць рэпу сей, ногі і першы раз не змог зразумець нашага любімца.

## Булён

Расклалі Міцьковы агонь каля хаты і вараць булён на вячэру.

Калі ўжо казаць пра вячэру, дык яе ў вёсках спрадвеку гатавалі летам на кастры, бо газы не было, а печ паліць не будзеш дзеля гаршка бульбы. Таму збіралі трэскі і разводзілі агонь. І рабілася ўсё гэта на прыцемку, пасля таго як пароблена ўся работа і дагледжана жывёла.

А так як у Міцьковых адразу пасля вайны ні жывёлы, ні гаспадаркі не было, а галодных дзяцей — цэлая процьма, то вячэру гатавалі яны яшчэ завідна, прыйшоўшы з калгаснай прынудзілаўкі. Чаму варылі булён, а, напрыклад, не бульбу? Таму што бульба была вялікай раскошай, яе не хапала. Добра, што яшчэ наскрабалі некалькі бульбінак, крышылі іх у вялізны гаршчок для «навару», каб жываты наліць і голад падмануць.

Дык вось — вараць Міцьковы булён, дакладней, варыць то яго маці, а дзеці шчыльна акружылі агонь і з лыжкамі напагатове напружана чакаюць — як тыя ліхія ваякі, якія ад першага слова кінуцца ў атаку. Трошкі воддаль сядзім мы, «вольныя» ад вячэры — такія ж галодныя і напружаныя. Ведаем, што не паядзім, але хоць на чужы «стол» нагледзімся.

Заўтра і да нашага «стала» падыдуць гэткія ж гаротнікі.

Сабралася маці Міцьковых нечага ў хату і кажа дзецям:

— Глядзіце, каб агонь не звёўся, я хуценька прыйду...

Тут і пачалося! Справа ў тым, што ў кожнага, акрамя лыжкі ў адной руцэ, быў і кіёчак — у другой. Каму ж не хочацца папароць у агонь, падправіць яго? А калі надта дужа прыспічвае есці, тады здаецца, што агонь гарыць марудна, вада ледзь кратаецца, бульба не хоча разварвацца — усё супраць цябе.

Таму, застаўшыся без дагляду, кіёчкі ў Міцьковых руках так жвава пачалі «падпраўляць» агонь, што нейчы кіёк даў гаршку такога кухталя, ад якога ён, небарака, кульнуўся настолькі спрытна, што ўвесь «навар» разам з бульбай бултыхнуўся на вуголлі, узняўшы клубы пару і хмары попелу.

«Кухары» акамянелі, але раптам, як па камандзе, пачалі тымі ж кіёчкамі хуценька падграбаць, кожны да сябе, разам з попелам і вуголлямі, пачарнелыя, забруджаныя кавалачкі бульбы, якія спачатку спрабавалі абціраць ад прыліпшага смецця. Потым глыталі іх, не звяртаючы ўвагі на попел і пясок, гледзячы галоднымі вачыма на вогнішча, у якім, магчыма, засталіся яшчэ кавалачкі бульбы.

## Першы лёд

Што можа вабіць дзяцей больш, чым першы лёд? Звечара кладзешся спаць — у сажалцы вада як вада, раніцай прачнешся, а на сажалцы — лёд! Шчыра кажучы, не лёд, а адна назва — тонкі, кволы, непрадказальны.

Але ці ж гэта перашкода? Пакоўзацца! Вось адзінае жаданне... Пачынае самы адчайны. Разгоніцца — і пабег па лёдзе! Лёд трашчыць, прагінаецца пад ім, зноў выпростваецца. Тут галоўнае — не прыпыняцца, не «лічыць варон». За першым падшыванцам бяжыць другі, трэці, а потым і самыя малыя, сярод якіх і я.

Праз трэшчынкі ў лёдзе пачынае прасочвацца вада, а мы — гойсаем, коўзаемся, радуемся пачатку зімы.

Аднаго разу я, замест таго каб бегчы і не супыняцца,— разявіў рот, загледзеўся на некага і — шусь у ваду! Паколькі мы, малыя, бегалі ўздоўж берага, то праваліўся я па пояс, але пакуль выкарабкаўся на бераг, стаў макруткі да апошняй нітачкі.

Вылез — і, падскокваючы ад холаду, пабег дамоў. Бягу і думаю: улупіць мне мама дык улупіць! Мала не будзе! Не пайду дамоў! Стаў каля сцяны хлеўчука і стаю, калачуся — дрыжыкі прадаю. Рызманы мае ператварыліся ў ледзяную скарынку, зубы ляскаюць, як у галоднага ваўка. Замярзаю!

Не ведаю, чым бы закончылася гэтая спроба на выжыванне, але, на маё шчасце, ішла Таццяна Бурло — суседка праз дзве хаты.

— А мой ты Сяргейка! А мой ты дурненькі! — залямантавала яна, схапіла мяне за руку і пацягнула дамоў, да мамы.

Тут я закалаціўся яшчэ мацней, а чаму — зразумела.

Але мама мяне не біла, супакоіла маю «мужнасць», якая прымусіла мяне стаяць пад сцяной хлява ў ледзяной шкарлупіне.

## Кашулька

Прыехала да нас у вёску з Мінска сваячка, прывезла мне шыкоўны падарунак — пашытую са старой сукенкі ці кафтана кашульку. Тканіна была «аднабаковая» — з аднаго боку — кветкі, а другі — чысты, без набітага малюнку.

Вось гэтую маю кашульку і пашылі кветкамі ўсярэдзіну, а чыстым наверх.

— Якую ж яны зрабілі памылку! Як жа яны «няправільна» пашылі мой падарунак! — абураўся я.

Мне ж было тады годзікі чатыры, і за сваё кароткае гаротнае жыццё я не бачыў і ніколі не меў такой прыгажосці, якая была схована ў сярэдзіну кашулькі.

Я ніяк не мог зразумець, чаму гэтую прыгажосць трэба хаваць — яе ж ніхто не ўбачыць. І я знайшоў выйсце!

Апрануць мне гэтую кашульку, а я яе спераду задзяру да самай барады і гэтак хаджу па вёсцы — фаршу, паказваю ўсім, якая прыгожая мая кашулька ўсярэдзіне.

Трэба ж было неяк выпраўляць «памылку» дарослых!

## Лучыннік

Як змянілася наша жыццё! Ды і мы змяніліся ў гэтым жыцці, зрабіліся іншымі, «цывілізаванымі».

Адзін толькі прыклад. Паехаў я нядаўна на выхадныя дні ў сваю Карпілаўку, а там па нейкай прычыне пагасла электрасвятло.

Справа была восенню, цямнее рана, вечары доўгія — што рабіць без святла? Ні пачытаць, ні папісаць. Але ў вёсцы на такі выпадак у кожнай хаце ёсць яшчэ газавая лямпа. Есць такая лямпа і ў мяне. Даліў я ў яе газы, падкруціў кнот і — цемра разбеглася па вуглах. Паставіў лямпу ля ложка — ляжу сабе, чытаю. Начытаўшыся, пайшоў на двор дыхнуць перад сном свежага паветра, зірнуць на зоркі. Заходжу ў хаіу і... Бог ты мой! Дыхаць няма чым! Смурод ад перагарэлай газы вочы выядае...

Як змяніліся мы ў гэтым жыцці!

Раней, у гэтай жа Карпілаўцы, газавая лямпа была адзіным, шыкоўным святлом. Жыў я і рос пры ім, перачытаў доўгімі зімовымі начамі мноства розных кніг і ні разу не заўважыў, што газавая лямпа дае нейкі там пах. Пераборлівымі зрабіліся мы, далікатнымі...

Але ж папярэдніцай газоўкі і газавай лямпы была лучына. Пры яе асвятленні праходзілі пасля вайны доўгія

вечары, рабілася ўся хатняя работа, збіраліся аднавяскоўцы пацешыць адзін аднаго жартамі ды прымаўкамі. Пры святле лучыны мама залатвала нашу латаную-пералатаную вопратку.

Звычайна ведалі, у каго сёння вечарам будуць збірацца «на сяло», таму гаспадары рыхтаваліся да такой сустрэчы, прыбіралі ў хаце, шчапалі дадаткова лучыну.

Калі надышла чарга збірацца ў нашым трысцені, мы таксама «заварушыліся» і сустрэлі суседзяў як падабае. Асабліва вялікае шчасце выпала на маю долю, бо мама мяне папярэдзіла:

— Ты, сынок, сёння вечарам будзеш мяняць лучыну! Глядзі ж, каб не згасалі яны!

Даверыць пяцігадоваму хлопчыку такую адказную справу — гэта не жартачкі. У мяне ў грудзях усё пякло і гарэла ад усхваляванасці і нецярпення.

І вось пачалі збірацца аднавяскоўцы. Я — на сваім адказным пасту — на печы. Побач са мной — цэлая куча тонка пашчапанай, высахлай лучыны. Адна лучынка ўжо гарыць, пускаючы да столі тонкі і віхлявы струменьчык чорнага дыму. Звычайна лучыну ўторквалі ў рог печы паміж дзвюх цаглін, адкуль папярэдне выкалупвалі цэглу...

Якія гэта былі цудоўныя гадзіны майго жыцця! Дарослыя вядуць сваю шумную размову, смяюцца, жартуюць, а ты сочыш за агеньчыкам на лучыне, запальваеш новую, ушчэмліваеш яе паміж цаглін, а «агрызак» асцярожна кладзеш на печ ля сябе і затушваеш. Твае сябры стаяць «кучкай» ля дзвярэй, слухаюць байкі дарослых і з зайздрасцю назіраюць за тым, як ты «забяспечваеш» святлом гэтую цікавую вечарыну.

Ці ж заўважалі мы тады куродым і смурод ад лучыны! Мы былі ўдзячны ёй, яе цьмянаму святлу, яе вясёламу патрэскванню...

Не ведаю, што адчувае спартсмен, які «на вачах» усёй планеты запальвае на стадыёне алімпійскі агонь. Думаю, што нешта падобнае перажываў тады я, запальваючы адну лучыну ад другой.

## Крыўда

У сорак дзевятым годзе я пайшоў у першы клас. Жылі мы ў Будах, а школка была ў Лысай Гары. Далекавата было хадзіць, але ж, як кажуць, можна мірыцца, бо ідзеш не адзін, а з сябрамі.

Рухаемся, торбачкамі б'ёмся — жартуем. Праўда, зімой было цяжкавата дабірацца. Бывала, выйдзем, а перад намі — ні слядочка, акрамя, канечне, заячых ды іншых слядоў. А зімы ж раней былі сярдзітыя, снежныя, з завеямі ды гурбамі. Дарослым той снег даходзіў ледзь не да пояса, а пра нас і казаць няма чаго... З сіл выбіваемся, а да школкі неяк дакарастаемся. Цягнуліся дзеці пасля вайны да ведаў, як парасткі да сонца...

Спяшаюся я аднойчы ў Лысую Гару, іду подбегам, бо прыпазніўся — сяброў хачу дагнаць. Выбег за вёску, зірнуў направа, дзе былі агароды,— бачу, на іх, далёка за кустамі, мільганула нейчая чырвоная хусціна. Мільганула і ў маёй галаве думка: «Мусіць, Аміля бульбу выбірае,— дзень жа быў сонечны, хоць і восеньскі». Падумаў гэтак ды і забыўся адразу.

Вяртаемся пасля школы дамоў, а вёска — гудзе! Адбылася небывалая падзея — адразу за вёскай, на агародах знайшлі чырвоны паветраны шар, які запускаюць для нейкіх навуковых даследаванняў. Гэты невялікага памеру шар быў выпушчаны ў Мінску, бо на шнурочках вісела нейкае прыстасаванне з бляшанкай, на якой быў выбіты адрас. Гэтымі шнурочкамі шар заблытаўся за куст

і хістаўся на ветры, быццам падклікаў мяне да сябе, а я палічыў яго за чырвоную хусціну.

Колькі ж у маёй душы было прыкрасці і крыўды на сябе за тое, што я самы першы ўбачыў гэтую цудоўную знаходку, але быў не зусім уважлівы. Разява!

А прыстасаванне з бляшанкай праз нейкі час адвезлі ў Мінск па ўказаным адрасе.

## Кастусёвы слёзы

Надзвычай арганізавана мы адносіліся да яды. Чаму? Таму, што яе амаль не было, таму, што елі з адной пасудзіны — вялізнай місы, якая ставілася пасярод стала. Тут — «варон не лічылі», завіхаліся, наколькі дазваляла спрытнасць. Наварыць мама шчаўя ці булёну якога і — толькі лыжкі мільгаюць. Думаю, што сучасныя шпажысты зайздросцілі б нашай спрытнасці. Але шпажысты сёння ад голаду не пухнуць — адкуль у іх можа быць тая спрытнасць ды завіханне, якое было тады ў нас?

У кожнага ў руцэ — драўляная лыжка-самаробка, таму ляскацення па місе не было — адно сёрбанне чулася.

Аднойчы мама зварыла зацірку на абед. Міса пустая — на стале, мы — вакол стала. Аставалася толькі кульнуць зацірку з гаршка ў місу, але Косцік, мой брат, прыпазніўся са школы. Мы не зводзілі вачэй з місы, а Кастуся — няма. Чакалі, чакалі, мама і кажа:

— Пакіну я яму ў гаршку. Колькі можна чакаць? Работа ж таксама чакае, а час наогул чакаць не будзе.

Так і зрабілі. Калі наша сёрбанне было ў разгары — адчыніліся дзверы і ўляцеў Кастусь...

Божа мілы! Што было! Кінуў торбачку на земляную падлогу, сам з ровам і слязьмі забіўся ў куток:

— Вы ўсё з’елі! Вы мяне не пачакалі! Я — галодны!

Мама — да яго:

— Косцічак, сынок! Я ж табе ў гаршку пакінула! І клёцак многа!

Мы абступілі беднага Кастуся — і голад прапаў. Ледзь угаварылі яго сесці за стол, а калі, нарэшце, сеў — не завіхаліся, а далі яму магчымасць «дагнаць» нас...

Сёння я разумею, што плакаў не Кастусёк. Плакала — гора, плакала — нястача і голад.

Не дай Бог нікому такіх слёз!

## Тарканы

Кожную раніцу мама пачынала рабіць адну і тую ж работу — тапіла ў сажалцы тарканы. Тарканамі мама называла тое, што ноччу залазіла ў наш адзіны гаршчок, які важна стаяў на прыпеку і чакаў раніцу, каб прыцягнуць да сябе ўвагу і «напоўніцца» нейкім пойлам ды пабулькаць ля агню ў печы.

Тое пойла — яда, якая хуценька з гаршка «перабіралася» у нашыя вечна галодныя жываты, пасля чаго гаршчок зноў важна адпачываў на прыпеку да наступнага булькання.

Але галодныя былі не толькі мы, дзеці і дарослыя, а і гэтыя чорныя, даволі вялікія жукі, якіх прывабліваў гаршчок сваім пахам.

Іх набівалася так многа, што ад іх варушэння ў гаршку па хаце ішло даволі звонкае шапаценне, быццам здалёк набліжалася закаванае ў жалеза войска.

Я з цікавасцю назіраў, як мама падыходзіла да печы, накрывала нейкай анучай гаршчок і з ім накіроўвалася праз дарогу да сажалкі, дзе выкульвала іх у ваду.

Ноччу новае «войска» шчыльна займала «пазіцыі» і па хаце зноў разляталася шапаценне і паляскванне «даспехаў».

Адкуль яны браліся і куды яны зніклі, тыя чорныя тарканы, ці прусакі?

Тады, пасля вайны, ад іх не было спасу, сёння — пра іх, дзякуй Богу, ні слыху ні дыху.

## Вяселле

Аднаго разу Алёшкавы гналі самагонку. Спачатку капае моцная, як агонь,— пяршак, потым ужо — сярэдняй моцнасці, і чым далей — тым слабейшая, а ўжо ў самым канцы — амаль вадзічка, так званы адгон. Самагонку потым размешваюць у адной пасудзіне і дабіваюцца «сярэдняй моцнасці». Канешне, хочацца мацнейшай, а з другога боку — каб было болей. Вось і спрабуе гаспадар забіць двух зайцоў — боўтае — спрабуе, боўтае — спрабуе. Бывае, так наспрабуецца, што не пазнае сваю хату...

Дык вось пасля такой «аперацыі» застаўся ў Алёшкавых збаночак такога адгону — вадзічкі. Выліваць вон шкада, можа, калі і вып’ецца — пах жа ёсць. Але не доўга стаяў той збаночак. Аднойчы я і дачка Алёшкавых Таня забаўляліся нечым у іхняй хаце і знайшлі гэтае зелле.

— Давай будзем гуляць у вяселле! — прапанаваў нехта з нас, і «вяселле» пачалося. Гэты адгон, які амаль не меў градусаў — вадзічка для дарослых, а для пяцігадовых дзяцей — не давядзі Гасподзь!

Мы з Таняй выпілі па аднаму разу — нам, як кажуць, «захарашэла», пасля чаго, паддаючы адно аднаму імпэту, выпілі ўсё...

Таніна маці знайшла нас на падлозе беспрытомнымі.

Вёска ёсць вёска, і калі мяне мая мама прынесла на руках дамоў,— «гледачоў» было — хоць адбаўляй. Мама нада мной б’ецца, ратуе (ці ж гэта жарт?), а ўсе астатнія — рагочуць.

Трошачкі апрытомнеўшы, я пачаў кідацца біцца да дарослых, але ногі мяне не трымалі, і я ляцеў стоць носам. Зноў спрабую кінуцца біцца, зноў — тырчком. Вось тут ужо можна і парагатаць — п'яны верабей кідаецца біцца да цвярозых людзей...

Пасля гэтага «вяселля» мяне доўга звалі збаночкам адгону.

## Варголы

Столькі ўжо featuresрознага пісана-перапісана пра чай, столькі ўжо чытана-перачытана пра яго смак, сарты і якасці ды пра спосабы заварвання і ўжывання, што неяк боязна пісаць пра свой «чай», які мы пілі доўгі час пасля вайны...

А сёння да вядомых сартоў краснадарскага, індыйскага, цэйлонскага ды кітайскага далучылася вялікае мноства разавых пакецікаў бананавага, ананасавага, лімоннага, клубнічнага і... не хопіць гэтай старонкі пералічваць усе тыя назвы чаю, якія невядома з чаго зроблены ды адкуль з'явіліся.

Сёння раяць: трэба піць чай без цукру, каб яго «букет» адчуць кожнай клеткай свайго арганізма. Хто яго ведае — можа, яно і гэтак!

Не чуўшы гэтай мудрагелістасці, мы пасля вайны і пілі свой чай «па-еўрапейску» — без цукру, бо яго, на жаль, у нас ніколі не было...

Тут можна і нагадаць шчымлівы тэлевізійны матэрыял, калі, пасля вызвалення ад немцаў нейкага населенага пункта, дзіцяці далі кавалачак цукру, а яно, беднае, не бачыўшы ніколі гэтай смакаты ў сваім гаротным маленькім жыцці, гуляла з цукрам, як з прыгожым белым каменьчыкам...

Мы пасля вайны былі больш дасведчаныя, чулі пра цукар, ды мець яго пакуль не даводзілася.

Але ёсць цукар ці няма яго, а чай піць трэба — гарачага ж хочацца, кішкі ж пагрэць трэба.

Летам было лягчэй «заварыць» чай — то ягадзіну якую мама кіне ў гаршчок, то травіну нейкую, а зімой — цяжэй.

Бывала, калі тата ішоў у лес, каб прынесці дроў у печ, заадно выламваў і дудкі малінніку, тады чай быў сапраўдны. Але часцей за ўсё ўжывалі мы самы надзейны сорт чаю — «варголы». Гэта значыцца — чыстая вадзічка, голы вар.

Вы спытаецеся, а чаму не збіралі летам і не сушылі розныя травы, каб зімой сядзець ды «чаяваць»? І сапраўды, гэта ж так проста — пайшоў, гуляючы ды адпачываючы, прыпяваючы ды прысвістваючы — збірай сабе пахучыя кветкі і духмяныя травы...

Аказваецца, гэта было зусім не проста, амаль немагчыма. На ўсё гэта не заставалася ні сіл, ні часу пасля штодзённай, ад цямна да цямна, ледзь не катаржнай працы ў калгасе. А калі ўрывалі якую гадзіну-дзве — усёй сям'ёй, старыя і малыя, навальваліся на шчаўе, ды пёр нехта адзін на гарбе гэты мех у Мінск, каб прадаць яго ды прыдбаць хлябец...

Вось і пілі мы з задавальненнем варголы — наш «сорт» чаю, пра які за мяжой і вухам не чулі. Куды ім? Цемра!

Аднаго разу ў наш спарахнелы трысцень «увалілася» вялікае свята — прывёз тата з Мінска кавалачак цукру. Ён і сапраўды быў падобны на камень, ды і крэпкі, як крэмень. Тата закруціў яго ў нейкую тканіну, каб не згубілася ні крошачкі, і пачаў малатком разбіваць той кавалачак цукру на зусім маленькія кавалачкі. Мы ўсёй сям'ёй, не дыхаючы, сачылі за вузельчыкам, які ад удараў малатка смачна пахрустваў і сплюшчваўся. Тата асцярожна раскруціў тканіну, расклаў на стале маленькія, з вострымі краямі, кавалачкі белага цуду, старанна вытрас

на стол і згроб у кучку тое, што ператварылася ў цукровую муку і... мы не «па-еўрапейску», а па-сапраўднаму, па-людску пачалі піць свой «варголы». Што гэта быў за цукар!

...Сёння сучасны рафінад, толькі памачы яго ці вазьмі ў рот, як ён рассыплецца, цукрынка ад цукрынкі «адпіхваецца», як і мы, сучасныя людзі, адзін ад аднаго...

А той кавалачак цукру ляжыць сабе ў роце, дае салодкасць і амаль не растае. Можаш выпіць хоць тры кварты голага вару, а кавалачак цукру «не паддаецца», ляжыць на языку роўненька. Асалода!

А як смачна піў тата чай з тым цукрам! Кубак алюмініевы, награецца, як і сам вар,— у руцэ-то яго тата трымае, бо рукі загрубелыя, да ўсяго звыклыя — а вось да рота кубак не дакнуць. Таму тата вар «усёрбваў» з паветрам, не дакранаючыся вуснамі да пасудзіны. Сербане, цмокне языком, на якім ляжыць той «жывучы» кавалачак цукру, потым глыне вадзічку і з задавальненнем выдыхае працяглае, прыглушанае «а-а-а»...

І гэтак раз за разам: сёрб — цмок — а-а-а... сёрб — цмок — а-а-а...

## Зладзюга

Прыехалі ў нашу вёску з Мінска да суседзяў нейкія сваякі ці знаёмыя. Прыехалі, пагасцілі і ад’ехалі дамоў.

У той сям’ і, да якой яны прыязджалі, была дзяўчынка Аня, мая аднагодка, з якой мы штодня сустракаліся, гулялі, сябравалі.

Заскокваю я пасля тых гасцей у хату да Ані і — слупянею. Аня трымае ў руках... нават не ведаю што! З чым тады я мог параўнаць тую прыгажосць?! Сярод паслываеннай шэрасці, беднасці, нястачы — нічога падобнага

мне ні разу не сустракалася. Нават каляровыя сны пасавалі перад цудам, які зіхацеў у Аніных руках ярчэй за вясёлку.

Гэта была перламутравая бляшанка, уся ў рознакаляровых гарошынках, у якой некалі былі цукерачкі-ледзянцы. Якімі толькі фарбамі не пералівалася яна! Мне падалося, што знік увесь свет, знік і сам я — засталася толькі гэтая кругленькая яскравая бляшаначка, якая вабіла і палоніла сэрца.

«Адслупянеўшы» сваё, я папрасіў у Ані патрымаць гэты цуд, трапятліва ўзяў у рукі і не мог нагледзецца. Пакручваў то адным, то другім бокам да святла, то адкрываў, то закрываў вечачка, не забываючыся кожны раз панюхаць усярэдзіне.

Час праляцеў імгненна, трэба было вяртацца дамоў, трэба было знайсці сілы выпусціць з рук гэтую прыгажосць.

Але атрымалася ўсё само сабой так, што з хаты я пайшоў непрыкметна для ўсіх, а цудоўная бляшаначка засталася ў маіх руках.

Прыбег дамоў, паставіў бляшаначку на стол — далюбоўваюся! Цешуся — не магу нацешыцца! Мне вельмі добра і прыемна...

А там? У Ані?.. Там ужо зараўлі ў адзін голас усе так, што ледзь шыбы ў вокнах не палопаліся:

— Прапала бляшаначка! Дзе бляшаначка? А-а! Гэта апошнім быў Сяргей! Ён і ўкраў яе!..

Прыпёрліся ўсёй табалой — і старыя, і малыя — у нашы «харомы», а я сяджу сабе спакойненька ды пакручваю бляшаначку ў руках.

— Дзякуй Богу! Вось яна! — крыкнулі зноў жа ў адзін голас.— А мы баяліся, што ты яе ўжо збяёдваў!..

Схапілі з рук «маю» бляшаначку і — гуртам дамоў. Ужо на парозе нехта кінуў мне, замест бляшаначкі:

— У-у! Зладзюга!

Не ведаў я тады, што гэта за слова такое, бо «зладзюгу» было ўсяго чатыры гадкі...

Дзякуй усім святым за тое, што за доўгае маё жыццё, акрамя той бляшаначкі, нічога ні ў кога болей не ўкраў.

## Групавы заплыў

У Будах, ля самай дарогі, была пасля вайны (ёсць яна і сёння) сажалка. Тады, у маленстве, яна здавалася агромністай і глыбокай. Сёння — сажалачка выклікае спачувальную ўсмешку. Што ж, сталасць глядзіць на свет другімі вачыма.

З аднаго боку над ёй нахіліліся зморшчаныя, пакручаныя часам вербы, якія глядзеліся ў ваду і, здавалася, не верылі, што гэтак хутка ляціць час і яны састарэлі. На тыя вербы любілі ўскарабквацца вясковыя хлопцы, каб на самаробны кручок, прывязаны да ніткі, злавіць якую-небудзь рыбіну. А рыбы хацелася, як дурню стрэліць, бо ад пасляваеннага голаду не было спасу — грыз на хаду.

Сярод нас, макраносых хлапчукоў, былі і падлеткі, якія зразумелі, што самаробны кручок не накорміць. Кінулі яны гэтую пацеху нам, меншым, а самі, з дапамогай дарослых, сплялі вялікі кош, палезлі з ім у ваду і давай цягаць яго па дне, зачэрпваючы гразь. А ў гразі на дне, як вядома, любяць адпачываць гультаі-карасі. Закапаюцца з галавой у ціну і спяць сабе з асалодай, ледзь не пахрапваюць. Вось гэтую гразь і боўталі ў кашы, вымывалі яе, а зазяваўшаяся рыбіна білася ў дно, у сцены каша, ды было позна — праспала сваё жыццё. Чэрпалі гразь і мылі, чэрпалі і вымывалі, як тыя золатаздабытчыкі. Але што золата! Яго не ўгрызеш, не з'ясі! Рыбіна была тады для нас даражэй за золата.

Падзівіцца на першы ўлоў сабралася амаль уся вёска. А справа ішла даволі спрыяльна — амаль з кожным зачэрпваннем трапляла рыбіна, а то і дзве. Але раптоўна нячыстая сіла падкруціла ў кош вялізнага карася. Во — даўжыня! Во — шырыня! Як рыдлёўка! Папярэднія былі з далань, а гэты — на ўвесь кош. Парсюк — не карась!

Выцягнулі яго на бераг да ўсёй рыбы, пазахапляліся, пагаманілі і пачалі дзяліць улоў. Дзялілі-дзялілі, цешыліся ды пагаджаліся, а як дайшло да «рыдлёўкі»—загулі, заспрачаліся. Спрэчка ператварылася ў свару. Кожны з удзельнікаў таго лову і тыя, што плялі кош, хацелі прыпёрці карася-волата дамоў. І да таго распаліліся «мітынгуючыя», што следам за мацюкамі гатовы былі пайсці ў ход кулакі. Але адзін з рыбакоў, самы гарачы і рашучы хлапец, схапіў карася і з дарогі, дзе ўсе стаялі, з усёй сілы кідануў у ваду. Ды так моцна, што той, апісаўшы ў паветры дугу, гулка плюхнуўся на сярэдзіне сажалкі. Гэтае падзенне з вышыні аглушыла карася, і ён белай нерухомай плямай пагойдваўся на вадзе, шырока разганяючы кругі. Усе аслупянелі, але толькі на імгненне. Убачыўшы, што карась роўненька ляжыць на вадзе, нібы дражніцца, усе — хто ў вопратцы, хто галяком — шуганулі ў ваду, і яна закіпела ад дзесяткаў сквапных і спрытных рук і ног. У нас, мелюзгі, што стаялі на беразе, перахапіла дыханне — такое гэта было відовішча.

Тым часам адлегласць паміж аглушаным карасём і азартнымі рыбаловамі хутка скарачалася. Усе разумелі, што карась пакуль што нічый і першы, хто дакранецца да яго, будзе ўладальнікам рыбіны. З берага мы не бачылі ні лідэраў, ні аўтсайдэраў, бо сцяна пырскаў закрывала іх ад нашых вачэй.

Калі ж да карася заставаліся лічаныя метры, ён, не будучы дурнем, прыйшоў у сябе, крануў з лянотай раз-другі хвастом, глянуў пасалавелымі вачыма на звар'яцелых сваіх крыўдзіцеляў і — даў нырца на глыбіню, каб у сваёй любімай ціне працягнуць перарваны сон.

# Жалезная хмара

Быў звычайны летні дзень сорак пятага года. Дарослыя — працавалі, дзеці — ладзілі свае няхітрыя гульні: хто капаўся ў пяску, а больш спрытныя — ушчэмлівалі паміж ног палку і гойсалі, «скакалі на кані». І працавалася, і гулялася ўахвоту, бо толькі-толькі скончылася вайна — ні табе стрэлу, ні выбуху — жыві колькі ўлезе!

Раптам спынілася праца, прыпыніліся гульні, нават птушкі сціхлі. Ніхто выразна не мог растлумачыць — што ж здарылася? Першымі гэта адчулі і пачулі не вушы, а сэрцы. Адчулі, як той барометр «чуе» буру за сотні вёрстаў. Знявечаныя вайной сэрцы дарослых і дзяцей не памыліліся, бо хутка і вушы ўчулі цяжкі і трывожны гул, які набліжаўся і накрываў сабой усіх і ўсё. Цяжка было разабрацца, адкуль і што раўло, але роў рабіўся мацнейшым і з кожнай хвілінай больш страшным. Ён халадзіў кроў, прыціскаў нас да зямлі, якая пачала нервова падрыгваць, аддаючыся ў нашы акамянелыя ногі.

І вось на гарызонце паказаліся першыя самалёты, якія ляцелі не вельмі высока і, як нам падалося, вельмі шчыльна. Іх наплыло так многа, што не было бачна ні неба, ні сонца. І хоць гэта ляцелі нашы, родныя, свае, але жах дабіраўся да касцей, бо вайна яшчэ лютавала ў кожнай душы.

А самалёты раўлі і раўлі, плылі хваля за хваляй — здавалася, што яны віселі над намі і канца гэтаму не будзе. Адкуль яны ляцелі і куды — невядома.

Нарэшце жалезная хмара праплыла, гул паступова аддаліўся. А мы ўсё стаялі акамянелыя, не ў сілах варухнуцца і не ведалі, што больш страшныя хмары павіснуць над нашымі лёсамі, ператвараючы ўсё жывое ў паслухмяную акамянеласць.

# Мезін

У кожнай вёсцы, у кожнай мясцовасці ёсць нешта сваё, адметнае, самабытнае, толькі тут народжанае.

Ад сваёй гаваркой мамы я «набраўся» столькі цікавых, неўжываемых афіцыйнай мовай слоў, што хапіла б іх на слоўнік. Я імкнуўся ціхенька «ўткнуць» іх у які-небудзь твор, каб рэдактары ці карэктары не заўважылі і не выкінулі — бывае, і праслізне маміна слоўка. Напрыклад, у гумарэсцы «Галёшы» замест насавой хустачкі прыжылося маміна «насацёрка». Жыве і ў паэме «Люстэрка лёсу» маміна «стоць носам»- Тоўсценькае дзіця мама называла — «камлюк», а хлапчука, на якім скура гарыць,— «вырвус». Прыехалі мы з ёй аднойчы ў Мінск, а мама мне і кажа:

— Глянь, сынок! Вуліца ад людзей ломіцца!..

Можна многа пісаць пра мудрасць і самабытнасць нашых продкаў, галоўнае, не трэба пужацца тых слоў, якія не пагаршаюць нашу мову.

Сёння прыйшло на памяць слова, якое чуў адразу пасля вайны ў Будах, а пазней, за ўсё жыццё — ні разу. Адкуль яно ўзялося, чаму не прыжылося і знікла — не ведаю.

Звычайна вясковая малеча-галеча ладзіла свае гульні гуртам — так больш піску і крыку, а значыцца, і весялей. Носіцца такая шумная завіруха па вёсцы з канца ў канец, ажно шыбіны падзынківаюць у вокнах. Вакол дзяцей, не адстаючы, выпісваюць кілбасы іх надзейныя сябры — схуднелыя вясковыя сабакі.

Вось гэтыя сабакі і падаюць першымі сігнал, што да вёскі набліжаецца той, каго і дзеці, і сабакі з гіканнем і гаўканнем праводзяць аж за апошнюю хату.

— Мезін! — крыкне хтосьці першы, і ўжо дзесяць ці дваццаць галасоў, узмоцненых сабачым брэхам, падхопяць яго і імчацца з гвалтам насустрач таму, хто выклікаў гэткую буру хлапеча-сабачых эмоцый.

— Мезін! Мезін! Мезін!.. Гаў! Гаў! Гаў!..

Сумнае і страшнае гэта было відовішча. У вёску заходзіў бяздомны, беспрытульны, да апошняй ніткі абарваны, да апошняй костачкі схуднелы чалавек. Са шматлікіх дзірак выглядвае чорнае ад бруду цела, гэткі ж чорны твар абляпіла доўгая зблытаная барада, у руках — кіёк, на плячы — пустая торбачка. Вось далёка не ўсё, што ўвасабляла ў сабе слова «мезін». Гэта быў звычайны для таго часу жабрак, да глыбіні свайго гаротнага лёсу знявечаны падзеямі апошніх гадоў. Гэта быў звычайны чалавек, толькі перамолаты аднаму яму вядомымі жорнамі нястачы і пакутаў.

— Мезін! Мезін! — гарлапаніла, абшарпаная да пят, хлапечая хеўра, якая па сваёй «заможнасці» недалёка адкацілася ад бяздомнага бедака.

— Гаў! Гаў! — свірапелі не менш галодныя і худыя сабакі.

Літасцівыя жанчыны адрывалі ад свайго стала адну-дзве бульбіны і працягвалі знявечанай жывой істоце. Хлеба пакуль не было ні ў кога.

Мы, трох-чатырохгадовыя дзеці, сціснуўшыся ў камячкі, з цікавасцю і жахам пазіралі на гэтае страшнае падабенства чалавека, і незнаёмае слова «мезін» пужала нас больш, чым ён сам сваім жудасным выглядам.

— Мезін! Мезін! Гаў! Гаў!..

— Беражы цябе Бог! — шапталі міласэрныя жанчыны.

Праз тыдзень-другі такое «шэсце» паўтаралася зноў, бо вайна напладзіла столькі гора, што яно доўгі час пасля яе заканчэння тулялася ад вёскі да вёскі, ад лёсу да лёсу, ад пакалення да пакалення.

Сёння ў Мінску за кожным вуглом дома, у кожным падземным пераходзе сядзяць і стаяць з працягнутымі рукамі — нашы сучасныя «мезіны», на якіх не звяртаюць увагу ні «вярхі», ні «нізы», і да іх не датычыцца вядомае: «Вайна ўсё спіша».

# Посік

Нарэшце і наша сям'я разжылася на парсючка. Збірала мама крапіву, секла секачом, заварвала разам з лушпаямі ад бульбы, дадавала конскіх «круглячкоў», усё гэта размешвала і — прыемнага апетыту! Куды было дзявацца таму парсючку — еў, ажно за вушамі патрэсквала. А як наесца — брыкнецца на бок і парохквае — значыцца, у жываце музыка загучала.

Рос ён па такой ядзе слаба, таўсцеў — яшчэ слабей, мог праз плот праціснуцца і не ўшчаміцца.

Восенню крапіва пайшла «на адпачынак», лушпаяў было мала, ды і не цярпелася хутчэй скабку абсмактаць — таму абкаціў тата парсючка і закалоў яго. Шкада было, ды такая ўжо свінячая доля.

Але не сала і не скабкі мне запомніліся, хоць у маім жыцці гэта быў самы першы, а таму — самы смачны парсючок. Запомнілася другое. Аказваецца, з парсючка можна зрабіць не толькі прысмакі, але і цікавую, мала каму вядомую цацку.

Разрэзаўшы парсючку падбрушша і выцягнуўшы ўнутранасці, тата нам кажа:

— Зараз, дзеткі, я вам шарык надзьму, нясіце хутчэй нітку!

Знайшоў сярод кішак нейкую пляву, асцярожна дастаў яе.

— Гэта посік! — і пачаў яго надзьмуваць...

Гэта быў мачавы пузыр, але яго чамусьці ў нашай вёсцы называлі адным словам «посік». Калі ён яшчэ свежы, цёплы, то вельмі мяккі, эластычны і пры надзьмуванні расцягваецца, як сапраўдны паветраны шарык, толькі шараватага колеру.

Тата яго надзьмуў, моцна завязаў ніткай і павесіў над печчу, папярэдзіўшы нас, што чапаць яго, пакуль не высахне, нельга.

І сапраўды, назаўтра, калі высахла слізь, ён зрабіўся лёганькі і амаль зусім белы, з ледзь бачнымі пражылачкамі. Калі па ім ціхенька стукнуць пальцам, ён гулка адзываўся, як барабан.

Той, першы ў маім жыцці, паветраны шарык быў недаўгавечны — хутка патрэскаўся і разваліўся на кавалачкі.

## Памёр Сярожка...

Памёр Сярожка... Памёр мой родны брацік, калі я яшчэ не з'явіўся на гэтым цудоўным і пакутлівым свеце...

Ён быў восьмы, магчыма — апошні ў нашай сям'і.

Няўжо ён, маленькі — да годзіка, «саступіў» мне дарогу, падараваў жыццё, сышоўшы ў магілку?..

Калі нарадзіўся я, мама перадала мне імя той папярэдняй крывіначкі, якая скацілася ў родную зямлю, і ад гэтай зямлі жывым мяне не адарваць.

А ці ж лёгка мне несці крыж свой і таго Сяргейкі, якому не суджана было цешыцца і сумаваць, смяяцца і плакаць, любіць і яшчэ тысячы разоў любіць тое, што завецца жыццём...

Калі нарадзіўся я, суседкі абураліся:

— Зося! Што ты робіш? Ці ж можна даваць народжанаму імя таго, хто перад ім сышоў у зямельку? Дрэнная прыкмета!..

Малайчына мама! Не пабаялася і не памылілася!

Жыву ж я, дзякуй Богу, больш за паўвека, і ў маім сэрцы жыве той маленькі Сярожка, чыё светлае імя я нашу.

## Пагарэльцы

Пасля вайны ўсім жылося нялёгка. А чаму ж нам, нашай сям'і, спытаецеся вы, было найгорш за ўсіх? Можа, я трошкі перабольшваю, каб выклікаць у вас спачуванне?

Не! Наадварот, я пазбягаю закранаць тыя зусім жахлівыя, неверагодныя цяжкасці, якія сапраўды амаль немагчыма ўявіць. На мой погляд, я апісваю звычайнае пасляваеннае дзяцінства, тыя маленькія кавалачкі жыцця, якія, дзякуй Богу, высветлілі промні памяці.

Дык чаму нам жылося ў тых жа Будах горай за ўсіх? Таму, што пасля сканчэння вайны на Беларусі былі тры катэгорыі гаротных людзей, якія адрозніваліся адзін ад аднаго даволі значна. Першая катэгорыя — гарадскія жыхары, другая — вясковыя. А ўжо з вясковых жыхароў вылучаліся самыя найгаротнейшыя людзі — пагарэльцы.

Уявіце чалавека, які пасля вызвалення родных мясцін вярнуўся на сваю сядзібу, у сваю ацалелую хату. Запусценне, бедната, голад. Але, з другога боку — дах над галавой, нейкія чарапы, нейкае адзенне, тапор, рыдлёўка, лыжка, міска. Зноў ты хоць і бедны, а гаспадар, табе ёсць з чаго пачынаць, ёсць ад чаго адштурхнуцца.

А цяпер уявіце пагарэльцаў — нас, напрыклад. Немцы наляцелі ў вёску, калі мы яшчэ спалі, пазганялі ўсіх у свіран у чым былі. Як мы засталіся жывымі — адзін Бог ведае. Вёску з усім нашым небагатым скарбам спалілі. І сёння яшчэ выворваецца і аплаўленая цэгла, і аплаўленае шкло...

Частку вайны мы прагаравалі з партызанамі, было страшна, але ж і нейкі булён перападаў. Потым на Паліку трапілі з партызанамі ў акружэнне — ратаваліся хто як мог. Ляцелі па лясах па калені ў крыві. Што мы мелі, вярнуўшыся ў родную Карпілаўку пасля яе вызвалення? Акрамя вошай, якія віселі на нас шышкамі,— нічога! Вугельчыкі ад нашага дома і тыя параслі крапівой і палыном. З вялікай цяжкасцю мама, без рыдлёўкі, ледзь не зубамі, выкапала зямлянку, у якой, акрамя яловых лапак, нічога не было.

Вярталіся суседзі, хто выжыў, і таксама, як краты, зарываліся ў зямлю.

А чым карміць дзяцей? Мама хадзіла па навакольных няспаленых вёсках — прасіла ў людзей лушпаі ад бульбы,— людзі давалі гэтыя лушпаі, бо мама казала, што дзеці паміраюць з голаду. Гэтым і ратаваліся ад смерці.

З такім багаццем мы перабраліся ў Буды, дзе пасяліліся ў гнілы, дзіравы калгасны трысценак. Але гэта ўжо была не зямлянка, можна рызыкнуць і зімаваць. Разжыцца было вельмі цяжка. Калгас нічога не плаціў за працу, лесу, каб пабудавацца, не даваў, насення не было. А няма насення — няма і ўраджаю, няма ўраджаю — зноў голад...

Выручалі сваякі, якія жылі ў Мінску,— аддавалі рознае непатрэбнае адзенне. Ім яно было непатрэбнае, нам — шык.

Вярнуўся з вайны тата, прывёз адзіны трафей — нямецкі гармонік. Гэты гармонік нас калі-нікалі выручаў. Жыццё не супынілася, людзі жаніліся, моладзь хацела танцаў, а без гармоніка — што за вяселле, што за вечарынка? Тата быў надзвычай здольным гарманістам, ён быў нарасхоп. З вяселля ж ён вяртаўся дамоў — з кавалкам хлеба і са шматком сала.

Вось так памаленьку мы, пагарэлыды, карабкаліся з нястачы, намнога адстаючы ад астатніх.

## Пытанне

Вайна не шкадавала нікога. У яе пражорлівым полымі загінулі мільёны людзей і старых, маладых, дзяцей...

За пасляваенныя дзесяцігоддзі да тых загінуўшых мільёнаў далучыліся і працягваюць далучацца новыя мільёны ненароджаных людзей, якія застаюцца ўмоўнымі неадушаўлёнымі лічбамі, няздольнымі прадоўжыць род чалавечы. Лік ненароджаных, а значыцца, забітых, павялічваецца ў геаметрычнай прагрэсіі,— канца гэтаму не будзе. Вось што такое вайна...

Усе гады свайго жыцця я шукаў адказ на адно пякучае пытанне: чаму нас, карпілаўцаў, немцы сагналі ў калгасны свіран, каб спаліць, як спілілі Лясіны з іх ста дваццаццю сем'ямі, але ў апошні момант прапусцілі скрозь рады кулямётаў і далі магчымасць пайсці ў лясы? Вёску спалілі, а людзей выпусцілі... Чаму пашкадавалі?

Вёска знаходзілася ў зоне актыўных партызанскіх дзеянняў, партызаны былі частымі «госцямі» у Карпілаўцы, мама нават выконвала іх заказ — пякла хлеб. Можа, немцы пра гэта прама і не ведалі, але, пэўна, здагадваліся, бо вёску проста так не спалілі б. Не ведалі немцы і таго, што старэйшы мой брат Коля партызаніў у гэтых мясцінах. Немцы палілі ў нашай мясцовасці вёскі з людзьмі «гуляючы». Толькі пачуюць, што партызаны наведалі якую-небудзь вёску,— палілі яе з людзьмі без разбору. Што ўжо казаць пра нашу, з якой, як я ўжо казаў, партызаны «не вылазілі»!

Доўгі час нашай выратавальніцай я лічыў настаўніцу Марыю Аляксандраўну Васілевіч, аднавяскоўку. Многа разоў гутарыў з ёй пасля вайны, гутарыў з многімі людзьмі — сведкамі тых падзей, але не ўсё, як кажуць, стыкавалася, нечага ці некага ў той дзеі не хапала — не хапала галоўнай дзеючай асобы.

І вось зусім нядаўна даведаўся пра наступнае: аднекуль у немцаў-карнікаў, што «прасейвалі» нашу акругу, з'явіўся новы перакладчык. Хударлявы, валасы прамыя, светла-русыя, амаль белыя, зачэсаныя назад. Хто ён быў і адкуль — невядома. Як яго прозвішча — невядома. Нічога пра яго невядома. Прасачыўся паміж людзей слых, быццам ён недзе некаму шапнуў: «Пакуль я ў немцаў перакладчыкам — людзі гарэць не будуць».

Гаварыў ён так ці не — таксама невядома. Але людзі сапраўды перасталі гарэць. Тое, што гэты знешне непрыкметны чалавек быў з немцамі ў Карпілаўцы, калі вырашаўся наш лёс,— гэта так.

Вось і ўсе звесткі пра гэтага таямнічага незнаёмца. Ёсць яшчэ адна — несуцяшальная і сумная: неўзабаве немцы павесілі яго ў Заслаўі. Потым лёталі па вёсках на конях прадстаўнікі партызанскай брыгады — усё пыталіся, можа, хоць хто, хоць што ведае пра таго чалавека... Так ён і пайшоў з жыцця невядомым і, магчыма, гераічным. Не выключана, што яму і хутчэй усяго яму я абавязаны сваім выратаваным жыццём.

Нізка схіляюся перад ім за тое, што разам з узняўшымся попелам ад спаленых карпілаўскіх хатаў не было майго попелу...

## Сустрэча

Нарэшце вызвалілі Мінск ад немцаў. Хутчэй не Мінск, а тое, што ад яго засталося — горы бясформеннага бетону, бітай цэглы, закураныя астаткі дамоў.

Птахам разляцелася па Беларусі вестка, што рыхтуецца партызанскі парад. Удзельнікі вызвалення беларускай сталіцы пройдуць урачыстым маршам па вуліцах горада і ля ацалелага Дома ўрада.

Вестка гэта даляцела і да нашай вёскі. Мама захвалявалася, зазбіралася ў Мінск — недзе ж партызаніў яе сын Коля — мой старэйшы брат. Пра яго лёс даўно не было нічога чуваць, а на вайне да бяды недалёка.

Пайшла мама ў Мінск — авось дзе сярод партызан пашчасціць убачыць яго. Пайшла пешшу, спяшалася, каб паспець да прызначанага часу.

Людзей, падобных маме, было так многа, а жывая партызанская рака цякла так магутна і шумна, што мама, як ні старалася, сына свайго не ўбачыла. Ад хвалявання, напругі і страху прапусціць, не заўважыць самага для яе роднага, самага галоўнага чалавека ў шматтысячнай калоне партызан — перад вачыма ўсё паплыло, змяшалася са слязьмі...

Назад ішла зноў жа пешшу. Ды і пасля вайны, доўгія гады, схадзіць пешшу ў Мінск і аб адзін дзень вярнуцца назад — лічылася звычайнай справай.

Сёння чалавек будзе душыцца, паліць нервы, лаяцца, ціснуцца ў перапоўнены аўтобус ці тралейбус, а пешшу не пройдзе нават аднаго прыпынку. Распанелі...

Ідзе мама дамоў, нясе ў сэрцы страшны груз невядомасці. А што, калі забілі? А што, калі трапіў у палон?..

Ідзе мама, выцірае гарачыя слёзы, гоніць ад сябе чорныя думкі. Прытамілася і села ў вёсцы Дубаўляны пад плот адпачыць, сіл набрацца.

Адпачыўшы, устала, каб ісці далей,— паглядзела ў бок Мінска і вачам не верыць. Хацела кінуцца з месца, дзе стаяла, і не змагла — ногі падкасіліся, самлелі, з вачэй пацяклі слёзы радасці і шчасця. З-за пагорка, на дарозе паказаўся Коля, які шпарка джгаў у напрамку сваёй вёскі. Яго хаду і потым, пасля вайны, немагчыма было зблытаць з нечай, настолькі спрытна і лёгка ён перастаўляў ногі.

Коля, пасля партызанскага параду, адпрасіўся ў камандзіра на дзень, каб даць вестачку родным, што жывы, яшчэ здольны моцна трымаць у руках зброю...

Даўно няма ў жывых Колі, пайшла з жыцця і мама, а я, з году ў год, кожны раз, едучы ў Карпілаўку, адчуваю шчымлівасць у сэрцы ля таго святога для мяне месца.

## Пагоня

Калі мяне на досвітку расштурхаў і падняў з пасцелі мой брат Коля, я, прадзёршы вочы, і не думаў, што праз якую гадзіну-дзве стану ўдзельнікам надзвычай хвалюючага, небывала захапляючага здарэння, якое смела можна назваць пагоняй.

Як вы думаеце, для чаго старэйшы брат падняў з пасцелі такую мелюзгу, як я, у час, калі нават сонца яшчэ не

думала ўставаць? Няўжо я такі важны работнік, што без мяне — і сонца не ўстане? Ды не! Мой брат ведаў, што рабіў! Ёсць справы, у якіх такія смаркатыя, як я,— незаменныя асобы. Вось гэтым раннім ранкам якраз і гатавалася такая справа...

Я апрануўся і, пазяхаючы пасля сну ды пalяскваючы зубамі ад холаду, пасунуўся ўслед за братам туды, дзе ўжо гарэў агонь пад бочкай, у якой пачынала пабулькваць і барматаць брага. Убачыўшы агонь, я павесялеў і прыбадзёрыўся. Тут мне брат і кажа:

— Глядзі, каб увесь час агонь не зводзіўся, але каб занадта і не «накідваўся» на брагу, бо яна падгарыць,— тады самагонку ў рот не возьмеш,— і сам «растаў» у цемры — пайшоў даглядацца...

Што тут можна сказаць — справа дасталася мне адказная, для майго ўзросту — ледзь не пасада дырэктара спіртзавода. Мала таго што я падкідваў паленцы пад бочку з брагай — дык яшчэ і мяняў бутэлькі пасля таго, як накапвала з трубачкі, з якой звісала ўкладзеная кудзеля — гэта дзеля таго, каб каштоўная вадкасць трапляла ў рыльца бутэлькі...

Мушу вам зараз шчыра прызнацца, што хоць і быў я малы, але наслухаўся ад дарослых пра пяршак, пра ягоны смак, моцнасць і вартасць.

Я і сёння кілішачак першачку не прамяняю ні на якія французскія каньякі...

Вось тады, ледзь толькі напоўнілася першая бутэлька, я і «памачыў» язык — не ўтрымаўся. Не скажу, што малы хлапец адчуў нейкі там смак, але, згадзіцеся, быць «гаспадаром» такога абсталявання і не зняць пробы — гэтага я не мог дапусціць...

Сонейка ўжо ўсплыло над лесам, галава мая таксама паплыла невядома куды, сам я сядзеў і пароў кіёчкам у агонь, забыўшыся нават, як мяне зваць... Ціш! Спакой! Любата!..

Раптам у гэтую ідылію ўварваўся востры, пранізлівы парасячы піск. Мяне падкінула з таго месца, дзе я спакойна сядзеў і займаў адказную пасаду. Мяне не проста падкінула, а нейкая сіла панесла на той адчайны піск. Усё здарылася так хутка, што я і міргнуць не паспеў...

Вылятаю з-за куста на луг і бачу, як за маленькім нейчым парсючком імчыць велізарны воўк. Яшчэ імгненне — і воўк схопіць парсючка! Я, не спыняючы свайго алюру, як кінуўся да ваўка, як свіснуў, як раўнуў, той — зірк у мой бок ды ад нечаканасці і майго «пасляпершаковага» нахабства — скок у кусты і знік.

Толькі тады я супыніўся і апамятаўся. З жахам прыкінуў, што воўк быў болыпы за мяне і, каб не «фактар нечаканасці»,— уцякаў бы я ад ваўка, як той парсючок.

## Рэкорд для Кнігі Гінэса

У Будах мы жылі да пяцідзесятага года. Можа, жылі б і болей, але калгасны трысценв дапарахнеў, стаў развальвацца, і тата пачаў шукаць новае прыстанішча, хоць які дах над галавой.

Дапамаглі сваякі, што жылі каля Мінска, яны параілі пераехаць у калгас «Мядзвежына». (Сёння — гэта вуліцы К. Лібкнехта, Р. Люксембург, Купрыянава, Харкаўская і іншыя.) Тады горадам тут і не пахла. З гэтага боку горад пачынаўся ад вуліцы Мяснікова, па якой хадзіў трамвай.

Пераехалі мы ў гэты калгас і пачалі жыць у будынку Мядзвежынскага сельскага Савета. Займалі мы маленькую яго частачку, бо ў адной палове размяшчаліся супрацоўнікі сельсавета, у другой — сельскі клуб. Будынак быў цагельны, вялізны, няўтульны і нязграбны, стаяў пасярод поля, як тычка — ні дрэўца, ні кусціка.

Тата прыбудаваў да ўвахода нешта з дошак — ці то ганак, ці то хлеў, бо злева, як ідзеш у хату — стаяла карова, а справа — кладовачка была.

Па даху гэтай прыбудовачкі добра было лазіць на гарышча — на столь, дзе я любіў гуляць у розныя гульні, адкуль было відаць усё наваколле.

Лазіў сюды і мой, крыху старэйшы, брат Косцік... Залез ён аднаго разу, а я ўнізе ў пяску корпаюся...

Раптам з дзвярэй, дзе размяшчаўся сельсавет, вылецеў, як бура, старшыня гэтага Савета, трасе кулакамі і «гне» такіх мацюкоў, што — жах!

Падскочыў да мяне і задраў галаву туды, адкуль Косцік ужо звесіў адну нагу і збіраўся саскочыць на дах прыбудовачкі.

— Каб табе зарвала! Каб ён у цябе апух! Злезеш — я табе галаву адкручу, басяк! — аж зелянее ад злосці старшыня.

Косцік, не будзь дурнем, хуценька падняў тую нагу, што звесіў, і знік туды, адкуль збіраўся вылезці.

Гаспадар гэтага будынка пакрычаў, пакіпяціўся ды і пайшоў у свой кабінет...

Аказваецца, Косцік, будучы на гарышчы, не стрымаўся і памачыўся там, а тая яго «вадзічка» працякла праз столь і...— старшыні сельсавета на стол, на дзяржаўныя паперы...

Ну, Косцік! Ну, вырвус! Гэта ж трэба так патрапіць, хоць і ненаўмысна!

Ці знойдзецца ва ўсім свеце яшчэ адзін чалавек, якому давялося памачыцца на стол самому старшыні сельскага Савета?

## І змяя мяняе скуру

Паўзём мы неяк з сябрамі па калгасным полі, на якім расце морква. Паўзём, ад вартаўніка хаваемся, морквай ласуемся. Выцягнеш з зямлі морквіну, абскрабеш яе кавалачкам шкла і хрумсціш, як той заяц...

Толькі пачалі выпаўзаць назад, як чую, што са мной нешта здарылася. Паўзці-то паўзу, але нешта мне не падабаецца... І раптам — які жах! — адчуваю, што згубіў штаны. А пад штанамі, акрамя цела — нічога! Як яны маглі з мяне зваліцца? Як я гэтага ў азарце не заўважыў?.. Раблю разварот — і паўзу назад, на пошукі прапажы. Нарэшце бачу — ляжаць, родненькія! Падпаўзаю і прыкідваю, як я іх буду лежачы апранаць. Бяру іх у рукі... і нічога не разумею. Гэта мае штаны? Так, мае!.. Ці гэта не мае штаны? Не, не мае!.. І пазнаю, і не...

Бедныя мае штаны!.. Я і сёння больш усяго на свеце шкадую, што не захаваў іх, як сведку тых пакутаў, той галечы...

Сёння словы — нішто ў параўнанні з тым, што маглі б убачыць вашы вочы — бясконцая колькасць лацін, аджыўшых свой век, многаслаёва налепленых адна на другую, даўно сапрэлых, якія з апошніх сіл учапіліся гнілымі ніткамі за спарахнелую тканіну...

Але ці маглі яны быць іншымі, тыя штаны? Яны ж «вандравалі» ад старэйшага брата — да крыху малодшага, ад малодшага — да яшчэ меншага, пакуль не дайшла чарга да мяне — самага маленькага ў сям'і... Цаны тым штанам не было!..

Я падняў ТОЕ, што непрыкметна саслізнула з майго цела, што называлася маімі штанамі, і гэта ТОЕ — на маіх вачах разлазілася і распаўзалася на шматочачкі...

Сябры жартаўліва суцяшалі мяне:

— Падумаеш, штаны! Змяя нават скуру скідвае і то не плача...

## Татава ватоўка

Я адвучыўся адзін год у Лысагорскай пачатковай школе, а восенню пяцідзесятага года мы пераехалі з Будаў пад Мінск, дзе пачалі жыць у будынку сельсавета. Тут я

пайшоў у другі клас трыццаць другой Мінскай сярэдняй школы, якая знаходзілася насупраць Нямецкіх могілкаў.

Мяне вельмі ўразіла цагельнае двухпавярховае памяшканне школы з мноствам прасторных класаў, сур'ёзных настаўнікаў, чыста апранутых вучняў, россвітам чырвоных гальшгукаў Пасля нашай вясковай школы-хаткі з «сляпымі» вокнамі і скрыпучай падлогай гэты палац аглушыў мяне многагалоснасцю, шыкоўнасцю, велічнасцю — я трапіў у новы, невядомы мне раней, фантастычны свет.

Але гэтыя ўсе мае ўражанні пацьмянелі перад яшчэ больш моцнымі ўражаннямі, якія я выклікаў ва ўсіх, хто ўбачыў мяне ў гэтай школе. На мяне глядзелі, быццам я быў снежным чалавекам ці іншапланецянінам...

Уявіце стаўшую сёння моднай нейкую прэзентацыю, якую спраўляе «круты» бізнесмен. Шыкоўная зала! Мора святла! Смокінгі ды раскошныя вячэрнія сукенкі! Шампанскае і свецкія крыўлянні!.. І раптам сярод гэтых расфуфыраных сытых дзялкоў з'явіўся, можа, не горшы за прысутных, чалавек, але — у рызманах і лахманах, у драным абутку, галодны і гаротны... У гэтай адкормленай «круцізны», упэўнены,— шампанскае ўпоперак горла стане...

Вось прыкладна ў такім выглядзе з'явіўся я тады перад вачыма вучняў і настаўнікаў, якія і ў сне не бачылі гэткай галечы.

Мяне на кожным кроку абзывалі markdown рознымі крыўднымі словамі, са мной ніхто не хацеў сядзець за адной партай, мяне знянацку штурхалі ў спіну, і я ляцеў стоць носам. Але самым складаным было для мяне — распрануцца ў гардэробе перад заняткамі. Чарга ў гардэроб — страшэнная — вучняў жа было больш за трыста. А на мне — татава старая-перастарая, латаная-пералатаная, ношаная-заношаная, зацухмоленая ўшчэнт ватоўка...

Надзеньце сёння васьмігадоваму хлапчуку нават новую ватоўку дарослага мужчыны — які будзе выгляд? Рукавы да зямлі дастануць, не кажучы пра астатняе.

Так было і са мной. З той, татавай, ватоўкі тырчэла толькі мая белая галава — мусіць, пудзіла на агародзе выглядала б больш зграбна... Але я гэтага, дзякуй Богу, не разумеў, не саромеўся — гэта ж была мая вопратка і другой у мяне не было.

Займу я чаргу, каб распрануцца, а мяне з яе як штурхануць — я зноў пайду ў «хвост», зноў займу чаргу, а мяне зноў як піхнуць! Ніхто не хацеў за мной стаяць. Я спраўна займаў чаргу, а мяне гэтак жа спраўна з яе выпіхвалі — пакуль усе не распраналіся і я не заставаўся адзін. Тады ўжо гардэробшчыца гідліва брала двума пальцамі маю ватоўку і прымацоўвала яе збоку ад куртачак і паліто больш заможных вучняў...

Як жа тады ўсе памыляліся! Адкуль ім было ведаць, што татава ватоўка ў цяжкія пасляваенныя гады ратавала тату ад снегу і дажджу, ад вятроў і халадоў, памагала перажыць голад, пакуты, нястачу і, нарэшце,— сагрэла мае худыя дзіцячыя плечы, стала маёй вопраткай...

Дзякуй табе за гэта, татава ватоўка!

* * *

Гэтаму ўспаміну неабходны невялічкі працяг, каб нейкім чынам паставіць сёе-тое на свае месцы, бо зусім нядрэнныя былі вучні і настаўнікі той школы.

Сам я як вучань першы час быў надзвычай старанны, дысцыплінаваны, слухаўся старэйшых, выконваў усе класныя заданні, на занятках не круціўся, не штурхаўся — настаўнікі не маглі нацешыцца такім вучнем. Але гэта працягвалася нядоўга. Паступова я асвойваўся і пачынаў, як кажуць, спрабаваць «хадзіць на галаве», што не дрэнна ў мяне атрымлівалася...

Вакол будынка сельсавета, дзе мы жылі, ляжалі калгасныя палі, на якіх раслі морква, капуста, памідоры...

З ядой дома было цяжкавата, таму летам і восенню я пераходзіў на «падножныя» калгасныя харчы — еў «ад пуза» моркву, памідоры і з задавальненнем грыз качаны капусты — вядома ж, па гэтыя «вітаміны» прыходзілася лазіць паўзком.

Магчыма, ад такога штодзённага «сталавання» мяне «пагнала» у рост. І ужо ў трэцім класе я быў на галаву вышэйшы за сваіх колішніх крыўдзіцеляў. Цяпер мяне ўжо не абзывалі рознымі словамі, не выпіхвалі з чаргі ў гардэроб (няхай бы толькі паспрабавалі!), а пішчом лезлі да мяне ў сяброўства — і мы па-сапраўднаму пасябравалі...

Увогуле, вучоба ў гэтай школе пакінула цёплыя і светлыя ўспаміны.

## Першы падарунак

Першы падарунак сваёй маме я зрабіў, калі мне было восем год. І гэта нягледзячы на тое, што я поўнасцю адпавядаў вядомай прымаўцы — быў гол як сакол.

І усё ж чалавек прыстасоўваецца да ўсяго, нават да самай што ні на ёсць найгалейшай галечы.

Вось і мы, малыя, прыстасоўваліся да любых абставінаў, у якія закідвала нас пасляваеннае жыццё.

Да пяцідзесятага года, пакуль я жыў у вёсцы,— усё было «добра», спакойна. Я не бачыў ні тых булак, ні цукерак, ні сітра, ні кніг — нічога. Але калі мы пераехалі жыць пад самы Мінск — у мяне вочы палезлі на лоб. Аказваецца, у жыцці вялікае мноства таго, пра што я і не чуў. А ўсё гэта хацелася паспрабаваць, пасмакаваць, а ў дзіравай кішэні — ні капейкі.

У тыя гады на кожным вуглу прадавалі яшчэ газіраваную ваду на разліў, хочаш, пі простую, хочаш — з сіропам, толькі, праўда, плаці. А яшчэ ж гандлявалі «марай» усіх дзяцей — ружовенькай салодкай вадзічкай — морсам. Вып'еш і пальчыкі абліжаш!

Вось і прыходзілася пасля школы «падрабляць» — збіраць розны металалом, анучы, паперу і цягнуць усё гэта барахло да старызніка-яўрэя, які мог плаціць сшыткамі, нейкімі рэчамі, іншай дробяззю ці грашыма. Мы бралі толькі грошы, хоць прыёмшчык нас увесь час ашукваў — даваў пару медзякоў і выпіхваў нас за дзверы сваёй будкі. А каб прыйсці зноў да таго яўрэя, прыходзілася аблазіць усе звалкі ды куткі, бо і ўтыль не надта валяўся пад нагамі.

Але за дзень мы «збівалі» на шклянку морсу ці ліманаду — і за гэта дзякуй Богу.

Аднойчы я ўбачыў у яўрэя на прылаўку брошку, якая мне чамусьці спадабалася, і я загарэўся купіць яе маме.

Чаму мне захацелася гэта зрабіць, не ведаю, але я перастаў піць сваю любімую вадзічку, а пачаў збіраць грошы на падарунак, бо брошка каштавала для маіх «капіталаў» дорага — пэўна, месяц піў бы морс.

Нарэшце, сабраўшы неабходныя грошы, я купіў падарунак і — бягом да мамы.

Відаць, мама вельмі многа год не атрымлівала падарункаў (ці ж да іх было?), бо залілася слязьмі і, шчаслівая, адразу прышпіліла мой падарунак да сукенкі...

Доўгія гады мама насіла яе, шанавала, але вечнага нічога няма, і брошка зламалася і згубілася. Не згубілася толькі памяць — да апошніх дзён свайго жыцця мама ўспамінала пра Дарагі яе сэрцу падарунак...

Памятаю яго і я.

## Галоўная падзея

Сёння многае з таго, што некалі адбылося, цяжка ўявіць. За пяцьдзесят тры гады жыцця мела месца столькі падзей, столькі душэўных перажыванняў, што дзіву даешся — як уся гэта жыццёвая мешаніна ўмяшчаецца ў галаве, у душы, у сэрцы.

Але ўвесь гэты здабытак не проста накопліваецца, памнажаецца, захоўваецца. Ён не ляжыць сабе ціхенька — кожнае на сваёй «паліцы», ён непакоіць, хвалюе, трымае ў напружанні кожную клетку арганізма, кожную крывінку. Быццам ты — адзіны адказны перад Богам і мінулым хавальнік найсвяцейшага сховішча, у якім усё тое, што ты ўвасабляеш — увесь многападзейны, шматкаляровы, непрадказальны свет, дзе знаходзіцца, шукае сваё месца і твой уласны свет, уласнае «я».

Дык якая ж падзея ў маім жыцці самая-самая? Якая яна — адзіная, галоўная, яскравая?

Канешне, у кожнага чалавека ёсць дзве галоўныя падзеі, але ў момант іх здзяйснення чалавеку яны абыякавыя, ён іх не памятае, не бачыць, яны яго не радуюць, не засмучаюць. Першая — з’яўленне на гэты свет, калі чалавеку яшчэ ўсё роўна, другая — адыход у іншы свет, калі чалавеку ўжо ўсё роўна...

Мая ГАЛОЎНАЯ падзея ў асэнсаваным жыцці — даволі «празаічная» для чытача. Яна можа выклікаць усмешку, непаразуменне, здзіўленне. Тым не менш мая памяць, маё сэрца аддае ёй пачэснае галоўнае месца сярод бясконцай гамы адчуванняў, успрыманняў, успамінаў.

...Першыя восем гадоў жыцця я ўсёй сваёй дзіцячай істотай адчуваў бязлітасныя, страшэнныя кіпцюры голаду. Яны не адпускалі ні на хвіліну — ні днём, ні ноччу. За гэтыя восем гадоў ні разачку не давялося наесціся хлеба столькі, колькі хочаш. Хлеб быў недасягальнай раскошай.

І вось у адзін цудоўны дзень, у адно цудоўнае імгненне адна тысяча дзевяцьсот пяцідзесятага года, калі мы жылі ўжо ў будынку сельсавета каля Мінска, я заскокваю ў нашыя «палацы» і вачам сваім не веру — на стале ляжыць бохан хлеба, а побач — нож. Няўжо?!.

Мама ўбачыла мой шок і ласкава кажа:

— Бяры, сынок, хлеб! З сённяшняга дня можаш есці яго колькі ўлезе...

У мяне захапіла дух ад такой «заможнасці»...

Вось і стаіць перад вачыма самаробны драўляны стол, а на ім — хлеб.

## Марык

Марык застаўся маладым назаўсёды, навечна. Нарадзіўся ён гады на тры-чатыры раней за мяне, быў адзіны сын у маці, і ў яго акрамя матулі таксама нікога не было, бо бацька «касіў сабакам сена». Праўда, побач з Марыкам і яго маці была яшчэ тая непатрэбная, тысячы разоў праклятая людзьмі, няпрошаная «жыхарка», імя якой — беднасць. Яна праглядвала адусюль — з абутку, з вопраткі, з іх худых, шэрых твараў, з іх стомленых, згаслых вачэй. Усё можна схаваць: і ўкрадзенае, і ўшальмаванае, і сорам, і сумленне,— не схаваеш нікуды адной бядноты, калі трапіў у яе абдымкі.

Можна толькі здзіўляцца, як гэта агідная «жыхарка» дасціпна спраўляецца адначасова жыць у многіх лёсах, сярод вялікага мноства людзей. Тут здзіўляйся не здзіўляйся, але што ёсць — тое ёсць, вандруе гэтая беднота з году ў год, з пакалення ў пакаленне, з глыбокай даўніны — у далёкую будучыню, не прамінаючы сучаснасці...

Мы, хлапчукі, зайздросцілі Марыку. Зайздросцілі не яго беднасці — сваёй хапала, а таму, што ён, як дарослы, адкрыта курыў. Смак дыму мы ўжо зведалі — самі,

кашляючы ды перхаючы, дакурвалі па завуголлях знойдзеныя «бычкі», а вось Марык не проста курыў, а ў прысутнасці сваёй маці!

У будынку сельсавета, дзе мы жылі, знаходзіўся і клуб. Яго, па праўдзе кажучы, клубам можна назваць у рамках нашага знакамітага сацрэалізму — палова будыніны, застаўленая драўлянымі зацухмоленымі лавамі, абдзёртыя цагельныя сцены, выбітыя шыбы ў вокнах і вялікае мноства смецця на паддозе, бо прыбіральшчыцы не было. Сорамна сказаць, але можна было бачыць то ў адным, то ў другім вугле, як нехта «насвінячыў». Кіно прывозілі раз у тыдзень, навешвалі на сцяну экран, усталёўвалі ля другой сцяны апаратуру і — еш «культуру» хоць апалонікам.

Вось у гэты клуб прыйдзе, бывала, Марык з маці, сядуць яны на лаву, і тут Марык дастае з кішэні «Беламор» і важна зацягваецца. У мяне слінкі цяклі ад зайздрасці, бо мая мама так бы мне курнула, што дым пайшоў бы ажно з вачэй ды вушэй, як у таго Змея Гарынавіча.

Марык чамусьці не хадзіў у школу ніводнага дня. Можа, ад беднасці, а можа, па іншай, невядомай нам прычыне.

Жыццё яго абарвалася нечакана...

Побач з сельсаветам стаялі канюшні, а крыху воддаль — даўжэзная пуня, у якую складвалася на зіму сена. Калі сена было толькі паўпуні, мы ўскарабкваліся па кроквах да перакладзіны, якая звязвала дзве кроквіны, і з той перакладзіны давалі «нырца» у сена. Ляціш, аж дух захоплівае, і — бултых у пахучае, яшчэ не злежанае сена. Трэба адзначыць, што дзяцей збіралася даволі многа і сена мы дратавалі «па-чорнаму». Дарослыя нам забаранялі гэта рабіць, часцяком праганялі, але забаронены плод робіцца яшчэ смачней.

І вось аднойчы, калі пуня была напоўненая напалову, а астатняе запоўнілася нашым крыкам, піскам, рагатан-

нем — у пуню ўскочыў з палкай у руцэ брыгадзір Зыгмусь, улёг за намі і раўнуў:

— Пазабіваю, гады!..

Мы, як стая верабейчыкаў, кінуліся ад Зыгмуся ў адным напрамку — да выратавальнага «акна» у франтоне. Гэты своеасаблівы лаз быў даволі вялікі, і хоць ён знаходзіўся высакавата — метры два з паловай ад зямлі,— мы з ходу, «салдацікам» сігалі ўніз, набіваючы сабе сінякі і шышкі, бо ведалі, што з Зыгмусем дурныя жарты.

Марык быў большы за нас, і тое акно не дазволіла яму гэтак жа спрытна выпрыгнуць з цьмянай пуні ў сонечны летні дзень.

Наадварот, акноператварылася ў дзверы, якія зачынілі за ім гэты свет назаўсёды...

Знайшоўся нябачны для нашага вока цвік, за які Марык зачапіўся калашынай, крутнуўся ўніз галавой і...

Не ведаю, ці дазволіла Марыку кароткае жабрацкае жыццё іншую раскошу, акрамя той пачкі «Беламору».

## Рассакрэчаны тайнік

Вучыцца, як вядома, у дзяцінстве не надта хочацца. Нікому! У тым залатым узросце, здаецца, толькі б лётаў, галаву задраўшы, адпальваў бы ўсялякія штуковіны, стаяў бы «на вушах», карацей — біў бы лынды.

Я не быў выключэннем — выкарыстоўваў «спецыфіку» таго ўзросту, як кажуць, на ўсе сто!

Сёння мы, пасталелыя і пасівелыя, зрабіліся «разумнымі», абураемся, гледзячы на сучасных дзяцей і моладзь: «Мы ж такімі не былі!..» Былі! Толькі забыліся ці баімся сабе прызнацца ў гэтым...

Сябраваў я з Лявонам Літвіновічам, які выхоўваўся без бацькі, быў адзіны сын у маці, ні ў чым ад яе не ведаў

адказу, рос без матчынага вока — сам па сабе. Пазней для Лявона турма зрабілася родным домам.

Вось з гэтым Лявонам, які быў тады хлопец як хлопец, мы сябравалі і часцяком падбухторвалі адзін аднаго на розныя «подзвігі».

Аднойчы Лявон мне кажа:

— Давай сёння не пойдзем у школу, а матанём у кіно!

— Ты што, Лёнька?! А як даведаюцца бацькі? А куды дзець партфелі? А як жа ісці ў кіно без грошай? — закідаў я сябра пытаннямі, на якія Лявон даў вычарпальныя адказы, і пачаўся наш культурны адпачынак.

Ля дарогі, што вяла ў школу, раслі густыя кусты бэзу, да якіх «прыляпіліся» гурбы снегу. Вось у гэты снег, паміж кустоў, мы схавалі свае «веды» і пашпарылі ў кіно. Грошы ў Лёнькі вадзіліся, таму з білетамі не было праблемы, і час праляцеў, як у казцы.

Кажуць жа — варта зрабіць першы крок, а потым толькі паспявай перастаўляць ногі. Вось і мы прамянялі адзін раз школу на кіно, адчулі смак вольнага жыцця, і нашы партфелі сталі часцяком «адпачываць» пад снегам ля бэзу.

Вывучыўся я б на сабак брахаць, каб не мая дасціпная мама. Гэты «чэкіст» адчуў, што з сынам робіцца нешта недарэчнае, ды і маё сяброўства з Лёнькам яе насцярожвала.

Высачыла матуля наш тайнік, забрала партфелі і чакае сына «са школы».

— Ну, чаму ты без партфеля? — пытаецца мякка.

— Забыўся ў школе! — адказваю бадзёра, а ў самога лыткі трасуцца ад страху.

Мама бярэ нейкую вяроўку, бо дзягі не было,— і рашуча да мяне:

— Дык дзе партфель? — і трасе вяроўкай перад маім носам.

— Мамачка, укралі яго! — заскуголіў я, упэўнены,

што нехта выпадкова рассакрэціў наш тайнік і забраў партфелі...

Тут мама дастае з-за лавы нашы мокрыя партфелі і... прапушчаныя веды з лішкам кампенсуе вяроўка.

## Кампаньены

Велізарнай праблемай на пачатку пяцідзесятых гадоў было для нашай сям'і набыццё сшыткаў перад пачаткам навучальнага года.

У сям'і — тры вучні, паспрабуй іх забяспечыць усім неабходным: вопраткай, абуткам, падручнікамі, сшыткамі, дый нейкую капейчыну трэба ўкласці ў кішэню дзіцяці, каб хоць нешта мог куснуць у школьным буфеце, каб ад голаду не хістала.

Вырашыў я дапамагчы бацькам і сам сябе забяспечыць сшыткамі, тым больш такая магчымасць нечакана падкруцілася.

У тыя гады часцяком можна было бачыць чалавека на падводзе, які з ранку да вечара паволі, няспешна соўгаўся ад хаты да хаты, ад звалкі да звалкі, ад жалезіны да анучыны. Гэта — старызнік, які зарабляў сабе на хлеб такім чынам.

Вось той чалавек і падбухторыў мяне з маім сябрам дапамагаць яму летам, а перад пачаткам заняткаў у школе ён паабяцаў «заваліць» нас сшыткамі. Мы ўзрадаваліся такой дамоўленасці, бацькі нашы былі таксама задаволены.

Усё лета, амаль кожны дзень трэсліся мы на падводзе, бегалі за ёй, зазіраючы ў кожны куток, адшукваючы розны хлам.

Старызнік не мог нацешыцца — сядзіць сабе на падводзе, кіруе канём, а два «вынаходнікі» утылю робяць справу спрытна і хутка.

Першыя дні і нам было цікава, паддавалі адзін аднаму імпэту — справа ж новая. Але хутка азарт наш згас і мы засумавалі па адпачынку, па гульнях — як-ніяк, а канікулы...

І вось пачаў набліжацца канец жніўня — пара б з намі і разлічыцца «наймальніку». Але ён, на наша здзіўленне, пачаў ездзіць новымі шляхамі, абмінаючы тыя мясціны, дзе мы сустракаліся раней. Мы разгубіліся — няўжо ён нас ашукае?

Нарэшце вылавілі свайго былога «кампаньёна» і залямантавалі:

— Дзядзечка! А сшыткі?!

— Якія сшыткі, хлопчыкі? З вамі і пажартаваць ужо нельга... Ну пакаталіся са мной на падводзе і будзьце давольныя.

Сцёбнуў ён пугай каня і паехаў...

Мы акамянелі, не верылі сваім вушам, нашы вочы не плакалі — галасілі нашы душы.

## Кароль балю

Звярніце ўвагу на такую акалічнасць: вясковы чалавек заўжды апрануты аднолькава — ватоўка, боты, штаны, зацухмоленыя ад штодзённай чарнавой працы ды хлявоў. Летам ватоўка скідваецца, а астатняе — нязменнае. Інакш апрануцца і немагчыма, бо побач адвечныя спадарожнікі — гной, гразь, пыл, а ў механізатараў — яшчэ і салярка, нігрол, салідол.

Такое адзенне — звыклае для вока, зручнае для працы.

Прывыкаеш да чалавека ў такой вопратцы і раптам сустракаешся з ім на вяселлі ці за іншым святочным сталом і здзіўляешся ягонай прыбранасці, выстраенасці, хоць на ім і недарагі касцюм ды просценькая кашуля. Чалавек робіцца незвычайным, прыгожым, зусім іншым — вачэй ад яго не адарваць...

Нешта падобнае адбылося са мной у чацвёртым класе. Рыхтавалася нейкая школьная ўрачыстасць, нейкая важная вечарына. Толькі пра яе і была гаворка. Ведаў пра гэтую вечарыну і я — нават дома пра яе пахваліўся.

Трэба сказаць, што да таго часу мы жылі яшчэ вельмі бедна, таму ў школу я хадзіў у абносках, густа «аздобленых» лацінамі. Але не маглі ж у школе адмяніць свята з-за маіх драных штаноў...

І вось надыходзіць той доўгачаканы дзень, калі нават ступні пачынаюць свярбець ад нецярпення — гэтак хочацца бегчы ў школу.

Раптам мама дастае са сваіх тайнікоў новенькія картовыя штаны, паўбаціначкі, новенькую тэніску бэзавага колеру і навюсенькую цёмна-сінюю футболку з кішэнькамі на грудзях, ці, як яшчэ яе звалі,— бархатку, хоць бархатам яна і не пахла. Я ледзь не самлеў ад захаплення!

Колькі ж маме трэба было эканоміць, каб зрабіць мне такое свята...

Не памятаю, як апрануўся, на якіх крылах ляцеў у школу, памятаю тое, калі я бурай уляцеў у залу, дзе было ўжо цесна ад вучняў і настаўнікаў.

Усе расступаліся перада мной у здзіўленні і захапленні. У мяне гарэў твар ад шчасця, ад першай сапраўднай абноўкі, ад гэткай увагі да маёй персоны. Сэрца маё так моцна білася, што гатова было прабіць і грудзі, і тэнісачку, і футболку.

Вечар, прысвечаны нейкай падзеі, ператварыўся ў маю зорную гадзіну.

## Саладуха

Ёсць словы, якія выклікаюць не проста ўспаміны, не толькі схалануць пачуцці, а вяртаюць нават пахі даўно мінулага, аднаўляюць у роце, здавалася б, назаўсёды

забытыя смакі. Успомніш такое слова — і толькі паспявай глытаць слінкі.

Сярод мноства гэткіх чароўных, паўзабытых слоў — слова «саладуха». Мала хто сёння ведае, што гэта за «звер». Нехта, пэўна, і чуў, што хтосьці недзе некуды трапіў, як ліса ў саладуху. Але гэта — толькі чуткі. Я, шчыра кажучы, і сам не разумею, чаго тую лісу чорт мог занесці ў саладуху? Саладуха — зусім не салодкая. Навошта яна лісе? Магчыма, у саладухі шмат рэцэптаў прыгатавання — тады я раскажу пра свой рэцэпт, падзялюся вопытам. Дакладней, гэта рэцэпт маёй мамы, нашай мясцовасці, таму для мяне ён самы правільны і смачны.

Рабіла мама саладуху даволі проста. Цёплай кіпячонай вадой залівала жытнёвую муку (пажадана з прарошчанага жыта) у ражачцы, накрывала чысценькім ручніком і ставіла ля печы ў цёплае месца — давала магчымасць ёй падкіснуць.

Не, гэта вам не хлебны квас! Гэта было непаўторна духмянае пітво, з незвычайна прыемным смакам, ад якога, асабліва ў спякоту, за вушы не адцягнеш.

Адным словам — саладуха! Што тыя пэпсі-шмэпсі ды фанты ў параўнанні з саладухай?! Пойла! Хімія! А тут — здароўе і натуральнасць!

Але мама рабіла саладуху не толькі для таго, каб гарачынёй адбіцца ад смагі. Не! Саладуха займала важнае «стратэгічнае» месца ў нашым меню.

Варыла мама на вячэру саган бульбы з гарэлікамі, якія запякаліся ад агню ў печы, ставіла саган на сярэдзіну стала — і пачынаўся баль. Спачатку «наперагонкі» расхопліваліся гарэлікі, якія смакаваліся ўсухую, а потым елася астатняя гарачая бульба і запівалася, як чай, упрыкуску, смачнай саладухай.

Дарэчы, з бульбай у вёсцы елася ўсё, што было ў хаце: і капуста, і буракі, і паліўка, і сала, і малако, і грыбы. А яшчэ мы вельмі любілі зімой паласавацца брусніцамі з

бульбай. Мама ставіла на зіму дваццацілітровую бутлю брусніц, прытомленых варам, дадавала крыху цукру і давала ім «даспець». Брусніцы вылучалі сок, былі з прыемнай кіслінкай і еліся з бульбай за мілую душу. Не верыце — паспрабуйце!

Дык што ж выклікае сёння ўва мне слова «саладуха»?.. Перш за ўсё — галасы родных, цеплыню і ўтульнасць бацькоўскай хаты, шчымлівы боль аб тым, што ніколі не вернецца,— цэлую гаму пачуццяў, перажыванняў, замілаванасці.

## Радоўка

Назва гэтай замалёўкі заблытала мяне — з якой радоўкі пачынаць? Ёсць грыбы, якія называюць радоўкамі. Грыбы як грыбы, але растуць радамі, вось іх за такую дысцыплінаванасць і назвалі гэтак.

З маленства любіў збіраць іх — прыгожых, рудавата падпечаных, у чорненькія кропачкі. Удзячны гэтым познім восеньскім грыбкам за прыгажосць і смак.

Другая радоўка — больш празаічная. У нашай мясцовасці радоўка азначае надышоўшую чаргу пасвіць вясковых кароў. Падышла твая чарга (радоўка), бяры пугу ў рукі — вось ты і «палкоўнік», бо перад табой ідзе хвастатае ды рагатае войска. Кожная сям’я падлічвала і з непрыемнасцю чакала набліжэнне радоўкі. Адказная гэта справа — дзень, ад цямна да цямна быць «выхавацелем» чужой жывёлы. А раптам прапарацца на якім ражне... А возьме ды адна адну скалечыць — рогі ж вунь якія!.. А ёсць жа блудныя ды памаўзлівыя каровы — глядзі на яе, хоць не міргаючы, а яна ўцячэ туды, куды і не падумаеш.

Гора з гэтай радоўкай ды з тымі каровамі. Але куды дзецца ад такой прынудзілаўкі? А яна, прынудзілаўка,

прыходзіла даволі часта, бо Карпілаўка — вёска невялічкая, тыдзень з хвосцікам, і зноў ты — «палкоўнік».

У нашай сям’і гэты высокі чын даставаўся мне, бо дарослыя займаліся больш адказнай калгаснай працай, а радоўка — не апраўданне для «прагулу».

Кароў выганялі ў поле раненька — на досвітку. Холадна, росна, спаць хочацца. Вымакнеш па самыя вушы, нават ясным надвор’ем, а ўжо калі абкладны дождж сыпе — не можаш дачакацца вечара.

Аднаго разу, змакрэлы ад расы і ссінелы ад холаду, узрадаваўся я вызірнуўшаму з-за лесу сонейку, прыткнуўся на пляскаты камень і прыгрэўся. Па целе распаўзлася салодкая млявасць. Сам сабе ціхенька гавару пад нос:

— Толькі б не заснуць... Не-е, я спаць не буду... Толькі на хвіліначку закрыю вочы...толькі на адну хвіліначку...— Закрыў вочы, і ўсё некуды адплыло — і каровы, і поле, і лес, і сам.

Падхопліваюся, а сонца — высока. Прыпякае, высушыла мяне. Кароў — анідзе.

Даўно гэта было, амаль паўвека назад. Закруціла жыццё, замітусілі падзеі і клопаты. Няма калі прыпыніцца, агледзецца, асэнсаваць зробленае і нязробленае. А каб і здолеў прыпыніцца — новыя клопаты і падзеі штурхануць і прымусяць прытрымлівацца агульнага рытму жыцця і навакольнай неразбярыхі.

Сёння, прыпамінаючы радоўку, разумееш, што шмат прыемнага і карыснага для ўласнага самаадукавання было ў ёй. Колькі рознага цікавага і нечаканага перадумаеш за доўгі дзень сярод летняй прыгажосці! Колькі песень перапяваеш на ўвесь голас! Колькі чыстых і светлых мараў народзіцца ў трапяткой душы!

Цяпер з сумам адзначаеш, што разам з апошняй колішняй радоўкай знікла нешта роднае, далёкае, непаўторнае.

# Ікаўка

Рашыў я неяк пасля вечарынкі заначаваць у свайго сябра, каб не ісці з апошніх сіл у няблізкі свет.

Дакладней, не начаваць я сабраўся, а дняваць, бо танцы скончыліся на досвітку і хутка павінна было ўзысці сонца.

Ціхенька, каб не разбудзіць астатніх, леглі мы з ім на адным ложку і толькі сабраліся задаць храпака, як на мяне ўссела ікаўка. Дае мне пад дых, ажно падкідвае з ложка. Ды каб хоць ікалася ціха — няхай бы сабе ікалася. А то як ікнецца, аж рэха мітусіцца па хаце. А ў гэтай жа хаце, на другіх ложках, адпачываюць і маці, і бацька, і сястра майго сябра. Гэта ж не горад, што сям'я распаўзаецца па розных пакоях,— храпі сабе ды ікай на здароўе.

Што мне рабіць? Куды дзецца? Заціскаю далонямі рот, а ікаўка выскаквае з-пад далоняў яшчэ званчэйшая — нібы стрэл з ружжа. Хацеў апрануцца і цягнуцца дахаты, як чую голас сябравай маці:

— Сяргей! Ці не ты ўкраў у нас шаршатку, як мінулы раз заставаўся ў нас пасля вечарынкі? А то майму гаспадару няма чым валёнкі падшываць...

Кроў ударыла мне ў скроні. Я ўскочыў, як пружына, і сеў на ложку. Які сорам! У вачах людзей, што прытулілі мяне, я выглядаю злодзеем.

— Цётачка! Не браў я шаршатку! — як магчыма пераканаўча. дрыготкім голасам выдыхнуў я.— Ды я магу паклясціся, цёгачка... У майго таты свая шаршатка ёсць... Ці ж я...

Тут на ўсю хату грымнуў рогат. Смяяліся ўсе, бо не спалі не толькі з-за маёй ікаўкі, а таму, што развіднела і трэба было ўставаць, даглядацца.

Я лыпаў вачыма, не разумеючы прычыны такога дружнага смеху Сябрава маці ласкава супакоіла мяне:

— Ды не браў ты шаршатку, супакойся! Я ж пажартавала, каб прагнаць тваю ікаўку...

Тут толькі я заўважыў, што не ікаю і не цягне болей ікаць. Як рукой зняло!

Аказваецца; каб адпугнуць ікаўку, трэба «ікаўшчыка» схамянуць, рэзка пераключыць на нешта іншае.

Што і казаць — моцнае лякарства, калі запомнілася на ўсё жыццё.

## Грыбныя «снежкі»

Не ведаю, як цяпер, а калісьці леснікі займаліся і такой працай, як прачыстка лесу. Каму яна патрэбна, тая прачыстка,— цяжка сказаць, бо лес тым, што трухнявее і згнівае,— сам сябе ўгнойвае. Чаму, напрыклад, сасна ў гарадскіх умовах дрэнна расце? Таму, што ёй не хапае такога натуральнага ўгнаення...

Ішлі леснікі ў лес, рэзалі паваленае гніллё, забівалі калкі і паміж імі складвалі гэты хлам у «раўметры». Ссякалі дробны сушняк, падбіралі living рознае ламачча. Ачышчалі лес невядома ад чаго і для чаго, быццам гэта парк, па якім будуць шпацыраваць модныя паненкі — хаця б капронавыя панчохі не разадралі!

Дык вось, лесу многа, а леснікоў менш, чым таго нячышчанага лесу. Што рабіць? Гукалі леснікі дапаможцаў з усіх бакоў. Бывала, і калгас дапамагаў чалавекам-другім. Знаходзіліся і добраахвотнікі, сярод якіх аказаўся і я з Пятром Сліжуком. Авось ды якую капейчыну летам заробім!

Узялі мы з Пятром пілу, сякеры, прыгатавалі з дому метровую палку-мерку, каб тыя раўметры падлічваць, і пашыбавалі ў лес, які нам даручыў ляснік.

Рэжам усякую трухляціну ды сушняціну, забіваем калкі і выкладваем раўметры, як нас і вучылі. Азарт забірае — грошы ж «закалачваем»! Стараемся паміж бярвенцамі сучкоў ды смецця пакласці, каб вышэй было.

Будзе вышэй — будзе болей раўметраў, больш грошай...

А грыбоў у лесе — няма дзе нагу паставіць! Асабліва многа перастарэлых, счарнелых чашчавікоў, у якіх галовы і пахіліліся, і пазвальваліся зусім. Нахіліўся я, каб пілу ўзяць, чую — шлёп мне нешта па спіне, ажно прыліпла. Павярнуўся, гляджу на сябра, а ён ледзь стрымлівае рогат і робіць выгляд, што ні пры чым.

Ах, ты так! Хапаю з-пад ног чашчавік, і ён звонка хлюпаецца на Пятрову кашулю. Цяпер рогат не ў сілах стрымаць мы абодва.

І панеслася гульня ў «снежкі»! Выбіралі самыя даспелыя грыбы, ад якіх праз кашулю дапінаў грыбны сок аж да цела.

Весела! Забыліся пра раўметры і грошы!..

Такімі гульнямі мы запаўнялі свае перакуры кожны дзень.

Мама пыталася:

— Што там у вас у лесе за работа такая? Усе кашулі ў нейкіх рудых плямах — не магу адмыць!..

Аказваецца, грыбныя снежкі не адмываюцца.

Сёння, праз сорак пяць гадоў, сустракаюцца ў лесе парослыя мохам, струхнявелыя нечыя раўметры — нікому не патрэбная, дурная работа.

Тады нам з Пятром не заплацілі ні капейкі, хаця мы не толькі наклалі шмат раўметраў, але і перапсавалі свой гардэроб.

## На мядзведзя!

У пяцідзесятыя гады Карпілаўка была адрэзана ад «вялікай зямлі» страшэнным бездарожжам. З Мінска ці Лагойска да Карпілаўкі машыны не дабіраліся, бо нават у самыя спякотныя дні ў ямах і канавах на дарозе не перасыхала гразь і стаяла вада. З аднаго боку — гэта было

някепска — ад грыбоў і ягад лясы гнілі, зайцы ў лесе ледзь не збівалі з ног, цецерукоў развялося столькі, што яны гатовы былі чалавеку на галаву сесці. Навокал — першабытнасць!

Я тады да канца не разумеў гэтай прыгажосці, наадварот, сумаваў па недахопу людзей і чалавечаму тлуму.

Праўда, немагчыма было не заўважаць і не зачароўвацца ад таго неверагоднага птушынага рознагалосся, якое запоўніла сабой усё. Здавалася — яно падпірала і трымала на сабе неба. Асабліва гэта адчувалася перад захадам сонца, калі можна было падумаць, што ў свеце не існуе нічога, акрамя птушыных высвістванняў ды вышчабетванняў...

Сёння мы, «цары» прыроды, зрабілі нашыя лясы маўклівымі і сіроцкімі.

Вось у тыя пяцідзесятыя нерушы-гады ў нашых лясах і гаспадарнічалі ваўкі. Каб неяк стрымаць іх распаўсюджванне, паляўнічым выплочвалі грашовыя ўзнагароды за кожную здадзеную скуру ваўка, акрамя таго, што каштавала сама скура.

Але ваўкі хутка адышлі на другі план, бо вяскоўцам пачалі казытаць нервы мядзведзі, якім спадабаліся нашы бязлюдныя лясы і глухія мясціны. Праўда, за ўсе гады мядзведзь нікога не задзёр, але пастухі не раз давалі ад яго дзёру, кінуўшы кароў. Толькі і было гаворкі пра сустрэчы з клышаногім.

У жыцці мясцовых жыхароў з’явілася тая, невядомая раней, разынка, якая і падсаліла і падпярчыла шэрую будзённасць. Гэта ж толькі ўдумацца — мядзведзь у лесе! Быццам ты жывеш у дрымучай тайзе! Ідзеш паміж дрэў, а за душу нешта пашчыпвае.

Асабліва шчыпала гэта нашу паляўнічую дасціпнасць. Мы з братам Косцікам, маючы на дваіх адно ружжо, вырашылі ўсё ж «дастаць» мядзведзя.

У красавіку, калі пачало прыграваць сонейка і зямля пачала выглядваць з-пад снегу, прыімчаўся да нас Анішчучок Міша і, засягаўшыся, выдыхнуў:

— Сляды мядзведзя бачыў ля самай сядзібы Лявіцкіх!..

Косцік схапіўся за ружжо, мы з Мішкам — за тапары і падаліся да тых слядоў.

І сапраўды ля Зялёнай Лучкі «спатыкнуліся» аб мядзведжыя сляды, якія накіроўваліся ў бок Акопаў. Я першы раз у жыцці бачыў натуральны адбітак мядзведжай лапы. Пятка следу была вузенькая, клінам, затое «пальцы», кіпцюры шырока растапырваліся на падталым снезе.

Косцік з ружжом напагатове ішоў першым, за ім — мы з тапарамі. Напружаныя, рашучыя, узрушаныя.

Паступова сляды павярнулі лявей, у бок Айчызны. Айчызна была адна з самых глухіх у той час, малавядомых нам мясцін. Махнатыя елкі перапляліся так шчыльна, што пад імі дзень адразу ператварыўся ў вечар, а душа пачала шукаць пяткі. Нашы крокі зрабіліся няўпэўненымі, больш асцярожнымі. Мы ўсё часцей і часцей пачалі пераглядвацца, перашэптвацца, нарэшце спыніліся...

— Што будзем рабіць? — разгублена пытаецца Косцік.

— Шкада мядзведзя! Няхай сабе жыве! — адказаў я шэптам, выціраючы смаркачы. Назад мы крочылі жвава, подбегам. Толькі выйшлі з лесу, сустракаем Гаеўскага Пётру.

— Ад каго так дзёру даеце? — пытаецца.

— Мядзведзя выследжвалі, ды пашкадавалі яго! — адказваем бадзёра, змяніўшы свой подбег на павольную хаду.

— А-а! Зразумела! Забыліся ўзяць запасныя штаны! — зарагатаў Пётра, на што мы ў адказ дружна зачырванеліся.

## Прыгажун

Пра каго б вы думалі будзе ісці гаворка ў гэтай замалёўцы? Хто ж гэта такі за прыгажун? Дзе б яго хоць адным вокам убачыць?

Не ламайце дарэмна галаву! Не трэба далёка хадзіць, бо прыгажун — гэта я!

Чую вашы ха-ха-ха ды хі-хі-хі... Ці не зарана смеяцеся?

...А ўсё адбылося проста і звычайна, як, напрыклад, наступае дзень пасля ночы...

Паехаў я, пятнаццацігадовы, з Карпілаўкі ў Мінск — «праветрыцца» ды сваякоў праведаць. Зіма была напрыканцы, хоць ноччу яшчэ маразы паказвалі свой гонар.

Іду бадзёра каля вакзала па вуліцы Ленінградскай, сонейка прыгравае, на душы светла і радасна, як бывае ў людзей майго ўзросту — жыццё ж толькі набірае разгон!

Раптам майму казачнаму настрою пачало спрыяць нешта прыемнае, цудоўнае, хвалюючае. Тое «нешта» — дзве прыгожыя, нават чароўныя маладыя дзяўчыны, з яркімі падфарбаванымі вуснамі, модна апранутыя. Гэтыя дзве модніцы, сталейшыя за мяне, ішлі перада мной і ўвесь час азіраліся, пры гэтым весела смяяліся і не маглі адарваць ад мяне вачэй.

«Ого! —думаю.— Калі такія прыгажуні заглядаюцца на мяне, вясковага падлетка, значыцца, я — хлопец хоць куды!»

І я пакрочыў больш бадзёра, упэўнены ў тым, што ў жыцці мяне чакаюць адныя радасці і перамогі...

Дзівак я, дзівак!.. На мне была старэнькая, выцвілая зімовая шапка, «вушы» якой я не падвязаў зверху, а, падкруціўшы, падаткнуў, каб не звісалі, старыя і дзе-нідзе залатаныя, татавы, навырост, ватнікі-штаны, гэткая ж ватоўка... Але самае галоўнае «ўпрыгожанне» майго

ўбрання — вялізныя, усе на латах, татавы валёнкі, на якіх былі надзетыя не галёшы, а чуні...

Сёння чуні нідзе не прадаюцца, відаць, іх перасталі вырабляць, а тады яны моцна баранілі валёнкі ад вільгаці, ратавалі ад любой адлігі, бо былі вельмі глыбокія. Праўда, каб пасушыць валёнкі, няпроста было здзерці тыя чуні, яшчэ складаней іх было надзець...

Вось у такім звыклым для вёскі выглядзе, з вузельчыкам за плячыма, я крочыў па адталых чыстых вуліцах Мінска, не заўважаючы на сабе такой недарэчнай вопраткі і абутку, бо юнацтва глядзіць на жыццё вачыма сваёй светлай душы...

Як жа было тым дзвюм расфуфыраным паненкам не выскаляцца, гледзячы на мяне, бо такога «заканадаўцу» моды не часта можна было сустрэць на вуліцах сталіцы...

А я ж думаў, што дзяўчат прываблівала мая прыгажосць.

## Ускрыша

Лёгкай работы ў калгасе не было. І хоць давалася яна цяжка, хоць вочы страшыліся, рукі рабілі.

Аднаго разу трапіла такая работа, якая мне не паддалася...

Вось як гэта адбылося. Ранняй вясной, калі толькі сышоў снег, а жывёлу нельга яшчэ было пасвіць, падышла чарга НЗ — вялікага стога канюшыны.

Канюшына, калі яна не перастаіць на карані, а скошваецца падчас яе цвіцення,— вельмі смачная і карысная для жывёлы прысмака.

Вось стог гэтай смакаты і вырашылі падаць жывёле да веснавога «стала».

Запрэглі мужчыны паркі коней і паехалі да таго стога. Мяне, жэўжыка, брыгадзір паставіў скідаць уніз на падводы са стога канюшыну.

— Ты — падлетак,— кажа брыгадзір,— вось табе і лягчэйшая работа. Зробіш ускрышу стога і кідай сабе зверху яе, гуляючы.

Я паверыў і быў задаволены, бо такую «пасаду» яшчэ не займаў ні разу.

Узлезці на стог — не простая справа. Трэба двое вілаў, якія па чарзе ўтыкаеш у стог, і, як па ўсходцах, карабкаешся наверх. Адтуль лішнія вілы скідаеш уніз, і лічы, што вяршыня табе пакарылася...

Такім вось чынам ускарабкаўся і я на стог, скінуў другія вілы і пачаў...

Канюшына — не сена. Яна мае тоўстае, моцнае сцябло, ад якога ў розныя бакі адрастаюць яшчэ сцяблінкі і лісце. Пры кладцы стога гэтыя сцяблінкі пераплятаюцца, за зіму спрасоўваюцца, робяцца маналітам...

Колькі я ні ўтыкаў вілы ў гэты маналіт — не здолеў адарваць ні ахапачка, ні пучка. Прыкладваю ўсе сілы, абліваюся потам — нічога не атрымліваецца.

Знізу крычаць мужыкі:

— Што ты там, як верабей, капаешся?! Давай! Кідай!

Мне сорамна прызнацца ў бяссіллі, хаця і не надта слабы я быў у свае чатырнаццаць гадоў. У працу ўцягнуўся і меў ужо нейкі вопыт і стаж. Тыя ж мужыкі, што на падводах, бораць мяне баралі, але прыходзілася ім добра папыхкаць і павалтузіцца са мной...

Крычу мужчынам, задыхваючыся:

— Хвілінку! Пачакайце! Я тут расчышчаю, падрыхтоўваю...

Калі я зірнуў на свае далоні — яны ўсе ў крыві. За гэты кароткі час ускочылі крывавыя мазалі, якія адразу былі расціснуты аб вілачнік. Цяпер я адчуў і пякучы боль.

Знізу далятала лаянка мужчын. Там жа ля іх стаяў моўчкі і брыгадзір.

Тады мне было не да здагадкаў, я рваў жылы, нервова мітусіўся, а кідаць уніз не было чаго.

На маё шчасце, аднекуль раптоўна з'явілася мая мама выратавальніца. Яна імгненна ацаніла сітуацыю і наляцела на брыгадзіра, як каршун на курыцу.

— Ты што здзекуешся? Хіба ж можна дзіця ставіць на такую работу? Ану злазь! — загадала мне.

Я, як абмалочаны сноп, ссунуўся ўніз. Далоні пякло агнём, вочы заліваў пот, жывот ад перанаіугі ныў, спіну ламала... Не паддалася мне ўскрыша...

## Парушынкі

Хто мы ў жыцці? Пытанне, на першы погляд, простае. А як толькі робіш спробу ўдумліва адказаць на яго — натыкаешся на вялікія складанасці. Можна, канечне, адказаць: мы — людзі, але адказ будзе далёка не вычарпальны, асабліва калі за тваімі плячыма — дарога даўжынёй у паўвека.

Дык хто ж мы, людзі, у жыцці?..

Давайце возьмем маю родную невялічкую вёсачку Карпілаўку канца пяцідзесятых гадоў. Электрычнага святла няма, радыё няма, пра тэлебачанне вухам не чулі, дактароў ніякіх, цяжкая калгасная праца аплочваецца ўмоўна і... можна бясконца пералічваць тое, чаго ў нас і не было.

Але — дзіва! — з'яўляецца раптоўна ў нашай вёсцы новая сям'я — Дуброўскія. Шукаюць, бедалагі, прыстанішча хоць якое ды кавалак хлеба. Мы, мясцовыя жыхары, жыўшыя даволі бедна, жахнуліся, убачыўшы гэтых жабракоў, сапрэлыя лахманы і гразь на іх — усё багацце. Сям'я — чатыры чалавекі: муж з жонкай і дзеці-падлеткі — Гэнусь і Клаўдзія. Карпілаўка для іх — не першы прыпынак. Шмат дзе спрабавалі яны знайсці сваё шчасце, але ўсюды былі лішнімі, непатрэбнымі. А з такім, як у іх, «стартавым капіталам» не разгонішся.

Добра, што побач з нашай хатай стаяла, невядома кім пабудаваная, даўно кінутая, пахіленая хатка, без падлогі і вокнаў. У гэтую хатку і пасяліліся бедныя людзі.

Карпілаўцы неслі ім хто бульбы вядро, хто хлеба акраец, хто малако — пакуль прыдбаюць нешта сваё.

Прайшоў нейкі час, а ў Карпілаўку з'яўляецца новая гаротная сям'я, праз месяц — яшчэ адна. Але гэтым дзвюм сем'ям не пашанцавала — не было дзе жыць, і жыццёвая бура панесла іх далей...

Калгаснае кіраўніцтва хутка скумекала, што дармавая працоўная сіла сама просіцца ў хамут, і на былой сядзібе Антона Лявіцкага (Ядвігіна Ш.) «зляпілі» з нячэсаных бярвенняў нешта падобнае на хату з двума ўваходамі — на дзве палովы...

Толькі пабудавалі «пастку» для бяздомных, як у ёй ужо жывуць, а значыцца, і працуюць у калгасе дзве сям'і — Анішчукі і Курт з жонкай. У Анішчукоў аж чатыры чалавекі адразу пайшлі ў калгас — яшчэ крэпкія бацькі і два сыны — Коля і Міша. Здаецца, толькі зарабляй, абжывайся, радуйся жыццю. Ды не! Памыкаліся некалькі гадоў Дуброўскія і павезлі некуды далей свае рызы і вошы. Папрацавалі Анішчукі за «дзякуй» — і таксама панесла іх жыццё па сваіх непрадказальных, ухабістых шляхах-дарогах. А на іх месца прыехалі Бялькевічы і рассяліліся паасобку, «шыкоўна». Сёстры — у пакінутую Анішчукамі палову, брат з жонкай — у Дуброўскіх хатку-развалюху.

Потым раптоўна, не развітаўшыся, некуды знік з жонкай Курт...

Пазней прыязджалі ўсё новыя і новыя гаротнікі, але вымушаны былі ехаць некуды далей у пошуках неіснуючага тады на нашай зямлі шчасця. Быццам гэта былі не людзі, а парушынкі ці лісце, адарванае злосным ветрам ад роднай галінкі, да якой ужо век не прыжыцца...

Я не закранаў лёс сваіх бацькоў, нашай сям'і, бо карпілаўскія «перасяленцы» — кропля ў акіяне таго гора,

якое ўвесь час было наперадзе маіх бацькоў — да самае іх магілы...

Дык хто мы такія ў жыцці?..

## Курт і Муха

З чатырнаццаці год я пачаў пасвіць калгасных жарабят, якіх выпасвалі і вырошчвалі ў Карпілаўцы, а потым, пасталелых і падужэлых, адпраўлялі па калгасных брыгадах для цяжкой штодзённай працы.

Жарабят было многа, не ногі ў іх, а крылы — патрэбны спрытнасць і ўменне, каб кіраваць такім лятучым эскадронам. З ранку да вечара насіўся я галопам на кані вакол сваіх гарэзаў, правёў з імі не адно лета. За гэты час да кропелькі вывучыў характар і павадкі кожнага, ды і яны мяне ведалі як аблупленага.

Калі ранічкай я падыходзіў да агароджы, каб адкінуць жэрдкі і выпусціць іх на чарговы выпас, яны выбягалі мне насустрач, абступалі, клалі галаву на грудзі, мяккімі губамі церабілі мае вушы — выказвалі сваю любоў і дружбу.

Прыемна было бачыць, як жывая, імклівая рака чулых і трапяткіх істотаў цячэ перад табой, выстукваючы дзесяткамі капытоў вечны рытм жыцця.

Было цяжка да слёз з імі расставацца.

Пазней мне, пасталеламу на два-тры гады, даверылі парку коней, якія лічыліся пастаянна «маімі», за якіх я адказваў, на якіх я працаваў у калгасе. І зноў ішла «прыцірка», без якой немагчымы нармальныя адносіны паміж чалавекам і жывёлай. Коні па маіх паводзінах, па голасе распазнавалі мой настрой і адпаведна сябе паводзілі —то паслухмяна, то наравіста...

Але была ў нас адна кабыла, якую звалі Мухай. Чорная, ажно блішчэла, гладкая, зграбная, прыгожая — не адарваць вачэй! А вось характар — нібы вулкан, з якога

ўвесь час вылятае агонь. Да яе баяўся падысці нават конюх. А конюх — гэта ж бацька родны для коней, бо карміць, стойла чысціць — даглядае.

Былі выпадкі, калі конюх захворваў, тады брыгадзір часова давяраў гэтую пасаду мне. Я з задавальненнем выконваў свае абавязкі. Бяру, бывала, ахапак сена ці канюшыны, падыходжу да стойла, а конь ужо сустракае, цягнецца губамі да сена, скубе з ахапка. Я, як сапраўдны конюх, несярдзіта чытаю натацыю: «Павярніся, каб цябе...» Конь дае прайсці да драбінак, за якія закідваю сена, паварочваецца за мной і пачынае смачна хрумсцець, а я нясу гэткую ж порцыю ў наступнае стойла. Сена ж для Мухі нясу не ў ахапку, а на вілах ды на выцягнутых руках, бо тая робіцца лютай пры маім набліжэнні — вочы гарань агнём, уся дрыжыць. Прыходзілася кідаць сена на праходзе ля стойла, бо Муха так давала капытамі па жэрдках, што ад іх ляцелі трэскі, як з-пад сякеры.

А яна ж была такая прыгожая! Як мне хацелася хоць раз пагладзіць яе ці дакрануцца!

І вось нарэшце, як кажуць, найшла каса на камень. У нашу Карпілаўку заляцелі чарговыя «парушынкі» — бедныя, з невядомага край-свету людзі — Курт з жонкай. Прозвішча яго паказалася нам непрывычным і дзікім. Ды і сам ён выглядаў страшна і дзіка. Кручкаваты нос надаваў ягонаму твару драпежнасць і бязлітаснасць, а вочы рабілі яго свірэпым. У яго было толькі адно вока, а другое — шкляное, але цяжка было сказаць, якое з іх страшней блішчэла. Жонка ж яго была настолькі ціхая, што за той час, што «парушынкі» жылі ў Карпілаўцы, ніхто не чуў ад яе ні слова.

Вось гэтаму Курту брыгадзір з палёгкай і задавальненнем даў парку коней, у якой была Муха. Раніцай наступнага дня, на нарадзе, усе разявілі раты і не дыхалі — што ж будзе? А адбылося ўсё настолькі нечакана, што мы не паспелі і раты закрыць.

Курт падышоў да стойла, каб адкінуць жэрдкі і надзець на кабылу аброць, але тая крутнулася задам і пачала ярасна брыкацца.

Тут Курт як бліснуў сваімі страшэннымі вачыма, як крутнуў кручкаватым носам ды як гыкнуў нейкім нечалавечым голасам — мы ажно прыселі, хоць на нас аброць надзявай.

Затым Курт смела адкінуў завалы і рашуча ўвайшоў у стойла, гыкнуўшы яшчэ некалькі разоў. Муха, здавалася, гатовая была выскачыць з уласнай шкуры — уся дрыжыць, перабірае нагамі, вочы наліліся крывёй, але ўсё ж дазваляе Курту накінуць на сябе аброць. І як ні вытанцоўвала Муха, як ні кіпяцілася ад гневу і непрыступнага самалюбства — яна была пераможана.

Потым Курта можна было пачуць за некалькі вёрстаў, бо, прабачце за параўнанне, сам Бог на сваёй калясніцы не нарабіў бы столькі грукату, колькі яго рабіў Курт, несучыся, не разбіраючы дарогі, на запрэжаных двух конях, адна з якіх была Муха.

Не было б шчасця — ды няшчасце памагло... Так. Думаю, што не доўга пражыла б прыгажуня Муха ў сваёй непадступнасці, бо ў калгасе ад конскай прыгажосці мала карысці. Конь павінен працаваць, цягнуць да смерці лямку. Пайшла б яна «пад нож», не завітай у яе лёс той Курт, які пераламаў характар Мухі і гэтым даў ёй магчымасць пражыць свой конскі век у працы і да старасці.

## Небяспечная дрыгва

Запрог я кабылку, паклаў на бакавінкі падводы дошчачку-сядзенне, узяў дубец у рукі і падаўся праз Гарэлы лес аж да Харужанцаў. Там, у балоцістай нізіне, расце цудоўны белы мох. Без такога моху — ні хатку, ні хлявок не пабудуеш.

Еду, пацмокваю на кабылку, аб’язджаю лужы, любуюся навакольнай прыгажосцю — ну пан, ды і толькі! Побач з кабылкай бяжыць яе ўжо даволі велікаваты сынок — Казбек.

Прыехаў я да балотца, кінуў кабылцы сена, каб яна не сумавала, а сам — за вілы і давай ірваць мох. Прыемная гэта справа — мох доўгі, чысцюткі, смачна пахне. Праўда, цяжкаваты, як возьмеш на вілы, бо ў той дажджлівы год быў «з галавой» заліты вадой. Накладзеш яго на падводу, а з яго вада цячэ, як з рэшата, аж да самай вёскі.

Да белага моху, увогуле, трэба ставіцца з павагай і ўдзячнасцю. І не толькі таму, што ён паслухмяна кладзецца між бярвенцамі, каб чалавеку ці жывёле цяплей і ўтульней было ў будыніне. Хаця і за гэта яму дзякуй!

У час вайны ён быў надзейным памочнікам партызанскіх дактароў. Лекаў і бінтоў катастрафічна не хапала, а раненых, якім тэрмінова трэба было ісці «пад нож» — на аперацыю, хапала. Вось тады і выручаў людзей белы мох. Аказваецца, ён не толькі стэрыльны, але і спрыяе хутчэйшаму загойванню раны.

Вось з такімі ўдзячнымі думкамі дзяру я мох, падношу да падводы, на душы спакойна.

І раптам спакой душы імгненна парушыла думка: «А дзе ж Казбек?» Я — тут, кабыла — тут, мы з ёй пры справе, а дзе гэты шалянец?

Кінуў я вачыма ў адзін, у другі бок — і вілы вываліліся з рук. Ад Казбека засталася толькі галава і пярэднія ногі — астатняе паглынула дрыгва.

Тут, у гэтай балоцістай нізіне, некалі капалі рыдлёўкамі торф. Даўно гэта было, мала хто пра гэта ведае. Тыя глыбокія кар’еры-ямы запоўніліся вадой, і з часам іх роўненька зацягнуў мох. Калі ісці прамікам праз балота, можна даволі лёгка трапіць у смяротную пастку. Праўда, над гэтымі ямамі крыху святлейшага колеру мох, але Казбеку было не да колеру. Ён як бег, так і ўскочыў у яму.

Падляцеў я да яго, а ён прыкладае ўсе намаганні, каб выбрацца. І чым больш ён дрыгаўся, тым хутчэй і глыбей апускаўся.

Я, наколькі гэта было магчыма, супакойваю яго:

— Казбечык, мілы, не хвалюйся! Я зараз нешта прыдумаю!

Ён, ці выбіўся з сіл, ці зразумеў мяне, перастаў дрыгацца і толькі жаласліва глядзеў мне ў вочы. Блізка да жарэбчыка я падступіцца не мог, паспрабаваў цягнуць за пярэднюю нагу — нічога не атрымалася. Няўжо так і загіне бедная жывёла на маіх вачах? Ад падводы пачулася трывожнае ржанне. Гэта маці Казбека не разумела, чаму бачна толькі галава яе дзіцяці — адчула бяду.

Раптам мяне ажно падкінула: да Харужанцаў усяго з паўвярсты — там жа людзі, яны дапамогуць! Набраў я паветра поўныя грудзі і як закрычу:

— Ого-го! Людзі! Памажыце!..

Вечар быў ціхі, ясны, і мой голас, здавалася, аблятаў вакол Зямлі і вяртаўся сюды зноў.

— Гэ-эй! Людзі! Сюды! — гарлапаніў я, і... Божа мілы! Чую адказ! Чую, што і мяне пачулі! Чую, што мне адказваюць і падбадзёрваюць мяне. Хутка крыкі пачалі набліжацца, а праз некалькі хвілін я ўбачыў мужчын — хто з сякерай, хто з вяроўкай — хто з чым. Якія малайцы харужане!

Прыбеглі і крыху расчараваліся:

— Вось табе й на! А мы ж думалі, што чалавек трапіў у гэтае пекла!..

Накінулі вяроўку на ногі жарэбчыку, паднапнуліся, пацягнулі — Казбек зразумеў, што і ён павінен дапамагаць, пачаў кідацца з апошніх сіл — і вось ён на волі! Стаіць шчаслівы, пафырквае ды абтрасае з бакоў ваду і слізкую балотную ціну.

Выратавальнікі, знаёмыя харужанскія мужчыны, задымілі цыгаркамі і расказалі, што аднойчы з гэтага ж

месца пачулі таксама крыкі аб дапамозе. Прыбеглі, а з ціны тырчыць галава не жарабяці, а чалавека. Тады нейкі паляўнічы шыбаваў праз балотца і шугануў у яміну. Прыбеглі своечасова, бо пачынала хавацца ў багну і ягоная «макаўка».

Назад я ехаў усхваляваны, і мне падалося, што ўсё жыццё я спрабую выкараскацца з нейкай дрыгвы і толькі галава мая пакуль вытыркае з чаднага балота.

## Пштык

Жыў некалі ў нашай вёсцы Васіль (чамусьці мянушку яму далі — Пштык). Жыў бядней самага беднага чалавека — нічога ў яго не было, акрамя хаты ды голых куткоў у ёй.

Жонка яго памерла даўно, дзяцей у іх не было, вось Васіль і дажываў век «нашчака» — ні парасяці, ні курыцы, ні бульбінкі... У гэткага бедака, пэўна, і мыш павесіцца ў кладоўцы.

І хоць галеча была відавочнай, Васіль старанна хаваў яе ад чужога вока. Але як схаваеш схуднелы твар з глыбока запалымі вачыма ці драныя-перадраныя лахманы, што звісалі з ягоных плячэй ды ног?

Прыходзіла нядзелька. Вяскоўцы мыліся, прыбіраліся і, паснедаўшы, выходзілі ў вольны час да варотцаў ці зусім на вуліцу, каб «на людзей паглядзець ды сябе паказаць».

Падыходзіў да сваіх варотцаў і Васіль. Клаў рукі на плот і перакідваўся словам-другім з тымі, хто прашпацыроўваў ад хаты да хаты. Але Васіль не проста выходзіў да варотцаў, а з хітрацой, з форсам. І хоць снедаў ён хутчэй за ўсё скарынкай з вадой, але пасля «снедання» даставаў схаваную для такога выпадку скварачку, якой густа намазваў вакол рота — і пад носам, і бараду, і шчокі. Вось

з такім бліскучым тварам Васіль стаяў ля вуліцы, абапёршыся на плот. Стаяў і чакаў аднавяскоўцаў.

Тыя спачатку клявалі на Васілёву нажыўку:

— Што гэта, Васіль, у цябе ўвесь твар у тлушчы?

Васіль «абураўся» і хуценька праводзіў рукой пад носам, але так, каб не сцерці намазку, і гаварыў:

— А-а, ліха на маю галаву! Гэта ж я толькі што мацання наеўся ды не паспеў выцерціся!..

Наступны аднавясковец задаваў тое ж пытанне і чуў той жа адказ...

Так і памёр ён — голы і галодны, але з высока ўзнятай галавой.

## Ой, бор... Бор...

Калі вы накіруецеся з Мінска па Даўгінаўскаму шляху, то за Жукаўкай, не даязджаючы вярсты да Карпілаўкі, пачынаецца з правага боку прыгожы бор — сасна да сасны, быццам падбіраў нехта. Убачыце яго і зачаруецеся!

А колькі ж у гэтым бары было калісьці грыбоў — лісіц, махавікоў, таўстух, сыраежак і, канечне ж,— баравікоў, чорнагаловых і важных. Мы, карпілаўцы, хадзілі па грыбы толькі ў бор, гэта ж — пад бокам, крок ступіш і — наступаеш баравіку на галаву.

А з самага краю бору, бліжэй да вёскі, рос малады сасоннік, а ў ім казлякоў, як камароў майскім вечарам,— аж кішыць...

Гэта — калі гаворка ідзе пра грыбы. А што ўжо казаць пра ягады? Ледзь толькі пачне адыходзіць май — зачырванеюць на сонечных ускрайках ды баравых «залысінах» суніцы. Ёсць ім дзе схавацца ад пякучага сонца, таму і наліваюцца яны духмяным сокам, растуць таўстыя, як качулачкі. А ўжо як заступіць «на працу» чэрвень — чарніцы апаноўваюць бор так, што ступіць не ведаеш куды!

Аж чарнічнік кладзецца на мох пад цяжарам наліўных і сакаўных дароў бору.

...Колькі б разоў ні ехаў я на машыне праз бор са сваёй мамай, яна пакачвала галавой і задуменна выдыхала ўслых:

— Ой, бор... бор...

Я не вельмі звяртаў увагу на гэтыя словы, бо ведаў, што маміна маленства, яе юнацтва ды і ўсё жыццё звязана з гэтым борам...

І сапраўды, бор — схавае ад спякоты, бор падаруе сухастоіну, якая ўратуе ад бязлітасных маразоў, бор не пашкадуе мяккага, шаўкавістага моху для ўцяплення хлеўчука, бор узбудзіць у душы хвалюючае разважанне пра неўміручыя вытокі зямлі нашай.

Зноў еду з мамай праз бор і зноў чую:

— Ой, бор... бор...

Бор быў і маім сябрам, і маім дахам. Многім я яму абавязаны — і за грыбы, і за ягады, і за ціхі роздум, і за... Не! За ГЭТА я яму не ўдзячны. Пасля ГЭТАГА бор зрабіўся суровым, маўклівым, таямнічым і нават непрыемным... Прабач, бор! Даруй, дружа! Ты не вінаваты ў тым, што з радасным сэрцам, са светлай, адкрытай душой да цябе болей не іду!

...Выбягаю я неяк раненька з кошычкам у бор — рэжу грыбкі, завіхаюся, мітусліва перабягаю ад аднаго да другога. Адзін баравічок зразаю — два-тры бачу, адну «лаціну» лісіц даразаю — другая пачынаецца. Любата! Душа грае — сэрца падпявае! Раптам... ледзь ножык не вываліўся з рукі... Ляжыць на імху чалавечы чэрап. Ляжыць і чорнымі вачніцамі на мяне пазірае...

Не скажу, што валасы на маёй галаве ўсталі дыбам, але зрабілася жутка і неяк дзікавата. Адкуль такое?! Дзесяць гадоў прайшло пасля вайны — няўжо яе водгукі?

Рэзка паварочваю ад сваёй знаходкі і амаль бягу ў процілеглы бок, не заўважаючы ні махавікоў, ні баравікоў.

У хлапечай душы — бура думак, пратэсту, спачування і болю...

Праз некаторы час крыху супакойваюся і зноў пачынаю «паднімаць» грыбы. Раптоўна (зноў раптоўна!) натыкаюся на... чалавечы чэрап. Няўжо «скруціў каўбасу»? Не! Той, першы чэрап, быў маленькі, зграбны, гэты — вялікі, прадаўгаваты, масіўны...

Ведаеце, у мяне нешта падвярнула пад лыжачкай, мне стала дрэнна, я пабег з бору — хутчэй бы дахаты. Мне здавалася, што з-за кожнай сасны на мяне глядзелі жудасныя вачніцы і вышчараліся страшэнныя пачарнелыя зубы...

...Ой, бор... бор... Якія таямніцы хаваюцца за тваёй гасціннасцю, за тваімі «разнасоламі»? Што хоча выказаць шум тваіх вяршынь? Ці не стогны закатаваных душаў чуюцца ў паскрыпваннях аднаго дрэва аб другое? Ці не кроў блішчыць у чырвані сонечных суніц? Ці не перадсмяротная сляза закралася ў сакавітасць чарніц?..

Потым, многа разоў, нейкая сіла штурхала мяне да гэтых чалавечых астанкаў, нягледзячы на тое, што такія «сустрэчы» выклікалі ў душы непрыемныя адчуванні. Гэта працягвалася да таго часу, пакуль я іх не пахаваў.

Чарговы раз чую ад мамы: «Ой, бор... бор...» — і настойліва распытваю яе пра глыбінны сэнс гэтых сціплых слоў...

Таго, што расказала мама пра бор, хапіла б на вялікую кнігу, але я мінаю маміна дзяцінства, юнацтва, паншчыну, калгаснае падняволенне і многае іншае, а раблю невялічкія «прыпынкі» на дзвюх падзеях, звязаных з мінулай вайной...

Партызанскі рух на Беларусі стварыўся амаль імгненна — толькі нямецкі бот ступіў на нашу зямлю, як людзі, чые рукі былі звыклыя да плуга ды сякеры, узяліся за зброю і пайшлі ў лясы.

Але былі і іншыя рукі — «гарадскія», тых людзей, чые сэрцы і сумленне клікалі на барацьбу з захопнікамі.

Шмат юнакоў і дзяўчат добраахвотна рваліся на фронт, у партызаны, стваралі падпольныя суполкі. Слава вам і пашана за гэта, суайчыннікі!

Думаю, што менавіта такія патрыятычныя пачуцці прывялі з акупіраванага Мінска ў нашыя лагойскія лясы прыгожую маладую дзяўчыну Валю (прозвішча, на жаль, не ведаю). Яна шукала партызан і... лепей бы яна іх не знайшла...

Час быў суровы, ваенны — на карту было пастаўлена жыццё Радзімы, таму дзяўчыну Валю партызаны сустрэлі падазрона, нават варожа.

А яна, як на тое ліха, прыгожа апранулася — новы расшыты кажушок, бліскучыя боцікі, сама — як кветка. Вырашылі партызаны, што яна — варожы лазутчык, вывелі яе, бедную, у бор, мучылі, дапытвалі, нарэшце, не дабіўшыся «прызнання»,— раздзелі і расстралялі... Нават не пахавалі... Дык вось чый быў маленькі, зграбны чэрап...

...Ой, бор... бор... Ці не таму твае прыгожыя сосны ззяюць залацістай чырванню, што іх карані ўвабралі разам з вільгаццю і святую чалавечую кроў?..

А вось другі «прыпынак» маміных успамінаў, звязаных з прыгажуном-борам.

Карпілаўка не была яшчэ спалена немцамі, але яны наведваліся ў яе, «прымяраліся».

Аднаго дня мой старэйшы брат Коля (сёння ўжо нябожчык), тады малады і гарачы партызан, ехаў на такім жа маладым і гарачым жарэбчыку ў разведку ў бок Жукаўкі. Толькі ад'ехаў ад Карпілаўкі, як убачыў немцаў, якія рухаліся з Мінска яму насустрач. Крутнуўся ён у густы ельнік ды назад, а конь занараўіўся — ні з месца. А да Карпілаўкі — рукой падаць, а там жа — людзі, там — маці з малымі братамі і сястрой... Цудам ён «угаварыў» таго жарэбчыка, хоць і пазнавата, а ўскочыў у вёску, падняў усіх на ногі. Утварылася паніка, уцякалі хто як

мог у бок Вялікага Поля, за якім пачынаўся ратавальнік-лес...

Сёння, паміж борам і Карпілаўкай, уздоўж ручайка (тады рачулкі) узняўся сцяной альшэўнік ды бярэзнік, а тады — Карпілаўка з бору як на далоні...

Толькі мы адбеглі ад Карпілаўкі метраў сто, як немцы пачалі «палівацьь» з кулямётаў па нас. Мы заляглі, як тыя мышы, у траве, баімся варухнуцца. Некаторых маладых хлопцаў гарачая кроў кінула на коней — думалі, што конскія ногі хутчэй кулі, і, зрабіўшыся мішэнню, былі пасечаны кулямі на вачах сваіх маці...

Мама прыціскала мяне, маленькага, да грудзей і, затаіўшыся, ляжала паміж купін. Потым перакруцілася — «памяняла» ногі з галавой, каб паўзці да лесу, і ў гэты момант куля трапіла ў тое месца, дзе імгненне назад была маміна галава — у нагу, каля ступні... Хоць сыходзіла крывёй, але жыць засталася, а з ёй — і я...

...Даўно няма мамы, забрала яе зямелька, але я, едучы з Мінска ў родную Карпілаўку, заўсёды за Жукаўкай пазіраю направа і з цяжкасцю выдыхаю:

— Ой, бор... бор...

P. S. Напрыканцы 2016 года, дзякуючы руплівцу Паўлюковічу Аляксандру Пятровічу, які «ператрос» безліч архіўных матэрыялаў, стала вядома імя расстралянай вясной 1944 года партызанамі дзяўчыны ў бары ля вёскі Карпілаўка.

Гэта — Кухцінская Валянціна Іосіфаўна, 1925 года нараджэння, ураджэнка мястэчка Ушачы Віцебскай вобласці.

На пачатак вайны жыла і працавала ў Мінску.

Ёй было няпоўных 19 год.

# Асфальт на сэрцы

Ёсць людзі, якія з вялікім жалем і пякучым болем развітваюцца з мінулым. Такім людзям надзвычай цяжка жыць: кожны дзень — успаміны, успаміны, успаміны. Душа — несціхаючыя перажыванні, сэрца — незажываючая рана. Людзі з такімі абвостранымі пачуццямі больш знаходзяцца ў мінулым, чым у сучасным, хоць многа, заклапочана і ўсхвалявана дбаюць пра дзень наступны...

Ёсць і другі склад людзей, якія жывуць СЁННЯ — дзень да вечара. Клопаты аднаго дня не патрабуюць вялікіх намаганняў — ні фізічных, ні тым больш душэўных, маральных. Прачнецца такі чалавек раніцай і спакойна думае: вечар блізка — чаго хвалявацца, а заўтра будзе бачна, што далей... Мінулае такія людзі ўспамінаюць рэдка і неахвотна — якая карысць з таго, што ўжо было і ніколі не вернецца? Толькі галаву заб’еш пустым і непатрэбным...

Добра жыць гэтым людзям — яны быццам падарожнікі, што ідуць улегцы — аніякай ношы, ні ў руках, ні за плячыма. Выбрыквай нагамі па дарозе, выстуквай сабе абцасамі па каменьчыках ды размахвай рукамі — мух адганяй...

На шчасце ці на пакуты — я належу да першых.

Я не магу ўявіць сябе без родных мясцін, без сцяжынак дзяцінства, якія ніколі не зарастуць, бо сэрца водзіць мяне па іх штодзённа, без казачных мараў юнацтва, якія прысутнічаюць у кожным дне, у кожным сне маім...

Я чую галасы тых, каго, на вялікі жаль, няма сёння з намі — галасы маіх працавітых і надзвычай цікавых аднавяскоўцаў, маіх сяброў, якія рана сышлі ў магілу...

У маім сэрцы гучыць жывы, родны і такі неабходны голас маёй мамы. Я штодзённа адчуваю яе побач з сабой і ніколі не пагаджуся з тым, што яна памерла — яна часова адсутнічае, некуды адышлася, ад’ехалася, яна — ёсць...

З любоўю і цеплынёй думаю пра тату, які жыў і пайшоў з жыцця як сапраўдны, высакародны мужчына...

Калі надыходзіць ноч, галасы і падзеі мінулага абступаюць мяне асабліва шчыльна, праяўляюцца з настойлівай сілай і вастрынёй, захапляюць мяне і, часцяком, не адпускаюць да раніцы.

Можна многа ўсяго пералічваць, без чаго жыццё страціла б сэнс, але на гэта не хопіць паперы, ды і самога жыцця.

Закрану толькі адну падзею, якая прынесла радасць усім, хто мае да яе дачыненне, але ў маёй душы яна выклікала шчымлівы боль.

Падзея гэта надзвычай ардынарная, звычайная для сённяшняга дня. Ну, падумаеш, паклалі праз вёску асфальт, ні табе пылу, ні табе гразі — адна выгода ды «культура» пад самымі вокнамі.

Але мая думка — іншая. Вёска страціла сваю глыбінную самабытнасць. Зруйнавалі, закапалі і, нарэшце, замуравалі мёртвай скарынкай тое месца, тую «рачулку», якой карысталіся дзесяцігоддзі, а мо і стагоддзі нашыя продкі.

Сёння мне немагчыма ўявіць сваю маму, свайго тату, маіх суседзяў — Дзям’яна, Юрку, Тодара, Габрэля і іншых — на гэтай, такой няўтульнай і «чужой» вуліцы. У маёй жа роднай Карпілаўцы жыў, а значыцца, і хадзіў па вуліцы знакаміты пісьменнік Антон Іванавіч Лявіцкі (Ядвігін Ш.). Тут, у свой час, былі Я. Купала, М. Багдановіч, У. Галубок, З. Верас, Я. Лёсік, П. Бадунова і іншыя значныя для гісторыі Беларусі асобы — цэлае суквецце талентаў...

Я і сам, амаль паўвека, прабегаў, прахадзіў, пратпацыраваў па гэтай святой зямліцы, яна давала мне сілы і ўпэўненасць, я адчуваў яе жывы подых. Я мог ступіць крок па той першароднай вясковай вуліцы, прыпыніцца і расказваць пра многія падзеі, сустрэчы, размовы, якія

адбыліся менавіта на гэтым месцы. Зноў ступіць крок — і зноў расказваць...

Вуліца — гэта своеасаблівы летапіс, гісторыя вёскі, яе былых і сучасных жыхароў і падзей.

Сёння я з тужлівым жалем і пякучым болем іду па роднай вёсцы, а паміж мной і пяшчотнай зямлёй-святыняй ляжыць абыякавая да ўсяго скарынка асфальту.

Мне холадна, няўтульна на ім, быццам асфальт паклалі на маім сэрцы...

## Пайсці «на сяло»

Ці ведаеце вы, што азначалі ў вёсцы зусім нядаўна — нейкіх трыццаць — сорак гадоў назад такія словы, як «пайсці на сяло»? Баюся пачуць адказ...

Сёння гэтыя словы амаль пакінулі нашыя вёскі — ад гэтага балюча, шчымліва, непапраўна тужліва і горка.

Мы згубілі, магчыма, апошні вугельчык таго агню, ля якога маглі грэцца ўсе разам — адзін аднаму неабходныя, патрэбныя, годныя. Што такое трыццаць гадоў?!. А што ж будзе, скажам, праз трыста?!.

Дык вось — кідаеш гной ці варочаеш сена, адным словам — працуеш, і між справай пытаешся ў Юркі, Федзі ці Зосі:

— Да каго сёння пойдзем на сяло?

— Як да каго? — пытаюцца ў адказ.— Мы ж заўчора былі ў Лявона, учора — у Тодара. Сёння пойдзем да Дзям'яна!

Да Дзям'яна дык да Дзям'яна!

Вечарам абтрасешся ад пылу, абмыешся ад гною, вып'еш сырадою і — на сяло!

Дык што ж такое — пайсці на сяло? Гэта свята! Урачыстасць! Гэта — прыгажосць чалавечых адносінаў, падараваная нам нашымі продкамі!

Памытыя і падсілкаваныя, мы збіраліся па чарзе кожны вечар у нейчай хаце. Збіраліся дзеля таго, каб выказаць нявыказанае, каб ахвяраваць прысутным выспелае ў душы светлае пачуццё, каб лёгкім жартам падтрымаць, разварушыць змардаванага працай аднавяскоўца...

А што было тады, калі трапляла ў вёску незнаёмая кніга? Чыталі яе па чарзе ўслых, зачытваліся, заслухоўваліся. Пісьменнік быў для нас Богам, правідцам, быў выратавальнікам. Літаратурнае слова было той патаемнай крыніцай, з якой мы, малапісьменныя, пілі і не маглі напіцца. Дзякуй вам, творцы слова, напоўненага сэнсам. Я і сёння схіляюся перад вамі за тое, што разам з вамі, дзякуючы вам, рос, выхоўваўся, прыкладаў намаганні, каб чалавекам звацца...

Дык што ж такое — пайсці на сяло? Гэта — падтрымка адзін аднаго, гэта — адчуванне неабходнасці адзін аднаму, гэта — адказнасць адзін перад адным...

Дзякуй Богу, што сёння ў маёй роднай Карпілаўцы душа можа глынуць глыточак мінулага — і я іду «на сяло» да Лявона і Галі Васілевічаў.

## Яго вялікасць сала

Я, шчыра кажучы, не ведаю аніводнай краіны ў свеце, дзе сала лічылася б асноўнай ежай. Свіней і там вырошчваюць, мяса ў розным выглядзе ўжываюць, ды і сала, напэўна, дадаюць пакрысе ў розную страву, але каб «жыўём»? — адно сала? — такога не бачыў і не чуў.

Наша вёска, можна сказаць, на сале едзе і салам паганяе. Чаму так? Ад беднасці — і другога адказу быць не можа.

Думаеце, наш бяззубы вясковец не з’еў бы розную рыбу ці тое ж мяса, але кожны дзень свежае ды замудрагеліста прыгатаванае, ці ўсялякія стравы з птушкі, ці зі-

мой свежанькую клубніцу? З’еў бы і парэпаныя пальцы абсмактаў. Але беларускаму селяніну наканавана сала з году ў год — кожны дзень. Стоп! Тут я трохі прыхлусіў. О, каб у вёсцы ды на стале кожны дзень сала! Тут свае сальныя «цыклы».

Той, хто пра вёску не «вухам чуў», а жыў у ёй, ведае, што дачакацца свежыны — гэта вялікае свята. Гэта — канец вымушанаму посту. У гэты дзень стол трашчыць ад падсмажанага сала, скабкаў, пячонкі. Многа выпіваецца і з’ядаецца за такім сталом. Гаспадыня — узрушаная, шчаслівая, не трэба ламаць галаву, чым затаўчы капусту ці кашу. Гаспадар задаволены — не пужае цяжкая праца, калі повен жывот трываласці і смаку. Адным словам, гаспадары ад’ядаюцца, дзеці — цягнуць поўныя сумкі з бацькоўскай хаты.

Першы парсюк колецца звычайна перад Новым годам, калі ўсталёўваюцца халады. Гэты парсюк хутка ідзе ў расход, бо праз які месяц-два сваёй чаргі чакае другі, асноўны. Вось ужо сала другога парсюка плануюць на доўгую перспектыву, па сутнасці — да наступнай, перадnавагодняй свежыны. Але галоўную ролю сала павінна сыграць у час касьбы, бо галодны мужчына — не работнік, а трэба ж на зіму пуньку сенам шчыльна напхнуць. Кажуць жа — па малаку ног не павалаку...

Як правіла, калі заканчваецца сенакос — канчаецца і сала і іншыя мясныя запасы, бо моцна дае «пад дыхала» сенакосу Вялікдзень. У гэтае свята не шкадуюць нічога — ні каўбасак, ні паляндвічкі, ні кумпячка. Вось з канца лета чалавек вымушаны пасціцца да канца года...

Трэба сказаць яшчэ пра адну акалічнасць. Каб сала захавалася да сенакосу і не псавалася летам, яго трэба добра ўсаліць, а тут, як вядома, хаваецца вялікая небяспека здароўю, бо спечаную скварчыну летам немагчыма ўзяць у рот — адна горкая соль, ды і пах ад такога пераляжалага сала не вельмі прыемны. Крыўдна прызнацца, але

ніводны чалавек з так званага «цывілізаванага» свету і не падумае ўзяць у рот яго, а мы кожны дзень — усё жыццё ўжываем сала, сала, сала.

Я нездарма назваў вяскоўцаў бяззубымі — яны сапраўды ў сорак — пяцьдзесят гадоў «губляюць» зубы ад крытычнага недахопу вітамінаў.

І усё ж сёння сала — адзіная апора і надзея беларускай вёскі. Не будзе есці вясковец сала, а пачне чакаць патрэбны яго здароўю, усясветна прыняты «да стала» асартымент ежы — зусім памрэ з голаду...

Таму, выкінуўшы з галавы розныя замежныя прысмакі, мы вымушаны называць сала ЯГО ВЯЛІКАСЦЮ.

## Радыяцыя

Апошнія гады мы ўсе зрабіліся занадта «падкаванымі». Спытайцеся сёння ў любой вясковай бабулі, якая не скончыла аніводнага класа:

— Ці чула ты, бабка, пра бэры ды пра кюры?

І хоць бабка ад старасці забылася сваё імя і год нараджэння, тут жвава адкажа:

— Гэтаж радыяцыя, дзеткі, каб на яе галаву стронцый!..

Пасвіць мой знаёмы калгасных цялят і кожны дзень — п’яны «ў сцельку». Цікаўлюся:

— Што гэта ты, Шурка, штодня лыка не вяжаш?

Адказвае:

— Ад атм... чуся...

Пасля многаразовых удакладненняў нарэшце зразумеў яго адказ, які ў цвярозага гучаў бы: «Ад атама лячуся...»

Перадаюць з суседняй вёскі, што адмучаўся, памёр мой добры знаёмы. Хвароба сучасная — рак шчытападобнай залозы. Толькі пахавалі яго, як з другой вёскі

прыйшла вестка: «Памёр Міхась...» Хвароба — тая ж. Зноў, як сказала бабуля,— радыяцыя...

Радыяцыя прыйшла на нашу зямлю, у нашыя дамы, у нашу кроў. Радыяцыя — у нашым горкім, пакутлівым лёсе...

— Шчаўя не ешце! Грыбоў бойцеся! Ягад асцерагайцеся! Гэта — не ўжывайце! Гэта — правярайце! На траве не ляжыце! У лес не хадзіце! — вось што маем мы да канца жыцця, гэта ж застанецца многім будучым пакаленням.

Нас запэўнівалі: «Мы ідзём нязведаным шляхам! Мы — першапраходцы! Мы — будуем светлую будучыню!..» Дабудаваліся... Нязведаны шлях прывёў нас да жабрацтва... Але нават з таго эканамічнага тупіка, у якім мы апынуліся, ёсць выйсце, жыве надзея. А вось радыяцыя — гэта пастка. Жыць у гэтай пастцы нам, дзецям нашых дзяцей. Жыць і заўчасна паміраць, паміраць і жыць — хварэць, выжываць і чакаць, чакаць, пакуль закончыцца паўраспад і распад многіх элементаў, якія непісьменная бабуля абагульніла ў адно фатальнае для нас слова — РАДЫЯЦЫЯ...

## Боскі храм

Цяжка знайсці чалавека, які б не любіў лес, не лічыў яго сваім сябрам, які б у вольную гадзіну не імкнуўся адпачыць душой сярод непаўторнай лясной прыгажосці.

Варта толькі трапіць у яго шчырыя зялёныя абдымкі, як напружаныя клопаты мітуслівага жыцця адступаюць, аддаляюцца, знікаюць.

...Пасляваеннае дзяцінства. Голад, галеча. Дзеці ў гарадах з раніцы да вечара лазілі па руінах дамоў, па ацалелых падвалах ды закураных каменных сценах. Усюды — горы бітай цэглы, пыл, смецце...

Нас, вясковых блазнюкоў, «выхоўваў» лес. Дарослыя ад цямна да цямна былі занятыя катаржнай працай у калгасе ды іншымі жыццёва неабходнымі справамі. Ім было не да нас.

Лес карміў нас, лес спяваў нам сваю векавую калыханку, лес быў нашай калыскай, нашым домам, ён ахвяроўваў дзіцячым сэрцам сваю дабрыню і пяшчоту. Ці не таму абсалютная большасць пісьменнікаў і паэтаў — выхадцы з вёскі?

Крыху пазней, «выкарабкаўшыся» з дзіцячых штанцоў у юнацкую вопратку, я з новай сілай цягнуўся ў лес, дзе зачароўваўся яго мудрай задуменнасцю, захапляўся чысцінёй шаўкавістых імхоў, дзе я не саромеючыся мог падысці да бярозкі, абняць яе і ўлюбёна сказаць: «Якая ты прыгожая!» Я адчуваў узаемную любоў лесу і быў самым шчаслівым чалавекам на зямлі.

Адзін з маіх вершаў пачынаецца радкамі:

Мой родны лес, як боскі храм,—
Шчыруе сзрца ў гэтым храме...

Сталеючы і глыбей закапваючыся ў складанасці жыцця, я ніколі не расставаўся з лесам, таму «эвалюцыя» яго лёсу праходзіла і праходзіць у мяне на вачах.

Крыўдна, горка, сумна і балюча бачыць, як пакутуе твой сябар, як безгаспадарча, бескантрольна, за хвіліны знішчаецца тое, што «выкормлівалася» зямліцай дзесяцігоддзямі.

Напрыклад, адразу за Жукаўкай злева, як ехаць з Мінска гіа Даўгінаўскаму шляху, быў прыгожы дубовы гай. Гэты гай налічваў каля ста дубоў. Унікальнае месца!

Праз дарогу, справа ад Даўгінаўскага шляху, да рэвалюцыі была карчма, заезджы двор, жылі людзі — так званае Здарэнне. Думаю, што, часцяком ездзячы па згаданаму шляху, і Ядвігін Ш., і Янка Купала неміналі здарэненскую карчму, бачылі падрастаючыя дубкі.

Дык вось гэты дубовы гай выкарчавалі, знішчылі, бо некаму вельмі «спадабаўся» утульны куток пры дарозе, на якім... сёння густа (ды без густу) налеплены дачы...

Крыўдна, горка, сумна і балюча бачыць і тое, як паступова лес ператвараецца ў сметнік. Варта толькі сысці з дарогі, як на кожным кроку — смецце, смецце, смецце. Кучы, горы смецця. Гэта packaраўнальна з тым, калі б у празрыстую крыніцу выліць з-пад гноя жыжку, а потым чэрпаць і піць тую ваду...

А мы ж гэтак і робім — забруджваем лес і імкнёмся да яго, захапляемся ім. Відаць, не зразумела многім «гаспадарам» сваёй зямлі і тым «чысцюлям»-дачнікам, што бруд кідаюць яны не толькі ў лес, а і ў будучыню сваіх дзяцей, унукаў.

Мы, людзі, з жудаснай абыякавасцю нявечым тое амаль адзінае, што дае нам сілы ўтрымлівацца на краі бездані.

Лес, баронячы наша здароўе, ратуючы нашыя душы ад жорсткасцей часу, аказаўся сам безабаронным, бездапаможным перад нашай жорсткасцю. Мы здрадзілі сябру, мы здзекуемся з яго, мы забруджваем і знішчаем створаную не намі бясцэнную каштоўнасць і прыгажосць.

## Забойства

Нічога вечнага не бывае... Які б доўгі ні быў чэрвеньскі дзень, а вечар надыдзе. Як бы ні ўпрыгожвалася вясной і летам наваколле, а да восені адцвітуць красачкі ў полі, а потым зжаўцее лісце і з ціхім сумам, пакінуўшы родныя галінкі, ляжа на астылую зямлю. Як бы доўга ні цягнулася жыццё чалавека, а сысці ў магілу мусіць кожны... Нічога вечнага не бывае...

Шарык быў малады і задзёрысты. Калі нехта чужы збіраўся зайсці ў хату — мусіў перад ганкам сцішыць

ходу і зусім прыпыніцца. Шарык уздымаў такі вэрхал, так рашуча кідаўся наперарэз кожнаму чалавеку, ледзь са шкуры не выскокваў — ажно ланцуг трашчаў. Ноччу гаспадары спалі спакойна — такі вартаўнік надзейней любога замка.

Але... і Шарык быў не вечны — надышлі старасць, глухата, бяссілле. «З'еліся» зубы, нейкі туман убіўся ў вочы, поўсць сыпалася, як з дзіравага меха сечка.

І хоць шкадаваў гаспадар сабаку, ды трэба заводзіць новага — маладога, пільнага. Але не карміць жа двух — дзе ж набрацца ў вёсцы тых харчоў, калі нават парасяці не ведаеш што даць, каб нейкая скварчына была ў кубёлку?

Узяў гаспадар вяроўку, закруціў вузельчык на Шарыкавай шыі, ускінуў на плячо ружжо — і пайшлі яны ў лес... Шарык адчуваў штосьці нядобрае, але за сваё доўгае сабачае жыццё прывык давяраць і слухацца гаспадара, таму цяпер паслухмяна і сумна клыпаў за ім. Прамінуўшы густы ельнік, прыпыніліся на палянцы, дзе чалавек прывязаў сабаку да сасны, адышоўся, рэзка зняў з пляча ружжо і, баючыся глядзець у вочы сабаку, выстраліў. Спалоханы лес адгукнуўся трывожным рэхам. Чалавек бачыў, як нейкая сіла падкінула Шарыка ад зямлі і зноў кінула на яе, бездапаможнага і нерухомага.

Не адвязваючы вяроўкі, чалавек рашуча пакрочыў ад гэтага жудаснага месца, выціраючы на хаду памакрэлыя вочы...

...Мінула два тыдні. У чалавека быў ужо другі сабака — малады і дзёрзкі, услужлівы і пільны. Чалавек стараўся не думаць, не ўспамінаць пра забітага былога сябра, і жыццё зноў набыло клапатлівы, працоўны рух вясковага жыхара.

Але аднойчы вечарам, калі чалавек стомлена сеў на ганак і з асалодай закурыў, гледзячы сабе пад ногі, ён усёй істотай адчуў на сабе нечы погляд. Чалавек здрыгануўся і ўзняў галаву. Перад ім стаяў Шарык — схуднелы

і змучаны, з выбітым вокам і перабітай пярэдняй лапай, якая крыва зраслася. З шыі звісала ўся ў запечанай крыві вяроўка. Шарык хістаўся і даверліва глядзеў адным вокам у вочы гаспадару. Цяжка паранены, ён выжыў, залізаў раны, перагрыз вяроўку і аддаў апошнія сілы, каб прыйсці да таго, каго лічыў сваім адзіным сябрам.

### «.....»

У свае чатырнаццаць гадоў я даволі моцна «захварэў» паляваннем. А перадалася мне гэтая хвароба ад старэйшага брата Косціка, які начытаўся паляўнічай літаратуры, наслухаўся розных манюкаў і за апошнія капейкі купіў ружжо. На выхадныя дні ён наязджаў да нас у Карпілаўку з Мінска. З адным ружжом мы з Косцікам цягаліся па лясах з ранку да вечара, бабахалі налева і направа. У буднія дні я заставаўся гаспадаром ружжа...

Аднаго дня, калі ад марозу і мяцеліцы нельга было нос выткнуць за дзверы, я ўскінуў на плячо ружжо, падперазаўся патранташам і падаўся ў лес — паляўнічага ж ногі кормяць.

Мяне ўвесь час цягнула да Вапеннай гары —там непралазная глуш, мноства розных слядоў, асабліва рысіных, а мне вельмі хацелася запаляваць рысь, хоць тады я не ведаў, з якога боку да яе падступіцца...

Гудуць дрэвы, стогнуць ад ветру, але ў лесе мяцеліца з ног не валіць — значна зацішней у ім. Ружжо — напагатове, вочы пільна абмацваюць кожны куток.

Раптам з сасны на сасну пералятае рабчык, чапляецца за ніжні сук, і не паспеў я ўскінуць ружжо, як ён спікіраваў на снег у густы ельнічак. Я застыў і не зводзіў вачэй з невялічкага прасвету сярод елачак — павінен жа недзе мільгануць рабец. Стаю ў «сабачай стойцы», дрыжу ад

азарту, не міргаю. Не, думаю, я цябе перахітру, цярпення ў мяне хопіць!

Прайшло з паўгадзіны —толькі я хацеў плюнуць і пайсці далей, як у невялічкім «акенцы» паміж елачак нешта варухнулася (а мо падалося).

На ўсякі выпадак складваюся і бабахаю ў тое акенца. Нічога не ўзляцела... Няўжо забіў рабчыка?! А можа, там нікога і не было?!.

Хвалююся, не перазараджаю ружжо і бягу да таго месца. Падбег і... ледзь сам не грымнуўся з усіх чатырох — нічога не разумею.

Перада мной на бялюткім снезе ляжыць мацёры вогненны ліс! Вось гэта дык ого!

Аказваецца, пакуль я, раскрыўшы рот, стаяў і чакаў рабчыка, ліс, які прабягаў непадалёку, пачуў свежыя сляды птушкі і хацеў паласавацца «маім» рабчыкам, але, бедалага, папаўся сам...

Падвязаў я цераз плячо багаты трафей і з важнецкім выглядам пакрочыў праміком у Лысую Гару, дзе жыў самы сталы наш брат Коля. А дарога ў Лысую Гару пралягае праз Буды, вось я і «купаўся» у паляўнічай славе, нядбайна адказваючы на шматлікія пытанні жыхароў тых вёсак:

— Ліс пёр, як маланка, нават вочы не паспявалі за ім, але мой стрэл імгненна спыніў яго... Ды гэткіх лісаў я магу страляць хоць кожны дзень...

Назад у Карпілаўку я ішоў праз Жукаўку — трэба ж было і там заявіць аб сабе...

«Пакарыўшы» Жукаўку, я праміком, цераз лес і лугі падаўся дамоў Раптам чую, як недзе ў лесе сабака «з галасам» гоніць зайца. Па брэху пазнаю Абісінцавага ганчака, які самастойна, без «непрасыхаючага» гаспадара, штодзённа бегаўу лес і «зганяў ахвоту», ганяючы зайцоў.

Прыслухаўся — брэх набліжаецца да мяне. Скокнуў

я пад лазовы куст, і — зноў спёрла дыханне, дрыжу ад азарту.

Бачу, як па лузе прама на мяне паволі клыпае заяц. Наогул, заяц ад сабакі ўцякае не з усіх ног, а з прыпынкамі, прысядаючы на заднія лапы і «стрыгучы» вушамі паветра.

Гэты таксама — скок, скок — сядзе, скок, скок і паслухае...

Не «дакульгаўшы» метраў дваццаць да мяне, заяц сеў і натапырыў вушы. Сядзіць слупком, як на талерцы,— толькі страляй! Я старанна прыцэльваюся і думаю: «З аднаго боку — вісіць ліс, з другога — заяц! Такога яшчэ свет не бачыў! Прыйдзецца зноў ісці ў Лысую Гару праз Буды...»

Пакуль мае мазгі малявалі такія карціны, заяц зрабіў рэзкую скідку ўбок, каб збіць са следу сабаку,— я толькі паспеў ціскануць на курок, але заяц паспяхова паказаў мне адно месца і знік, растаў у снежнай завірусе.

Я, ад злосці на сябе, схапіў з галавы шапку, кінуў пад ногі і давай таптаць яе нагамі, абзываючы сябе самымі апошнімі словамі: « . . . . », « . . . . » і гэтак далей.

## Суперпадарунак

Самае цяжкае — выбраць і купіць падарунак, калі ідзеш да некага на дзень нараджэння. Бывае, падабаецца падарунак — ды не дазваляюць грошы, цана «кусаецца», а калі грошы ўсё ж дазваляюць — дык падарунак, як кажуць, ні сабе, ні людзям. Вось і збіваеш апошнія падэшвы, туляючыся па крамах.

Што ні кажыце, а складаная гэта справа — хадзіць на дні нараджэння! Уручаеш імяніннiку тое, што купіў, і бадзёра «падсалоджваеш»:

— Вось! Самае лепшае і дарагое купіў! Спажывай!

А ў беднага імянінніка ад разгубленасці сківаца адвісла, вусны дрыжаць ад крыўды, а вочы дык зусім крычаць:

— Што ты мне купіў?! Я ж разлічваў на большае!..

Гэтак можна і свята сапсаваць, і наогул з гаспадаром пасварыцца.

Але пажартавалі, і хопіць!

Прыехала ў маю Карпілаўку да сваіх бацькоў на адпачынак маладая жанчына з мужам і сынам аж з далёкай Керчы. У той Керчы ўсёй радасці — адно толькі мора, ды і тая адзіная радасць — для іншагародных адпачываючых і турыстаў. Мясцовым жыхарам — не да мора.

Трэба яшчэ дадаць, што ў той Керчы грыбамі і не пахне, а ў нас — лясы гніюць ад іх. А дзе вы бачылі чалавека, які б не любіў збіраць грыбы, асабліва баравічкі? Вось і гэтыя керчанцы за грыбамі ажно калоцяцца, гаворку пра іх з языкоў не скідваюць і кожную раніцу бягуць, спатыкаючыся, у лес...

Але грыбы — не мох, не растуць па ўсім лесе без разбору. Кожны грыб любіць свае мясціны, ды і год на год не прыходзіцца. Напрыклад, мінулым годам — баравікі раслі па барах, па белых імхах, сёлета — па бярэзніках ды пад дубамі, наступным годам — могуць прытаіцца ў ельніках. Тут патрэбен асаблівы нюх. Можна цэлы дзень працягацца па лесе, а знайсці аднаго казляка, ды і за таго чэрві б'юцца. А можна і за гадзіну-дзве нарэзаць баравікоў — як падняць...

Пабягуць чуць свет керчанцы ў лес, ногі адаб'юць па самую паясніцу, а нясуць дамоў нейкія сыраежкі, паедзеныя смаўжамі, чашчавікі счарнелыя, куркі ды некалькі лісіц, адным словам — смецце.

Я звычайна ў лес не спяшаюся — у мяне «свае» запаведныя куткі. «Мае» грыбы — будуць мне! Ды і па лесе я іду паціху, туды-сюды крутнуся, прыпыняюся, аглядваюся — грыбы гэта любяць і не хаваюцца.

Некаторы грыбнік імчыць па лесе, як лось, задраўшы

галаву і збіваючы нагамі тое, што шукае, быццам грыбы растуць не пад нагамі, а на дрэвах.

Іду я з лесу дамоў — кошык паўнюткі адных баравікоў, ажно вывальваюцца. Параўняўся з хатай, у якой гасцююць керчанцы, і быў вымушаны прыпыніцца, бо яны ўбачылі мяне праз вокны і выскачылі на двор — ледзь дзверы з завесамі не знеслі.

— Ай! Ой! Які цуд! Які жах! Дзе быў? А мы ж — ні разу! А ты ж кожны раз!..

А потым маладая жанчына слёзна папрасіла:

— Калі не хочаш, каб у мяне разарвалася сэрца,— не хадзі болей пад нашымі вокнамі з такой прыгажосцю! Вельмі прашу — пашкадуй мяне!

Я прыйшоў дахаты, напіўся вады, скінуў боты і сеў адпачыць на лаўку. Праз дарогу, на лузе збіралі рамонкі дзве дзяўчынкі — Кацюнька і Ірачка. Назбіралі вялізныя букеты і ідуць ля нашага плота, аб нечым шчабечуць. Пытаюся ў іх, навошта так многа рамонкаў, а яны адказваюць:

— Сёння ж у цёці Наташы — дзень нараджэння!

Я і рот раскрыў. Цёця Наташа — гэта ж керчанская жанчына, у якой ледзь сэрца не разарвалася ад маіх баравікоў.

Я падскочыў з лаўкі, нібы сядзеў на вострым цвіку, схапіў кош з баравікамі і — подбегам да суседзяў. Заскокваю ў хату і стаўлю ля ног імянінніцы свой падарунак:

— З днём нараджэння! Гэта вам! — і бачу, як вусны жанчыны заквітнелі радаснай усмешкай, а ў вачах успыхнуў шчаслівы агеньчык.

## «Жыдоўская» гара

Толькі я прыехаў на сваім «карчу» — «Жыгулях» — у Карпілаўку, як да мяне прыбегла Левандоўская Надзя і залямантавала скрозь слёзы:

— А мой ты братачка! Памажы ж ты мне! А трэба ж ехаць у Лагойск у суд! А з Карпілаўкі ж у Лагойск можна трапіць толькі праз Мінск! А я б адна і праз Мінск даехала, а мне ж патрэбны дзве сведкі! А яны ж на аўтобусе праз Мінск ехаць адказваюцца — гэта ж за дзень не справішся...— і сыпле, і сыпле...

У мяне аж галава закруцілася ад такога «наскоку».

— Пачакай, Надзя! Што за суд, што за справы ў Лагойску?..

Высветлілася, што беднай жанчыне, якая ўжо восьмы дзесятак свайго жыцця пачала ўжываць, трэба ехаць у лагойскі суд і даказваць, што чорнае — заўсёды застаецца чорным...

Надзю, калі яна была дзяўчынай, немцы ў сорак трэцім годзе пагналі ў Германію — у рабства. Глынула яна гора, аж горка стала на ўсё жыццё...

І вось сёння састарэлай і спрацаванай жанчыне немцы абяцаюць заплаціць некалькі марак за тое, што рабавалі і зневажалі. Але, аказалася, не проста атрымаць той «гасцінец» — часу прайшло многа, дакументаў аніякіх, сведкі павыміралі — тупай, чалавеча, у суд, даказвай, што ты ў вайну не цукеркі смактаў, а гора гараваў...

Я згадзіўся звазіць былую падняволеную з сынам і двух сведак у Лагойск — карона з маёй галавы ад гэтага не зваліцца.

Раніца выдалася сонечная, ласкавая. Сведкі — знаёмыя мне з дзяцінства бабы, гаваркія і цікавыя, сама Надзя — таксама свайму языку спакою не давала — не паездка, а ўзнагарода за «сухое», афіцыйнае гарадское жыццё.

Зрабіла Надзя ў Лагойску неабходную справу, уціснуліся мы ў маю машыну і коцім назад.

Толькі мінулі шашу, што вядзе на Хатынь, як адна са сведак — Настаровіч Таццяна — і кажа, паказваючы ўправа:

— А вось гэта — Жыдоўская гара!..

Мы зірнулі на мільгануўшую гарушку і нічога не разгледзелі, акрамя зубчатага лесу на ёй.

— Што за гара? Чаму так завецца? — пытаюся ў Таццяны.

Яна адвяла ад лесу памакрэлыя вочы і ўсхвалявана, нібы гэта было ўчора, расказала пра няшчасных яўрэяў — нашых землякоў з Лагойшчыны.

— Памятаю,— з болем выдыхнула Настаровіч,— як немцы забіралі з нашай вёскі яўрэйскую сям'ю з малымі дзецьмі, сярод якіх быў і мой аднакласнік Міша. Ён рос вельмі здатным хлопчыкам, імгненна рашаў самыя складаныя задачы ў класе... І яшчэ ён быў надзвычай вясёлы — увесь час усміхаўся, быццам адчуваў, што не дасмяецца ў сваім жыцці... Калі гналі іхнюю сям'ю,— працягвала Таццяна,— Міша ішоў па-мужчынску маўкліва, з суровым тварам, а яго пяцігадовая сястра Кларачка ўсцілала дарогу слязьмі буйнымі... Плакала і іх маці, прадчуваючы бяду...

Таццяна сама выцерла слёзы і ціха дадала:

— Столькі гадоў мінула, а Міша стаіць перад вачыма як жывы... І за што бедных яўрэяў знішчалі, ці ж не такія яны, як мы, людзі?..

У машыне стала ціха. Вайна — незажываючая рана для тых, хто з ёй сутыкнуўся...

Цішыню парушыла Левандоўская Надзя:

— Калі разабрацца, мае вы людцы, на чорта мне іхнія маркі — на той свет я іх забяру, ці што? Мне сёння кідаюць падачку за знявечанае жыццё, а хто кампенсуе спаленае, знішчанае, закатаванае?

Я са здзіўленнем зірнуў на старую жанчыну, якая «прачытала» мае думкі: дзе знайсці такую плату, якой можна было б заплаціць сіротам за забітых бацькоў, бацькам — за спаленых дзетак?..

Пытаюся ў Настаровіч Таццяны:

— А што далей было з Мішам і яго сям'ёй, з астатнімі яўрэямі? Які іх лёс?

Таццяна сумна адказала:

— Усіх яўрэяў з Лагойскай акругі звозілі на тую гару і расстрэльвалі. Цэлымі сем'ямі, з дзецьмі, нават з немаўляткамі... А гару тую людзі пачалі зваць не таму, што не шкадавалі ці не любілі яўрэяў, а хутчэй за ўсё ад маладукаванасці, ад прастаты сваёй...

Вось і я з'ездзіў у Лагойск, нажыў яшчэ адну душэўную рану. Гэтая рана хвалявала, непакоіла, і праз два тыдні я кажу жонцы:

— Хопіць пароцца ў градах, паедзем на Яўрэйскую гару!

Праз сорак хвілін падымаліся мы на яе па пахіленых, зарослых травой бетонных усходцах. «Сустракаў» нас за жалезнай агароджай больш чым сціплы помнічак, на якім — туманны тэкст пра тое, што на гэтым месцы ў час мінулай вайны былі расстраляны «советскне граждане»... Ні слова пра яўрэйскую трагедыю, ні паўслова пра колькасць знішчаных... Жонку душылі слёзы, ды і мне было цяжка слова вымавіць — настолькі гэтая братняя магіла рабіла моцнае ўражанне сваёй сіроцкасцю, запушчанасцю, безабароннасцю перад часам і людской абыякавасцю...

У рэдакцыі лагойскай раённай газеты «Родны край», куды заехалі з жонкай Таццянай, даведваюся, што на гэтай «Жыдоўскай» гары загублены каля дзевяці тысяч яўрэяў... Жах!

Імчаць па Лагойскай шашы турысцкія аўтобусы, едуць людзі ў Хатынь схіліць свае галовы перад попелам ста сарака дзевяці жыхароў «вогненнай» вёскі, а побач з гэтай шашой, у якіх-небудзь ста метрах ад яе,— спачываюць у малавядомай «Жыдоўскай» гары астанкі дзевяці тысяч грамадзян нашай Радзімы — яўрэяў...

# «Прадпрымальнікі»

Чаго толькі не робіць непрадказальны час з людзьмі! Быў слесарам — стаў прэзідэнтам нейкай там асацыяцыі. Быў касірам у захудалай краме — стаў банкірам. Быў... ды хіба ўсіх пералічыш? Праўда, ад гэтых пераўтварэнняў дзяржаве карысці — як з казла малака. Але за час перабудовы зрабілася тое, аб чым пяецца ў адной даволі несур'ёзнай песні: «Хто быў нікім — той стаў усім!..»

Вось і ў нашым раёне, а дакладней, у сельсавеце, а яшчэ дакладней, у нашай вёсцы, сталі мужыкі чухаць патыліцы — у які бок падацца, каб не «стаць усім», а хаця б «збіць» на бутэльку, бо заробак у калгасе меншы, чым у немаўляткі фічка, а пахмяліцца хочацца кожны дзень. Тут справа вядомая, як пачнуць пахмяляцца, дык так напахмяляюцца, што заўтра зранку зноў «гараць буксы», а каб іх патушыць, трэба вышукоўваць, як кажуць, «нявыкарыстаныя рэзервы». Атрымліваецца — хочаш не хочаш, а будзеш ісці ў нагу з часам, узлезеш на «рыначныя рэйкі».

Вось мужыкі з нашай вёскі, праўда, не ўсе, а тыя, у каго ссінелі насы і няўпэўненая хада, перамаглі сваю сялянскую някемлівасць і, згодна з «рыначным сацыялізмам», пачалі жыць па бартэру: ты — мне, я — табе.

Спачатку выкарыстоўвалі «ўнутраныя рэзервы» — неслі з уласнай хаты сёе-тое, зразумела ж, хаваючыся ад жонак, прадавалі сваё «сёе-тое» каму папала за любую цану, але не ніжэй кошту пляшкі гарэлкі.

Потым сцямілі, што на «ўнутраных рэзервах» доўга не пратрымаешся, бо вясковую хату, як вядома, «аздабляюць» ложак, стол, лава ды, магчыма, сціпленькі дыванок з набітымі фарбай лебедзямі. Прыйшлося мужыкам «кінуць» мазгі на ўсе бакі. Але ў які бок ні кідалі мазгі — яны траплялі на калгаснае поле ці на іншую калгасную ўласнасць. Тут нашы «прадпрымальнікі» успомнілі другую

вядомую песню часоў застою: «Усё вакол калгаснае — усё вакол маё!..»

«Ура! Жывём!» — затрапяталі іх чулыя сэрцы.

Рынак збыту быў пад носам — амаль кожная вёска сёння шчыльна абнесена «парканам» многапавярховых катэджаў ды іншых дыхтоўных будынін.

Неслі і везлі на гэты рынак усё, што шчасціла ўварваць ад кволага калгаснага «стала» — гной, маладую бульбу, цэмент, дошкі, зерне для дачнікавых курэй, хоць свае куры пачалі ад голаду пер’е губляць.

Бывала, прыйдзе гэткі «рыначнік» у краму, каб рэалізаваць здабыты «капітал», працягне дрыготкаю рукой прадаўшчыцы грошы, а тая, перад тым як выдаць бутэльку гарэлкі, прапясочыць на ўсю краму:

— Зноў прыцягнуўся, трасун! Лепей абутак купіў бы — пальцы вунь з ботаў павыскоквалі, а з другога боку пяты нямытыя вывальваюцца!

А «трасун» важна папраўляе залатаную ватоўку і заключае:

— Трэба здароўе падправіць спачатку! Здароўе — даражэй за абутак!

Ды тое, пра што я пішу, усім вядома. Магчыма, я і не паквапіўся б на ваш вольны час, каб не быў сведкам новай формы «прадпрымальніцтва».

Уявіце: выходзяць з кустоў два замызганыя мужыкі, але з «новым» мысленнем і — да калгаснага статка. У кожнага ў руках — па два пустыя трохлітровыя слоікі. Аглядваюцца, туляюцца і, прыгінаючыся, «падшпацыроўваюць» да бліжэйшай каровы, дзе...

— Як ты цягнеш за цыцку?! Нічога ж не цячэ! Захоплівай вымя!

— Можа, гэта нядойная карова?

— Сам ты бычок нядойны! Пусці мяне!

Мяняюцца месцамі, і даенне працягваецца.

— Бачыў, як трэба? Вучыся!

— Бачыць-то бачыў, але ж малако табе ў рукаво цячэ, а праз штаны выцякае...

— Ты раўней банку трымай і не трасіся з ёй!

— Гэта я ад хвалявання калачуся — як-ніяк, а новую справу асвойваем...

Нарэшце «новая справа» асвоена — вымучаны некалькі кароў, і рупліўцы з поўнымі слоікамі накіроўваюцца да бліжэйшых дачаў.

— Каму малачко, гаспадыні?!

— Свежанькае, цёпленькае, сырадойчык! Жонкі прыслалі прадаць — дзеткам хлеба няма за што купіць... Каму малачко?!

...Сапраўды, а каму малачко, у якім абмыліся даўно не бачыўшыя мыла рукі «прадпрымальнікаў»? Ёсць жадаючыя? Адрас дам дакладны!

## Сонца

Што самае смачнае?..

Паспрабуйце задаць гэтае пытанне знаёмым і незнаёмым — пасыплюцца адказы, як гарох з торбы.

Скажуць — гэта ж так проста адказаць: «снікерсы», бананы, ікра, ківі, тарты, крэветкі і... «гарох» будзе сыпацца на вашу галаву так доўга і шчодра, што забудзецеся, пра што і пыталіся. А калі апамятаецеся — выявіце, што галоўная «гарошынка» не вывалілася...

І хоць, як кажуць, пра густы не спрачаюцца, ёсць адзіна правільны адказ, пачуць які, нават сёння, складана. Матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці пераблыталіся, страцілі ў нашых вачах сваю першародную непаўторнасць і вагу.

Нават тыя, сталейшыя, хто зведаў некалі бязлітасны голад, наўрад ці скажуць сёння, што самае смачнае — хлеб.

Прыпомніце сваё нават не галоднае дзяцінства... Маці просіць схадзіць у краму купіць хлеба, а табе не хочацца, «няма часу», бо яшчэ не нагойсаўся — чакаюць сябры. А калі нарэшце ўсё ж маці выпхне ў краму — па дарозе дамоў абгрызеш гэты хлеб з усіх бакоў так, што і несці няма чаго. І такі ён смачны, і такі ён духмяны — не адарвацца.

Сёння рука ледзь паспявае запхнуць хлеб у рот, як яму ўздагонку другая жвавая рука адпраўляе ўсё, што Бог паслаў,— кілбасу, рыбу, сала... Дзе тут адчуеш смак хлеба — усё перамяшаецца ў нашай «сячкарні» — глык — і сам не ведаеш, што глынуў.

Каб пераканацца ў тым, што хлеб — самая смачная ежа ў свеце, вазьміце, моцна прагаладаўшыся, скарыначку хлеба і разажвіце, пасмакуйце яе — адразу прыпомніце і маленства, і тыя добрыя рукі, якія вырасцілі і спяклі гэты цуд.

Не хачу пакрыўдзіць прыхільнікаў іншых шматлікіх прысмакаў — ешце іх на здароўе, але хлеб можна параўнаць з сонцам.

Як вакол сапраўднага сонца круцяцца планеты, так і вакол хлеба — усе мы.

## Пасылка

Жылі мы з жонкай адразу пасля вяселля і ў розных гарадах — я ў Мінску, яна — у Гродне, і здымалі куток у чужых людзей, потым я атрымаў ад работы васьмімятровы пакойчык на агульнай кухні. Затым — «хрушчоўка» на першым паверсе старога дома, дзе пад нашай кватэрай знаходзілася бойлерная. Часцяком у ёй здараліся аварыі, і смурод з парай прасочваліся ў нашы пакоі. Бывала, што старэнькая мэбля набракала ад вільгаці і трэскалася...

Толькі на пяцьдзесят чацвёртым годзе свайго жыцця я атрымаў больш-менш людскую кватэру, плошчай трыц-

цаць сем метраў. Не атрымаў бы і гэту, каб не быў пісьменнікам.

І вось на першым этапе нашых басцянняў, калі каханне спальвала нашы сэрцы, а абставіны не дазвалялі жыць разам, я завальваў жонку ласкавымі лістамі, яна — мяне. Тэлефанаваў ёй столькі, колькі дазвалялі грошы, хацелася рабіць нешта неверагоднае, незвычайнае, але што я мог зрабіць... Я нават не меў прапіскі ў Мінску, жыў нелегальна з братам і бацькамі ў дзесяціметровым пакойчыку, у бараку. Грошы ў мяне — куры не «клявалі», бо не было ні курэй, ні грошай.

Усё гэта замяняла нам з жонкай мядовы месяц і вясельнае падарожжа.

Аднаго разу вясной назбіраў я ў лесе вялікі букет ландышаў, закруціў іх у мокрую тканіну, абматаў паперай, упакаваў у пасылку і адправіў па пошце маладой жонцы.

Скрынка пасылкі была даволі ўнушальная, бо «лялька» з кветак, тканіны і паперы атрымалася не малой.

Колькі ж было здагадак у жонкі і яе сям’і, калі яны атрымалі тую пасылку і яшчэ не паспелі ўскрыць!

Але яшчэ большае было здзіўленне, калі дасталі з пасылкі свежанькія ландышы, бо да такога мог дадумацца толькі закаханы чалавек.

## Паміж небам і зямлёй

Надышла і мая пара ісці служыць у армію. Спачатку прызыўная ваенная камісія зрабіла заключэнне: «Годзен для службы ў надводным флоце», што выклікала з майго боку бурлівую радасць — надта ж мне падабалася марская форма. Тады мяне не засмуціла тое, што на флоце трэба служыць на год больш, чым у арміі,— аж чатыры гады. Карпілаўскі Пеця Сліжук служыў на флоце, а чым я горшы?

Потым прыйшла павестка, і я апынуўся ў арміі — і дзякуй Богу! Тры гады маладога жыцця, няхай і ваеннай няволі — тэрмін не малы.

Прызвалі мяне з Карпілаўкі, і пачаўся мой «пачэсны абавязак». Усё было добра, але падчас маёй службы брат Косцік забраў старых бацькоў з вёскі ў Мінск, дзе ён, працуючы токарам, атрымаў у ‘драўляным бараку дзесяціметровую каморку на Возніцкім завулку. І зажылі яны ўтраіх на дзесяці метрах, як тыя паны на хамутах. Жывуць, перабіваюцца на Косцікаву мізэрную зарплату, бо бацькам за дзесяцігоддзі дармавой працы ў калгасе, згодна савецкіх законаў, дзяржава, замест пенсіі, выставіла фігу (прабачце, не фігу, а цэлых дзве — маме і тату).

Праляцелі тры гады маёй службы, з’еў я не адзін кацёл салдацкай кашы, і выдаюць мне на рукі прыпіснoе пасведчанне, у якім чорным па беламу, зноў жа, згодна савецкіх законаў, я накіроўваўся туды, адкуль прызваўся,— у Карпілаўку Лагойскага раёна. Адпаведныя дакументы былі адпраўлены і ў Лагойскі райваенкамат, дзе я павінен быў стаць на ваенны ўлік.

Я ў штабе палка паспрабаваў тлумачыць, што за тыя гады, што я служыў Радзіме, сёе-тое змянілася ў маім жыцці, што ў Карпілаўцы мяне ніхто не чакае, але штабныя пацукі адказалі:

— Нічога не хочам ведаць! Кругом марш!..

І паехаў я на Возніцкі завулак «нелегалам», і пасяліўся на два з паловай метры, бо дзесяць лёгка дзеліцца на чатыры.

Тады я і не думаў, і не сніў, што сімвалічныя і непазбеглыя два з паловай метры чакаюць кожнага ў канцы жыцця. Гэта цяпер я такі разумны, а тады я, аддаўшы Радзіме свой доўг, працягваў любіць яе, лічыў яе самым дарагім і неабходным у жыцці. «Ружовыя акуляры» не дазвалялі мне ўявіць, што ёй я не патрэбен. Ёсць я ці не — ёй аднолькава, ёй усё роўна...

Пачаліся мае шматмесячныя і шматлікія пакуты. Мне цяжка было зразумець, чаму мяне, не злодзея, не п'яніцу, чэснага чалавека, выганялі адусюль, куды толькі я ні стукаўся. Бралі ў рукі маё прыпісное пасведчанне і злосна, у адзін голас абураліся:

— Чаго ты да нас прыпёрся? Едзь у сваю Карпілаўку!..

О, я бы з радасцю паехаў туды, але ж там ні сваякоў, ні калгаснай гасадаркі, нічога, за што можна было б зачапіцца. І ружовыя акуляры пачыналі шарэць...

Калі дзесяць метраў жылой плошчы цярпелі нас, то братава зарплата не вытрымлівала чатырох чалавек, мы падгаладоўвалі, не кажучы пра тое, што я не мог зняць з плячэй салдацкай робы. А прыбрацца вельмі хацелася — маладыж.

На працу мяне нідзе не бралі, бо я быў без прапіскі. У казённых кабінетах, дзе я намазоліў вочы, ад мяне кідаліся ледзь не на сцены, як ад заразнага. У які бок я ні крануся — усюды была мёртвая сцяна раўнадушша і абыякавасці. Зноў, як і ў маленстве, мне даставаліся братавы старыя штаны, якія я «падфасоньваў», даношваў яго кашулі, з дня на дзень мама варыла буракі, бо гэта была самая танная яда.

Зрэдзь удавалася разгрузіць вагон, але і там усталяваліся свае парадкі, склаліся свае брыгады — чужых блізка не падпускалі...

Раптоўна ад знаёмых паступіла прапанова:

— Есць адна баба, ёй, праўда, семдзесят гадоў, затое мае двухпакаёўку. Спаць ты з «жонкай» не будзеш (дзякуй і за гэта), аформіце шлюб у загсе — і ты гарадскі жыхар! А там, дасць Бог, яна доўга не пачырыкае, табе і кватэра застанецца...

— Не-е! — устаў я на дыбы.— Каб я ды ажаніўся з сямідзесяцігадовай бабай! Ніколі! Нават фіктыўна не хачу!..

Сёння гэта можа выклікаць усмешку, але не ў мяне. Я і цяпер не паважаў бы сябе за той шлюб, каб ён адбыўся...

Раілі мне і нейкага гарбатага калеку, за якім патрэбен быў дагляд і які за тое, што я буду з-пад яго выносіць ягоныя нечыстоты, прапіша мяне часова як апекуна.

І пра гэта я не захацеў слухаць.

Нарэшце прапісалі мяне, за адпаведную плату, у пасёлку Ліпкі Мінскага раёна, і зрабіўся я сапраўдным савецкім чалавекам, бо займеў паперку на руках.

З раённай прапіскай бралі на працу мала куды — у асноўным у нейкія шарагі, але ж я мог зарабіць сабе на штаны і кавалак хлеба.

## Мяжа

Дажыла бабуля да адзіноты...

Ці ёсць у свеце што-небудзь горшае і горкае, чым адзінота? На гэта пытанне здольны адказаць толькі той, каго яна, праклятая, напаткала.

Жыве бабуля, цягне гаспадарчую лямку, не паддаецца бясконцай сялянскай працы і свайму ўзросту. За адзін сёняшні дзень чаго толькі ні перабыло ў бабуліных руках: і дрэўка, і дровы, і саганы, і вілы, і сякера, і вёдры з вадой, і нітка з іголкай, і вялізныя вязкі саломы, і маленькі апошні кавалачак хлеба з кубкам купленага ў суседзяў малака. Але гэтыя дзве апошнія «цяжары» ледзь «заўважылі» бабуліны рукі, бо для рук праца — жыццёвая неабходнасць, а кароткачасовы перапынак для яды — вымушанасць.

Ды і прымае ежу вясковец па-асабліваму — прыткнецца на самы крайчык лавы ці табурэткі, міска з заціркай ці булёнам ад яго — за вярсту, быццам ён у сваёй хаце не гаспадар. А ўсё гэта ад таго, што няма калі яму расседацца ды сталавацца, бо дзень пралятае хвілінкай, а праца чакаць не будзе...

Надышла вясна-вёсенка. Трэба ж неяк адсеяцца, каб не горш чым у людзей было. Тут, як на тое шчасце, прыкацілі на сваіх машынах з горада дзеці з унукамі.

— Дзякуй табе, Божачка! Міца і сына і святога духа! — перахрысцілася старая.— Адсеюся ў пару!

Яна горача прывіталася і рупліва кульганула ў хату, заляскацела міскамі, выцягнула з печы саган з бульбай. Потым дастала сціплы кавалачак сала, саскрэбла з яго леташнюю соль і парэзала яго на тоненькія лустачкі.

«Эх, шкада, што куркі не нясуцца пакуль»,— паскардзілася сама сабе і з той жа руплівасцю кульганула на двор.

Тут адчуваліся перадпрацоўная бадзёрасць і ўзрушанасць, чуліся жарты і рогат.

— Дзеткі! Унучкі! — паклікала шчаслівая бабуля.— Хоцькі ў хату, падсілкуйцеся з дарогі, мае залаценькія!

Старая адчыніла варотцы, прапускаючы дарагіх гасцей, і вінавата дадала:

— Вось толькі хлеб выйшаў увесь — выбачайце... Але ж і бульбачка не ўступіць яму...

Нявестка, праходзячы міма старой, артыстычна завойкала:

— Ой! Вой-вой! А мы ж так спяшаліся сюды, што і пра хлеб забыліся!..

— Нічога, дзеткі, і бульбачка яда. Нічога, мае залаценькія...

Усё радзей і радзей пачалі прыязджаць да яе дзеці. Старая гэта заўважыла не па лістках календара, якія адрывала ўрачыста і старанна, а адчула сэрцам... Памёр стары, і за ім падышла да зводу кароўка, бо сена — мужчынская праца. Без кароўкі — ні малачка, ні тваражку, ні смятанкі. Колісь з гаспадаром бабуля выгадоўвала дзвюх, а былі гады, і трох свіней. Тады дзеці маглі, як кажуць, і каўбаскай падпеtразацца, і ў маі паляндвічкай паласавацца, а цяпер... Цяпер кволае адзінае свінчо, якое калолася перад Калядамі, у той жа дзень размяркоўвалася па

гарадскіх сумках дзяцей, а астаткі потым бабуля выдавала сама сабе ашчадна і з аглядкай на заўтрашні дзень...

Вось і сёння тое сальца, якое магло з'есціся даўно, бабуля паклала на стол — ешце, дзеткі, ешце, унучкі! На здароўеца!

Сціпласць бабулінага стала і беднасць яе кладоўкі адчулі і яе дзеці. Таксама адчулі не нейкімі там лісткамі календара, а сваімі глыбокімі гарадскімі сумкамі, якія раней, ад'язджаючы з вёскі, ледзь паднімалі, а ў апошні час закідвалі ў багажнік машыны, як пушынку. Чаго было цяпер без карысці ездзіць у вёску — толькі бензін паліць ды слухаць скаргі састарэлай маці на цяжкасці лёсу.

Не! Яблык, які аддаў свой сок, ператвараецца ў макуху, а макуху, як вядома, выкідваюць вон. І хоць дзеці былі не дужа адукаваныя, але гэта засвоілі моцна: макуху — вон! Ды, аказваецца, рана плюнулі ў старую студню. Жыццё так рэзка змянілася, што рубель стаў тысячай, а тысяча зрабілася горш таго ж рубля. Зразумелі людзі, што галоўная надзея — зямля. Яна, як было заўсёды,— і накорміць, і не падвядзе. Зразумелі гэта і бабуліны не дужа адукаваныя дзеці. «Аджалелі» яны бензіну, ускочылі ў свае машыны і прыскочылі да маці-бабулі, да маці-зямелькі. Прыскочылі нават без хлеба, бо чулі, што зямля — карміцелька. А навошта карміцельцы хлеб? Раз ёсць зямля — павінен быць і хлеб!

Многія гэтак думаюць...

Хутка расхапіліся танюсенькія лустачкі сала, апаражніўся ад бульбы саган, а бабуля нават не прысела — усё тапталася вакол стала і вінавацілася:

— Эх, шкада, што куркі не нясуцца пакуль... Выбачайце, мае залаценькія... І хлеба...

— Так, матка! Хопіць маліцца! — перабіў бабулін боль старэйшы сын.—Даставай бульбу-насенку. Я тым часам падыду да брыгадзіра па каня, і пачнём сеяцца — няма часу слухаць твае байкі.

— Бульбачка ў варыўні. Я яе і ў мяшэчкі набрала, і прыгатавала, мае залаценькія,— запэўніла бабуля і з радасцю дадала: — Яна ўжо і храсточкі пусціла, будзем хутка маладзенькую есці...

— Кінь ты свае храсточкі-мяшочкі! — зноў перабіў яе сын.— Мы тут рашылі так: хопіць нам цягнуць з цябе апошнія жылы — як-ніяк, ты ж наша матка. Возьмем мы па кавалку зямлі на тваіх сотках і — кожны сам сабе гаспадар. Мы да цябе не лезем, ты — да нас...

— А мае ж вы залаценькія! — пляснула далонямі бабка.— А навошта ж нам дзяліцца?! Бярыце ўсе мае соткі і...

— Не-е! — ужо са злосцю сказаў сын.— Нам твайго не трэба! Мы пасадзім СВАЮ бульбу на СВАІХ участках, а ты — на сваім. Зразумела?

— Поле ж адно,— сумна адзначыла жанчына,— і мы адна сям'я. Што ж, мы барозны будзем лічыць потым, ці як?

— Не хвалюйся, матачка! — рассмяяўся малодшы сын.— І пра гэта мы падумалі: кожны калкамі абазначыць сваю мяжу. У цябе будзе таксама свая мяжа!

— Ды мне мяжа не трэба,— амаль шэптам прагаварыла старая і ўслых дадала: — А ўрэшце, рабіце, што надумалі... мае залаценькія...

І «залаценькія» зрабілі. Як тыя мурашкі, накінуліся яны на «свае» надзелы зямлі і гуртам пад жарты і рогат пасадзілі бульбу...

А бульбачка ж была з храсткамі — нядоўга чакаць маладой...

— Не вешай носа, матка! — супакоіў старэйшы сын.— У наступныя выхадныя, магчыма, і табе пасадзім бульбу — сёння ж няма часу. Справы!.. Ды і сярэдзіну ломіць...

Цяжка было чуць састарэлай маці, якая перанесла горы гора, прайшла праз мора пакутаў, выхавала дзяцей,

як яны называюць яе «маткай». Слова «мама» — ад Бога, ад самых глыбінь жыцця, і... чамусьці гэта слова перасталі выгаварваць вусны яе родных дзяцей. Адцураліся яны ад самага першага ў сваім жыцці слова... А не так яшчэ даўно нават нявесткі, зазіраючы ёй у вочы і адначасова — у кубёлак, называлі яе «мамай». Няўжо, каб прагучала слова «мама», пад яго трэба класці кавалак сала ці каўбасу?..

Пакуль гэтая гаркота апякала сэрца старой жанчыны, селі ў машыны дзеці з унукамі, і толькі пыл з-пад колаў шугануў у бабуліны памакрэлыя вочы.

Доўга і нерухома стаяла яна ля мяжы, якая аддзяліла ад яе дзяцей, якая балючай ранай пралягла па сэрцы...

## У кожнага – сваё

Споўнілася часопісу «Полымя» ці то семдзесят, ці то семдзесят пяць гадоў, не памятаю. Сяргей Законнікаў, галоўны рэдактар часопіса, запрасіў і мяне:

— Будзе сціпла, але пасядзім, пагутарым, па чарцы кульнём...

Падвялі «палымянцы» свае вынікі, пагаварылі аб справе, абмеркавалі планы, і перайшлі мы да «неафіцыйнай» часткі.

У невялічкім пакойчыку паставілі адзін да аднаго два сталы, «заабрусілі» іх паперай і на гэтую ж паперу расклалі бутэрброды — тоненька парэзанае сала, пакладзенае на лустачкі хлеба, і нейкая каўбаса. Тут жа — распалавіненыя яблыкі і, канешне ж, гарэлка. Як той казаў, вяселле справіць можна.

Было нас прыкладна чалавек з пятнаццаць, і сярод іншых — Іван Шамякін і Ніл Гілевіч.

Налілі па чарцы і, пасля кароткага тосту — глыкнулі. Паласкавела! Ядзім сала з хлебам, грызём яблычкі.

Законнікаў, будучы гаспадаром, і кажа:

— Выбачайце, што гэтак сціпла, без талерак і відэльцаў...

— Нічога! Нічога! — загаманілі ўсе.— Няхай сабе так, ды каб часцей было!

Тут адна са знакамітасцяў гістарычна-павучальна зазначае:

— Ведаеце, сябры! А пасля ж вайны вось гэтак і было — клалі сала на хлеб, бралі рукамі і елі. Якія там талеркі ды відэльцы!..

Душу маю, пасля ягоных «скаргаў», запоўніла цемра пасляваенных успамінаў... О-о, каб нам тады, у першыя пасляваенныя гады, ды з’есці кавалачак сальца! Ці хоць бы скарыначку хлеба!

Што ж, кожнаму дасталося сваё...

## Заслужыў – спажывай!

Чым можна ўзнагародзіць чалавека за сумленную працу?

Пералічвайце ўзнагароды хоць да заканчэння вякоў, а адной узнагароды ўсё ж не назавеце. Не дадумаецеся!

Што тыя грошы! Што тыя рэчы! Што тыя паперы з партрэтам самага чалавечнага чалавека! Дробязі!

Ёсць такі падарунак, унікальны, адзіны ў свеце, які атрымаў мой тата і які сёння захоўваецца ў мяне.

Перад тым як падысці да таямнічай узнагароды, зраблю невялічкі ўступчык.

Вядома, што калгаснікам за працу не плацілі пенсію. Не плацілі, і ўсё тут. Не плацілі пенсію і маім бацькам — такая была ў нас дзяржава.

І вось калі бацькоў, спрацаваных і хворых, забраў у Мінск да сябе брат Касцік і ягонай зарплаты не хапала нават на яду, тата пайшоў шукаць сабе работу. Ён яе і

знайшоў — уладкаваўся вартаўніком на заводзе «Прамбурвод».

Тата, як і ўсё сваё папярэдняе жыццё, аднёсся да новых абавязкаў сумленна, з адказнасцю. Ён ніколі не спазняўся на працу, не піў, пільна ахоўваў тэрыторыю завода, усе пабудовы і жалязякі.

Другія вартаўнікі маглі і напіцца, і спалі на прахадной да раніцы, пакуль іх не будзілі рабочыя, а тата старанна выконваў свае абавязкі.

І вось начальства заўважыла «перадавіка» і вырашыла ўзнагародзіць чалавека, каб той адчуў шчырасць і шчодрасць кіраўніцтва. Прымай, чалавеча, падарунак, спажывай! Калі ўжо калгас цябе абрабаваў, дык тут сталічная шарага ўсё кампенсуе і маральна, і матэрыяльна!

Паслалі тату ў фотастудыю, каб ён сфатаграфаваўся і прынёс у прафкам фотакартку.

Тата зноў жа добрасумленна выканаў загад начальства, прынёс згаданую фотакартку ў прафкам, спадзеючыся, што яе будуць чапляць на нейкую Дошку пашаны. Гэта ж быў тады сацыялістычны гонар — ледзь не Нобелеўская прэмія.

Якое ж было яго здзіўленне, калі праз некалькі дзён ягоную ж фотакартку яму ж урачыста ўручылі ў прафкаме. Папляскалі ў далоні і выпхнулі тату за дзверы.

Праўда, на адвароце фотакарткі з’явіўся надпіс з круглай пячаткай. Прыводжу яго даслоўна:

«За добросовестный труд н хорошую трудовую днсцнплнну награднть нменной фотографней.

Днректор завода Масловскнй

Председатель профкома Барташевнч

4.XI.67».

Дзе яшчэ ў свеце дадумаюцца да такога?!

# Першы гром

У маленстве амаль усе мы баяліся грымотаў ды перуноў. Думаю, што і ў дарослых asляпляльныя маланкі ды навальнічныя выбухі не выклікаюць у душы асалоду.

І вось, каб супакоіць малечу, дарослыя раілі нам: «Як толькі пачуеце першы гром — хуценька куляйцеся праз галаву!»

Мы спраўна куляліся, сумяшчалі карыснае з прыемным і адчувалі, што наступныя грымоты пужалі нас меней. Вось такі псіхалагічны фактар дапамагаў нам, зусім малым і даверлівым, пераадольваць страх.

Маланкай прамільгнула амаль усё жыццё, і год за годам сустракаеш першы гром спакойна і без страху. Шчыра кажучы, я і забыўся пра тыя дзіцячыя кулянні па траве. Забыўся, але нечакана быў вымушаны пра іх успомніць.

Прыехаў я ў маі з Мінска ў Карпілаўку, згрузіў свае клункі ў хату, узяў хлеб і пайшоў да суседкі — праведаць. Адчыняю дзверы, вітаюся, кладу хлеб на стол і распытваю пра здароўе, пра справы. Яна, у сваю чаргу, распытвае мяне пра мае справы, запрашае сесці. Калі я глянуў на суседку, ажно ў яе пад вокам «ліхтар» гарыць. Такі сінячышча, аж вока заплыло. Хто ж ёй засвяціў гэтак? Муж яе памёр, а болей у хаце нікога няма.

Раблю выгляд, што нічога не заўважаю, бо пра такое не пытаюцца.

Тут яна сама ўсміхаецца і паказвае пальцам на сваё вока:

— Гэта ж учора быў першы гром, каб яму заняло!

Я здзіўлена гляджу на «ліхтар» і ніяк не магу скумекаць, якое дачыненне мае першы гром да падбітага вока.

Тады суседка, якой ужо пад семдзесят гадоў, тлумачыць:

— Гэта ж я, старая дурнота, пачуўшы першы гром, выскачыла на двор і кульнулася праз галаву. Ды так бразнулася, што каленам ледзь вока не высадзіла...

Аказваецца, не ўсё тое, што можна рабіць малым, дазваляецца старым.

## Куды мы ідзём?

У Мінску, у Нацыянальным мастацкім музеі, некалькі гадоў назад адбылася выстаўка твораў нямецкай мастачкі-авангардысткі. «Сюжэты» усіх работ аднолькавыя — сінія, жоўтыя, зялёныя ды чырвоныя плямы і палосы перамешваліся, перакрэсліваліся. Магчыма, гэта трэба разумець — я не спецыяліст, не зразумеў. Думаў, што назвы карцін прыадкрываюць завесу таямнічасці. Чытаю: «Куды мы ідзём?..» Падыходжу да другой, трэцяй, іншых карцін — назва тая ж... Зусім заблытаўся я і пайшоў з залы...

У пяцідзесятыя — шасцідзесятыя гады ў калгасах за працу амаль нічога не плацілі. Але ўсё ж людзі пачалі пакрысе абжывацца — мелі кароўку, гадавалі аднаго-двух парсюкоў, трымалі курэй, садзілі бульбу, гародніну.

Моладзь хоць і гвалтоўна, але затрымлівалі на зямлі. Здавалася, што жыццё ідзе ўгару, што з кожным крокам, з кожным годам будуць набірацца моцы і калгасная, і сялянская гаспадаркі. Я быў і сведкам, і ўдзельнікам тых падзей.

Потым, застаючыся жыхаром сваёй вёскі і няхай блудным, але сынам сваёй зямлі, з горыччу бачыў, як адмірае вёска, як дзічэе і гіне зямля.

Як толькі спынілі гвалтоўнае трыманне моладзі ў вёсцы — моладзь пацягнулася да лёгкага жыцця — у горад. У вёсцы яе нічога не трымала. Рубель быў і тады не на

апошнім месцы ў жыцці, але дзяржава афіцыйна настойвала на тым, што грошы — зло.

Так. У горадзе былі хоць якія забавы, быў хоць які заробак, у вёсцы не было ні забаў, ні рубля. І гэта — адна з галоўных трагічных памылак, якая паскорыла падзенне будынка, пад які не паклалі падмурак.

Прайшло сорак год горкіх маіх назіранняў, а ўперад — ні кроку.

Тыя нямногія мае аднагодкі і людзі больш сталыя з апошніх сіл трымаюць вёску, не даюць канчаткова рухнуць абяссіленаму і абяскроўленаму сялянскаму побыту. Ці надоўга хопіць сіл?..

А якое дачыненне маюць тыя абстрактныя работы нямецкай мастачкі да нашай змардаванай вёскі? Думаю — прамое.

Калі ў мастацтве маюць права на жыццё і рэалізм, і авангардызм, і ўсялякі «ізм», то зямля не церпіць «абстракцыяністаў». Ёй патрэбен толькі прафесійны рэалізм.

Гледзячы на абстрактныя адносіны да зямлі і людзей на ёй, міжволі думаеш: «Куды мы ідзём?»

## Тавар – грошы – тавар

Мішка (царства яму нябеснае) наведаў пры жыцці суседа Адама (дзякуй Богу, яшчэ жывы).

— Здарова, Адаме!

— Адкуль яно, Міхаська, тое здароўе?!

— А што будзем рабіць? — пытаецца Мішка і ведае, што Адам, як заўсёды, дасць добрую параду.

Адам раіць:

— Здароўе патрабуе догляду! Яго неабходна пастаянна падтрымліваць! — і, падумаўшы, дадае: — Калі ёсць чым падтрымліваць...

— Ёсць! — ускочыў Мішка і дастаў з кішэні роўна столькі, колькі каштуе пляшка з «лякарствам». Але грошы са сваёй рукі не выпускае, а папярэджвае суседа: — Ахвярую з адной умовай: пляшку купіш толькі ў маёй Броні! (Броня — яго жонка.)

— Чаму ў яе? — пытаецца Адам.

— Таму,—тлумачыць Мішка,— што гэтыя грошы я толькі што «пазычыў» у яе з панчохі і лічу за абавязак, каб яны вярнуліся роўненька дамоў. Зразумеў?

— Не дурань, дзякуй Богу! — і Адам падаўся да суседкі.

Броня радасна прыняла ў Адама «навар» і выдала яму запаветную пляшку.

Адам вярнуўся да сябра, і той не ўтрымаўся ад тоста:

— А я ў школе ніяк не мог зразумець Маркса, што гэта за формулу ён прыдумаў: «тавар — грошы — тавар». Сёння бачу, што не зусім дурны ён быў чалавек!

Ці то дзякуючы Марксу, ці то Мішкавай кемлівасці, але грошы з Бронінай панчохі кожны дзень спраўна траплялі да Адама, і ён спраўна адносіў іх гаспадыні, абменьваючы на «тавар».

Аднойчы стрэльнула здагадка Броні ў мазгі, і яна не толькі пералічыла грошы, але і запісала іх нумары. Запісала і жахнулася — яе родненькія грошы гуляюць туды-сюды, а гарэлка задарма вандруе ў суседнюю хату.

«Ах, так! — узвінцілася яна.— Ну, я вам пакажу!» — і замест гарэлкі наліла ў пляшку вады. Наліла і ветліва — Адаму:

— На здароўечка, Адамка! Прыходзь яшчэ!..

Вярнуўся яе Мішка дамоў збянтэжаны і цвярозы, цыгарку смаліць ды моўчкі пасапвае.

— Што гэта ты сёння, як нашкодзіўшы кот? — смяецца Броня.— Няўжо ў Адама зачынілася крама?

Мішка збянтэжыўся яшчэ больш і ляпнуў:

— Што я?! Шкада Маркса — не спрацавала яго формула!

## Дурнота

Адчыняюцца сенцы, і на ганак выходзіць узрушаная жанчына, адпіхвае нагой худога сабаку і крычыць суседцы:

— Ты чула? Хуліа з Жуліяй пасварыліся і сёння не размаўлялі!

Суседка бразнула аб зямлю вядро з конскім калам і схапілася мурзатымі рукамі за галаву:

— Ды што яны, здурнелі?! Учора Рыкарда з Алівіяй за дзве гадзіны ні разачку не пацалаваліся, а сёння Хуліа і Жулія пайшлі наперакасяк! Як гэта я прапусціла такое?..

На вуліцу пачалі выходзіць жанчыны з другіх хатаў.

— Ды што там Хуліа?! — кіпяціцца «падмога».— Вунь Паула наставіла рогі Радрыгасу! Вось гэта дык да!

— А з кім? З кім наставіла рогі? — закрычалі адразу некалькі састарэлых жанчын, якія ў сваёй маладосці не ведалі, што гэта такое — «наставіць рогі».

— З Мэйсанам! З кім жа яшчэ?! Не з Хуанам жа!

— А што Хуан зрабіў табе дрэннага? Ён што, гарод табе стаптаў?

— Ды твой Хуан у параўнанні з Карласам як чарвівы казляк побач з баравіком!..

Я стаю, здаецца, у роднай вёсцы і не магу крануцца з месца, каб ісці ў сваю хату. Куды я трапіў? Ці мая гэта вёска? Дзе я — у Аргенціне, Бразіліі ці Амерыцы?

Не! Дзякуй Боiу, не! Ды і жанчыны гэта нашы, беларускія, вясковыя. Вунь на іх — драныя ватоўкі, скрыўле-

ныя, стаптаныя, крыху маладзейшыя за іх, боты, кожная мае ў роце два-тры зубы...

Бедныя бабы!.. Затуманілі ім мазгі розныя бяздарныя тэлесерыялы.

## Вышыванка

Ёсць сярод майго прыдбанага за жыццё «багацця» адна сапраўды бясцэнная для мяне рэч. Гэта — вышываная кашуля.

Бяру яе калі-нікалі ў рукі, з хваляваннем апранаю і адаграваюся душой, вяртаюся ў юнацтва, адчуваю сябе маладым, прыгожым, шчаслівым!

Здавалася б, што тут надзвычайнага і незвычайнага? Кашуля як кашуля, праўда, аздобленая нацыянальным вышываннем. Але ў гэтай нацыянальнай асаблівасці яе і незвычайнасць.

Не ведаю, чым кіравалася мая матуля тады, сорак гадоў назад, нацыянальнымі пачуццямі ці адчуваннем прыгажосці, але яна купіла нам, тром сынам, па вышыванцы. Купіла самым першым у вёсцы! І купіла, нягледзячы на тое, што кожная капейчына была на ўліку, а вышываныя кашулі каштавалі значна даражэй за звычайныя.

Затое як мама свяцілася гонарам і радасцю, калі мы апраналі кашулі на свята ці ідучы на вечарынку. Ды і самі мы, гледзячы адзін на другога, свяціліся незвычайным святлом.

Што ні кажыце, а падсвядома, у глыбіні душы, мы, апранаючы нацыянальныя кашулі, больш адчувалі сваю еднасць з зямлёй, на якой нарадзіліся. Гэтае адчуванне абвастралася і таму, што ты меў гонар насіць нацыянальную вопратку, і таму, што тады ў вёсцы гучала толькі беларуская мова.

Сёння хтосьці мог бы назваць гэта нацыяналізмам. Але ж сэрца нам цешыла сваё, беларускае. Мы ж не прыніжалі іншыя нацыянальнасці, носячы вышыванкі. Які ж гэта нацыяналізм?..

А цяпер уявіце вясковыя танцы. Хлапец у вышыванай кашулі запрашае на танец дзяўчыну, на якой — модны тады белы, ды яшчэ з узорцамі, кафтанчык. І плывуць у танцы такія прыгожыя, урачыстыя пары — вачэй не адарваць!

Не ва ўсіх хлопцаў былі вышыванкі, але ж і нямала было ўладальнікаў нацыянальнай прыгажосці і годнасці.

Як не хапае сёння гэтага!

У кнізе паэм «Люстэрка лёсу» я сфатаграфаваны ў вышыванай кашулі. Хтосьці мог і падумаць: «Вось апрануў нечую вышыванку, каб выпендрыцца». Не! Гэта мая, родная, тая кашулька, якая сорак гадоў назад, з мамінай ласкі, саграВала мне душу, рабіла сапраўдным сынам сваёй зямлі.

## Мой Ядвігін Ш.

Чаму мой, а не наш, як, напрыклад, Янка Купала, Максім Багдановіч, Якуб Колас?..

Ці не таму, што толькі я — яго аднавясковец, што я сын бацькоў, якія добра ведалі сям'ю Лявіцкіх і шмат распавядалі мне пра яе? Мой і таму, што я больш за паўстагоддзя цесна звязаны з сядзібай Ядвігіна Ш. і кожны год — шмат разоў за год — чышчу знакамітую крынічку і ратую ад канчатковага знішчэння не менш знакаміты дуб-дзядулю. Мой Ядвігін Ш. і таму, што я катэгарычна не дазволіў археалагічным руплівцам пералапачваць падмурак колішняга дома Лявіцкіх у пошуках невядома чаго. Мне не хацелася, каб святое месца зноў парушылі, разрылі, зруйнавалі — нібы адкапалі нябожчыка і вытраслі яго кішэні,

тым больш што ўжо аднойчы калгасныя трактарысты, у пошуках золата, перавярнулі падмурак шмат разоў.

Яшчэ і таму мой Ядвігін Ш., што я паставіў памятны знак ля закінутай сядзібы, які праз год пачалі ламаць і знішчаць сучасныя вар'яты, я, хто скандэнсаваў у паэме «Пан Лявіцкі» не літаратурную вычурнасць, а біяграфічнасць яго лёсу...

Можна было б працягваць пералік таго, што звязвае мяне з Ядвігіным Ш., але вам і так намулілі вочы аўтарскія «я». У даным выпадку я не саромлюся такой нясціпласці, бо ўсе мае «я» аддадзены Антону Іванавічу Лявіцкаму.

Хто сёння стане на абарону знакамітага нашага суайчынніка? Адзінкі! І галасы тых адзінак паглыне мёртвая абездухоўленасць нацыі. Вось чаму сярод гэтага глухога маўчання я і заяўляю:

— Мой Ядвігін 1Ш

Пра Ядвігіна Ш. распавядаць і проста, і складана.

Проста і прыемна таму, што ён — таленавітая, творчая асоба, вядомая ў літаратурным асяродцзі як пісьменнік, паэт, публіцыст.

Адно толькі тое, што Ядвігін Ш. з'яўляецца першапачынальнікам беларускай прозы, надае яго літаратурнай постаці гістарычную вагу. Раман «Золата» (на жаль, не гэта золата шукалі сквапнікі ў падмурку) пісьменнік не паспеў закончыць, але і тое, што дайшло да нас, яскрава гаворыць пра талент аўтара.

Многабаковасць і сіла яго таленту такія, што калі б адкласці ўбок усе яго празаічныя і паэтычныя здабыткі, а пакінуць толькі публіцыстычныя нататкі —знакамітыя «Лісты з дарогі», гэтага хапіла б, каб узнесці імя Ядвігіна Ш. да вышынь лепшых твораў беларускай літаратуры. Трапнасць назіранняў у «Лістах з дарогі», сакавітасць і вобразнасць мовы пераносяць нас у той час, робяць сведкамі падзей далёкай даўніны.

Не меншую літаратурную каштоўнасць маюць і яго кароткія навелы. Праз гэтыя глыбока псіхалагічныя, з тонкім гумарам і лёгкай сатырай творы Ядвігіна Ш. можна ставіць побач з А. П. Чэхавым.

Параўноўваць-то можна, але такое параўнанне выклікае і сум, бо імя Чэхава высока ўзнесена ягонымі суайчыннікамі, а імя Ядвігіна Ш. для большасці беларусаў дагэтуль незнаёмае. Упэўнены, што гэтая ж несвядомая большасць, прачытаўшы творы Ядвігіна Ш. і азнаёміўшыся з яго складаным і трагічным лёсам, усклікне: «Мой Ядвігін Ш.!»

Але, пералічваючы літаратурныя вартасці Ядвігіна Ш, я наўрад ці скажу штосьці новае, хаця кожны па-свойму ўспрымае і асобны твор, і кожную творчую асобу.

Лепей вярнуся да таго, з чаго пачынаў,— да зямлі, беражліва песціўшай талент Ядвігіна Ш.,— да Карпілаўкі.

Відаць, угодна было Богу зрабіць так, каб я нарадзіўся ў Карпілаўцы і адчуў сэрцам тое, што адчуваў Ядвігін Ш. І няма ніякай маёй заслугі ў тым, што ўсё сваё жыццё «карыстаюся» сцежкамі Антона Іванавіча, прагульваюся па прыгожай ліпавай алеі, пасаджанай знакамітым аднавяскоўцам, п’ю смачную вадзіцу з той крыніцы, якая наталяла і Ядвігіна Ш., з тужлівай удзячнасцю зрываю здзічэлы яблык з яблынькі калекі славутага колісь саду Лявіцкага...

Можаце верыць, можаце не, але я заўсёды адчуваю сябе тут напружана — усё здаецца, што вось-вось выйдзе насустрач Антон Іванавіч. Хвалююся, быццам сапраўды адбудзецца такая сустрэча. Напэўна, душа Ядвігіна Ш. так і не пакінула родных мясцінаў...

Адчуваю вострую віну за многае... За тое, што знакаміты дуб-дзядуля, якому б яшчэ жыць ды жыць, хутка перастане зелянець сваёй неабсяжнай кронай, бо нядобрыя людзі, у маю адсутнасць, выпалілі яго, скалечылі.

І каб не маё штогадовае і шматразовае яго ратаванне, даўно б ён ужо падпіраў неба мёртвымі галінамі...

Балюча і ад таго, што не ўдалося мне ўскалыхнуць лагойскія ўлады і разам стаць на абарону сядзібы, якая ператварылася ў звалку дачніцкага смецця і бруду, дзе раскапалі кар’ер, дзе размясілі трактарамі глыбокія каляіны.

Крыўдна і адтаго, што не ўдаецца мне ажыццявіць галоўную мэту свайго свядомага жыцця — пабудаваць і стварыць хоць невялічкі музей Ядвігіна Ш. Ёсць і экспанаты, і шмат цікавых дакументаў, але няма разумення тых, ад каго залежыць пабудова такога музея.

Адзін высокапастаўлены чыноўнік з урада спытаўся ў мяне, калі я прывёз яго на сядзібу пісьменніка:

— Ядвігін Ш.? Хто такі? Дакажы, што ён знакамітасць!..

Паўтаруся: пра Ядвігіна Ш. і проста, і складана распавядаць. Вось чаму балюча і складана распавядаць пра яго — імя гэта доўгія гады замоўчвалася афіцыйнымі коламі, не падабалася яго беларускасць, яго адданасць сваёй зямлі, ідэі адраджэння Беларусі.

А што сёння? І сёння Ядвігіна Ш. ведаюць на Беларусі нямногія.

Хацелася б сказаць колькі слоў і пра тую, якая дзяліла з Антонам Іванавічам усе складанасці жыцця,— пра яго жонку, Луцыю Гнатоўскую.

Ядвігін Ш. у час першай сусветнай вайны зрабіў высакародны ўчынак — прывёз у свой карпілаўскі дом пяцьдзесят дзяцей сіротаў.

Дом быў звычайны, драўляны і не надта ўжо вялікі, але ўсім хапіла месца.

Менавіта Луцыя як гаспадыня атуліла дзяцей цеплынёй і пяшчотай, менавіта яна гатавала ім есці, укладвала спаць, бо прыслугі ў доме не было. А ў Лявіцкіх — і сваіх чацвёра дзетак!

Сучасным «панам» такое высакародства і не снілася...

А як свяціліся цеплынёй маміны вочы, калі яна расказвала пра «пані Лявіцкую»!

— Што была за душа! Якая дабрыня! Папросіць, бывала, карпілаўскіх жанчын памагчы зжаць сярпамі жыта, а сама вакол нас збіваецца з ног — і памагае, і нясе з дому розныя вясковыя прысмакі, і частуе нас і кожную жанчыну называе душачкай...

Кажучы «мой Ядвігін Ш.», я, у першую чаргу, як яго аднавясковец, бяру большую частку нашай агульнай віны за недастатковае ўшанаванне памяці знакамітага пісьменніка.

Толькі патрыёт сваёй зямлі, чалавек з высокім грамадзянскім пачуццём мог сказаць: «Мова — гэта кроў народа...»

Ад сябе магу дадаць, што належнасць да нацыі, да сваёй зямлі, да гісторыі сваёй Радзімы немагчыма, калі ў сэрцы перастала гучаць родная мова.

Духоўная абяскроўленасць, абыякавасць да мінулага і будучыні — вось дыягназ нашага сучаснага захворвання.

Лёгка пачысціць крынічку Ядвігіна Ш.— цяжэй нашу застойлівую несвядомасць і непавагу да сябе.

## Два бакі медаля

Перакруціўся мой лёс настолькі, што я, вясковец да апошняй крывінкі, зрабіўся гарадскім жыхаром. І, як па той прымаўцы — гадка есці, ды не кінеш,— мушу жыць сярод чужога сэрцу, непатрэбнага душы асяроддзя.

З узростам гарадское жыццё робіцца невыносным, даядае і апошнія нервы, і астатняе здароўе.

Што б я рабіў, каб мяне не чакаў і не сустракаў карпілаўскі старэнькі дамок? Як толькі выпадае магчымас-

ць, я імчу туды напіцца вачыма родных мясцін, наталіць сэрца водарам шчымлівых успамінаў і галасамі мінулага.

З маладосці прылятаю сюды хоць на гадзіну — і ў маразы-завеі, і ў дажджавую макрэчу, і ў спякоту.

Асабліва люблю прыязджаць у вёску зімой. Аўтобус давозіць да Жукаўкі, ад якой да Карпілаўкі ўсяго два кіламетры.

Што гэта за кіламетры! Цуд! Дарога праз лес! У лесе ціха, бялютка, чыста. Сляды вавёрак, зайцоў, лісаў, ласёў. Кожнае дрэва знаёмае — джгаеш бадзёра і ўсхвалявана. Сустрэча з роднымі мясцінамі — заўсёды свята!

І вось аднойчы зімой саджуся я ў аўтобус і еду ў Карпілаўку. Апрануты па-паходнаму: старэнькая шапка, паношаная куртка, боты. У вёсцы трэба і снег расчысціць, і дроў прынесці, і печ распаліць — у чыстай вопратцы рабіць гэта нязручна.

Еду я ў аўтобусе, разглядаю пасажыраў, адшукваю сярод дачнікаў мясцовых жыхароў, знаёмых. Аўтобус быў паўпусты, знаёмых я не ўбачыў і перавёў погляд на праплываючыя краявіды.

Потым звярнуў увагу на мужчыну майго ўзросту, які сядзеў перада мной, важна адкінуўшыся на сядзенні, ганарліва задраўшы галаву.

Калі ён павярнуў яе крыху да акна, я пазнаў у ім Толіка з Лекараўкі. Калісьці, у маладосці, я дапінаў на вечарынкі ў тую Лекараўку, хоць знаходзіцца яна ад Карпілаўкі няблізка. Толік граў на гармоніку, і я нядрэнна заломваў мяхі — мы нават падсяброўвалі.

Увогуле, моладзь адной вёскі тады ведала моладзь з усіх навакольных вёсак.

— Толік! Здароў! — пляснуў я яму па плячы.— Ледзь пазнаў цябе!.. (А не бачыліся мы гадоў дваццаць.)

На Толікавай задранай угару галаве была андатравая шапка, на плячах — рацінавае паліто. Нічога ў гэтым

дзіўнага не было, ён ехаў у сваю вёску да бацькоў — не ў ватоўцы ж ехаць.

У адказ на мае словы Толік, не паварочваючыся, кінуў нядбайна ўбок:

— Прывітанне!..— і яшчэ вышэй «заламаў» галаву.

Я пачаў распытваць пра жыццё, пра справы, пра лёс. Толік адказваў, але скупа:

— Жыву, як бачыш, добра... Працую таксістам... (Тут быў зроблены асабліва ганарлівы націск.)

Магчыма, таму, што бачыў на мне сціплую вопратку, ён адказваў на ўсе пытанні, як кажуць, праз губу. Адказваў на пытанні — і не больш. Ніякіх сустрэчных пытанняў, ніякай зацікаўленасці да мяне.

Бачу, што размова не атрымліваецца, адварочваюся да акна і працягваю любавацца краявідамі.

Праз некалькі хвілін маўчання ён задаў «дзяжурнае» пытанне:

— А ты як?

Я і сам, ужо без цікавасці, гэтак жа дзяжурна адказаў:

— Ды так... Жыву...

Зноў паміж намі насцярожылася цішыня.

Вось як бывае: непрыемная гаворка, непрыемнае маўчанне, гады падзяляюць людзей, аддаляюць іх, робяць непатрэбнымі адзін аднаму. (Ёсць, на шчасце, і прыемныя выключэнні.)

Зноў праз Толікаву губу вывальваецца пытанне:

— Ну а працуеш ты дзе?..

Пытанне было зададзена, і я мусіў адказаць:

— Я — маёр міліцыі...

Божа мілы! Што зрабілася з Толікам! Чалавек імгненна перамяніўся — крутнуўся да мяне, ледзь сядзенне не выкруціў. Куды дзелася ганарыстасць і фанабэрыстасць?! Вочы яго заззялі, прыемная ўсмешка ўпрыгожыла твар, вусны не спыняліся ні на хвіліну.

— Слухай, Сярога! Давай сустракацца! Вось мой адрас, мой тэлефон! Трэба па сто грам зрабіць! Якая сустрэча! Мы ж былі сябрамі!..

Усё гэта паходзіла на анекдот, на сатырычнае кіно, не верылася, што ўсё гэта я раптоўна ўбачыў у жыцці, побач з сабой. Здзіўляюся, навошта насіць у сабе такі хлам, такі непатрэбны цяжар — другога, штучна створанага, адмоўнага чалавека?

Гэта ж так проста і лёгка — заставацца самім сабой.

## Шчасце

Складанае гэта паняцце — шчасце.

Да яго ставяцца даволі легкадумна і карыстаюцца ім налева і направа.

Часта можна пачуць:

— Я шчаслівы чалавек!

Безадказная і бяздумная заява.

Такое можа сказаць толькі дзіця, акружанае дабрабытам і бацькоўскай ласкай.

Толькі дзеці, пры наяўнасці неабходных умоў, могуць адчуваць тое, што завецца поўным шчасцем.

Ды і іх крохкае шчасце засмучаецца дзіцячымі перажываннямі і шчырымі слязьмі, нават ад страты любімай цацкі.

Дарослы чалавек, з нармальным светаўспрыманнем, хаця і не перажыўшы асабістай нейкай трагедыі і гора, не назаве сябе шчаслівым, бо інфармацыйны ціск з усіх бакоў такі моцны і жорсткі, што шчаслівым, у поўным сэнсе гэтага слова, можа лічыць сябе толькі сляпы, глухі і з каменным сэрцам чалавек.

Хіба ж можа чалавек, пахаваўшы сваіх бацькоў, некага з родных ці блізкіх сяброў, а калі і не пахаваўшы,

то назіраючы кожны дзень па тэлевізары, як ліецца кроў, сказаць:

— Я шчаслівы!

Чалавек з узростам апускаецца ўсё глыбей і глыбей у перажаытае і словам «шчасце» можа карыстацца толькі па нейкаму выпадку:

— Я шчаслівы тым, што выйшла ў свет мая кніга...

— Я шчаслівы тым, што магу быць з вамі...

— Якое шчасце, што бяда абмінула ваш дом...

Гэтымі шчаслівымі выпадкамі-імгненнямі трэба вельмі даражыць, як і словам «шчасце».

## Любоў

Ідзе дыскусія. Спрачаюцца сацыёлагі, сексапатолагі, псіхолагі і іншыя шматлікія «олагі» і «ёлагі». Адны даказваюць, што неабходна расказваць дзецям з малога ўзросту, адкуль бяруцца такія ж, як яны, дзеці і як яны «робяцца», інакш гэта растлумачыць «вуліца».

Другія настойваюць на тым, што прыйдзе ўсё само сабой.

А трэція... А трэціх не заўважаюць, іх нібы не існуе. А яны, гэтыя трэція, пераканаўча і даволі натуральна, кожны дзень з экранаў кіно і тэлевізараў дэманструюць «любоў». Сёння «гэта» завецца любоўю. Слова «любоў» і паняцце любові страціла свой першапачатковы чысты, незямны сэнс...

Прыліпне першакласнік да тэлевізара і засвойвае ўрок, што «заняцца любоўю» — значыць легчы ў пасцель з першым сустрэчным, што «трахнуцца» — гэта зноў жа «любоў». У моладзі і падлеткаў самае папулярнае і моднае слова «трахнуцца». Чаму дзівіцца, яно штодня злятае з экранаў, яно стала афіцыйным у «культурным» лексіконе.

Уся гэта тэлевідэаінфармацыя ў спалучэнні з нашымі «дасягненнямі» у галіне агульнай культуры — спрыяльная глеба для росту бездухоўнасці моладзі.

Не, не трэба дзецям агулам растлумачваць, адкуль бяруцца дзеці. Ды і не агулам весці такую гаворку вельмі не проста.

У кожнай сям'і свая атмасфера даверу ці недаверу паміж бацькамі і дзецьмі. Ці ж можа п'яны бацька агітаваць сына за цвярозы лад жыцця? Ці пабудавала сям'я той маральны падмурак, апіраючыся на які, бацькі маюць права ўводзіць дзяцей у інтымны свет узаемаадносін паміж жанчынай і мужчынам?

Ды і як будуць выглядаць у вачах сваіх дзяцей нават самыя адукаваныя і звышмаральна ўстойлівыя бацькі, якія пачнуць «раскрываць» дзецям вочы, а тыя ўжо неаднаразова бачылі ў сяброў па відзіку дэталёва гэту «любоў».

Некаторым бацькам і не снілася тое, што ведаюць іх дзеці...

Сексуальная рэвалюцыя адбылася. І, як кожная рэвалюцыя, яна прынесла з сабой у лёс грамадства разруху, разбурэнне асноўных каштоўнасцяў жыцця. Разбуранымі аказаліся і душы дзяцей, падлеткаў, моладзі.

Вушы вянуць, калі даводзіцца праходзіць міма падлеткаў, сярод якіх і дзяўчынкі. Але гэта толькі бачная частка айсберга...

Нібы ўчора было і маё юнацтва. Сёння гэта здаецца дзіўным, але светлыя юнацкія мары гарманічна спалучаліся з паводзінамі, з адносінамі да дзяўчат. А што ўжо казаць пра адносіны да той адзінай, якая падабалася? Можаце лічыць мяне пячорным чалавекам, але, рыхтуючыся праводзіць з вечарынкі сваю абраную, я збіраўся расказаць ёй пра стан сваёй душы словамі розных песень. Баяўся, што не хопіць мужнасці звычайнымі словамі сказаць ёй пра свае пачуцці, таму перабіраў у галаве ўсе песні пра

каханне, якія і спяваў ёй на працягу ўсёй няблізкай дарогі да яе вёскі. Нават баяўся ўзяць пад руку, каб не паказацца ёй нахабным. Вяртаючыся дамоў, адчуваў крылы за спінай, душу перапаўняла святло нязведаных пачуццяў і прадчуванне хвалюючых таямніц жыцця. Зноў жа спяваў, цяпер на ўсё горла, бо не спяваць было немагчыма.

Упэўнены, што і нашы бацькі, і амаль усе больш далёкія продкі ішлі да вяршыні кахання дарогай светлых пачуццяў.

І дзіўная рэч — ніхто ім у маленстве не расказваў і не паказваў, адкуль бяруцца дзеці, а мы з'явіліся на свет Божы.

Малайцы, продкі,— дадумаліся неяк самі!..

Ад вуліцы, ад тэлебачання і ад завугольных «настаўнікаў» сёння, на жаль, не ўратаваць дзяцей і моладзь. Марная праца тлумачыць ім, што і адкуль. Неабходна другое.

Трэба на фоне здаровага сямейнага ладу неназойліва, на канкрэтных або абстрактных прыкладах паказваць, да чаго прыводзяць тыя ці іншыя паводзіны. Трэба закрануць душу дзіцяці ці падлетка неабсяжнасцю і прыгажосцю жыццёвай перспектывы і пераканаць у тым, што ўсяму свой час.

Нават забаронены плод не будзе смачным, калі сарваць яго не ў пару.

## Мала засталося

Рашыў вялікі начальнік спусціцца з вышыні сваёй пасады і праехаць па вёсках — крыху «абнародзіцца».

Едзе ён між хісткіх платоў і дзіравых стрэхаў, назірае з машыны праз высокі быльнёг за хліпкім жыццём сваіх падданых, зяхае.

Раптам бачыць ля плота старую бабулю, якая рве крапіву і піхае яе ў кошык.

— Спыніся! — загадаў шафёру.— Трэба з людзьмі сустрэцца, выслухаць іх.

— Здарова, маці-гаспадыня! — і начальнік працягнуў пухлую руку старой.

Тая нясмела падала сваю перакручаную працай далань.

— Дзякуй Богу, мацуюся!.. А чый будзеш, дзіцятка? — пацікавілася бабуля.

— Я ... (і начальнік назваў сваю пасаду).

Старая выхапіла сваю далань з пухлай рукі і спужана пачала яе выціраць аб прыпол сукенкі.

— Ой, прабачце, я ж, старая-дурная, не прызнала і сунула вам сваю мурзатую руку! Яшчэ раз прабачце!..

Начальнік шырока ўсміхнуўся:

— Ну што вы спужаліся? Я ж такі, як і вы, я ж з народу, з самай гушчы.

— Вось дзякуй, дык дзякуй, што заехалі! Да нас жа ніводная кіраўнічая душа не залятае... А тут вы!..

— Ну, як жывяце? Якія скаргі? Чаго б вам яшчэ хацелася?

Старая пакланілася:

— Ой, дзеткі, мне хоць бы плот крыху...

— Я бачу, вы на вітамінчыкі націскаеце! — і начальнік паказаў на крапіву.

— Гэта ж няма чым парасятка карміць, дык я...

Начальнік зноў перабіў бабіну гаворку:

— А я ў вашай руцэ адчуў сілу. Вы яшчэ крэпіцеся! Ёсць порах!

Старая цяжка ўздыхнула:

— Якое тут крапленне? Які порах? Адна порхаўка засталася... Каб хоць крыху лекаў якіх ці...

— А ў вас, я гляджу, сінія вочы, як у маладой...

— Мне ж ужо, дзеткі, восемдзесят першы год крануўся, а вочы я выплакала ад...

— Нічога! Трымайцеся! Мала засталося! Усё ідзе на пад'ём, угару прэ!

— Яно-то хай усё ідзе сабе,— абураецца старая,— але ж маёй пенсіі не хапае нават на...

— Я ж сказаў, усё прэ ўгару! Праз якіх сем — дзесяць год — цукерку з рота выпускаць не буцзеце!.. Так, якія яшчэ пажаданні? Смялей! Я вас зразумею, я ж з самай гушчы!

Старая апусціла галаву, сумна зірнула на свае драныя гумавыя боты, якія не абновіш і за тры пенсіі, і толькі цяпер заўважыла, што працягвае выціраць сваю заросшую гразёй даланю.

— Якія пажаданні, дзеткі? Усё ў нас добра...

Тут бабуля ўспомніла, што ў вёсцы няма вады, старыя студні абсунуліся, зараслі. Толькі яна раскрыла бяззубы рот...

— Ох і паветра ж у вас тут! Дача! Санаторый! Жыві — не хачу! — пацягнуўся, як пасля сну, начальнік, потым адчыніў дзверцу машыны і з асалодай сеў на сядзенне.— Бывай, маці-гаспадыня! Бачу, што жыве яшчэ наша вёска! Нічога, мала засталося! Мацуйцеся!

Пыл з-пад колаў шугануў бабулі ў вочы, асеў на «вітамінчыках».

Хацела старая працягваць ірваць крапіву ддя галоднага парсючка, але падклыпала суседка.

— Хто гэта з табой так доўга балясаў?

— Ого! Гэта ж быў... (і старая назвала пасаду субяседніка).

Цяпер ужо суседка ўсклікнула:

— Ого!.. Ну, і я кён? Што гаварыў? Што абяцаў?..

Старая рогам хустачкі выцерла сасмяглыя губы і толькі ўздыхнула.

— Ну што ты, як рыбіна, маўчыш? Пра што была ў вас гаворка? Ці гэтак жа ты і з ім маўчала?

— Ды гаварылі мы з ім пра ўсё, але як гусь з парасём. Я — пра адно, ён — пра другое...

— А хоць што ён абяцаў надалей? Як будзем жыць?

— Сказаў, што мала засталося...

— Што мала засталося?—спужалася суседка.— Жыць нам мала засталося, ці што?..

— Вось гэтага я не зразумела,— адвярнулася старая і зноў пачала рваць крапіву і запіхваць яе ў кошык.

## Рытмы

Кожны павінен жыць у сваім часе. Але не кожнаму гэта ўдаецца, а хутчэй за ўсё — нікому, бо за чалавечы век жыццё мяняецца, перакручваецца настолькі, што нез-разумела — дзе галава, дзе ногі.

Што застаецца рабіць? Жыць-дажываць, бо далейшае жыццё — быццам нелюбімая ежа, якую вымушаны жаваць як не сваімі зубамі — ведаеш, што іншай не будзе...

І гэта штодзённая, нелюбімая «ежа» атручвае душу і ўвесь твой унутраны свет.

Што былі раней за танцы!..

Кожны танец — гэта спалучэнне паводзінаў, манераў, пераўвасаблення, Гэта і своеасаблівы настрой, новыя пачуцці.

Вальс нараджаў крылы, адчуванне палёту, бязмежнасці часу. Полечка выклікала лёгкасць, спрытнасць, імпэт. Ночка і кракавяк патрабавалі элегантнасці, артыстычнай зладжанасці з партнёркай...

А што былі за песні раней!..

Меладычныя, мілагучныя, напоўненыя сэнсам і непаўторнай лірыкай! А як яны выконваліся! З годнасцю, з павагай да творчасці і слухачоў.

Рэдка на якое пытанне можна адказаць адназначна, тым больш на пытанне: «Адкуль сёння столькі жорсткасці ў людзей?»

Сярод шматлікіх прычын ёсць адна, на першы погляд, бяскрыўдная. Гэта — рытм сучаснага жыцця і яго... музычныя рытмы.

Можна не чапаць афіцыйную сцэну, экран, дзе творы, у асноўным, на адзін манер, дзе выканаўцы, мокрыя ад поту, ледзь не поўзаюць па сцэне, а суперапаратура глушыць напавал.

Дастаткова ўважліва зірнуць на падлеткаў, услухацца ў іх музычны свет — і жахнуцца. Жахнуцца ад адсутнасці разумення моладдзю нават «сваёй», сучаснай музыкі. Перамагае дэфармацыя густу і павагі да ўласнага «я», падпарадкаванне натоўпу аднагодкаў, дыскатэчнаму вірусу. Рытмы, далёкія ад музыкі, запаланілі, атручваюць, знявечваюць кволыя душы.

Ідзе малады хлапец, пачэпіць навушнікі — і адбойны малаток рытмаў б’е і б’е па мазгах, лупіць па светаўспрыманню юнака. Дома ці ў сяброў працягваецца гэта духоўнае самагубства.

Але... Але праз пэўны час гэтая моладзь, як і я, азірнецца назад і з настальгічным болем скажа:

— Эх, які цікавы быў наш час! Якія былі мелодыі і рытмы!..

І хто мае права гэтаму пярэчыць? Кожны жыве ў «сваім» часе...

Безумоўна, немагчыма ўсё жыццё «вальсаваць». Юнацтва, маладосць патрабуюць і музыкі, адпаведнай стану душы, але неабходна ведаць, што музыка, песні, танцы ва ўсе часы былі прызваныя не выпустошваць, а напаўняць душы людзей прыгожым і вечным...

А я застаюся ў тым далёкім, сваім часе, які атуляе маю душу незабыўным водарам мелодый і гукаў.

Адсталы я чалавек...

Прабачце!

## Сарока

Які самы хітры і асцярожны звер? Кажуць, ліса. А з птушак, безумоўна, самая кемлівая і дасціпная — сарока.

Сусед, бывае, дзень туляецца з ружжом ля хаты і хлява, каб падстрэліць яе за тое, што крадзе курыныя яйкі. Дзе там! Патуляецца, пасядзіць у засадзе, плюне і пойдзе дамоў. Сусед — у хату, яна — да хаты...

І вось нядаўна «прыпісалася» у маім двары нейкая прыблуда сарока. Я скрыпну дзвярыма — і на ганак, а яна аднекуль — шусь на варотцы. Сядзіць і глядзіць мне ў вочы. Што гэта з ёй здарылася? Куды дзелася яе прыродная самаахоўнасць і пільнасць? А-а! Вось у чым справа! Састарэла бедалага ды, відаць, і аўдавела на старасці гадоў. Пер’е пагубляла і з хваста, і з крылаў. Нямогласць і голад перамаглі асцярожнасць — вось і ціснецца да чалавечага жылля яна.

Пашкадаваў я сароку і пачаў кожны дзень падкормліваць яе, а хутка мы і пасябравалі.

Адно толькі дрэнна — ад’еду ў Мінск, а думка непакоіць: як там мая сарока?

* * *

З задавальненнем пішу невялічкі працяг гэтай гісторыі.

Вяртаюся ў вёску з Мінска і нецярпліва азіраюся — дзе мае шматгадовай даўніны сябры: дзве суседскія коткі — Лялечка і Пушынка, і ці на месцы два суседскія сабакі — Байкал і Мульцік? На месцы! Ля маіх варотцаў — радасна сустракаюць мяне, і я мітусліва рыхтую пачастункі.

А дзе ж мая нядаўняя сяброўка — сарока? Забавілася дзесь... Не! Вось і яна распушылася на плоце, чакае гасцінца. Добра!

Пакуль рыхтую прысмакі на «сяброўскі стол», заўважаю, як штосьці чорнае маханулася ля акна. Асцярожна выглядваю на двор і... дыханне заняло. На сцежцы, ля ганка, сядзіць велізарны прыгажун груган!

Не ведаю, ці хітрая гэта птушка, але асцярожнасці ў яе — праз край. Хату аблятае за вярсту, чалавека — за дзве.

Я не мог адарваць вачэй ад гэтай таямнічай птушкі, якая, як сцвярджаюць, жыве трыста гадоў. Усё сваё жыццё я верыў гэтай байцы, але потым пагартаў энцыклапедычны даведнік і быў расчараваны — жыве гэта птушка прыкладна сорак гадоў...

І усё ж колькі б ёй ні было наканавана жыць, яна — цікавая і прыгожая!

Што яе прымусіла сесці ля майго ганка — ці лістападаўскія халады і галаднеча, ці давер да чалавека? Не ведаю, ды і не важна гэта. Важна іншае: усе мы, жыхары нашай планеты,— узаемазвязаны і неабходныя адзін аднаму.

## Радаўніца

Радаўніца... Святы дзень для кожнага сэрца, у якім гучаць галасы пайшоўшых з жыцця людзей.

Радаўніца — гэта тая непрыкметная кладачка, той нябачны масточак, па якіх вяртаюцца ў нашы думкі родныя, блізкія, продкі. І удзячная памяць пракручвае эпізод за эпізодам, год за годам — увесь мінулы час, калі мы мелі шчасце глядзець у вочы цікавым людзям, чуць іх размовы, адчуваць цеплыню іх жывых сэрцаў.

Радаўніца... Чакаеш яе, рыхтуешся, кожны год імчыш на могілкі да родных, як на сустрэчу, спадзяешся на нейкі цуд. Прылятаеш — пальцы рук да болю сціскаюць халодную агароджу, і разумееш тое, што даўно зразумела, што

цяжкім грузам носіш у сэрцы — сустрэчы ніколі не будзе. Ні-ко-лі! Страшнае гэта слова, бязлітаснае...

Ніяк не магу да канца разабрацца, што гэта за дзень такі — Радаўніца? Знешне ён нават падобны на святочны дзень — людзі чыста апранутыя, узрушаныя, кветкі ў руках. Рухавасць, руплівасць. Нехта падфарбоўвае агароджы, хтосьці штосьці садзіць, прыбірае, выграбае смецце. Людзі вітаюцца, перагаворваюцца, дзеляцца навінамі — вясковыя ж могілкі збіраюць аднавяскоўцаў, землякоў, знаёмых.

І толькі чорныя хусціны і ўчарнелыя ад гора твары тых, хто нядаўна перажыў пахаванне, напамінаюць, што лепей бы не было такога свята. І з гэтым нельга не пагадзіцца.

Але Бог стварыў чалавека смяротным, таму такі вось дзень неабходны. Гэты дзень не толькі ўшанаванне памяці памерлых і забітых, гэта і праверка нас, жывых, бо, здавалася б, нямая магіла, а можа многае расказаць пра адносіны жывых да мёртвых. І не толькі расказаць, а адказаць на пытанне: «А ці ж людзі мы?..»

Рыхтуюся да Радаўніцы я загадзя. Купляю штучныя кветкі, вяночак. Запасаюся гарэлкай — яе трэба многа. Потым з жонкай, напярэдадні Радаўніцы, едзем на могілкі, робім самую чарнавую работу, каб менш пэцкацца на Радаўніцу.

І вось на дзявяты дзень пасля Вялікадня — Радаўніца. Надвор'е ў гэты дзень амаль заўсёды сонечнае — Бог спрыяе.

Гадзін у дзесяць пачынаюць збірацца людзі. Хто на падводах, хто на машынах, хто пешшу. Выгружаюць сумкі, клункі, нясуць рыдлёўкі, вёдры, слоікі з вадой.

Выгружаемся і мы, дастаём з машыны сумкі, усё неабходнае. Заходзім у загароджу, перахрышчваемся, «вітаемся» з бацькамі. Штосьці падчышчаем, падграбаем, выносім за дарогу сухі шыльнік. Потым старанна ўпрыгожваем кветнічак магілы штучнымі кветкамі, ставім

у слоіку жывыя. Мыем рукі і сцелем посцілку. Перш-наперш ставім талерачкі і кілішкі бацькам, потым сабе. Выстаўляем з сумкі гарэлку, раскручваем закусь. Наліваем гарэлку бацькам і сабе, дзелімся з бацькамі і ежай. Яшчэ кладзём ім па фарбаванаму яйку, якія дзеля гэтага хаваем ад Вялікадня. Але заседжвацца доўга не ўдаецца, бо магілы бацькоў знаходзяцца ля самага ўвахода на могілкі. Людзі ідуць і ідуць на могілкі, і амаль усе яны ведалі бацькоў жывымі. Вось чаму я загадзя запасаўся гарэлкай — людзей трэба прывітаць, наліць па чарцы.

Праз нейкі час ідзём ужо мы ад магілы да магілы. Усе мае карпілаўцы, за выключэннем двух-трох чалавек, «адпачываюць» тут. Як цяжка даюцца мне гэтыя пераходы. Колькі цікавых людзей, на сялянскай мудрасці і прыродным гумары якіх я выхоўваўся, ляжаць у гэтай зямельцы. Мая вёска заснула векавым сном. Большасць — аджыла адпушчаны Богам век, але ёсць і недажыўшыя не адно дзесяцігодцзе. Вось — маладзенькая і прыгожая Левандоўская Галя, якая трагічна загінула. Тут жа яе бацька, яшчэ не стары чалавек — Левандоўскі Людвіг. А вось мой сусед Мурашка Мішка. Побач — мой сябар Васілевіч Барыс і ягоны брат Васілевіч Лявон, з якім я па-суседску збіраўся дажываць век. Вось — вясёлая і прыгожая Вера Бабіцкая...

Цяжка, ой як цяжка насіць ад магілы да магілы камяк у горле.

Я і акрамя Радаўніцы часцяком бываю тут, але сёння дзень асаблівы — святочна-жалобны дзень.

Цяжка тут бываць, яшчэ цяжэй ад’язджаць адсюль. Быццам тут застаецца... не, не быццам, а сапраўды тут застаецца частка майго лёсу, частка майго сэрца, частка мяне самога.

Без той святой часткі не было б ні мяне, ні працягу жыцця на зямлі.

# Крывапіўцы

Тое, што свежына ў вёсцы — значная падзея, вядома многім, нават тым, хто нарадзіўся ў горадзе.

Вяскоўцы ж майго веку і сталейшыя ведаюць, што свежына — гэта яшчэ і своеасаблівы рытуал.

Па-першае, смалілі свінчо не смуроднымі бензінавымі лямпамі, не з дапамогай газавага балона, якіх тады не было, а звычайнай саломай.

Роўненькую, ад вымалачаных снапоў салому тата трымаў у сухім месцы спецыяльна для смалення.

Смаліць саломай было марудна, патрабавалася шмат часу і намаганняў, затое сала лічылася пасля такой працэдуры смачным і здаровым.

Па-другое, у нашай глухой вёсцы тых часоў гарадскімі харчамі і не пахла, пра многае і не чулі. А калі пахла і чулі — не было грошай, бо бюджэт кожнай сям'і са скрыпам дазваляў купіць самае неабходнае — цукар, соль, муку, боты, ватоўку.

Вось чаму ледзь не ўсёй вёскай збіраліся па чарзе вакол самага галоўнага і, бадай, адзінага вясковага прысмаку. Але спачатку прыходзілі толькі мужчыны — у асноўным — «спяцы» па заколцы і разборцы свінні. І хоць кожны гаспадар дасканала валодаў свяжыннай тэхналогіяй — ад парадаў і прапаноў не было адбою.

І вось парсюк абкочаны, заколаты і пакладзены пасля смалення на нейкія дошкі ці старыя дзверы для яго разбірання.

Тут пачыналася галоўнае. Выразаў тата квадратны кавалак грудзінкі, і ў тое паглыбленне набягала кроў. Бралі мужчыны алюмініевы кубачак, зачэрпвалі кроў і па чарзе пілі яе. Тады гэта лічылася карысным і неабходным для здароўя чалавека пітвом.

Я быў у той час хударлявым і даволі бледнатварым хлапчуком, з-за чаго пра мяне чамусьці, гаварылі: «Белы, як снягір...»

Мяне гэта здзіўляла, бо снегіры зусім не белыя...

Вось мне мужчыны і кажуць:

— Ну а ты, снягір, што стаіш? Пі — пачырванееш!

Мне вельмі хацелася быць падобным на гэтых дужых, рашучых аднавяскоўцаў, і я, перамагаючы нехаценне, зачарэпнуў і выпіў крыві, якая была цёплай і саланаватай...

З часам пастарэла вёска, памаладзелі звычаі, і пра згаданы рытуал болей у нас не чуваць.

## Акопы

Акопы... Купалавы Акопы...

Для мяне Акопы існуюць у трох іпастасях: Акопы тых гадоў, калі Купала знаходзіў тут прытулак для душы, для стварэння лепшых сваіх твораў. Другія Акопы — Акопы майго дзяцінства і юнацтва. Трація Акопы — сучасныя, даволі штучныя...

Мне помняцца, мяне хвалююць «другія» Акопы, калі я, малапісьменны, часцяком забягаў туды, не ведаючы пра святасць гэтага месца, не прачытаўшы яшчэ аніводнага Купалавага радка, хоць чуў, што быў такі паэт, які наязджаў да сваёй маці ў Акопы...

Дык чым прыцягвала мяне гэтае месца? Перш за ўсё — сваёй прыгажосцю, утульнасцю. Мне падабалася круглая, застылая, нібы люстэрка, сажалачка, над якой задуменна звісалі ліпы. Мяне прыцягваў агромністы камень-валун, на які я любіў ускарабкацца і сядзець, слухаючы птушыныя спевы і шум лістоты. Але больш за ўсё я любіў пасядзець «у дубе». Дуб гэты стаяў крыху воддаль ад сядзібы. Нехта некалі не паленаваўся выдзеўбці ў ягоным ствале нешта падобнае на крэсла, у якім было вельмі

прыемна сядзець. Казалі, што ў гэтым «крэсле» Купала пісаў свае творы, але гэтая навіна мяне мала хвалявала, і я прыходзіў да дуба не таму, што нейкі там Купала сядзеў у ім, а таму, што мне падабалася ўціснуцца целам у ствол і нібы зліцца з магутным волатам-дрэвам.

На вялікае шчасце, аднаго разу я «зацягнуў» у Акопы свайго швагра Казіка, які любіў фатаграфаваць, і ён сфатаграфаваў мяне і на валуне, і на бервяне ў вадзе сажалачкі, і седзячы ў дубе.

Дуба таго няма «ў жывых», як і многіх-многіх прыгажуноў-дубоў, што па-аднаму «паразбягаліся» па палях. Гэтыя помнікі прыроды зміналі калгасным «рупліўцам», якія выкарчоўвалі трактарамі дрэвы, каб з таго месца, дзе яны раслі, узяць жменьку збожжа.

Сапраўды, свіння есць жалуды, не задумваючыся, адкуль яны ўзяліся...

Фотаздымкі тыя ў мяне захаваліся, і я вельмі імі даражу. На пагорку, вышэй сажалачкі — у бок Будаў, з травы выглядваў падмурак колішняга дома, побач з якім захаваўся глыбокі і прасторны склеп. Сцены яго былі выкладзены каменнем і зацэментаваныя. Склеп быў даволі глыбокі, і я ні разу, хоць надта хацелася, не адважваўся спусціцца ў яго, бо баяўся, што не вылезу наверх.

Ад падмурка да сажалачкі на даволі крутым схіле захаваўся сад. Сёння, калі пачынаю гаварыць музейным супрацоўнікам пра той сад, яны недаверліва маўчаць ці робяць выгляд, што не пачулі маіх слоў.

А з гэтага састарэлага і дажываючага свой век садка мы са старэйшым братам мяхамі цягалі ў Карпілаўку смачныя яблыкі, бо свайго саду не было. Дзве вярсты несці мех з яблыкамі, калі ад стомы заблытваюцца ногі і, здаецца, няма сіл удыхнуць паветра,— такое, і паміраць будзеш,— не забудзецца.

Сёння — няма падмурка, няма склепа, няма дуба, знік садок...

Няхай бы стаялі хоць сухія дрэвы-помнікі, як стаяць яблынькі-калекі ў садзе Антона Лявіцкага.

У Акопах не засталося нічога натуральнага — ёсць толькі музейнае, штучнае, сярод якога пасвяцца харужанскія каровы. Магчыма, рупячыся аб жывёле, склеп і засыпалі. Спрабуючы пачысціць дно ў сажалачцы, парушылі, «прабілі» яе дно, і вада не хоча трымацца ў новай, штучнай.

І толькі дух купалаўскага генія тут натуральны і вечны... Сёння я, адукаваны і свядомы, з хваляваннем прыходжу да святых Купалавых мясцін, з сумам і болем іду па «трэціх», штучных, Акопах і зайздрошчу сабе — таму хлапчуку Сярожу, якога лёс прыводзіў сюды шмат гадоў назад...

## Па Даўгінаўскаму шляху

Ад Лускава да Карпілаўкі — пятнаццаць кіламетраў. Невялікі адрэзак знакамітага Даўгінаўскага шляху, па якім у свой час ездзіла менавіта ў Карпілаўку цэлае сузор'е вядомых людзей: Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш), Зоська Верас, Палута Бадунова, Ядзвіга Раткевіч, Змітрок Бядуля, Уладзіслаў Галубок. Даўгінаўскі шлях меў гонар «несці на векавых сваіх плячах» і славутага Максіма Багдановіча, які наведаў аднаго разу Ядвігіна Ш. у Карпілаўцы.

Янка Купала таксама многа год наязджаў гэтым жа шляхам да сваёй маці ў Акопы, што побач з Карпілаўкай, ды і ў самой Карпілаўцы бываў неаднаразова — сустракаўся тут з Ядвігіным Ш.

Цяжка нам сёння ўявіць, якім ён, Даўгінаўскі шлях, быў тады, на стыку мінулага і цяперашняга стагоддзяў.

Думаю, што не менш цяжка і вам уявіць славуты адрэзак шляху ледзь не паўвекавой даўніны, бо сёння анічога не засталося ад яго.

Мне «пашчасціла» дзесяткі, а можа, і сотні разоў адтупаць па гэтаму адрэзку Даўгінаўскага шляху. Чаму «пашчасціла» у двухкоссі? Таму, што не так ужо і мала пятнаццаць вёрстаў пехатой, ды яшчэ з клункам ці з клункамі, ды не заўжды добрым надвор'ем.

А патрэба ехаць з Карпілаўкі ў Мінск была ў асноўным адна — хлеб. Мама і сама выпякала вялізныя, круглыя, смачныя каравы чорнага хлеба, але часцяком канчалася мука, і тады — ногі ў рукі і, хоць дождж, хоць завея,— уперад.

Які ж ён быў, гэты кавалак Даўгінаўскага шляху ў пяцідзесятыя гады? Вядома, што дарогі, як і людзі, з часам мяняюцца, бывае — да непазнавальнасці.

Калі ласка, тых, хто не шкадуе абутку і часу, запрашаю ў падарожжа.

Рэйсавы аўтобус Мінск—Радашковічы прыпыняўся ля вёскі Лускава, дзе звычайна выходзіў я, ускідваў на плечы свой скарб і пачынаў не вельмі вясёлую работу — некалькі гадзін «пералічваць» крокамі няблізкую дарогу.

Вёска Лускава расцягнулася на цэлую вярсту ўздоўж дарогі. Таму пакуль праз яе пройдзеш — не адна пара дасціпных вачэй «абмацае» цябе ад выгаралай шапкі да стоптанага абутку, не адзін сабака аббрэша цябе праз плот, а то і кінецца ў ногі з адчыненых варотцаў. Ідзеш-ідзеш, а, здаецца, канца вёсцы няма. Не любіў я хадзіць праз Лускава, а мусіў — другой дарогі не было.

Дарога па вёсцы ўвесь час паволі лезе ўгару. Таму, калі нарэшце пакінеш вёску за плячыма, апынаешся на пагорку. Тут з палёгкай уздыхаеш і пачынаеш разам з дарогай забіраць управа і спускацца ў лес, які «паглынае» дарогу і падарожнага, навісае над галавой, закрывае сабой неба. Гэта так званы Гарошкаў лес. Пэўна, жыў тут калісь нейкі Гарошка, магчыма, і меў свой лясок — вось гэты лес з даўніх часоў і пачалі зваць Гарошкавым.

Некалі прайсці ці праехаць праз яго было вельмі небяспечна. Мама расказвала, што ў яе маладыя гады ў гэтым лесе лютавалі бандыты, пераймалі людзей, асабліва на падводах, абіралі да ніткі, а некага нават забілі.

Спускаюся ў гэты лес — цёмна, ціха, страшна... Ведаю, што тых бандытаў даўно няма, але на ўсякі выпадак клункі з хлебам сціскаю мацней — дзівак, дзіцянё.

Тут, унізе, бяжыць управа ад Даўгінаўскага шляху непрыкметная лясная дарога-конка. І хоць яна да «знакамітасці» дачынення не мае, але я не магу не прыпыніцца, каб не толькі перавесці дух, а сказаць некалькі слоў пра тое святое месца, да якога праз паўвярсты прывядзе ўхабістая конка. А прывядзе яна ў вёску Лясіны, у вёску з прыгожай назвай і трагічным лёсам. Больш за сто дамоў з жыхарамі спалілі тут немцы ў вайну — ніводнага лясінца не засталося ў жывых... Вёску пасля вайны часткова адбудавалі сваякі закатаваных і проста людзі са свету.

Але час не церпіць — трэба крочыць далей, тым больш што пройдзена ўсяго нейкіх дзве вярсты з хвосцікам.

Ад гэтай лясінскай дарогі-гаротніцы шлях крыху выгінаецца ўлева і пачынае працяглы ўзыход на ўзвышша. Вось тут пачынаецца самы сумны кавалак шляху адлегласцю паўтары-дзве вярсты, роўны, нібы струна. Калі дарога віхляе, нырае ды выныраве, ісці намнога весялей, чым па выцягнутай, здаецца, да бясконцасці роўнай дарозе. На роўным адрэзку дарогі заўважаеш, наколькі няхутка ты «паўзеш», быццам стаіш на месцы і толькі паднімаеш і апускаеш то адну, то другую нагу. Гэты роўны адрэзак Даўгінаўскага шляху выводзіць да вёскі Мацкі, якая па даўжыні не менш Лускава, але, дзякуй Богу, застаецца справа ўбаку.

Чамусьці толькі на гэтым роўным адрэзку шляху захаваліся прысады — у асноўным бярозы. Старыя, каржакаватыя, пакручаныя часам і вятрамі, з сухімі, ато і зламанымі вяршынямі, яны зачароўвалі сваімі фантастычнымі

постацямі. Колькі ім было гадоў — адзін Бог ведае. Канешне ж, больш за сто — бярозы жывуць доўга.

Дзівосна ісці між такімі прысадамі — быццам цябе суправаджаюць Акроплі ды Калізеі, настолькі веяла ад акамянелых дрэў даўнінай...

Мінуўшы прысады, шлях зноў збягае ў даволі глыбокую лагчыну і адразу ж прымушае прыкладаць намаганні, каб ускарабкацца на працяглы пад'ём, на новы пагорак. На гэтым пагорку аглядваешся на Мацкі і, крыху аддыхаўшыся, па адносна роўнай мясцовасці, забіраеш управа, каб праз якіх пару вёрстаў прыйсці ў Шапялі.

У Шапялях з палёгкай уздыхаеш, бо сюды часцяком дапінаеш на вечарынкі — значыцца, праз пяць вярсцін дом!

Толькі мінаеш Шапялі, як зноў «губляецца» неба, бо над галавой шчыльна змыкаецца змешаны лес, сціскае з двух бакоў дарогу, паглынае святло. Гэта свой лес, свае сцежкі — не трэба хваляваца за клункі, якія ўжо пазразалі ўсе плечы.

Ды дзякуй Богу, што ўсяму жывому думка пра дом дадае сілы! Чым бліжэй да свайго гнязда, тым шыбчэй і радасней ідзецца. Таму дзве вярсты ад Шапялей да Жукаўкі праскокваеш, як кажуць, на адной назе.

Дарога ў Жукаўцы рэзка збягае ўніз, «падныртвае» пад невялікую рачулачку і гэтак жа рэзка бяжыць уверх, дзе сярод хатак на самым пагорку — цэркаўка.

«Жывая» цэркаўка, якая дзейнічае! Гэта ж трэба — да Жукаўкі ў тыя часы можна было дабрацца толькі на сваіх дваіх, а святара неяк усё ж прывозілі, і на рэлігійныя святы тут збіраліся людзі з усёй акругі, адбывалася шэсце вакол царквы з плашчаніцай і царкоўнымі спевамі. Хіба такое можна забыць?!

Потым, пры лепшай дарозе, царква доўгія гады не дзейнічала, развальвалася, рушылася. Сёння яна, аднаўленая і памаладзелая, зноў збірае па святах вернікаў.

З жукаўскага пагорка дарога круціць уніз, улева, дзе, спаласнуўшыся ў другой рачулачцы, рэзка падкручвае ўправа і ўверх, абмінаючы былы масток праз рачулку, ад якога застаўся разрэзаны вадой насып.

Адразу за Жукаўкай пачынаецца Здарэнне. Даўней гэта было вельмі бойкае месца — быў заезны двор, жылі багатыя яўрэі, поп. Наколькі яны былі багатыя, сведчыць той факт, што дачнікі, якія апанавалі гэтыя мясціны, знайшлі ў канцы васьмідзесятых гадоў (зусім нядаўна!) тры зліткі золата ў зямлі.

Але ліха бяры тое золата, пададзімся далей праз Здарэнне, у якім у час нашага падарожжа няма і чалавечага духу, акрамя нас з вамі. Шлях у Здарэнні — амаль самы бездарожны. Дарога, калі можна назваць яе дарогай, ідзе ўгару. Дажджавая і паводкавая вада павымывала мятровай глыбіні звіліны-канавы, агаліла каменне — ногі можна паламаць.

Дарэчы, пачынаючы ад Лускава, шлях быў настолькі знявечаны часамі безгаспадарчасці апошніх дзесяцігоддзяў, што хутчэй нагадваў паласу перашкод, чым штосьці прыдатнае для язды...

Сёння пагоркі ў многіх месцах пазразаны, лагчыны засыпаны, павароты выпраўлены, лес ад дарогі «адагналі» бензапілы. Коцяць з шалёнай хуткасцю па шырокай асфальтавай шашы розныя аўтамашыны, і нікога не хвалюе пытанне: «Які гэта шлях?..»

Пераадолеўшы здарэнскія ўхабіны, трапляеш у сапраўдны, даволі дрымучы хваёвы лес — прыгожы, знаёмы, родны Карпілаўскі лес, у якім і паветра напоена непаўторным водарам. Дарога тут пясчаная, роўная — хоць каціся. Вось дзе раптам заўважаеш, наколькі хутка ты шыбуеш.

Перад самай Карпілаўкай зноў рачулка, якая перараззае насып «таго», сапраўднага шляху. З вады паміж камянёў тырчаць драўляныя палі колішняга масточка, гэткага ж, які быў і за Жукаўкай.

Летам рачулку лёгенька пераскокваеш па камянях, а вось вясной, у паводку, трэба поўнасцю распранацца і па грудзі ў равучай вадзе дабірацца да другога берага.

Так са мной аднойчы і было. Пакуль пераначаваў у Мінску ў сваякоў, пакуль выбраўся ў зваротны шлях, прыпякло веснавое сонца і снег шуганўў у рачулку, якая з ласкавай ператварылася ў грозную. Не чакаць жа на беразе канца паводкі — мусіў лезці ў ледзяную ваду, хоць да хаты якіх метраў трыста...

Але вось і Карпілаўка! Непрыкметна за размовай, «гуляючы», адмахалі пятнаццаць кіламетраў. Тут, у былым садзе пана Кабылінскага, я паварочваю направа, да роднага дома,— прашу ў госці.

Калі каму прама — шчаслівай дарогі!

## Курцы

Пасля вайны, у пяцігадовым узросце, мы, малыя дурні, гуляючы ў дарослых, выцягвалі з-пад бярвенняў сухі мох, закручвалі яго ў паперу і прыкурвалі. Едкі дым выядаў вочы, мы кашлялі, пляваліся, выціралі слёзы.

Праз нейкія пяць гадоў, ужо ў Мінску, мы з сябрамі-аднакласнікамі збіралі «бычкі» і дакурвалі іх. На кожным перапынку паміж урокамі бегалі курыць у туалет. Спрабаваў змагацца з нашай бязмозгласцю сам дырэктар школы, які за маленькі рост прыдбаў мянушку «Карандаш». Вось гэты Карандаш, пасля званка на ўрок, станавіўся на ганак школы і ўсіх нас прыпыняў і прымушаў хукаць... Дзякуй таму Сяргею Данілавічу, дырэктару школы, за тое, што ён хацеў ўратаваць нас ад атруты.

У чатырнаццаць год, цяпер ужо ў Карпілаўцы, я афіцыйна пачаў пракурваць сваё здароўе пры бацьках, хоць мама і пратэставала, але было позна — я стаў заядлым курыльшчыкам.

Дыміў я, як кажуць, налева і направа аж да трыццаці гадоў. Потым адчуў, што не ў той бок іду. Твар мой набыў нездаровы выгляд, пачаў балець страўнік, і я, набраўшыся мужнасці, кінуў курыць.

Праз некалькі год здароўе наладзілася, і мне сёння жудасна ўспамінаць той пракураны перыяд майго жыцця. Прыемна ўспомніць толькі адно — сярод курцоў-дзяцей і падлеткаў не было ніводнай дзяўчынкі. Сёння — здурнеў свет... Ой! Што я кажу! Які свет?!

Сёння ўвесь, як яго завуць, «цывілізаваны свет» рашуча і свядома асвойвае здаровы лад жыцця. Не толькі дзеці і падлеткі, амаль усе дарослыя аб’явілі вайну тытуню і алкаголю...

У нас жа сёння нельга зайсці ні ў адну ўстанову — па ўсіх калідорах, ва ўсіх кабінетах вісіць густы, застойлівы смурод цыгарэтнага дыму.

І усё ж галоўная трагедыя нашага грамадства ў тым, што большасць дзяўчынак-падлеткаў атручана нікацінам. І кураць яны «запоем», з хваравітай прагавітасцю. Яны працягваюць атручваць сябе і тых, каго народзяць. Гэты жах ацяжарваецца тым, што і дзяржава, і грамадскасць, і бацькі робяць выгляд, што нічога не бачаць.

Калі дадаць да фізічнага нездароўя нацыі ўстойлівую маральную хваравітасць, то будучыня ў нашай нацыі сумная — нават трагічная.

## Сіла ісласбасць духу

Жыццё набягае хвалямі падзей, зацішша, узлётаў і падзенняў.

Бываюць часы, калі свет робіцца цесным для душы — для думак, памкненняў, пачуццяў, натхнення. Адчуваеш сябе значным, усемагутным, акрыленым. Пішацца, творыцца, здзяйсняецца!

Задуманае імкнецца на паперу, на палатно — у свет слоў і фарбаў. Гэта гама натхнёнасці і ўзнёсласці душы нагадвае буйное цвіценне саду, калі кожная кветачка не жадае думаць пра пустацвет, а марыць апыліцца іператварыцца ў цудоўны плод.

Такое сонцастаянне душы — шчаслівая пара для творцы. Сімфонія створанага ў гэты час гучыць асабліва звонка і ўзнёсла.

Бываюць часы, калі не хочацца жыць. Змрок у душы, змрок у вачах, цемра наўкола. Гэта крытычныя і вельмі небяспечныя для творчага чалавека часы. Усё, што зрабіў і робіш, выглядае непатрэбным, дробязным, і цяжка зразумець, для чаго на гэтым свеце ты сам.

І гэты перыяд не бясплодны, бо творчы працэс не спыняецца ніколі.

Пад чорнымі хмарамі псіхалагічнага надлому творчая душа нараджае пранізліва-балючыя, глыбока-трагічныя, асабліва кранальныя творы. Можна нават паспрачацца, які стан душы з’яўляецца больш магутным штуршком і стымулам для нараджэння значных мастацкіх твораў. Думаю, што кожны па-свойму будзе мець рацыю, бо ў творчага чалавека пастаяннай душэўнай раўнавагі ніколі не будзе.

Як дзень мяняе ноч, так і ў творчай душы кароткае зацішша будуць мяняць буры эмоцый, а сонечнасць будуць закрываць хмары адчаю.

І яшчэ адна цікавая асаблівасць: у душу звычайнага чалавека зазірнуць немагчыма, яна, як кажуць, прыцемкі.

Душа ж творчага чалавека як на далоні, яна — у ягоных творах.

## Мама

Усе мы — кропелькі той адвечнай, невычарпальнай крыніцы, імя якой — мама. Ніколі не перасыхае гэтая крынічка — ніколі не памірае мама. Яна — у нашых

сэрцах, нашых думках, яна заўсёды побач з намі —у радасці і горы, яна тое адзінае асяроддзе, па-за якім чалавек існаваць не можа...

Мая мама — самая прыгожая ва ўсім свеце. Мая мама — самая добрая ва ўсім свеце. Мая мама — самая працавітая ва ўсім свеце, і яшчэ... мама была няшчасная, бо не дай Бог нікому перажыць пяцёра сваіх дзяцей.

Але і ў беднасці, і ў горы мама была шчаслівая тым, што выраслі, вывучыліся астатнія дзеці, нарадзіліся ўнукі...

Першая песня, напісаная мной з кампазітарам Эдуардам Зарыцкім, была прысвечана маме і пачыналася словамі: «Ты ў свеце самая прышжая...»

Я ганаруся сваёй мамай за прыгажосць яе душы, за яе чалавечую годнасць і мужнасць, з якой яна прайшла праз усе жыццёвыя выпрабаванні, асабліва ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Мама выпякала партызанам хлеб, а калі немцы спалілі хату, засталася з партызанскім атрадам у лесе.

Дзякуючы толькі ёй мы, чацвёра яе дзяцей, засталіся жывымі, вырваліся з нямецкага акружэння на Паліку, дзе загінулі сотні і сотні людзей, нават без дзяцей на руках.

Дзякуючы ёй мы не памерлі ад пасляваеннага голаду, калі не было ні крошкі, ні лушпінкі, ні зернетка. Гэту «ласку» жыцця я добра памятаю.

Дзякуючы маме мы не памерзлі ў сырой і халоднай зямлянцы, уратавалі свае душы ад жорсткасці і нянавісці да ўсіх і ўсяго. Мама не скардзілася, не ныла, яна змагалася за нас...

Усё сваё жыццё, колькі памятаю, мама не выпускала з рук іголку — «абнаўляла» кожны вечар да позняй ночы нам і сабе вопратку, ляпіла і ляпіла лаціну на лаціну...

Каб звязаць тыя ніткі ў адну, можна было б абматаць зямны шар, як клубок...

Каб прыкласці тыя лаціны адна да другой, атрымаўся б агромністы, на ўсё неба транспарант, на якім можна было б напісаць, бачнае ўсяму свету: «Слава КПСС!»

Бацькі дажывалі свой век у дзесяціметровым пакойчыку — у бараку ў Возніцкім завулку ў Мінску, куды іх забраў брат Косцік, калі я служыў у арміі. Сам я жыў з жонкай і дачкой у васьміметровым пакойчыку на агульнай кухні, разам з другой сям'ёй.

Бягу, бывала, да бацькоў праведаць іх, ведаю, што галодныя сядзяць, але ў самога ў кішэні тры рублі, а да палучкі — тыдзень. Заскочу ў краму, куплю бутэльку малака, пару тварожных сыркоў, батон ды маме цытрамону ад галаўнога болю. Вось рубель і «ляснуў»! І гэтак кожны раз — страсаеш капейкі, бо самі з жонкай не маглі звесці канцы з канцамі.

Вось і перабіваліся мае бацькі з хлеба на ваду, а тыя, хто наўмысна стварылі такія ўмовы існавання, жыравалі, адгарадзіўшыся ад людзей хлуслівымі лозунгамі. Прыдумалі так званую «савецка-партыйную» работу, якая дазваляла і жыраванне, і персанальныя пенсіі, а вось за жыццё, аддадзенае дармавой калгаснай катарзе, не плацілі аніякай пенсіі.

І усё ж трэба аддаць належнае дзяржаве, якая злітавалася і прызначыла пенсію тату за тое, што ён, пасля шасцідзесяці гадоў, працаваў у розных некалгасных шарагах вартаўніком. Пенсія складала аж пяць рублёў і семдзесят пяць капеек, і адбылося гэта пенсійнае «свята», калі тату было семдзесят гадоў.

У апошнія гады мамінага жыцця мы, усе яе дзеці, кожную нядзелю збіраліся сем'ямі разам вакол мамы, шумна абедалі, горача спрачаліся і гутарылі, спявалі. На ёй трымаўся свет нашых узаемаадносін, наша кроўнае адзінства.

Не стала мамы — і ўсё пасыпалася. Мы паселі па сваіх

кватэрах, нас паглынулі сямейныя дробязі, мы пачалі аддаляцца адно ад другога.

Вось што значыцца мама!

Мама была старэнькая, нямоглая, але яна была. Я адчуваў яе прысутнасць кожнай крывінкай, я адчуваў сябе дужым, значным, патрэбным гэтаму свету...

Пасля яе смерці я адчуў сябе псіхалагічна нямоглым, адзінокім, непатрэбным, слабым. Жыццё страціла цікавасць, каляровасць, сэнс. Даўно злавіў сябе на горкай думцы: «Пры маме я жыў, без мамы — дажываю...»

Вось што значыцца мама...

Мама не толькі касіла і жала, яна яшчэ і сеяла. Яна, думаючы пра будучыню, сеяла ў сэрцах сваіх дзяцей і вакол сябе любоў і дабрыню. Мама паспела ўбачыць і ўсходы, і плады сваіх жыццёвых намаганняў, таму, спадзяюся, што душа яе знайшла спакой...

Згаданая вышэй песня пра маму заканчваецца словамі: «Насіце ў сэрцы слова «мама» без слова горкага «была»...»

Ніколі не памірае мама, ніколі не перасыхае адвечная, невычарпальная крыніца яе пяшчоты і дабрыні. Мама жыве ў маім сэрцы, я ў думках размаўляю з ёю, раюся.

Мая мама — самая лепшая ў свеце!

## Тата

Мой тата нарадзіўся ў самым пачатку гэтага стагоддзя і, як ні дзіўна, быў адзіным дзіцем у сям'і. Згадзіцеся, што такіх сем'яў у той час, ды яшчэ ў сельскай мясцовасці, амаль не было. Пяць, а то і дзесяць дзяцей — звычайная справа. Напрыклад, тата з маёй мамай «прыдбалі» аж дзевяць дзяцей, сярод якіх, канешне ж, і я.

Але гэта — не апошняе «дзіва», якое было звязана з маім татам. Месцам яго нараджэння і жыхарства быў хутар Рубеж з маляўнічымі сядзібамі чатырох гаспадароў, якія мелі, уявіце, аднолькавае прозвішча — Давідовіч. Ці ж гэта не дзіва?!

Татаў тата, Давідовіч Рыгор, жыў не бедна — меў сваю зямлю і нават свой «шнурок» лесу. Астатнія тры Давідовічы зямлю хоць мелі, але лесу ў іх не было.

Яшчэ ў юнацтве тата навучыўся выдатна граць на гармоніку — адных толькі полечак, самых розных, з драбнюткімі пераборамі, мог «сыпаць» увесь вечар, таму быў на расхоп у моладзі.

Вядомаж, за такім здатным ды «багатым» кавалерам дзеўкі, як кажуць — гужам! Але атрымалася, для большасці,— ды міма, бо мама ўсім «уцерла» нос і, пакінуўшы Карпілаўку, стала ў Рубяжы маладой гаспадыняй, праўда, пад пільным вокам свёкра...

Яшчэ адно «дзіва» перакрыжавалася з татавым лёсам праз усім вядомыя, таксама маляўнічыя Акопы — сядзібу-фальварак, які арандавала маці Янкі Купалы і дзе так лёгка і плённа пісалася песняру. Ды як было не перакрыжавацца Акопам з татавым лёсам, калі хутар Рубеж знаходзіўся меней чым за вярсту ад Акопаў? Гэта ж самыя блізкія суседзі, якія, каб і не хацелі ведаць адзін аднаго, усё роўна ведалі б.

Мне крыўдна сёння заходзіць у філіял музея Я. Купалы ў Харужанцах і не бачыць даведкі пра тое, што рубяжскі Федзя (гэтак тады клікалі тату) быў самым блізкім суседам Купалы па Акопах. Татава звышсціпласць і звышпрыстойнасць за ўсё жыццё не дазволілі ні разу вытыркнуць на людзі ўласнае «я».

Мне вядомы прозвішчы некаторых і аднавяскоўцаў, і жыхароў суседніх вёсак, якія і краем вока не бачылі Купалу, але, маючы добра «падвешаны» язык, «лезлі ў

вушы» многім карэспандэнтам, расказваючы байкі-небыліцы.

А пра свае, хай і выпадковыя, сустрэчы з паэтам, пра тое, што Купала на трэці дзень вяселля таты з мамай (гулялі ж раней тыдзень) мімаходзь зайшоў павіншаваць Рыгора з «набыццём» нявесткі, тата расказваў у вузкім сямейным коле, ды і то скупа і неахвотна, як бы саромеючыся,— вось, маўляў, хвалько!

Ды Бог з ім, з музеем — хоць бы хапіла ў ім месца сучасным «класікам» — якія называюць сябе «вучнямі» Івана Дамінікавіча, якога яны і ў вочы не бачылі. Але, як гаворыцца, трэба ўмець сябе прыпаднесці...

Дзякуй шчыраму чалавеку — Уладзіміру Содалю, што пісаў некалі пра маіх бацькоў і прагнуў адшукаць той татаў гармонік, які чуў калісь у Рубяжы Янка Купала. Але дзе ж яго знойдзеш, той гармонік, калі згарэў ён у полымі вайны разам з хатай і ўсім скарбам...

Вайна... Войны тату не абмінулі, яны зацягнулі яго ў сваю крывавую сячкарню і бязлітасна ламалі і крышылі лёс, здароўе, псіхалогію. Войны, праз якія прайшоў тата, называліся, па яго словах, «фінская» і «нямецкая» . Ці не замнога для аднаго чалавека?..

Тут я вымушаны зрабіць маленькую, але вельмі балючую для мяне даведку.

У свой час выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя» была выдадзена шматтомная серыя «ПАМЯЦЬ», якая ўшаноўвала тых, хто на франтах і ў тыле дабывалі Вялікую Перамогу.

З вялікай горыччу ў сэрцы, я не знайшоў у двухтомніку «Лагойскі раён» прозвішча свайго таты.

Трымаю ў руках яго ваенны білет серыі Б № 720547, выдадзены 19.Х.1947 г. Заслаўскім раённым ваенным Камісарыятам.

Між іншых анкетных дадзеных, чытаю: «Призван по мобилизации Логойским райвоенкоматом Минской обл. 7 июня 1944 г.— 169 стрелковый полк — стрелок.

Принял военную присягу при 169 стрелковом полку 21 июня 1944 г.

Участие в Великой Отечественной войне с 7 июля 1944 г.— 169 стрелковый полк — стрелок.

Не аказалася ў кнізе «Памяць» і майго старэйшага брата Давідовіч Мікалая Фёдаравіча, якога ў няпоўныя яго васемнаццаць год немцы везлі ў Германію ў рабства, і які на ходу скокнуў з поезда пад Беласточчынай і які не толькі партызаніў, але і ўдзельнічаў у партызанскім парадзе ў вызваленым Мінску.

Шмат і шмат удзельнікаў той вайны, па нейчаму недагляду, не трапілі ў гэтыя святыя кнігі. Гэта для іх — кароткая памяць.

Яшчэ адно — і самае незразумелае «дзіва»! тата, прайшоўшы праз нечалавечыя выпрабаванні, аніводнага разачку не мацюкнуўся — ні на маму, ні на дзяцей, ні на знаёмых.

Нават проста так, «абстрактна» — на жыццё ці на долю...

Тата — жыццёвая загадка, вялікая таямніца, якія ён панёс з сабой у іншы свет. Ніколі нікому не скардзіўся, ніколі нікога ні аб чым не прасіў, цягнуў сваю лямку сумленна да канца. Што было ў ягонай душы, у ягоным сэрцы — не вядома...

Калі не стала мамы, тата падышоў да труны і пранікнёна сказаў адзінае: «Што ж ты, бабка, пакінула мяне аднаго?..»

Потым наступныя, апошнія, тры гады свайго жыцця раскладваў перад сабой фотакарткі мамы і моўчкі гадзінамі сядзеў над імі, перабіраючы і перакладваючы... Які агонь спальваў яго сэрца?

Нашы з ім адносіны былі па-мужчынску стрыманыя, але адчувалася ўзаемная душэўная цеплыня і няўмела схаваная любоў адзін да аднаго.

Здаецца, сёння я б «задушыў» яго ў сваіх шчырых абдымках, а тады...

Татавы рукі ўмелі амаль усё рабіць і майстраваць. Касу калі адклепле, «адцягне»—не каса, а брытва, можна было ёй галіцца.

Калі зробіць бочачку ці ражачку — камар носа не ўткне паміж клёпкамі. Калі насмаліць дратву ды падшые валёнкі ці боты — зносу ім няма...

І яшчэ адно цікавае «дзіва» у татавым лёсе. Калі бальшавікі знішчалі хутары, давялося тату з сям'ёй жыць у доме другога знакамітага земляка — Антона Лявіцкага (Ядвігіна Ш.), якога паслякастрычніцкая завіруха сагнала з гнязда, і ён вымушаны быў пакінуць Карпілаўку.

Тады разам з нашай сям'ёй у доме Лявіцкага жылі адначасова і другія сем'і, якіх, у сваю чаргу, таксама спаролі з абжытых вуглоў.

У Карпілаўцы і навакольных вёсках жывуць яшчэ людзі, якія памятаюць ціхага, сціплага, працавітага чалавека, таленавітага музыканта — рубяжскога Федзю...

На Малабяседскіх могілках пад чорнай мармуровай плітой знайшлі свой вечны спакой два залатыя сэрцы. Ляжаць, склаўшы працавітыя рукі, два родныя мне чалавекі — мама і тата...

Калі давядзецца ехаць вам па Даўгінаўскаму шляху, прыпыніцеся на хвілінку ля могілак — гэта і будзе даніна павагі пакаленню сумленных і працавітых людзей.

## Паразуменцы

Як абрыдаў за жыццё маналог!

Колькі сябе памятаю, толькі і чую нечыя перакананні, нечую «праўду».

Безумоўна, кожны мае права на свае погляды, на свае меркаванні, кожны павінен заставацца самім сабой, бо чалавек — гэта асоба, унікальны сусвет.

Але ж і я — не дурань! Дайце і мне слова! Выслухайце мяне! Няхай нашы сустрэчныя меркаванні сутыкнуцца

лбамі так, каб абсыпалася тынкаванне памылковасці і агалілася, зрабілася бачнай усім ісціна.

Нічога ў свеце няма даражэй за ісціну! А ісціна высвечваецца толькі ў дыялогу.

Усвядоміўшы гэту няхітрасць, я даўся наўцёкі ад маналога і пачаў шукаць субяседнікаў, з якімі было б цікава шукаць паразуменне.

Сёння, сярод нашай адасобленасці і адгароджанасці адзін ад аднаго, здавалася б, знайсці такіх паразуменцаў вельмі складана.

Не! Не складана! Наадварот — надзвычай лёгка! Яны — побач. Іх трэба заўважыць і аддаць ім павагу.

Падыходжу, перш-наперш, да плуга, без якога не будзе ні хлеба, ні дабрабыту. Менавіта плуг, адным з першых, навучыў мае рукі быць дужымі, правільна і роўна накіроўваць баразну жыцця. Менавіта плуг прывучыў мае ногі знаходзіць тыя кропкі апоры, якія не дазваляюць хістка і няўпэўнена ісці па зямлі. Менавіта дзякуючы плугу я ўжо з чатырнаццаці гадоў адклаў у сваіх мазгах галоўную для мяне ісціну жыцця: «Хто навучыўся паважаць працу — ніколі не зняважыць чалавека».

З такімі думкамі я падышоў да плуга, ласкава дакрануўся да яго.

— Дзякуй табе, плужа! Вось стаю я ля цябе, пасівелы, пасталелы, і зноў чую перад сабой гарачае дыханне каня, зноў аддаюцца ў рукі гулкія ўздрыгванні твайго цела пры сутыкненні нарога з каменнямі, душой улаўліваю мяккае пашоргванне цёплых скібаў зямлі, якія ты па-гаспадарску раўнютка і далікатна пераварочваеш... Дзякуй табе, дружа, што я зноў адчуў сябе маладым і патрэбным зямлі...

Плуг стомлена адказаў:

— О-о, браток!.. Знасіўся мой сталёвы нарог, як з'ядаюцца зубы ў чалавека. Станчэў і сцёрся мой лямеш, але ж усё гэта адбылося дзеля сапраўднага жыцця. Сёння і я жыву ўспамінамі і толькі тады адчуваю сябе дужым і годным, калі зноў за мной паслухмяна ўкладваецца ралля.

Я моўчкі ўздыхнуў. Хацелася памаўчаць, каб не распужаць успамінаў.

— А памятаеш першую нашу баразну? — пачуў я ад плуга.

— Як бык памачыўся,— сканфузіўся я.— Блазнюк быў я яшчэ — прабач...

Пакланіўся я плугу і падышоў да сваёй даўняй прыяцелькі — касы, якая вісіць пад страхой на канцы кроквы. Асцярожна ўзяўся за адшліфаванае да бляску маімі ж рукамі касільна і зняў яе з кроквы.

— Ты ж мая гаротніца! Гэта колькі ж трэба скасіць сакаўной, роснай травы, каб так патанчэць і знасіцца!..

Сапраўды, кропля здольна камень пратачыць...

Каса тоненька дзынкнула:

— Не, не гаротніца я! Толькі напачатку свайго жыцця гаравала я, што рэжу па жывому і траву, і краскі ў ёй, пазбаўляю іх жыцця. А потым зразумела, што хутка перастаіць трава, пажухнуць краскі і зробяцца не патрэбнымі нікому.

— Карысная справа — класці пракосы! — падтрымаў я касу.— Аднак і падкляпаць цябе не пашкодзіць, адцягнуць малатком тваё лязо.

— Ведаю, што пара мяне мяняць,— уздыхнула каса.— Ведаю і баюся гэтага.

Я і сам даўно адзначыў, што шкадаваў сваю памочніцу, але адкладваў куплю новай касы, бо не адну ясную ранічку сустракаў з ёй, не адну зімку ела наша кароўка сена...

Быццам зазірнуўшы мне ў душу, каса насцярожана, з надзеяй дзынкнула:

— А як весела я калісь пасвіствала ў траве з кожным тваім узмахам! О-хо-хо...

Помніў я і гэта, помніў і тое, як мужна цярпела яна, калі я не заўважаў у траве камень, і іскры, як гарачыя слёзы, выскаквалі з-пад касы...

А па-другое, я і сам не надта адстаў ад яе — састарэў і паднасіўся.

З пяшчотай пагладзіў я касу:

— Сёння ж адкляплю цябе — будзеш як новая! Мы яшчэ з табой накосім-напракосім!

Зняў я касу з касільна і паклаў на калодку, каб вечарам выканаць сваё абяцанне. У гэтую ж калодку была ўторкнута сякера, з якой, каб і хацеў, не мог бы размінуцца без бяседы.

Гэта сякера, дарэчы, як і плуг, і каса, засталіся мне пасля таты.

Тата бярвенцы абчэсваў, бы той станок,— раўнютка і гладка.

Ад таты перайшлі да мяне не толькі яго дапаможцы, а і ўменне карыстацца імі, любоў да працы.

— Ну, здарова жывеш! — вітаюся з сякерай.

Маўчыць сякера, не адказвае, робіць выгляд, што не чуе мяне.

Яе маўчанне мне зразумела — крыўдзіцца! Гэта ж я нядаўна прыдбаў сабе шчапак, вось сякера і прыраўноўвае...

А што мне заставалася рабіць? Нарэзаў я дроў, а яны таўшчэзныя, камлюкаватыя, пакручаныя. Паспрабаваў шчапаць іх сякерай — замучыўся. Тады я і купіў шчапак, ад якога самы тоўсты камель разлятаецца, як арэх пад малатком.

— А памятаеш,— зноў звяртаюся да сякеры,— як мы з табой выцацкавалі лазеньку?! О, як хораша і старанна выгладжвала ты бярвенцы ды розныя рэечкі! Што б я рабіў, каб не ты? — падлізваюся я да сякеры.

Чую, не вытрымала сякера, памякчэла душой.

— Пра лазню ды пра прыбудаваную да хаты веранду — мае лепшыя ўспаміны. Не падкачалі мы, не асаромеліся!

Дзякуй Богу, думаю, удалося разгаварыць сякеру, адвесці яе крыўду ад тых дроў ды ад шчапака...

— Але ж твой тата абыходзіўся без шчапака! — куснула сякера.— Ці ж ты забыўся, як ён шчапаў тоўстыя калодкі?

Як я мог забыцца?.. Што яна гавора?.. Тата ставіў калодку, пляваў на далоні, замахваўся сякерай і ў момант удару сякеры па калодцы выдыхаў моцнае і рэзкае — «Гах!».

Гэта падабалася сякеры, а калодкам, наадварот, татаў «гах» не падабаўся -— яны разляталіся ад першага ўдару.

Я зрабіў выгляд, што вінавачуся перад сякерай.

— Згодзен! Згодзен! Тата лепей шчапаў дровы... Але трэба пamірыцца са шчапаком, не выкідваць жа яго!..

Тут выйшла з хаты жонка:

— З кім ты там размаўляеш?

Я разгубіўся і збянтэжана ляпнуў:

— Я?.. Я тут сяброў сустрэў...

Жонка азірнулася і нікога не заўважыла.

— Ты ўжо зусім здурнеў на старасці гадоў! Сам з сабой гадзіну нешта плешчаш... Ідзі палуднаваць!

Пагладзіў я тапарышча, уздыхнуў і пасунуўся ў хату, памятаючы, што чакаюць маёй падзякі і рыдлёўка, без якой не пасадзіш дрэўца, не ўскапаеш грады, і вілы, і гэбаль, і граблі, і піла з малатком.

## Акно

Што можна ўбачыць, гледзячы з хаты ў акно? З гарадской кватэры можна, напрыклад, убачыць процьму машын, атруцельніц паветра, табалу мітуслівых, занепакоеных сваім жыццём людзей ці сабак, якія загаджваюць без таго загаджаную зямлю,— ідзеш і няма куды ступіць.

Зімой можна бачыць, як тыя ж сабакі апаражніліся, а праз некалькі хвілін на гэтае жа «замініраванае», але прыпудранае снегам месца кладуць дыванок ці дарожку, каб «асвяжыць»...

Яшчэ можна бачыць, як насупраць, на балконе суседняга дома, гаспадыня старанна развешвае вымытую пасцельную бялізну ды свае начныя кашулі, а праз хвіліну, на

другім балконе, этажом вышэй, другая гаспадыня вытрасае пыл і смецце з сваіх падножных ануч — той пыл, як дышла, упіраецца ў зямлю...

Яшчэ можна назіраць, як... А ці варта пералічваць тое, што нам добра вядома і даўно намазоліла вочы? Няхай яно застаецца там, дзе не можа не быць. Лепей сяду я ля акна бацькоўскай хаты ў сваёй Карпілаўцы, глыну свежага паветра і паспрабую ўбачыць вачыма душы, поглядам сэрцатое, што адбывалася на невялічкім кавалачку зямлі.

На жаль, адбывалася тут рознае, сярод якога і сумнае, і трагічнае. І галоўная трагедыя ў тым, што зямля, адчуўшы нядбайныя адносіны да сябе, перастае радзіць, нібы помсціць людзям за тое, што тыя адвярнуліся ад яе...

Гляньце ў акно. Вунь палі, на якіх калісь каласілася жыта і ячмень, прываблівала пчол грэчка, набірала моц бульба. А вунь жанчыны, сярод якіх і мая мама, ірвуць калгасны лён. У кожнай жанчыны свой надзел, свая норма. Лён ірваць рукамі цяжка, марудна. Да жанчын падыходзіць з ружжом за плячыма падлетак. Гэта я, разявіўшы рот, цягаўся па лесе. Нешта ж мне стрэліла ў мазгі, і я, паклаўшы ламанку, памагаю маме адужаць яе надзел.

Мама з гонарам паглядзела на жанчын — вось які ў мяне сынок! Але я, скубянуўшы некалькі разоў, іду дамоў адпачываць — «спрацаваўся» на паляванні. Вось табе і сынок!

А вунь, правей, ужо другім днём, гэты ж падлетак важна сядзіць на скрыні, пастаўленай на падводу, і кіруе паркай коней. Коні ступаюць паволі, бо абапал падводы гэтак жа паволі ідуць жанчыны, якія на хаду збіраюць каменне і кідаюць у скрыню. Каменне невялікае, але яго многа, аж поле белае, вось і трэба зямлю «прыбраць» перад пасяўной. Такая працэдура паўторыцца праз два-тры гады зноў, бо каменне выворваецца, вымываецца дажджамі — расце, як грыбы...

Сёння, амаль праз паўвека, сустракаюцца тыя, «мае», крушні...

Раптоўна трывожна заціўкалі птушачкі і замітусіліся на вішні ля майго акна, адарваўшы мяне ад успамінаў. А-а! Гэта суседская котка Лялечка ідзе да мяне ў госці! Мушу ісці і я да дзвярэй, сустракаць яе, бо нельга сваю сяброўку пакідаць без увагі і пачастункаў...

Вяртаюся да акна і «бачу» галоўную штогадовую падзею — малацьбу жыта.

Камбайнаў раней было мала, наша брыгада знаходзілася ў самай глыбінцы, таму жыта касілі косамі. Прывязвалі да касільна арэхавую ці лазовую дугу, каб яна захоплівала высокае жыта, і клалі пракосы. За намі ішлі жанчыны, круцілі перавяслы і вязалі снапы. Потым снапы звозілі і складвалі ў сцірты, і тыя сцірты пакорна чакалі прыбыцця ў нашу брыгаду камбайна.

Вось камбайн пад’язджае да сцірты, і камбайнёр уключае барабан. Са сцірты два чалавекі пачынаюць скідаць снапы, з якіх унізе хуценька здзіраюць перавяслы і жыта каласамі ўперад падаюць у барабан.

Ля бункера стаяць падводы са скрынямі, куды будзе ссыпацца вымалачанае зерне.

Абслугоўваць барабан цяжка — патрабуецца спрытнасць і рухавасць.

Ды і асцюкі з пылам лезуць у вочы, за карак, закаркоўваюць вушы, нос. Таму мы ўвесь час мяняліся — то скідалі са сцірты снапы, то глыталі пыл з асцюкамі ля барабана.

Калі заканчвалася адна сцірта, пераязджалі да другой. У канцы дня цяжка было пазнаць адзін аднаго, настолькі мы абрасталі «хлебным» пылам і смеццем ад саломы.

Малацьба працягвалася не адзін дзень і заканчвалася шумным застоллем. Камбайнёра з памочнікам садзілі на куце, бо яны — галоўныя асобы, і налівалі ім поўныя шклянкі самагонкі...

А вось і зіма! Бялюткая, пушыстая, усё зіхаціць і пераліваецца іскаркамі пад сонечнымі промнямі! А колькі цецерукоў вунь на тых бярозах! Чорныя, аж блішчаць на

сонцы — вачэй не адарваць! Яны вабяць да сябе, казычуць паляўнічае сэрца — і я не вытрымліваю. Хапаю ружжо, накідваю ватоўку і выскакваю з хаты.

Цецярук — птушка асцярожная, хітрая. Мала таго што садзіцца на бярозы, з якіх бачна ўсё наваколле, дык яшчэ падстрахоўваецца «вартаўніком». Той чапляецца за самую вяршыню і не ласуецца, як усе, бярозавымі завушніцамі, а пільна пазірае навокал.

Ці ж мог я, падлетак, пачынаючы паляўнічы, падкрасціся да іх незаўважаным? Мне здавалася, калі я лягу на снег і буду паціху падпаўзаць, яны на мяне не звернуць увагі. Дзівак!

Напоўзаюся, бывала, за дзень да поўнай змакрэласці — і вопраткі, і абутку.

Ледзь толькі я падпаўзаў на небяспечную для іх адлегласць, яны лапаталі крыламі і пераляталі на другія барозны. Але гэта мяне не спыняла. Азарт распаляў, і я старанна пракладваў у снезе жыватом глыбокія барозны.

Пазней я даведаўся, што цецерука можна «браць» на такавішчы ці наганяць на другога паляўнічага, які схаваўся.

А ёсць самы надзейны спосаб — запрэгчы каня, сесці ў сані і роўненька ехаць да тых цецерукоў. Чамусьці яны зусім не баяцца чалавека на санях ці на падводзе.

Паступова цецерукі, якіх была цэлая процьма, пачалі знікаць з нашых лясоў. Кажуць, што іх паатручвала хімія. Магчыма, і хімія або нашкодзілі яноты ці яшчэ якая халера, але яны зніклі. Гадоў пяць назад можна было раніцай ці вечарам паслухаць іх чуфыканне ды балбатанне альбо ўбачыць аднаго-двух на бярозах. Сёння лясы маўчаць, бярозы асірацелі...

Аказваецца, цецярук — яшчэ і прадказальнік зімы. Мой сусед-нябожчык, які пры жыцці дрэнна чуў, прасіў мяне напрыканцы лета:

— Ты рана прачынаешся і добра чуеш, таму ўважліва

слухай. Як толькі пасля летняга маўчання першы раз заспявае цецярук — роўна праз тры месяцы ляжа снег.

Я з недаверам адносіўся да гэтай байкі, але, пачуўшы балбатанне цецерука і падлічыўшы дні, здзівіўся. Праходзіла тры месяцы — і выпадаў снег. Ні днём раней, ні днём пазней! І правяраў я гэта не адзін год. Вось вам і цецярук...

Цяпер сучаснае «відовішча»... Чуецца браханне чужых сабак, перад якімі ледзь бег узмакрэлы, абяссілены алень. Магутны самец з шыкоўнымі рагамі спыніў свой бег, спрабуючы аддыхацца.

Ён ужо не звяртаў увагі на сабак — страх знік разам з сіламі. Яго мокрыя бакі цяжка ўздымаліся і апускаліся.

Мы з жонкай выбеглі за варотцы, каб адагнаць сабак, але алень паціху паклыпаў далей, бліжэй да свайго трагічнага канца. Ён яшчэ раз спыніўся на сярэдзіне поля, абкладзены сабакамі, і праз хвіліну падаўся цераз дарогу ў выратавальны лес.

«Дзякуй Богу! —забілася сэрца.—Уратуецца!»

Але на шалёнай хуткасці пранесліся некалькі «уазікаў» наперарэз аленю.

А-а! Гэта мясцовае начальства забаўляецца... Браканьеры!

Пачуўся глухі стрэл і... унукі гэтых вар'ятаў, магчыма, ніколі не ўбачаць дзівоснай прыгажосці, якую б мог пакінуць пасля сябе на зямлі гэты алень...

А вунь, за полем, кудлацінка лесу, якая прыціскаецца да шашы. Пяць гадоў назад грыбнік знайшоў на дрэве нежывога чалавека. Бедалага быў босы, амаль голы — толькі лёгкі спартыўны касцюм, хаця была восень. Ніхто яго не апазнаў — так і пахавалі, безыменнага... Навошта чалавеку ехаць у белы свет, каб павесіцца? Хто надумаў гэта зрабіць, той робіць у сваёй мясцовасці. Хутчэй за ўсё, вывезлі яго на машыне і «дапамаглі» накінуць пятлю на шыю. Зямля яму пухам...

Не, лепей вярнуцца ў мінулае. Сучаснасць — жорсткая, бязлітасная, страшная. Людзі паступова, непрыкметна для сябе зачарсцвелі.

Але і мінулае ўсё не перакажаш, нават тое, якое ахоплівае абрыс майго акна...

Па дарозе, што насупраць, маленькай дзяўчынкай бегала мая мама. Па гэтай жа дарозе яна ад'ехала да апошняга прытулку. Праз тры з паловай гады за ёй падаўся і тата.

Вось тры друкаваныя радкі, а ў іх — цэлы чалавечы век...

На гэтай дарозе пачынаўся і мой жыццёвы шлях. Па ёй я шмат гадоў хадзіў і на вечарынкі, і на працу. Адсюль, па гэтай дарозе, паеду і я да сваіх бацькоў, да аднавяскоўцаў.

Шмат чаго можна было б «убачыць» з акна, але каму гэта цікава?

Я наўмысна прапусціў самую галоўную і трагічную падзею, калі нямецкія кулямёты «прыціснулі» карпілаўцаў паміж вёскай і ратавальным лесам. Тут, насупраць акна, многія загінулі, тут была паранена мая мама, якая прыціскала мяне і паўзла разам з астатнімі дзецьмі. Пашанцавала: выжылі, уцяклі...

Другім разам немцы наскочылі на досвітку, калі вёска яшчэ спала, але пра гэта я пісаў у другім творы...

Можна было б расказаць пра тое, як калісь ваенны чатырохматорны самалёт вымушаны быў па нейкай прычыне сесці «на бруха», пассякаўшы пры гэтым вяршыні дубоў. Тады ўсе ў самалёце засталіся жывымі, а Карпілаўка, пакуль самалёт разбіралі ды вывозілі, зрабілася пупам зямлі. Ці ж гэта не падзея?!

Мог бы я падрабязна распісаць, як нашу падслепаватую суседку ўкусіла за нагу гадзюка, а я, дасціпны, хацеў разрэзаць тое месца і выціснуць яд. Не дазволілі...

Расце за маім карпілаўскім акном вішнячок, які пакінула мама, зацвітаюць ружы і іншыя кветкі, пасаджаныя яе рукой. Сярод іх — яблынька, якую выкапаў я на

сядзібе Антона Іванавіча Лявіцкага. Там яна б загінула, а тут будзе жыць, як жыве памяць пра майго аднавяскоўца — Ядвігіна Ш.

Прабачце, зачыняю акно...

## Ля апошняй рысы

Ці ёсць на свеце чалавек, які б не баяўся смерці? Якіх-небудзь дваццаць гадоў назад я адназначна адказаў бы: «Не!»

Сёння, а мне ўсяго пяцьдзесят сем, я задумваюся над гэтым пытаннем і схільны згадзіцца, што шмат людзей сустракаюць свой непазбежны вынік даволі спакойна.

Размова не ідзе пра тых, хто ў росквіце гадоў, не рэалізаваўшы сваіх мараў і задумак, вымушаны з-за хваробы ці іншай недарэчнасці спыніць свой жыццёвы шлях. Гэта страшна і несправядліва.

Размова пра тых, хто рэалізаваў сябе, калі было што рэалізоўваць, і выкарыстаў свой жыццёвы рэсурс.

Бог мудры, ён падводзіць чалавека да апошняй рысы непрыкметна, паступова, асцярожна, даючы магчымасць чалавеку пераасэнсоўваць, пераацэньваць, нешта прымаць, штосьці адвяргаць.

Цяпер, азірнуўшыся назад, бачу сябе ва ўсіх узростах — ад маленства да сівой сталасці...

Сумна заўважаю, што ўспрыняцце іншых рэчаў у жыцці прытупляецца: што раней выклікала захапленне, з узростам страчвае сваю цікавасць.

Напрыклад, раней ад аднаго толькі слова «паляванне» мог дрыжаць і цягацца з ружжом па лесе і дзень і ноч. Цяпер да ружжа не дакранаюся, шкадую кожную жывую істоту.

Раней мог не выпускаць з рук суткамі гармонік ці гітару. Пеў сам сабе гадзінамі, як той глушэц. Цяпер — цішыня.

Раней верыў кожнаму газетнаму радку, кожнаму тэлерадыёслову. Сёння, пасля шматгадовага палітычнага працверазення ў Вярхоўным Савеце, даверу паўбавілася.

Раней мог цешыцца перспектывай жыцця на Зямлі. Сёння бачу, што такой перспектывы няма і самагубства чалавецтва непазбежнае.

Калі дадаць да гэтага тое, што не стала самых дарагіх мне людзей — мамы і таты, што з кроўнай радні не засталося амаль нікога, можна зрабіць вынік, што я, можна сказаць «даспеў» і хутка далучуся да тых, каго такое паняцце, як «смерць», не пужае зусім...

Бог аднёсся да мяне не толькі мудра, але і шчодра, бо, каб не мае кнігі, карціны і не галоўнае тварэнне — дачка, цяжка было б мне зразумець ля апошняй рысы — ці жыў я ўвогуле...

## Дзівосны сон

Бывае, за ноч насніш такога, што, прачнуўшыся, не можаш надзівіцца — ніколі пра такое нават не думаў, а яно з’явілася ў сне. Загадка! Дзіва!

Бываюць сны, якія раніцай лёгка і да дробязей усплываюць у памяці, а іншы сон — закручаны, заблытаны, затуманены — ловіш яго раніцай «за хвост» і не можаш злавіць.

Калі мне было ўсяго гады тры-чатыры, чамусьці часта сніліся ваўкі. Яны вялікай зграяй гналіся за мной і калі былі гатовыя схапіць мяне, я адштурхоўваўся нагамі ад зямлі і ўзлятаў у паветра — ратаваўся. Гэты сон даволі часта паўтараўся, магчыма, таму што дзіцячая псіхіка была моцна паранена вайной. Страшны быў сон, непрыемны — вось і помніцца ён мне ўсё жыццё.

Былі і іншыя сны, якія заселі ў памяці назаўсёды.

А вось нядаўна прыснілася, быццам злавіў я ў карпілаўскай рачулцы, у якой, акрамя апалонікаў, нічога не

водзіцца, залатую рыбку. Злавіў яе пад карчом рукамі, навобмацак. Рыбка блішчыць, пераліваецца рознымі колерамі, апякае мне далоні, а я цярплю, сціскаю яе. Далоні гарэць, як ад вугалля, а я яшчэ мацней трымаю здабычу.

Тады рыбка стала прасіцца:

— Любыя тры жаданні выканаю, толькі хутчэй адпусці мяне!

Я, не задумваючыся, бо далоні гарэлі агнём, пралепятаў:

— Прытулак для бяздомных сабак і катоў, каталог маіх мастацкіх карцін і царкву ў Карпілаўцы...

Пасля гэтага я адпусціў рыбку ў рэчку і — прачнуўся.

Спаў я на палку, за напаленай грубкай, і ў сне рука дахінулася да гарачай цэглы. Руку прыпякло, і, напэўна, ад гэтага нарадзіўся мой сон.

Сеў я на палок і моцна паскроб патыліцу... Чаму менавіта гэтыя тры жаданні, без ваганняў, нарадзіла мая падсвядомасць? Чаму не папрасіў я грошай, якіх не хапае на самае неабходнае? Чаму не выкарыстаў магчымасці рыбкі, каб памаладзець ці зусім зрабіцца бессмяротным? Ды мала чаго можна было «нагарадзіць»!

Адказы на першыя два жаданні знайшліся хутка.

Бяздомныя сабакі і каты — адзін з самых пякучых боляў маёй душы. Бяздомны ці галодны чалавек менш няшчасны, чым бяздомная жывёліна. Чалавек мае магчымасць папрасіць, загаварыць, разжаліць — і знойдзецца добрая душа, дасць на хлеб ці часова прытуліць. У сабакі, акрамя бязгучнага погляду, няма іншай магчымасці папрасіць. Але хто з нас глядзіць у сабачыя вочы ці прыслухоўваецца да каціных жаласлівых скаргаў? Адзінкі! А бяздомнікаў — сотні, тысячы. Вось і разгадка майго першага жадання, тым больш, што жонцы я надакучыў сваімі пустымі марамі:

— Эх, быў бы я багатым! Набудаваў бы для бяздомнікаў-гаротнікаў утульных прытулкаў!

Другое маё жаданне тлумачыцца яшчэ лягчэй. Які мастак не марыць аб каталогу сваіх мастацкіх твораў?!

А вось трэцяе жаданне — загадка! Я ніколі не думаў пра царкву ў Карпілаўцы. Тут і прыхаджан амаль няма — дзве-тры хаты ды дзве-тры дачніцкія сядзібы. Вось і ўвесь прыход.

Пра музей свайго земляка Ядвігіна Ш. я мару даўно, але чамусьці не яго я папрасіў у залатой рыбкі...

І усё ж, паразважаўшы, пачухаўшы патыліцу за грубкай, я згадзіўся з трэцім жаданнем.

А чаму б не царкву! Месца бойкае, дачнікі на сваіх машынах гойсаюць туды-сюды, аж у вачах рэжа. Няхай бы прыпыніліся на хвілінку ды ўспомнілі — хто мы, адкуль і для чаго на гэтым свеце? Няхай бы перад светлым боскім лікам ачысцілі душу ад куродыму сучаснай рэчаіснасці і духоўнага кураслепства...

Эх, разбагацець бы мне — была б і царква ў Карпілаўцы, і музей Ядвігіна Ш.!

Што ж, дурань думкай багацее... і за гэта дзякуй Богу!

## Павалены волат

Кожны чалавек, які пакідае свой дом, родных ці блізкія сэрцу мясціны, хвалюецца, перажывае — хаця б усё было добра, толькі б чаго дрэннага не здарылася ў яго адсутнасць. Прылятае дамоў на крылах надзеі і з палёгкай уздыхае, убачыўшы ўсіх і ўсё ў тым выглядзе, у якім пакінуў.

Гэткія ж пачуцці — хваляванні, перажыванні адчуваю і я, ад’язджаючы з мінскага дому ў Карпілаўку і наадварот,— з роднай вёскі ў Мінск. Асабліва калі надоўга разлучаюся з Карпілаўкай — шчыміць сэрца, баліць душа за безабароннае наваколле, якое за апошнія дзесяцігоддзі моцна пакалечана бязлітаснымі, бесчалавечнымі людзьмі.

Вось і сёння вяртаюся з Мінска ў сваю вёсачку з трывогай, з прадчуваннем нейкай бяды.

Колькі разоў такое прадчуванне збывалася, няўжо і сёння...

Паварачваю з шашы ў вёску, і абрываецца сэрца. Прыгожы, магутны волат-ясень, які першым заўсёды сустракаў мяне перад Карпілаўкай, які і сто, і дзвесце гадоў назад ветліва сустракаў і нашых продкаў — сёння бездапаможна ляжаў на зямлі, з якой, здавалася, зросся навекі.

Выскокваю з машыны і — бягом, спатыкаючыся, да яго, быццам здолею нешта паправіць, падняць, паставіць на месца прыгажуна.

Нядобрая рука расклала вогнішча ля ствала дрэва, якое і раней некалькі разоў спрабавалі падпаліць.

На гэты раз агонь «уеўся» у векавое цела ясеня, ператварыў магутны ствол у чорнае вуголле. Шыкоўная, раскідзістая крона, падпарадкоўваючыся зямному прыцягненню і злой волі чалавека, рухнула на карміцельку-зямлю.

Я стаяў ля свайго загінуўшага сябра, у чыім ценю не адзін раз марыў маленькім хлапчуком, і адчуваў, як шчымяць ад горкай вільгаці вочы, быццам перада мной ляжаў забіты, блізкі мне чалавек.

Яшчэ нядаўна ясень выклікаў захапленне сваёй веліччу і магутнасцю, а цяпер здаваўся бездапаможным, убогім, нэнзлым.

Вось і яшчэ адной прыгажосцю зрабілася меней на нашай гаротнай зямлі.

## Бяссонніца душы і сон сумлення

Жывуць на нашай зямлі бяссонніца душы і сон сумлення. Нясцерпна балюча жыць бяссонніцы душы. Лёгка і лагодна адчувае сябе сон сумлення.

Усе намаганні бяссонніцы душы разбудзіць сон сумлення, расштурхаць, разагнаць яго натыкаюцца на сцяну раўнадушша, абыякавасці, непаразумення.

Аднойчы заснуўшы, сумленне рэдка прачынаецца і не заўважае ці робіць выгляд, што не заўважае, здратаваных

падзеямі душаў, а прачнуўшыся, зноў заплюшчвае вочы, бо ў такім стане больш спакойна і прывычна існаваць.

Але ж гэта — існаванне. Няхай сабе спакойнае, млявае, бесклапотнае, але існаванне, а не жыццё.

Не падпускае да сябе сон сумлення бяссонніцу душы. Не падпускае таму, што знаходзяцца яны ў розных людзях. Ці ж маглі б яны існаваць у адным чалавеку? Не! Адно выключае другое.

Вось чаму бяссонніца нечай душы імкнецца да сну нечага сумлення, каб ажывіць яго, але нічога пакуль не атрымліваецца...

Кажуць, што некалі заганарыліся берагі тым, што яны вышэй ракі, што ўтрымліваюць яе, і не пусцілі на сябе дрэвы, не далі магчымасці ім расці блізка ля вады, глядзецца ў яе. Ціхая плынь, хоць яна і ніжэй берагоў, пачала непрыкметна падточваць іх, падмываць, і сон голых берагоў пачаў ператварацца ў іх гібель.

Сон сумлення — страшней плыні, якая разбурае берагі.

Сон сумлення паглынае жыццё чалавека, робіцца небяспечным і час ад часу ўцягвае чалавецтва ў катастрофы і трагедыі сусветнага маштабу.

Прачніцеся, хто спіць!

## Першы блін

Мне было прыкладна дзесяць гадоў, калі сваякі з Магілёўшчыны, якія гасцілі ў нас, ад’язджаючы дадому, забралі мяне з сабой пагасціць у іх. Там, на Магілёўшчыне, тлумачылі яны, жыве мой аднагодак Жэнька, родны брат майго швагра Казіка.

— Табе будзе з ім весела,— запэўнівалі мяне,— ён такі ж, як і ты, шалянец. Да таго ж ён і рыбак, і аматар паганяць футбольны мячык.

Былі летнія канікулы, наперадзе лета — чаму б не пагойсаць па той Магілёўшчыне!

І вось пад вясёлае перастукванне вагонных колаў, я гэтак жа весела каціў насустрач загадкаваму адпачынку.

З Жэнькам мы пазнаёміліся і хутка, як гэта бывае ў нашым узросце, пасябравалі.

Адпачывалася лёгка, весела, цікава. Справа ў тым, што станцыя Нясята, дзе жыў з бацькамі Жэнька, знаходзіцца ля аднайменнай рэчкі, даволі шырокай.

Я, «сухапутны» жыхар, упершыню ўбачыў рэчку, ды яшчэ такую значную. Вада ўвогуле прыцягвае да сябе людзей, а што ўжо казаць пра такіх падшыванцаў, як мы. Не вылазілі мы з рэчкі ад ранку да вечара. Ныралі, плавалі навыперадкі, дурэлі.

Быў яшчэ адзін захапляльны занятак для больш сталых хлопцаў. Над рэчкай, ад берага да берага, узвышаўся жалезны чыгуначны мост, па якім з грукатам праносіліся паязды. Ныраць з гэтага моста было забаронена, але забароненасць толькі паддае азарту адчаюгам.

Мы, не дыхаючы, назіралі, як старэйшыя хлопцы лезлі на самы край жалезных канструкцый і, зрабіўшы паўзу для адпачынку, кідаліся ластаўкай уніз галавой у рэчку. Хтосьці, відаць, пабайваючыся, скакаў ўніз нагамі — «салдацікам».

О як мы, мальцы, зайздросцілі гэтым адважным нырцам, сярод якіх быў і старшы брат Жэнькі, Толік.

Апроч гэтых прыгод і заняткаў, мы калі-нікалі бегалі ў лес, палілі вогнішчы, смажылі на палачках сала і безупынку распавядалі кожны пра свае жыццёвыя паходжанні, якіх у кожнага нямала. Дарослыя памылкова лічаць, што толькі ў іх было шмат падзей і прыгод. Але ж дзіцячы, кожны дзень, напоўнены такімі цікавасцямі і неверагодшчынай, што дарослым і не сніліся.

Паўтаруся, адпачывалася весела, лёгка, цікава!

Весела, ды не заўсёды. Сярод усяго вясёлага і цікава-

га, быў адзін адпачынак, які псаваў мне настрой — хоць прападзі!

Гэта была рыбалка. У мясцовых хлопцаў, якія выгадаваліся ля рэчкі, рыбалка — любімы занятак. Маё ж самалюбства ён проста знішчаў.

Мы вясёлай і неўгамоннай табалой, з вудамі праз плячо, шумна кіраваліся да вядомых толькі мясцовым рыбакам, прыкормленых мясцінаў. Тут усе хуценька разгрупоўваліся і пачыналася негалоснае спаборніцтва.

Мяне Жэнька прыладзіў, як ён сказаў, на праверанае месца, а сам пабег далей.

Вудзільна здавалася мне доўгім, лёска яшчэ даўжэйшай, а я...

Я ўпершыню трымаў у руках вуду. Але, ці мог я прызнацца, што я чаго-небудзь у жыцці ды не ўмею? Ого!

Я прыкінуўся «ўмекам» і гэтым, як кажуць, сам сябе загнаў у пастку. Чарвяка я пачапіў абы-як, а ўжо як закінуць лёску ў ваду — не разумею.

Стаю з вудзільнам, ціхенька пазіраю налева-направа. А там, на тым «лева» ды «права», хлопцы заліхвацкі сцёбаюць лёскамі па вадзе і перагукваюцца:

— Ёсць!

— І ў мяне — ёсць!

— У мяне во якая!

— А ў мяне яшчэ большая!

Тут, як на маё шчасце, хтосьці з хлопцаў з адчаем выгукнуў:

— Эх, якая сарвалася!

Я сабраўся з сіламі і кідануў сваю лёску ў ваду. І хоць кручок плюхнуўся ля самага берага, крыкнуў, каб усе пачулі:

— Вой, якая сарвалася!

Жэнька падбег і ўсхвалявана параіў:

— Ты не спяшайся падсякаць! Дай рыбіне заглынуць! — Потым пацікавіўся: — Вялікая была?

— Во-о! — развёў я рукі.

— Ого! — сказаў Жэнька і папёр на сваё месца.

Я зноў некалькі разоў разразаў паветра вудзільнам, але лёска блыталася ля берага і ніяк не хацела ляцець у ваду.

Крычаць больш «сарвалася», было б смешна, таму я ціхенька ўзяў кручок у рот і перакусіў лёску. Сеў на беразе і адпачываю.

Праз нейкі час хлопцы з уловам пачалі шумна збірацца. Падышоў да мяне Жэнька.

— А ты чаму сядзіш, не ловіш?

Я, як мог, «намаляваў» крыўду на твары і выдыхнуў:

— Вось... пустая лёска. Рыбіна адкусіла кручок...

— А што ж ты мяне не паклікаў? — запаліўся Жэнька.— У мяне ж ёсць запасныя!

Я павінаваціўся:

— Не хацеў цябе адрываць...

Жэнька супакоіў мяне:

— Ну нічога! Другім разам навярстаеш! Дагоніш і перагоніш нас.

Вечарам, калі мы леглі спаць на сене, кемлівы Жэнька спытаў:

— Ты сам адкусіў кручок? — Я маўчаў.— І рыбіна ў цябе не адрывалася? Так? — дапытваўся сябар.

Тут мяне, як кажуць, прарвала. І я расказаў яму ўсё, як на споведзі. Жэнька далікатна супакоіў мяне:

— Думаеш у мяне з першага разу ўсё атрымалася? І лёска блыталася ля ног, і чарвяк звальваўся з кручка. Заўтра я падкарачу табе лёску і прыладжу цябе на новае месца, а сам буду побач. Галоўнае пачаць і адчуць рыбацкі азарт!

І сапраўды, назаўтра я адчуў гэты самы рыбацкі азарт, бо крычаў, як шалёны:

— Ёсць! І яшчэ адна ёсць!..

Сёння ў Жэнька, дакладней, у Яўгенія Георгіевіча — сям'я і аж пяцёра дзяцей. Ёсць сям'я і ў мяне. Розныя сем'і, але агульныя ўспаміны пра далёкае і шчаслівае дзяцінства.

# Верабейчыкі

Як было б сумна і нецікава жыць, каб на зямлі былі толькі людзі. Толькі мы! І ніводнай другой жывой істоты!

Такое нават уявіць немагчыма. Немагчыма і страшна.

Колькі сёння паміж людзей падазронасці, няшчырасці, нават варожасці. Гэты пры тым, што нас акружаюць «браты нашы меншыя» — і звяры розныя, і жывёла, і шматлікія птушкі ды матылькі.

Яны не проста суіснуюць з намі на зямлі. Яны своеасабліва і непрыкметна зраўнаважваюць дабро і зло. Яны не дазваляюць злу пераважыць дабро.

Вы ж толькі ўявіце чалавека, як і знерваваны прыходзіць дадому. Тут усё, што завецца яго спрыяльным і ўтульным побытам, сёння таксама нервуе яго. Нават родныя і блізкія людзі выклікаюць у такога чалавека непрыемныя адчуванні.

Раптам да такога знерваванага чалавека заскоквае на калені котка і пачынае ласкава церціся аб свайго гаспадара, спяваючы яму сваю курну-песенку.

Чалавек машынальна пачынае гладзіць па спіне хатняга сябра — раз-другі і...

І позірк чалавека цяплее, і душу пакідае нервовасць, і быт вакол набывае прывычную ўтульнасць, і родныя і блізкія людзі замілоўваюць сэрца сваёй прысутнасцю.

Тое ж самае можна сказаць і пра адданага чалавеку сабаку, і пра каня, і пра іншую жыўнасць.

А што ўжо казаць пра птушак!

Вёска сёння страціла сваю колішнюю птушыную неўгамоннасць і шматгалоссе.

І ўсё ж нязменна побач з намі, асабліва зімой у маразы, вяртлявыя сінічкі. У садзе шныраць прыгажуні-сойкі. А якую казачнасць набывае зімой сядзіба, упрыгожаная чырвонагрудымі камячкамі-снегірамі. А хіба ж можна абмінуць увагай зграбных сарок у чорна-белым фрэнчах?

Птушкі нагадваюць нам, што маюць правы на месца пад сонцам, роўныя з намі. Мы ўсе на гэтым свеце — дзеці адной маці — матухны Прыроды.

Ніводзін чалавек не можа не замілавацца на бусла, які вялікасна выпісвае ў блакітным небе няспешныя колы, альбо важна выкрочвае па шаўковым лузе.

Калі хто кудысьці едзе ў аўтамабіле, абавязкова прытармозіць і ўсклікне, паказваючы спадарожнікам-пасажырам:

— Глядзіце — бусел! Вунь бусел!

Вось якая ўзаемасувязь паміж усімі на зямлі.

Але ёсць яшчэ адны крылатыя нашы сябры, пра якіх хочацца сказаць асобнае слова.

Гэта — верабейчыкі! Яны, як і я сёння, гарадскія жыхары. Тут, сярод людзей, ім лягчэй выжыць, асабліва доўгай і жорсткай зімой. На шчасце, ёсць добрыя людзі, якія кормяць галубоў, галак, гракаў, і мілых майму сэрцу верабейчыкаў. Імі немагчыма не замілавацца, язы здзіўляюць аптымізмам, у іх можна павучыцца, як жыць і «не вешаць дзюбу».

Летам верабейчыкаў амаль не бачна, яны разлятаюцца парамі, шукаюць патаемныя закуточкі, дзе выводзяць сваіх дзетак.

А вось з набліжэннем зімы збіраюцца ў такія чароды, што дзіву даешся — адкуль вас столькі!

Я ўжо дасканала ведаю, на якіх кустах яны зімуюць, таму кожны дзень спяшаюся да іх. Частую іх дробна нарэзаным батонам, пшаном. Бывае, асабліва ў моцныя маразы, бягу да іх два разы на дзень — раніцай і вечарам, перад доўгай ноччу.

А ўражвае мяне вось што...

Уявіце няспынную табалу людзей, якія спяшаюцца па сваіх справах. Ідуць міма кустоў, якія абляпілі натапыраныя ад марозу верабейчыкі. І вось здаля, у гэтай табале людзей, яны заўважаюць маю постаць.

Божа міласлівы! Што робіцца! Верабейчыкі дружна злятаюць з куста і кідаюцца мне нассутрач. Частка пырхае вакол мяне, частка — садзіцца на тратуар перада мной, задзёршы дзюбачкі і пазіраючы мне ў вочы.

Нават людзі, хто спешна выкрочваў, спыняюцца і ўголас дзівяцца.

Верыце ці не, а ў мяне ў такія хвіліны ў горле адчуваецца камяк удзячнасці маленькім птушачкам за іх шчырасць. Як яны, з такой колькасці людзей, выбіраюць і пазнаюць таго, хто ім дапамагае выжыць?

Я рабіў эксперымент — мяняў вопратку, шапку на капелюш — вынік быў адзін: верабейчыкі заўважалі мяне здаля і ляцелі насустрач.

Які ж у такой маленькай галаве розум! Якая ж у такім маленькім цельцы душа!

Усё гэта выклікае ў сэрцы любоў і павагу да кожнай жывой істоты на зямлі. Усё гэта ўпрыгожвае наша складанае жыццё і не дазваляе розным абставінам і выпрабаванням астудзіць нашы душы.

Для верабейчыкаў у маёй душы — асаблівае месца.

## Пазаштатны карэспандэнт

Жаўтуха — хвароба рэдкая і, у пяцідзясятыя гады XX стагоддзя, для вяскоўцаў — малазнаёмая. У нашай вёсачцы Карпілаўка, адрэзанай ад усяго далёкага і блізкага свету непралазным, нават для пешага чалавека, бездарожжам, не маючай ні электрасвятла, ні радыё, ні тэлефона, пра жаўтуху мала хто і чуў. А, магчыма, і ніхто.

Але аднойчы, праз мяне, усё ж «адукаваліся».

Працавалі ў вёсцы ўсе — і старыя, а ў вольны ад вучобы час, і малыя, і падлеткі. Працавалі тады ў калгасе без ніякіх заробкаў, за працадні.

Працавалі цяжка, харчаваліся слаба і посна.

Мне, падлетку, даводзілася разам з дарослымі і працаваць цяжка, і не даядаць.

Пэўна, ад таго я аднойчы адчуў нейкую, непрывычную для майго рухавага ўзросту, слабасць. Слабеў я відавочна, але трымаўся з апошніх сіл, не хацеў хваляваць бацькоў.

Праз даволі хуткі час, мяне пачало ванітаваць. Што ні з’ем — усё вырве.

А меню было да болю знаёмае вяскоўцам: бульба, кіслая капуста, перасоленае сала, ды і тое не кожны дзень. Малако было не круглы год — ацёлу кароўкі чакалі, як выратавальнага свята.

Карацей, мне даводзілася харчавацца менавіта тым, што катэгарычна забаронена пры захворванні жаўтухай.

Але пра жаўтуху ніхто і не думаў, таму я еў тое, што «Бог пашле». Нават, каб і падумалі ў той бок — а што было б есці? Дыета адсутнічала, ды і пра слова такое, як і пра жаўтуху, ніхто не чуў.

— У цябе, сынок, мусіць, глісты...— непакоілася мама.— Ад чаго ж яшчэ цябе можа ванітаваць?

І лячыла мяне ад іх па-свойму.

Яна зачэрпвала з бочкі з квашай капустай перакіслы расол і сыпала ў гэты амаль воцат, соду.

Падымалася шыпучая пена, і я залпам выпіваў гэты напой. Трымайцеся, глісты!

Па сутнасці я, са сваёй хваробай, піў смяртэльную атруту.

А між тым, да маёй смерці было не так ужо і далёка. Мяне хістала, цяжка было хадзіць, есці я ўжо нічога не мог.

І толькі тады, калі я зрабіўся ўвесь жоўты, як зацьвіўшы дзьмухавец, усе жахліва пляснулі ў далоні:

— Жаўтуха!

І падаўся я, хістаючыся, да бальніцы — ажно ў Астрашыцкі Гарадок. Да лячэбніцы было кіламетраў трыццаць, але мой паратунак знаходзіўся толькі там.

Чаму ў Астрашыцкі Гарадок, а не ў Янушкавічы, да якіх прыкладна шаснаццаць вёрст? Таму што наша вёсачка адносілася тады да Мінскага раёну, а Янушкавічы — да Лагойскага.

Чаму я падаўся пешшу, а не на кані?

Ці ж мог калгас дзеля такой шантрапы, як я, адарваць на цэлы дзень ад калгаснай працы каня, ды яшчэ і вазніцу?

Дабіраўся я марудна, «грэб» з апошніх сіл, якія з кожным кіламетрам пакідалі мяне. Я ведаў, калі павалюся, то ўжо не ўстану.

Нарэшце пераступіў парог Астрашыцкай, тады яшчэ драўлянай, бальніцы. Медперсанал, калі мяне ўбачыў, ледзь стрымаў крык жаху, настолькі я быў змардаваны, жоўты і худы. Мяне хуценька распранулі, паклалі ў ванну з гарачай вадой — і толькі тады я адчуў, што не магу нават крануць ні рукой, ні нагой. Сілы пакінулі мяне.

Памятаю, што вада ў ванне зрабілася жоўтай, як падфарбаваная.

Ніхто не патрабаваў у мяне ні напраўлення ў лячэбніцу (адкуль яно?), афармляючы гісторыю маёй хваробы, ніхто не спытаў маіх дакументаў (а іх у мяне і не было).

Дактары і медсёстры адкінулі ўсе фармальнасці, з усіх сваіх магчымасцей ратавалі мяне.

Мне кожны дзень уводзілі ў вену глюкозу і некалькі разоў на дзень калолі «ў адно месца» вельмі балючыя вітаміны.

Да таго ж я даведаўся, што такое сапраўдная дыеа. Гэта курыныя супы, паравыя катлеты, розныя кашы, тваражок, кампоты ды кісялі. Смаката, якую я еў упершыню.

І хвароба адступіла!

Адступіла без ніякіх ускладненняў і адмоўных наступстваў.

Вось ужо пасля выздараўлення я жыву амаль 60 гадоў на гэтым свеце здаровым, паўнацэнным жэццём, дазваляючы сабе і кіслае, і вострае, і... моцнае.

І ўсе гэтыя гады з цеплынёй і любоўю ўспамінаю медперсанал той ратавальнай бальніцы, асабліва галоўнага ўрача — Антаніну Іванаўну Фалкіну. Яна бачыла тады маё крытычнае становішча і аднеслася да мяне, як да роднага сына. Не выпісвала мяне цэлы месяц, пакуль не ўдасканалілася, што я магу вяртацца ў жыццё без рызыкі для здароўя.

Менавіта з такой ўдзячнасцю ў душы вярнуўся я ў сваю Карпілаўку. Гэтая ўдзячнасць не давала мне спакою і я, набраўшыся смеласці, напісаў караценькі ліст у раённую газету са словамі падзякі медперсаналу бальніцы. А ў канцы дадаў свой вершык:

От всей души спасибо вам, родные,
Вы в жизни важную ведете роль.
И я уверен, скажут все больные:
— Забота ваша заглушает боль.

Адаслаў гэтую петыцыю, аблегчыў душу, і пачаў жыць па-ранейшаму: праца — капуста — сала — праца.

Прайшоў час, і, як гром сярод яснага неба — паштарка ўручыла мне канверт. Я прачытаў адваротны адрас і ледзь не бразнуўся ад хвалявання.

Уявіце толькі! У тыя часы такому блазнюку, як я, з рэдакцыі раённай газеты штосьці напісалі.

Дрыготкімі пальцамі я адкрыў канверт і прачытаў прыкладна такое: «Дзякуй вам за цёплыя словы медперсаналу і за цікавы верш, які мы надрукуем ў бліжэйшым нумары...»

А далей увогуле было напісана штосьці неверагоднае: «Прапануем вам быць нашым пазаштатным карэспандэнтам і дасылаць цікавую інфармацыю пра працу і адпачынак вашых землякоў...»

Я абамлеў... Прачытаў ліст мо сто разоў, а страх мой толькі павялічваўся. Словы «пазаштатны карэспандэнт» былі для мяне незнаёмыя і палохалі. Што я павінен рабіць? Якую інфармацыю? Жах!

«Разжавалі б» яны мне больш проста і даходліва, без «пазаштатнага карэспандэнта», растлумачылі б, што ад мяне патрабуецца і я, хутчэй за ўсё, дасылаў бы ім свае замалёўкі. Жыццё вакол было цікавае, маладое, было пра што і пра каго пісаць.

Тым больш, што я і вершыкі паціху крамзоліў для сябе, і ў самадзейнасці актыўна ўдзельнічаў.

Спалохала мяне афіцыйнасць таго пісьма. Ды адкуль! Тады рэдакцыя была для мяне таямнічай, недасягальнай вяршыняй.

Вось так, добрыя намеры газетчыкаў перакрэслілі маю «пазаштатную кар’еру».

## Кузя

Жыла ў суседняй вёсцы Алена Іванаўна — гаспадыня, чысцёха, руплівіца. І ўсё гэта — у свае, даволі паважанага веку гады.

У хаце — узорна-паказальная чысціня, на бульбяным полі — ні травінкі, ні былінкі. Куры ходзяць па двары, як паненкі на прамінажы — заглядзенне. Сабака ля будкі — як на паштоўцы, а ўжо кот Кузя — пан панам. Усім сваім задаволеным выглядам, здавалася, хацеў паказаць усяму свету, што менавіта ён тут гаспадар.

І ўсё гэта — дзякуючы няспыннай руплівасці Алены Іванаўны, якая апошнія гады ўдоўствавала.

Але надышоў няўмольны час, калі Алены Іванаўны не стала. Гэтую трагедыю можна параўнаць з будынкам, з-пад якога раптоўна выбілі падмурак. «Будынак» абрынуўся на зямлю — штосьці перакасілася, нешта пасыпалася — і ўсё ўмомант набыло нежылы выгляд.

Куркі пайшлі пад нож, сабака быў спушчаны з ланцуга і бадзяўся па чужых завуголлях у пошуках ежы. Страшна назіраць, як занадта відавочна прыходзіць ўсё ў заняпад.

Праз нейкі месяц пасля смерці Алены Іванаўны, быльнёг апанаваў бульбяное поле, грады паглынула пустазелле, зарос травой і крапівой двор.

Здавалася б, пашанцавала катку Кузю. Яго забрала родная сястра Алены Іванаўны ў суседнюю вёску. І пачалося для яго новае жыццё. Спаў ён спачатку на халадзільніку, які пераехаў сюды разам з ім з былой утульнай хаты. Пэўна, халадзільнік быў для Кузі прыемным напамінам пра лепшыя часы яго жыцця.

Тут, у новай гаспадыні, былі іншыя парадкі, нярэдка з гвалтам і няўвагай да яго. Тут ён спазнаў і голад.

Кузя хутка адчуў сваімі бакамі, што халадзільнік — не падушкі былой гаспадыні, і перабраўся начаваць у хляўчук да каровы.

А паколькі кот быў шыкоўнай, даўгашэрснай пароды, яго раскошая «вопратка» хутка звалялася, збілася разам са смеццем і саломай у тугія камякі, якія не разблытаць, ні расчасаць.

Па сутнасці Кузя зрабіўся кацінным бамжом.

Аднойчы ён завітаў да майго ганку і не прагадаў. Мы з жонкай заядлыя кашатнікі, рэдка калі бывае ў нас менш як пяць катоў.

Кузя рэгулярна падсілкоўваўся ў нас, але, відаць, гэтае падсілкаванне спазнілася. Далікатны арганізм Кузі, патрапіўшы ў экстрымальныя ўмовы, выкінуў незвычайную рэакцыю. З ката, пачынаючы ад галавы, пачала злазіць скура разам з яго поўсцю і калтунамі. Жудаснае відовішча!

Скура скручвалася панчохай і круцілася ў бок хваста. Працэс гэты цягнуўся доўга і марудна.

Мы з жонкай упершыню ў жыцці ўбачыўшы такі жах, пачалі ўзмоцнена і разнастайна карміць пакутніка. У талерцы на ганку заўсёды было свежае мяса, рыба, адварная кураціна і малако.

Тое месца, з якога скручвалася старая скура, зацягвалася і паступова зарастала новай поўсцю.

Кузя выжыў! Выжыў і стаў па-ранейшаму важным і вельмі прыгожым. Але прыжывацца ў нас не спяшаўся.

Аднойчы Кузя знік. Не было яго прыкладна з тыдзень. Аказваецца ён увесь час сумаваў па сваёй гаспадыне і па роднай хаце. Ён бегаў у суседнюю вёску, спадзеючыся сустрэць там былую ўтульнасць і пяшчоту. Паблытаўшыся ля нежылой хаты, Кузя зноў вярнуўся ў хлеў да каровы. Нас наведваў штодзённа і сталаваўся спраўна.

Бліжэй да зімы Кузя зноў кудысьці сышоў.

Паміж нашай вёскай і той, дзе каісьці шчасліва жыў Кузя, знаходзяцца могілкі, на якіх пахавана Алена Іванаўна, былая гаспадыня ката-гаротніка. На могілкі кожны дзень прыходзяць людзі, штосьці падгрбаюць ды падглядаюць. Хтосьці з тых людзей і ўбачыў ля магілы Алены Іванаўны ката. Упэўнены, гэта быў Кузя. Але як ён даведаўся пра апошні прытулак сваёй гаспадыні?

Даўно вядома, што каты сыходзяць паміраць далей ад дому, з вачэй гаспадара. Відаць, і ён перад сваім сконам, прыйшоў да магілы Алены Іванаўны, каб развітацца з ёй назаўсёды.

Больш Кузю ніхто нідзе не бачыў... Бывай, дружа...

## Сэнс жыцця...

Ва ўсе часы людзі ўдумлівыя, неабыякавыя, шукалі адказ на пытанне: у чым ён, сэнс нашага, анульначалавечага і кожнага асабістага жыцця?

На першы погляд адказ, на здзіўленне, просты, відавочны. Ну, скажам, рабіць дабро вакол сябе, памнажаць (ці хаця б захоўваць) створанае нашымі папярэднікамі, пакінуць пра сябе светлую памяць і... Можна пералічваць бясконца.

Бытуе і такое ўстойлівае меркаванне: чалавек павінен за сваё жыццё нарадзіць дзіця, пабудаваць дом, пасадзіць

дрэва. Гэта вельмі спрошчана і кананічна. Амаль усе мы, без напругім не выходзім па-за гэты канон.

Дык у чым жа сэнс жыцця? І ці ёсць ён увогуле?

Хвалюючае, балючае пытанне, на якое адназначнага адказу, які б задавальняў учіх, няма. І не будзе!

Для чалавека, які жыве (пакуль жыве) сэнс яго жыцця адпавядае яго здольнасцям, разуменню, патрэбнасцям, светапогляду. Па сутнасці, пры жыцці чалавек бессэнсоўна не займаецца нічым.

Для адных — гэта хатні быт, для кагосьці — пасада, для іншых — грошы, уцехі, самалюбаванне.

Для навукоўцаў — адкрыцці, для творчых людзей — запатрабаванасць, магчымасць самарэалізавацца, і — зноў можна пералічваць бясконца.

Але ж усё пералічанае (і не пералічанае) мае сэнс для кожнага чалавека толькі пры жыцці. Нават для тых нямногіх, хто пакінуў пасля сябе штосьці значнае для ўсяго чалавецтва.

Безумоўна, мы карыстаемся многім, што стварылі да нас нашы блізкія і далёкія продкі. Гэтым жа і тым, што пакінем пасля сябе мы (калі пакінем) будуць карыстацца нашы нашчадкі. Усё пакінутае, значнае будзе мець сэнс у жыцці нашчадкаў, бо ўсё шматвекавое духоўнае і матэрыяльнае багатства мае сэнс, зноў жа для жывых.

Які, напрыклад, сэнс у жыцці для тых мільёнаў і мільярдаў, пайшоўшых з жыцця, якіх сёння нават рэальна ўявіць амаль немагчыма.

Нас, сённяшніх, таксама цяжка будзе ўявіць праз тысячу гадоў, нават значна раней. Калісьці, у глыбіні вякоў жылі людзі — і ўсё. Пра нас, сучасных, гэтак жа будзе сказана: калісьці, у XX і XXI стагоддзях жылі людзі. І ўсё. Мы ператворымся ў абагульняючае, абстрактнае слова «людзі», якое паглыне індывідуальнасць кожнага.

А мы — спадзяёмся і верым — такія цікавыя, разумныя, значныя. Мы — і кожны паасобку.

Сэнс, або бессэнсоўе нашай мітусні паглыне ненажэрны час, як паглынуў тыя далёкія мільёны і мільярды (цікавых, разумных, значных) чалавечых лёсаў.

Вось тут, з гэтага пытання пра сэнс жыцця, узнікае другое, на першы погляд, пытанне «з другой оперы»: а ці існуе душа чалавека? І ўвогуле, што такое наша душа?

Вялікі французскі пісьменнік і паэт Віктор Гюго, усё сваё жыццё, асабліва бліжэй да заканчэння зямнога шляху, «пакутаваў» пытаннем: ці ёсць душа ў чалавека? Дакладней, яго хавалявала, ці застанецца пасля смерці чалавека яго душа? І сам з жахам адказваў: «Калі пасля смерці ад чалавека нічога не застаецца (вядома ж, акрамя яго спраў), які тады сэнс у жыцці? Які сэнс для мяне ў тым, што я жыву і пішу? У тым, што я жыў і пісаў?»

Ды і ў А. С. Пушкіна мы сустракаем такія паэтычныя радкі:

Надеждой сладостной младенчески дыша,
Когда бы верил я, что некогда душа,
От тленья убежав, уносит мысли вечны,
И память, и любовь в пучины бесконечны —
Клянусь! Давно бы я оставил этот мир...

І расчаравана працягвае:

Но тщетно предаюсь обманчивой мечте;
Мой ум упорствует, надежду презирает...

Чытае у М. Ю. Лермантава:

Боюсь не смерті я . О нет!
Боюсь імчезнуть совершенно.

А што такое душа і ці існуе яна ўвогуле?

Усе, хто жыў калісьці, усе, хто жыве сёння, і я ў тым ліку, настолькі прывыклі да паняцця «душа», што карыстаемся ім налева і направа, і ад гэтай неіснуючай «рэальнасці» не пазбавіцца нікому і ніколі. Ды і навошта пазбаўляцца? У чалавека апроч многіх біялагічных органаў,

ёсць яшчэ адзін — віртуальны. Гэта ж так здорава! Наяўнасць душы ў чалавека дае яму, няхай і кволую, але надзею на бессмяротнасць.

Для мяне абсалютна зразумела (і гэта вельмі для мяне трагічна), што душы няма.

А што ж тады, спытаецеся вы ў мяне, «бяздушнага» чалавека, нас непакоіць, не дае спаць, узрушвае, хвалюе, радуе і нудзіць?

Балюча разумець (дай бог, каб я памыляўся), але гэта не душа. На вялікі жаль, не душа.

Гэта даволі простая камбінацыя, закладзеная ў чалавека прыродай. Наш розум успрымае ўсе, нават самыя дробязныя падзеі вакол нас і ва ўсім свеце.

Чалавек, як правіла, вельмі эмацыянальна, унутрана ці знешне, розумам успрымае такія падзеі — радасныя ці адмоўныя, карысныя ці пагрозлівыя. І ў залежнасці ад таго, у якой ступені закранаюць яны чалавека, сэрца наша, па інфармацыі нашага розуму, адпаведна рэагуе.

Рэакцыя сэрца перадаецца нашаму псіхалагічнаму і псіхічнаму стану, ад чаго мы адчуваем у сабе (у душы) ці камфорт, ці дыскамфорт. Розум здольны падпітваць псіхалагічны стан тым, што мы бачым, што мы чуем, што ведаем.

Вось такое, самае рознае інфармацыйнае поле носіць чалавек у сабе ўсё жыццё.

І калі здараецца трагедыя, сэрца вельмі чула рэагуе на гэта, а мы кажам: «Душа баліць...» Калі сустракаем жыццёвыя радасці, кажам: «Душа спявае...» Хаця радавацца ці пакутаваць прымушае нас наша сэрца.

Дык у чым жа сэнс жыцця, калі ў выпадку адсутнасці душы, ад чалавека нічога не застаецца? Няўжо пасля нас, хоць патоп?! Барані Божа!

Без супярэчлівасці, абмяркоўваючы такую далікатную тэму, не абыйсціся. Безумоўна, мы як і нашы далёкія і больш блізкія папярэднікі, застанемся ў будучым жыцці сваімі справамі — дабром альбо злом.

І нічога, што «душа» пасля нас гэтага не будзе бачыць. А застацца ў жыцці лепш бы дабром і добрымі справамі. Так яно і ёсць, інакш чалавецтва ніколі б не пакінула першабытныя пячоры.

## Настальгія

Птушак неадольна цягне да сваіх гнёзд, звера — да логава і нор, чалавека — да адзінага ў свеце кутка, дзе ён нарадзіўся, без якога жыццё — не жыццё, да сваёй адзінай Радзімы.

Усе мы чулі пра настальгію, але, на шчасце, адзінкі хварэлі ці працягваюць і сёння хварэць дзесьці гэтай хваробішчай. Менавіта хваробай — невылечнай хваробай душы чалавечай.

Чалавека прырода стварыла так, што ён, пагасцяваўшы «ад пуза» ў сваіх сваякоў ці сяброў, вяртаецца праз дзень-другі дадому і з асалодай выдыхае: «А дома лепей!»

Вось гэтае «дома лепей!» спрадвеку жыве ў кожным сэрцы. І гора таму, хто гэтага не адчуў і памяняў Радзіму. Як правіла, памяняў ці, дакладней, здрадзіў ёй, шукаючы доўгі рубель альбо недалізаную некім талерку.

Я дакрануўся крайчыкам лёсу да такой праблемы. Не, мяне не грызла настальгія, але тугу па свайму кутку, па сваёй Радзіме я адчуў усім сэрцам. Асабліва ў Амерыцы. Усведамленне таго, што мяне аддзяляюць ад дому тысячы кіламетраў і акіян, пранізвала маю душу вострым болем.

І гэта, нягледзячы на тое, што мая камандзіроўка заканчвалася праз тыдзень, а ў кішэні ляжаў адваротны авіябілет.

У Амерыцы я быў у складзе першай афіцыйнай дэлегацыі Вярхоўнага Савета суверэннай Беларусі ў 1991 годзе. Нашу дэлегацыю прымалі на даволі высокім узроўні,

нават у іхнім славутым Белым Доме, для нас ладзіліся разнастайныя прыёмы і банкеты, а з галавы не выходзіла толькі адна думка: «Хутчэй бы дадому!»

Вакол было ўсё чужое, не прымальнае нашым менталітэтам.

Тое ж самае я адчуваў і ў іншых краінах, нават у Грэцыі, дзе ў той час сапраўды «ўсё было».

Але ў Еўропе, у адрозненні ад Амерыкі, дыхалася больш вольна, бо з Еўропы, калі што — можна і пешшу дайсці дадому.

Сустракаў я і ў Еўропе, і ў Амерыцы, так званых шукацеляў шчасця. Зазіраў ім у вочы, у якіх, нягледзячы на штучныя ўсмешкі, панаваў сум.

Вось толькі адзін прыклад з жыцця і смерці нашага шчырага беларуса.

Нарадзіўся ён, як і я, у Карпілаўцы. Адслужыў у войску, ажаніўся, нарадзілася дачка. Усім сэрцам быў прывязаны да Карпілаўкі, Заслаўя, дзе апошні час жыў з сям'ёй.

Жонка яго, яўрэйка, захацела жыць у Амерыцы, пачала афармляць неабходныя паперы. Ёе жа катэгарычна адмаўляўся туды ехаць, адгаворваў жонку, але і дачка з мужам былі настроены толькі на ад'езд.

Ён, паўтаруся, беларус да апошняй крывінкі, вясковец — з болем паехаў з сям'ёй у чужую і, як казаў, ненавісную Амерыку.

Спачатку дасылаў у Карпілаўку брату сумныя лісты, а праз хуткі час... памёр.

Памёр, яшчэ не стары і здаровы мужчына...

І яго сваякі, і мы, яго знаёмыя, адчулі, што гэта не проста смерць, а хутчэй за ўсё, самагубства.

Я вельмі шкадую свайго земляка, але, калі і сапраўды ён наклаў на сябе рукі, я яго разумею, бо жыць у той Амерыцы не было б сіл.

# Бяссонніца

Прачынаюся, бывала, ноччу па сваіх справах і ціхенька, каб нікога не разбудзіць, прабіраюся ў цемры да дзвярэй. Раптоўна палохаюся ад нечаканасці, бо напорваюся на... маму, якая сядзіць на зэдліку.

Пытаюся:

— Чаму, мама, не спіш?

— Не спіцца, сынок,— адказвае яна.— І рада бы спаць, ды думкі агортваюць і адганяюць сон.

Дзіўлюся і іду далей.

Наступнай ноччу я ўжо не напорваюся, бо ведаю, што мама зноў сядзіць у цемры на зэдліку.

Днём пытаюся ў яе:

— Пра што можна думаць кужную ноч?

Мама задумліва адказвае, быццам сабе:

— Усё шматразова перадумаю, што было за доўгае жыццё. Усё...

Значна пазней, акідваючы зрокам сэрца лёс бацькоў, зразумеў, што думаць-перадумаць было што. Зразумеў і тое, што мамінага доўгага жыццёвага веку не хапіла б, каб у думках пракрочыць па тых складаных і трагічных пуцявінах лёсу, якія давялося адольваць ёй.

Не буду апісваць тыя нечалавечыя выпрабаванні, праз якія сумленна і годна прайшлі мае бацькі, бо ў многіх сваіх творах, асабліва ў паэме «Люстэрка лёсу», пісаў пра гэта. Дадам толькі, што перажытыя мамай нягоды і страты так і не дазволілі ёй да канца жыцця спаць начамі.

Ад мамы мне засталася «спадчына», якой я мушу карыстацца сёння і буду ёй карыстацца да апошняй сваёй ночы.

Сёння ўжо мая жонка, прачынаючыся ноччу, спатыкаецца аб мяне. І хоць выпрабаванняў і нягод на маю долю выпала значна менш, але і мой лёс, лічу, крута замешаны.

Жыццё ў зямлянцы пасля вайны, дзе пасцеллю быў яловы лапнік, голад, праца ў калгасе за працадні — праз усё гэта мне давялося прайсці.

Але былі і светлыя перыяды майго жыцця. І дзякуй лёсу, што напрыканцы майго зямнога шляху, светлага ў маім жыцці значна больш.

Вось і сяджу я начамі, дарэчы, на тым самым маміным зэдліку, і не адпускаюць мяне ўспаміны і чакаю я, чакаю, калі ж сон зморыць мяне.

А вам усім — дабранач!

## Заірка

Заір Ісакавіч Азгур — глыба.

Глыба творчая, глыба духоўная.

Калі я першы раз трапіў у яго майстэрню, тады на вуліцы Някрасава, я быў не проста ўражаны, а адчуў сапраўдны шок ад мноства ўбачаных скульптур. У асноўным былі скульптурныя партрэты славутых, вядомых і зусім невядомых людзей, сярод якіх вылучаліся скульптурныя кампазіцыі.

Над усім гэтым шматсузор'ем узвышаліся да самай столі постаці Маркса, Леніна, Александроўскай. Сталін сядзеў у крэсле, як на троне.

Шок быў і ад таго, што гэты сусветна вядомы майстар будзе ваяць і мой скульптурны партрэт — і я, невядомы чалавек, буду знаходзіцца тут, сярод знакамітых гістарычных людзей.

Але знаходзіцца доўга ў шокавым стане Заір Ісакавіч мне не дазволіў, бо на станку была ўжо падрыхтавана балванка скульптурнай гліны для далейшай працы. Тут майстар пажартаваў: «Вось гэта ты! Так пакінем ці будзем дапрацоўваць?»

І я ўбачыў цуд!

Заір Ісакавіч не проста пачаў ляпіць з той балванкі падабенства чалавека, ён, як каршун на курыцу, накінуўся на гліну, двума бакавымі пальцамі рук імгненна выхапіў гліну з тых месцаў, дзе будуць вочы, гэтак жа хутка, ледзь не аўтаматычна, ляпіў нос, вушы, прычоску.

Першы дзень (першы сеанс) прайшоў амаль моўчкі. Заір Ісакавіч засяроджана ствараў аснову будучага партрэта.

Затое потым, а ўсіх было восем сеансаў, майстар, даводзячы дэталёва ўсё да неабходнай формы, пачаў здалёк «прамацваць» мяне, мой унутраны свет сваімі пытаннямі. Яго цікавіла: з каго ж ён лепіць патрэт, што я за чалавек?

Тут неабходна ўдакладніць, якім чынам я, просты смяротны, апынуўся ў «руках» такога знакамітага майстра.

Справа ў тым, што да 60-годдзя Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі МУС СССР зрабіла заказ ад кожнай саюзнай рэспублікі па два скульптурныя партрэты вядомых супрацоўнікаў МУС. Вось я, як лейтэнант-паэт і трапіў у двойку «самых-самых».

Але вернемся ў майстэрню майстра.

Астатнія сем сеансаў прайшлі ў жывой гаворцы. Заір Ісакавіч быў «вядучы», а я «вядомы», таму гаспадар майстэрні выбіраў духоўныя тэмы і такім чынам правяраў не толькі, які я чалавек, але які я паэт і што ведаю пра духоныя здабыткі Беларусі і ўсяго чалавецтва.

Відаць, я вельмі спадабаўся Заіру Ісакавічу, бо пасля заканчэння работы над партрэтам, мы засталіся на доўгія, больш яе трыццаць гадоў, сябрамі.

Ён і незабыўная Галіна Гаўрылаўна, яго жонка, з радасцю прымалі мяне з маёй жонкай ў сябе дома і на дачы ў Ждановічах.

Ні адзін яго дзень нараджэння (2 студзеня) не адзначаўся без мяне. Пазней, калі я стаў мастаком, Заір Ісакавіч наведваў мае мастацкія выставы і шчыра радаваўся майму росту.

Але быў адзін любімы намі адпачынак, пра які хочацца распавесці больш падрабязна.

У маладосці Заір Ісакавіч быў заўзятым паляўнічым і рыбаком, шмат пра гэта мне расказваў. Падчас нашага знаёмства гэтымі забавамі не дазваляў яму займацца ўзрост, таму засталося не менш любімая — збіранне грыбоў.

Божа! Які гэта быў азартны грыбнік! Я думаў, што я самы-самы, а аказалася, што да Заіра Ісакавіча мне яшчэ далёка.

Ездзілі мы з ім аж да Талькі, і за Плешчаніцы, і пад Дзяніскі, і шмат яшчэ куды... Вадзіў ён мяне па сваіх запаветных мясцінах і сцежках, якіх у яго было шмат. Спачатку я не зусім разумеў Заіра Ісакавіча і нават крыўдзіўся.

Уявіце, ідзём мы па лесе так, каб бачыць адзін аднаго і не згубіцца. Я знаходжу баравік, нахіляюся, каб зрэзаць яго, як чую крык калегі:

— Каго знайшоў?!

— Баравіка,— адказваю я.

— Стой, стой! — крычыць Заір Ісакавіч.— Не зразай! Гэта мой баравік, я яго бачыў і кіраваўся да яго!

Я ўпэўнены, што са свайго месца ён не мог бачыць грыба, тым не менш не зразаю і разгублена чакаю, пакуль «мой» баравік не скокне ў чужы кошык. І так атрымлівалася амаль з кожным грыбам.

Спачатку я злаваўся ў душы і лічыў паводзіны свайго старэйшага сябра сквапнасцю. Але потым зразумеў, што гэта нястрымны азарт грыбніка, а потым крыкі Заіра Ісакавіча нават уздымалі мне настрой.

Сярод усяго, што было між намі, раскажу пра адну падзею, якая яскрава характарызуе яго, як чалавека з вялікай літары.

Прыкладна ў 1973 годзе ў Маскве меў адбыцца з’езд Саюза мастакоў СССР. Заір Ісакавіч зазбіраўся ў дарогу.

— Сорамна сказаць, але я ні разу не быў у Маскве,— сказаў я.— А так хочацца пабачыць нашу сталіцу.

— Збірайся! — не вагаючыся, адказаў Заір Ісакавіч.

— У мяне няма грошай,— сарамліва азваўся я.

— Збірайся!

Ехалі ноччу ў спальным вагоне ў двухмесным купэ. Я за поўнач чытаў яму свае вершы, а ён зацікаўлена слухаў.

У Маскве са мной атрымалася замінка. Усіх народ-

ных мастакоў рассялілі ў гасцініцы «Масква» ў нумарах «люкс». А я для маскоўскіх арганізатараў аказаўся па-за спісамі — ніхто.

Даведаўшыся, што я прыехаў на правах няведама каго з Заірам Ісакавічам, нейкі распарадзіцель параіў ехаць мне на ўскраіну Масквы ў нейкім там гатэль. На мне, як кажуць, ад страху і блохі падохлі. Куды, за якія сродкі, што там буду рабіць?

Тады Заір Ісакавіч зняў плашч, на пінжаку заззяла Зорка Героя сацпрацы і значок дэпутата Вярхоўнага Савета. Ён накіраваўся да акенца адміністратара.

— Гэта мой сакратар.— рашуча сказаў ён.— Афармляйце яго разам са мной у мой нумар.

Вось так я стаў суседам Заіра Азгура па нумары ў гасцінецы «Масква». Гасцініца ж тады была вельмі шыкоўная, старога савецкага стылю, са скульптурамі на кожным паверсе, з калонамі і вычурнай ляпнінай. Сёння той гасцініцы, на жаль, няма — разбурылі яе.

У гасцінічным рэстаране падчас вячэры яшчэ раз пераканаўся ў высакароднасці Заіра Ісакавіча.

За сталом нас было трое: Заір Ісакавіч, Міхаіл Андрэевіч Савіцкі і я. Пілі чырвонае віно і елі нейкую, не памятаю, закусь. Калі ж афіцыянт паклаў на стол квіток і сказаў «З вас 53 рублі», Савіцкі спалохана ўсклікнуў:

— Вось мы і ўліплі ў капеечку!

— Плачу я! — заявіў Заір Ісакавіч і разлічыўся з афіцыянтам.

У тым жа рэстаране я ўпершыню ўбачыў «Фанту». Невялікую бутэлечку прывёз дадому, дзе ледзь не па напарстку частаваў сваякоў і знаёмых. Сёння гэтай «бурды» — хоць заліся.

І яшчэ адно. Калі ў маладым узросце загінула маці маёй жонкі, Заір Ісакавіч з фотаздымка выляпіў яе барэльеф, адліў з бронзы за свой кошт.

Выпадкова даведаўшыся ад мяне пра надыходзячы

дзень нараджэння маёй жонкі, Заір Ісакавіч сказаў Галіне Гаўрылаўне:

— Галюшка, у Сярожавай Танюшы мае быць дзень нараджэння, падумай пра падарунак.

Вось такі гэта быў незвычайны чалавек, які ўвогуле вельмі станоўча паўплываў на мой духоўны сусвет.

Прайшло больш за 20 гадоў, як не стала прыгожага і духоўна багатага чалавека. Мая сям'я вельмі часта ўспамінае Заіра Ісакавіча і называе яго ласкава — Заірка.

## Светлая душа

Яна — прыгожая і шчырая. Яна — таленавітая і сціплая. Яна — узнёслая і прывязаная да зямлі, да людзей.

Можна бясконца пералічваць — яна, яна, яна — і ўсё будзе мала.

Яна належыць да тых нямногіх людзей, асветленых лепшымі нацыянальнымі рысамі. высокімі ідэаламі чалавечнасці, заглыбленай духоўнасцю нашых папярэднікаў, дадзенай Богам душэўнасцю і спагадай.

Нашы лёсы аднойчы перакрыжавала само жыццё і тое, лічу, невыпадковае перакрыжаванне, ужо шмат і шмат гадоў, зноў жа само жыццё, пераўтварыла ў дзве, хоць і розныя дарогі, але пралягаючыя побач, у адным накірунку з агульнымі клопатамі аб ушанаванні беларускай нацыянальнай спадчыны, аб духоўным узбагачэнні сучаснасці і будучыні.

Цяжка пералічыць яе ўзнагароды, яе «рэгаліі», немагчыма пераказаць усё тое, што ёй зроблена і робіцца ў беларускай духоўнай, творчай прасторы. На ўсё гэта адкажуць энцыклапедычныя даведнікі і біяграфічныя доследы.

Адно з гонарам усё ж назаву: яна — народная! народная артыстка Беларусі, народная асоба, ўсенароднавядомая і любімая жанчына.

Тэлефонны званок ад яе — радасць, сустрэча з ёй — свята, жыць з ёй у адным часе — шчасце, лічыцца яе сябрам — гонар.

Амаль не было маіх творчых літаратурных вечароў ці персанальных мастацкіх выстаў, на якіх не прысутнічала б, не брала слова яна.

Прыемна, што мая творчасць — паэзія, проза, жывапіс цікавяць яе. Колькі разоў яна тэлефанавала мне і ўсхвалявана казала: «Сяргей! Я сёння не спала ноч, чытала твае вершы і паэмы...» І потым выказвала мне шчырыя свае ўражанні. Гэта акрыляе і творча ўзмацняе мяне, надае веру ў тое, што мае творчыя намаганні патрэбныя людзям.

Яна... Хто ж гэта яна, такая загадкавая, такая незвычайная жанчына?

Упэўнены, што многія здагадаліся. Так, гэта яна — Захарэвіч Марыя Георгіеўна — светлая душа, трапяткое сэрца, наша, беларуская нарачаначка.

## Падарунак лёсу

Быць знаёмым з Яўгенам Аляксандравічам Глебавым — лічылася за вялікі гонар.

Мне ж пашчасціла быць блізка дапушчаным да сямейнага ачагу гэтай цікавай сям'і, да ўнікальнага духоўнага асяродка, створанага Яўгенам Аляксандравічам вакол сябе, асяродка, у якім мала хто дапускаўся.

Не ведаю, што ўбачыў Глебаў у маёй малавядомай творчай асобе, але тое, што яго штосьці ува мне прывабіла — гэта факт.

Не думаю, што некалькі песен, напісаных ім на мае вершы, настолькі моцна паўплывалі на гэтага вялікага і шматпланавага кампазітара, што я зрабіўся жаданым су-

размоўцам у яго кватэры. Тым больш, што пералівання з пустога ў парожняе ён не прымаў.

А суразмоўнічалі мы з ім даволі часта за чаем, бывала, нашы пасядзелкі доўжыліся з вечара да раніцы.

Суразмоўцам Яўген Аляксандравіч быў надзвычай цікавым не толькі з-за свайго высокага інтэлекту, але, дзякуючы і яго ўнікальнаму гумару — востраму, трапнаму, падсілкавнаму, дзе гэта трэба і супраць каго неабходна, бязлітаснай сатырай.

Гумар быў, як правіла, інтэлігентным, далікатным, але гэта ў адносінах да людзей інтэлігентных і духоўна-цікавых яму.

Я не раз быў сведкам, як які-небудзь «разумнік» рабіў спробу, асабліва ў кампаніі, паказаць сябе перад Яўгенам Аляксандравічам лепшым за прысутных, больш разумным, чым ёсць.

Адна трапная гумарыстычная фраза Глебава, узмоцненая не менш трапнай сатырай, размазвала «разумніка» па сцяне яго ж самаўлюбёнасці.

Той, хто ведаў унікальныя здольнасці Яўгена Аляксандравіча, той трымаў сябе ў рамках сапраўднай далікатнасці і сціплага інтэлекту.

У 1991 годзе быў абвешаны конкурс на новы гімн Рэспублікі Беларусь. Удзельнічалі ў гэтым конкурсе, сярод іншы, і мы з Глебавым. Наш варыянт, які пачынаўся словамі: «Слухайце, людзі блакітнай Зямлі, // Вольны наш голас: — Жыве Беларусь!..», гучаў на адным з канцэртаў у філармоніі.

Конкурсную камісію тады ўзначальваў Ніл Гілевіч.

Ці атрымалася па прынцыпе: «І сам ні гам, і другому не дам», ці штосьці іншае паўплывала на вынік, але тады новы гімн так і не нарадзіўся.

На адкрыцці маёй персанальнай выставы ў 1991 годзе ў Палацы мастацтва, Яўген Аляксандравіч узяў слова і, між іншым, шчыра сказаў наступнае: «Я вельмі зайздрошчу тым, хто ўмее рабіць тое, чаго не ўмею я».

На шчасце, відэазапіс таго выступлення захаваўся.

Я пазнаёміўся з Яўгенам Аляксандравічам тады, калі яны з жонкай Ларысай Васільеўнай і сынам жылі на Паркавай магістралі (потым яна называлася праспектам Машэрава, зараз — праспект пераможцаў).

Пазней Глебавы атрымалі лепшую кватэру па вуліцы Кульман, у так званым «долары».

Падчас нашага сяброўства Яўген Аляксандравіч працаваў у Кансерваторыі, дзе вёў клас маладых кампазітараў, сярод якіх былі У. Буднік, В. Іваноў, Л. Захлеўны — мае сябры і песенныя сааўтары.

Яўген Аляксандравіч з уласцівым яму гумарам прызначыў мяне пазакласным старастам. Пры сустрэчы з усмешкай пытаўся: «Ну як, Сярожа, там наш клас пажывае пазасценамі кансерваторыі?», бо ведаў, што мы калінікалі па-сяброўску «расслабляемся».

Ганаруся, што Яўген Аляксандравіч асабіста запрашаў мяне ў оперны тэатр на прэм’еру яго балета «Ціль Уленшпігель», які пазней паспяхова ставіўся ў Фінляндыі і на юбілейны творчы вечар у Філармоніі.

З цеплынёй і ўдзячнасцю ўспамінаю той час, калі жыццё падарыла мне незабыўныя сустрэчы з гэтым незвычайным чалавекам і вялікім творцам.

## Чалавек-песня

Ігар Міхайлавіч Лучанок — чалавек-нерв, чалавек-імпульс, чалавек-песня. Ігар Міхайлавіч — згустак энергіі, эмоцый, непрадказальнасці.

Такім я ведаю яго ўжо сорак пяць гадоў.

Калі я толькі пачынаў пісаць першыя вершы, а імя Лучанка гучала і ў Беларусі, і за яе межамі, я,па-дзіцячы наіўна марыў: «Эх, напісаць бы мне з гэтым славутым майстрам хоць бы адну песню, і я згодзен памерці».

Гэта было з майго боку сур'ёзна, настолькі ён недасягальна высока быў ад мяне.

А жыццё без мітусні паступова паставіла ўсё на свае месцы.

Паціху песні кампазітараў Я. Глебава. Э. Зарыцкага, У. Будніка, В. Іванова, Л. Захлеўнага ды іншых, напісаныя на мае вершы, пачалі гучаць на беларускім радыё.

Магчыма, таму знаёмства з Ігарам Міхайлавічам адбылося даволі проста, бо ён, безумоўна, сачыў за песенным наваколлем, і маё прозвішча краем вуха ўсё ж чуў.

Дзіўна, але наш творчы «першы блін» не стаў камяком. Першая наша песня «Юность планеты» не толькі паспяхова выконвалася ансамблем «Верасы» але і гучала на сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў на Кубе ў Гаване.

Здаецца, песня з Лучаконком напісана, дык што, можна і памерці? Не! Тады я шчыра прагнуў супрацоўнічаць з Ігарам Міхайлавічам і лёс падарыў мне такую магчымасць.

У свой час шмат песен напісана рознымі кампазітарамі на мае вершы, але з гэтага «шмат» не шмат песен, якія блізкія майму сэрцу. Напрыклад, у кампазітара Я. Глебава да «выбранага» я аднёс бы песню «Мне тебя подарила весна», у Э. Зарыцкага — «Носите в сердце слово "мама"», у В. Іванова — «Зарянка», У У. Будніка — «Матуля», у Л. Захлеўнага — «Я песню подарить хочу».

І ўсё-ткі сярод самых-самых на першае месца я стаўлю напісаную з Ігарам Лучанком песню «Бацькоўская хата» якая аднолькава дарагая і яго, і майму сэрцу. Шмат агульных знаёмых таксама ўспрынялі блізка да сэрца гэтую песню.

У 70-я гады мінулага стагоддзя, у мой песенны пік, калі песні на мае вершы спявалі амаль усе вядомыя беларускія салісты і вакальна-інструментальны ансамбль «Верасы», Ігар Міхайлавіч разам з Яўгенам Глебавым звярнуліся за дапамогай у МУС БССР, каб у зале філар-

моніі правесці мой творчы вечар. Палітупраўленне МУС дазволіла зрабіць такі вечар у клубе ім. Дзяржынскага. Але на сцэне клуба не мог размясціцца сімфанічны аркестр беларускага радыё і тэлебачання пад кіраўніцтвам Барыса Райскага, які музычна суправаджаў песні. Дык вось, начальнік палітупраўлення Дубавец у вочы Лучанку і Глебаву сказаў: «Канечне, мы падключымся, гэта ж аўтар песенных вершаў лейтэнант міліцыі, гэта ж такі для МУС аўтарытэт будзе».

Кампазітары за дзверы, а Дубавец выклікаў падначаленых і строга папярэдзіў: не наша гэта справа, сядзіце і не рыпайцеся!

Так творчы вечар і не адбыўся. Вось вам і ўвесь аўтарытэт міліцыі.

Потым пры сустрэчы, Ігар Міхайлавіч з’едліва мяне «падкусваў»:

— Ну як табе твая міліцыя дапамагла?

Ігар Міхайлавіч знешне складаны, але гэта знешне... Увогуле ён душэўны чалавек. Толькі доўгае і блізкае знаёмства з ім дазваляе сэрцам дакрануцца да яго ўнікальнага творчага ўнутранага свету.

Калі і назваў Ігара Лучанка складаным, я меў на ўвазе і тое, што творчыя людзі такога высокага ўзроўню, як правіла, складаныя.

І ўвогуле, я лічу, нескладаных людзей, мала цікавымі людзьмі.

Падчас адной з нашых сустрэч дома ў Лучанка, Ігар Міхайлавіч падарыў мне кнігу «Игорь Лученок: Мелодия души», якую падрыхтаваў да друку Уладзімір Ліпскі, у якой, дарэчы, згадваецца і пра напісанне нашай песні «Бацькоўская хата».

А кнігу ён падпісаў так:

«Другу — Саргею Давидовичу —
Игорь Лученок.
31/I-2015. г. Минск».

Гэтым сяброўствам я ганаруся!

# Хросны бацька

У 1990 годзе ў Вярхоўны Савет БССР, куды я быў абраны дэпутатам, завітаў Уладзімір Іванавіч Стэльмашонак, народны мастак БССР, які ў той час узначальваў Камітэт па культуры Вярхоўнага Савета СССР. Пасада вунь якая высокая і пачэсная.

Я тады толькі-толькі пачаў маляваць і мне муліла паказаць вядомаму мастаку свае «шэдэўры». Паказаць, і вядома ж, выслухаць пахвалу.

На здзіўленне, Уладзімір Іванавіч даў згоду, але «прышпіліў» да нашай дэлегацыі Я. Вайтовіча, у той час міністра культуры.

Такім чынам мы ўтрох наведалі маю кватэру, дзе я паказаў свае першыя пейзажы. Уладзімір Іванавіч іх уважліва разглядаў, рабіў нейкія заўвагі, але праяўляў далікатнасць — не ганьбіў. Так бы мы і пайшлі ні з чым, але дасціпны Стэльмашонак заўважыў схаванае, замаляванае мной палатно і выцягнуў яго з-за канапы на белы свет і на мой, як я лічыў, сорам.

Карціна невялікіх памераў называлася «Нясу свой крыж».

Якое ж было маё, ды і Вайтовіча здзіўленне, калі мэтр завойкаў, зазахапляўся.

Затым Уладзімір Іванавіч пачаў узрушана шнырыць па кутках маёй кватэры і выцягваць адтуль, схаваныя «крамольныя» работы, сярод якіх была і карціна «Першамай-86» на Чарнобыльскую тэму. Пазней гэта карціна ілюстравалася з хвалебнымі каментарыямі ў перыёдыцы. Цяпер жа Уладзімір Стэльмашонак не выпускаў яе з рук і нагаварыў мне шмат прыемнасцей.

Вось там мы з ім пазнаёміліся, а потым і пасябравалі.

Як жа паўплываў на мой творчы рост народны мастак? Якія парады даваў?

А даў ён усяго адну параду, якую я адразу не зразумеў:

— Не хадзі ні да каго ў майстэрні і нікога не слухай.

Саб’юць з панталыку і будзеш, як усе. Бог даў табе ўласнае бачанне, яно тым і цэннае, што ўласнае.

Я так і зрабіў. О, як цяжка было разбірацца з колерамі, з кампазіцыяй, там больш, што да краявідаў я адразу адмовіўся. Мяне цікавілі, і цяпер цікавяць, жанравыя сцэнкі з нашага і мінулага жыцця. А гэта ў разы больш складаная работа, чым пейзажы.

У 1995 годзе Уладзімір Іванавіч літаральна за руку павёў мяне (пацягнуў, бо я ўпіраўся) у секцыю жывапісу Саюза мастакоў для паступлення ў Саюз, у які мяне ўсё ж прынялі.

Трэба сказаць, што рэкамендацыю для ўступлення далі народныя мастакі БССР Павел Масленнікаў, геніяльны, на мой погляд, пейзажыст, які ведаў мяне толькі па работах. Таксама я меў рэкамендацыі ад Георгія Паплаўскага, Міхаіла Савіцкага, Аляксандра Кішчанкі і самаго Уладзіміра Стэльмашонка.

Ды і напісаў я за гэты час цэлую серыю карцін на чарнобыльскую тэматыку.

Потым штогадова Уладзімір Іванавіч прысутнічаў і браў слова на адкрыцці кожнай маёй персанальнай выставе, якіх адбылося каля паўсотні.

Прайшло больш за 20 гадоў з таго часу, як мяне прынялі ў Саюз мастакоў.

З цеплынёй і ўдзячнасцю ўспамінаю Уладзіміра Іванавіча, майго хроснага бацьку ў мастацтве, і ўсіх вялікіх майстроў пэндзля, якія на пачатку майго жывапіснага жыцця, далікатна падтрымалі мае намаганні, не адбілі ахвоту ад гэтай цяжкай і надзвычай цікавай творчай працы.

## Успамін душы

Да крыўднага мала я магу сказаць пра Барыса Іпалітавіча Райскага. Таму да крыўднага, што быў я з гэтым вялікім — не роўня мне — творцам, даволі блізка і даволі доўга знаёмы.

Я, сорамна сказаць, тады, калі Барыс Іпалітавіч быў дырыжорам сімфанічнага аркестра беларускага радыё і тэлебачання, не ўяўляў і сотай долі таго, якога маштаба гэтая творчая асоба.

І, у дадатак да ўсяго гэтага, я зусім не ведаў біяграфіі гэтага чалавека.

А біяграфія яго была надзвычай складаная, у многім трагічная.

Тое, што ён быў незвычайным для таго часу і таго грамадства інтэлігентам, нельга было незаўважыць, але гэта ўспрымалася мной, як штосьці само сабой — маўляў, дырыжор і павінен быць такім.

Сёння, успамінаючы Барыса Іпалітавіча, а хацеў бы ўзгадаць падобную асобу, роўную яму, ды не магу.

Мы, маладыя кампазітары і паэты-песеннікі, у 70-я гады мінулага стагоддзя, з усіх нашых творчых магчымасцей, як кажуць, налягалі на стварэнне песен. Напісаць песню — гэта паўсправы. Кампазітар, маючы мелагучны песенны тэкст, можа пад творчы настрой ужо за гадзіну ажывіць верш музыкай. Але каб загучала песня на радыё, спявак ці спявачка павінны былі ў суправаджэнні сімфанічнага аркестра ў студыі радыё «запісаць» яе на магнітную стужку, якая трапляла ў фанатэку беларускага радыё. Пасля гэтага песенны твор набываў самастойнае жыццё.

Падчас такога запісу маёй песні, мы і пазнаёміліся з Барысам Іпалітавічам. Пазнаёміліся і нечакана душэўна зблізіліся. Я пачаў бываць у яго дома, чытаў яму свае вершы. Ён спачатку прапаноўваў мне выпіць каньяку, але ў мяне, дзякуй богу, хапала розуму адмовіцца, бо сам гаспадар на той час спіртнога ўвогуле не ўжываў. Затое пірагі, якія цудоўна пякла яго жонка і частавала нас, я еў з апетытам.

Дык вось, чарга да Барыса Іпалітавіча на запіс песен была не малая. Нас, аўтараў шмат, мы маладыя, пладавітыя і адзін перад адным амбіцыёзныя, а дырыжор з аркестрам адзін.

Барыс Іпалітавіч творы для запісу выбіраў прыдзірліва, зыходзячы з іх творчай вартасці, а ў гэтым ён быў мэтрам. Таму чакаць запісу сваёй песні многім даводзілася даволі доўга.

Вось тут ужо, не ведаю чаму, але майстар ніколі не трымаў песні, напісана на мае вершы доўга ў чарзе — запісваў іх амаль адразу пры паступленні заяўкі.

На кожнае свята Барыс Іпалітавіч абавязкова дасылаў мне віншавальную паштоўку і падпісваўся: «Ваш Райскі». Але і гэта я тады ўспрымаў, як само сабой...

Мне вельмі сорамна ад таго, што я не цаніў тады яго цёплых адносін да сябе. Для мяне і сёння валікай загадкай застаецца тая ўвага светлага, надзвычай інтэлігентнага чалавека да пачынаючага... не ведаю, як сябе і назваць побач з ім.

Такія людзі, такія сустрэчы з гадамі займаюць у душы ўсё больш і больш месца, як бясцэнны духоўны скарб, без якога мінулае жыццё страціла б чалавечую вартасць.

## Маміна калыханка

Зноў і зноў вяртаюся ў сваё маленства. Вяртаюся гэтымі радкамі, а не душою, бо душа заўсёды ў дзяцінстве, а дзяцінства ўсё жыццё ў маёй душы.

Цячэ крынічка быстрая
Пад беражком, пад кручаю.
А ў ёй вада празрыстая,
А ў ёй вада гаючая.
А ў ёй вада халодная,
Папі, дзіцятка роднае.
Адорыць святакрыламі —
Папі, дзіцятка мілае.
Засні, мой любы сыначка,
Расці, мая крывіначка...

Гэта адна з маміных калыханак, якую захавала мая памяць і беражэ ўсё жыццё, пачынаючы з трохгадовага ўзросту.

Я памятую і іншыя маміны песні — і пра каваля, які змарозіў дзяўчыну маладу на ляду, і пра гусей, якія селі на варотах у чырвоных ботах, і пра крылы птушкі заместа падушкі.

Дарэчы, тады ў зямлянaчнай галечы, я і не ведаў, што такое падушка альбо коўдра, у нас іх пасля вайны не было.

Гэтыя песні-калыханкі мама пела ўжо не над маёй зыбкай, бо я меў за плячыма ажно 3—4 гадкі жыцця і засынаў без калыханкі пасля бегатні ад цямна да цямна. А пела мама іх, цыруючы нейкія рызманы, якія толькі на чыраванні і трымаліся.

Гэта самыя першыя ў жыццм пачутыя мной песні і самыя галоўныя.

Ці не адтуль, ад мамінай гаючай крынічкі, пачалася мая творчая зародкавасць?

Я ўсё жыццё душой п’ю з гаючай крынічанькі майго маленства, наталяю свае згасаючыя сілы мамінай калыханкай.

І, барані Божа, забыцца на яе!

Забыцца — значыць адкрыць душу для чэрствасці і старасці.

Схіляюся перад табой да зямлі, маё залатое, галоднае, пасляваеннае маленства, блаславёнае першымі, галоўнымі песнямі майго жыцця!

# З м е с т

## Аповесці



## Апавяданні

## Замалеўкі

Літаратурна-мастацкае выданне

**ДАВІДОВІЧ** Сяргей Фёдаравіч

ЗБОР ТВОРАЎ
У пяці тамах

**Том 4**

*Аповесці*
*Апавяданні*
*Замалёўкі*

Адказны за выпуск *У. А. Мачульскі*

Малюнкі *С. Ф. Давідовіча*

Мастацкае афармленне серыі *С. Ф. Давідовіча*
Мастацкі рэдактар *В. М. Максімовіч*
Тэхнічны рэдактар *Л. С. Зубец*

Падпісана да друку 22.12.2016. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера афсетная.
Гарнітура Таймс. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 28,14+2,41.
Ул.-выд. арк. 17,19. Наклад 70 экз. Заказ 71.

Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вырабніка і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/463 ад 28.04.2015.
Вул. Фрунзэ, 5-209, 220034, Мінск.

Падрыхтоўка да друку і паліграфічнае выкананне:
Выдавец А.М. Вараксін.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вырабніка і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/99 ад 02.12.2013.
E-mail: artmanager3@mail.ru